ISSN 0130–8068

# ПОЛЫМЯ

У НУМАРЫ:



11

2004

# ПОЛЫМЯ

# 11

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

(901)

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА

2004
лістапад

Галоўны рэдактар
Мікола МЯТЛІЦКІ

Рэдакцыйны савет:

Уладзімір МАРУК,
намеснік галоўнага рэдактара

Андрэй ФЕДАРЭНКА,
загадчык аддзела прозы

Вадзім СПРЫНЧАН,
загадчык аддзела паэзіі

Казімір КАМЕЙША,
загадчык аддзела крытыкі і літаратуразнаўства

РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2004

ЗМЕСТ



**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

**© «Полымя», 2004**

**ІНЕСА БАГДЗЕВІЧ**

# ЭНЕРГЕТЫЧНЫ КРУГ

Лета... Процьма запрашэнняў ад турыстычных фірм. Хтосьці марыць пра мора і залатыя пляжы. Хтосьці — пра бізнес-тур і шматгалоссе кірмашоў. А хтосьці — пра духоўнае падарожжа. Вярблюд, пустыня, свяшчэнная Мекка... Аўтобус, векавая Сафія, кляштар Ефрасінні Полацкай... Сто кіламетраў пешшу, скрываўленыя ступні, храм Маці Божай Будслаўскай... Па такіх дарогах людзі ідуць да Бога. Сто, дзвесце, трыста гадоў...

У XVI стагоддзі адным з найбагацейшых людзей Беларусі быў князь Мікалай Крыштоф Радзівіл. Ён з юнацтва вандраваў па свеце і пабачыў мноства краін. Але самым важным лічыў тое падарожжа, куды накіраваўся зусім хворым, склаўшы запавет і мяркуючы, што жывым не вернецца. Ерусалім, Гроб Гасподні... Для людзей Сярэднявечча сусветныя цэнтры хрысціянства на Блізкім Усходзе былі найбольш прыцягальнымі. Там кожны камень, нават пясчынка выступала сведкам падзей Свяшчэннай гісторыі, утрымліваючы цеплыню жывога дотыку Хрыста, апосталаў, Панны Марыі. Адчуваючы хісткасць усяго існага, чалавек шукаў духоўнае апірышча. Помнікі Святой зямлі станавіліся ў ягоных вачах пацверджаннем сапраўднасці веры.

Але не толькі за краем свету — і побач з намі ёсць святыні, паглядзець на якія былі б радыя людзі. У рамане Паула Каэльо «Алхімік» бацька дае сыну на дарогу такі наказ: «Не вяртайся, пакуль не зразумееш, што наш замак самы галоўны, а прыгажэйшых жанчын, чым нашыя, у свеце няма».

Давайце паглядзім, дзе жывём мы з вамі і што ёсць праз некалькі вуліц ад нас. Не веру, каб анічога цікавага і светлага! У кожнай вёсцы, гарадку — процьма пейзажаў, якія так і просяцца пад пэндзаль жывапісца, мноства нечаканых маленькіх вулак з утульнымі дворыкамі, у кожным з якіх — свая таямніца. І — святая крыніца, ці камень, ці храм.

Пачаць хаця б з чыгуначнай станцыі з сімвалічнай назвай «Беларусь». Тут сапраўды ўсё як ва ўсёй Беларусі. Такое ж жыццё. Такія ж людзі. І такі ж глыбокі пласт даўніны пад нашымі нагамі.

Мы з вамі — у горадзе, якому больш за тысячу гадоў.

Заслаўе... Заслаўечка... Сабор Ізяслава...

Горкая гісторыя. Рагнеда абразіла Уладзіміра, Уладзімір забіў бацьку Рагнеды і абразіў яе, Рагнеда ўзняла зброю на Уладзіміра, яна ўклала меч у рукі чатырохгадовага сына, каб узняў на бацьку... Бедны маленькі Ізяслаў! Яму было наканавана стаць чарговым звяном у ланцугу зла, але ён стараўся гэтае зло перамагчы. Ён выратаваў маці, але і бацьку не хацеў чыніць нічога кепскага: Уладзімір дараваў Рагнедзе, падарыў ёй з сынам гарадок, даверыў Ізяславу Полацкае княства, стаў вялікім хрысціцелем. І калі ўзніклі праблемы з мытнай пошлінай паміж дзвюма дзяржавамі, калі купцы падбухторвалі Ізяслава да вайны супраць бацькі, малады князь цвёрда сказаў: «Не час нам варагаваць з Кіевам»!

І гэтай варожасці пры ягоным жыцці не было. У старадаўнім летапісе пра Ізяслава гаворыцца: «Быў гэты князь ціхі і лагодны, і смірны, і міласцівы, і прылежны ў чытанні Святога Пісання...» Ізяслаў невыпадкова названы летапісцам-кніжнікам, адукаваным чалавекам, які дбаў пра душу сваю, спасцігаў мудрасць праз напісанае слова. Ён загадаў стварыць Полацкі летапіс, заснаваў у сталіцы княства школы. Пячатка з імем князя Ізяслава — першы помнік беларускага пісьменства. Гэтая пячатка ўвайшла ў малюнак герба Заслаўя. Форма герба — шчыт, чырвоны колер якога люструе мужнасць і пралітую за Бацькаўшчыну кроў. На ім — залаты, як справядлівасць, велікадушша, любоў — трызубец Ізяслава. Трызубец у хрысціянстве часам выкарыстоўваўся як сімвал Троіцы. Ягоны крыж — гэта сімвал прыняцця Ізяславам хрысціянства. У Заслаўі прайшла свой шлях да Бога і Рагнеда, прыняўшы манаства, заснаваўшы кляштар. І сёння для тых, хто бачыць душой, горад насычаны дзіўнай духоўнасцю і энергетыкай.

Калі па гарадзішчы перайсці праз рэчку, луг з зарасцямі цімафееўкі і чыгуначнае палатно, то за паўкружжам вялізных дрэў знойдзеш тое, што не кожнае вока і заўважыць. Дарожка з шэрых пліт, шыльда: «Гарадзішча «Замэчак». Помнік археалогіі X—XI стагоддзя. Ахоўваецца дзяржавай». У атачэнні землянога валу — круг пакошанай травы. У ім — два кругі з пліт адзін на адным, пасярэдзіне — каменны крыж, на якім выява праваслаўнага крыжа. Пра гэтае месца на «Беларусьфільме» знятая дакументальная стужка «Энергетычны круг». Вучоныя сведчаць, што тут надзіва моцная энергетыка. Ды гэта адчуваецца і без падказкі вучоных. Заходзіш — і міжволі хіліцца галава, як на могілках. Штосьці так і прыгнятае. Нібы ты ў Хатыні ці ў якім іншым святым і жалобным месцы. Мясцовыя жыхары мяркуюць, што тут пахаваная Рагнеда. І што каля крыжа можна загадаць любое жаданне, і яно здзейсніцца.

Замэчак — рэшткі старажытнага горада, пабудаванага Уладзімірам для Рагнеды і Ізяслава. Да гэтага ён служыў магільным курганом. Тут закопвалі астанкі з пахавальных вогнішчаў. Пры археалагічных раскопках на гарадзішчы знаходзілі перапаленыя косці, бронзавыя праколкі, глінянае прасліца... Мяркуецца, што ў Заслаўі было каля тысячы курганных насыпаў.

Смерць — ачышчальны агонь — уваскрашэнне горада... Круг Замэчка стаў моцнай абаронай Заслаўя. На схіле вала размяшчаўся вастракол, на грэбені відаць драўляныя абарончыя сцены. Жыхары маленькіх зрубных дамкоў хацелі спакою і бяспекі. І прышэльцам з чор-

нымі, хлуслівымі думкамі было гэты круг не адолець. У горад можна было прайсці з адзіным ключом — тым самым хрысціянскім крыжам, які так выразна бачны на пячатцы Ізяслава. Гэта значыць — з Богам у душы.

Калі абыдзеш стары млын і кузню, то паглыбішся ў балоцісты луг з зарасцямі траў ажно па пояс. Старая драўляная дарожка выводзіць да высачэзнага валу. Адхон у яго круты і вертыкальны, страшна глянуць, не тое што лезці — то ж цэлая гара! Але мы, як уласціва цікаўным падарожнікам, канешне, паспрабуем. Пару разоў ледзь не звалімся, але ўсё-такі вяршыні дасягнём. І будзем шчыра ўзнагароджаны. Зараз мы бачым Заслаўе так, як, пэўна, птушкі з вышыні свайго палёту. Паўкружжа далягляду ў зяляніне дрэў, россып светлых дамкоў, якія, здаецца, можна паставіць на далонь, аблокі так блізка, што на іх можна легчы. А пах мёду — хоць збан падстаўляй!

Вось бы жыць і жыць тут...

Калісьці і жылі. Тут былі бастыённыя збудаванні, якія абаранялі замак, што ў XI—XVII стагоддзях стаў новым цэнтрам горада. Галоўны ўезд у замак быў умацаваны двухпавярховай мураванай брамай. Пад ім цягнуўся падземны тунель, перакрыты наглуха жалезнымі кратамі. Цагляныя скляпенні гэтага тунеля чулі, напэўна, багата горкіх гісторый. Заслаўе напаткаў лёс многіх гарадоў, разбураных у міжусобнай барацьбе. Некалькі разоў горад быў спалены падчас ваенных дзеянняў. А тунель заставаўся. Старажылы мяркуюць, што ход ад яго вёў да гарадзішча «Замэчак». Тут маглі хавацца і малыя дзеці, і закаханыя, і майстры — залатыя рукі. Нехта ж, ва ўсялякім разе, кожны раз адраджаў горад з папялішча, даючы новы росквіт кавальскай, ганчарнай, цяслярскай, ювелірнай справе. Сёння мінулае напамінае пра сябе то падковамі, то прыладамі для апрацоўкі льну, то срэбнымі ўпрыгожваннямі зайздроснай, як заслаўскі характар, трываласці.

Горад збіраў вялізныя кірмашы, гаварыў на розных мовах — і маўчаў над папялішчамі. Пратэставаў, быў пакорлівы, купляўся, прадаваўся — і, нягледзячы ні на што, працягваў жыць.

Ізяслаўскае княства ўваходзіла ў склад Полацкага, Менскага, Вялікага княства Літоўскага. Квітнела да цэнтра графства і драбнела да вёскі. Было ўласнасцю Рагвалодавічаў, Гедымінавічаў, Сапегаў. Часам — адной жанчыны. У 1537 годзе спадкаемніцай горада была Ганна Заслаўская, з якой ажаніўся віленскі ваявода, канцлер Вялікага княства Літоўскага Ян Глябовіч. З ягоным прыездам у Заслаўі пачаўся новы ўздым гарадскога жыцця. Яго рэлігійным падмуркам сталі ідэі рэфармацыйнай царквы, распаўсюджаныя тады на Беларусі.

Трыццаціпяціметровую вежу Кальвінскага збору, закладзеную сынам Глябовіча, вучоныя называюць «самай прыгожай архітэктурнай дамінантай Заслаўя». Зараз гэта Спаса-Праабражэнская царква, крыж якой бачны з падножжа вала. Светлая, прасторная, яна радуе душу высокамастацкім іканастасам у залатых акладах і просценькімі, але цёплымі малюнкамі дзяцей. Кожную нядзелю па вуліцы Замкавай ідуць са сваёй святыні праваслаўныя вернікі, сустракаючыся на вуліцы Вялікай з каталіцкімі суседзямі, якія трымаюць шлях да касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. У абодвух храмаў шмат агульнага.

Старажылы ўспамінаюць, як некалькі гадоў назад у галоўнай зале царквы праваліўся кавалак падлогі. Калі апусціліся ўніз для рамонту, то знайшлі ля сцяны захаванне чалавека ў царкоўным убранні. Гэтыя рэшткі былі вывезеныя вучонымі для даследаванняў.

Каталікі мяркуюць, што ў той касцельнай зале, дзе зараз ідуць набажэнствы, быў пахаваны будаўнік храма і адзін з уладальнікаў горада, віленскі падканцлер Вялікага княства Літоўскага Антоній Пшаздзецкі.

Абодва храмы спазналі пажары і абрабаванні. У час масавай кампаніі па канфіскацыі царкоўнай маёмасці, якая праходзіла ў БССР, бальшавікі забралі з царквы напрастольны крыж XVII стагоддзя, разабралі іканастас і спалілі ў мясцовай лазні. Некалькі год назад царква пацярпела ад пажару, які знішчыў восем званіц і разбурыў дах. Касцёл быў пашкоджаны ў час другой сусветнай вайны. Згарэў дах і драўляныя пабудовы, людзі ў ваеннай форме спусцілі праз акно чорны арган і вывезлі ў заходнім накірунку. Пасля вайны ўлады доўга не хацелі вяртаць касцёл вернікам, плануючы разбурыць алтар, перакрыць падвальнае памяшканне жалезабетоннай сцяной і ўтварыць зал арганнай і класічнай музыкі. Але, дзякуючы настойлівасці мясцовай парафіі і кіраўніка будаўнічай фірмы «Мерра» Міхаіла Новікава, святыня засталася святыняй, а не месцам для забаваў. У царкве спачатку размясцілі склад, потым адкрылі музей, побач пабудавалі клуб, дзе праходзілі шумныя дыскатэкі.

Сёння ж кожны храм адпавядае свайму прызначэнню і праводзіць службы. Кожны — намоленае стагоддзямі месца са сваімі цудамі. Жанчыны, якія прыбіраюць там у адзіноце, расказвалі мне, што часам адчуваюць рухі і хваляванні ў паветры.

— А вы ведаеце, што нават у зачыненай царкве кожны дзень ідзе служба? Боская служба? — Гэта мяне пытае ля карцін з заслаўскімі краявідамі мастачка, член Беларускага Саюза архітэктараў Галіна Бараноўская. І застаецца з ёй толькі пагадзіцца. Усе, хто чытае Біблію, ведаюць такія рэчы.

Лёс гэтай жанчыны незвычайны. Яна з сям'і раскулачаных бежанцаў, нарадзілася ў Сібіры, малявала з дзяцінства, у дзевятнаццаць гадоў адкрыла першую выставу — «Саборы Іркуцка». З гэтай нагоды ў мясцовым інжынерна-архітэктурным інстытуце, дзе яна вучылася, сышлася поўная актавая зала. Нечакана на дзяўчыну абрынулі вострую крытыку — не за выкананне, а за змест карцін у атэістычны савецкі час. І ніхто не заступіўся. Пасля гэтага трыццаць тры гады Галіна як мастачка маўчала. Пераехала ў Мінск, узначальвала групу архітэктараў, клапацілася пра сям'ю. І толькі ў адпачынку цішком бралася за пэндзаль. А два гады назад у дзіцячай школе мастацтваў Заслаўя яна прадэманстравала пяцьдзесят карцін, прысвечаных гэтаму гораду.

Галіна Мікалаеўна жыве ў Мінску, але кожнае лета прыязджае працаваць сюды. Яе вабіць ціхая старая частка запаветнага Заслаўя, дзе стан душы і прыроды зліваюцца ў натхненні. У кожным палатне — свая таямніца. Поўны зеляніны і сонца, са слоў мастачкі, «Дом Саўчанкі». Гэтая праца пачыналася з любові да сяброў, з іхняй аўры. Тут жывуць цудоўныя людзі, якія любяць сваю зямлю. «Дом хірурга

Бітно». У 41-м гэты чалавек выратаваў ад смерці маю сяброўку, увёўшы ёй сываратку, якая каштавала вялікія грошы. «Вясна ідзе па вуліцы Вялікай». У маім родным Іркуцку была вуліца Большая. Мне гэта вельмі дарага».

Да нашай размовы далучаецца гаспадыня дома Галіна Саўчанка, у якой гасцюе мастачка. Гаспадыня — біяхімік, займаецца фотасінтэзам раслін. І гэта бачна па яе двары з папаратнікам, ірысам, мальвамі. Яна кажа: «Мне нават лапухі касіць шкада, такія яны прыгожыя!» Бачна, што ўлюбёная ў прыгажосць паэтка. А перажыла і пасляваенныя чэргі па хлеб, і смерць бацькоў, і пахаванне мужа: «Усё было запоўнена пакутамі. І толькі знаёмства з царквой, і толькі вечнасць, якая адчуваецца ў Заслаўі, дапамагала мне. Пагляджу з узвышша на горад — такая над ягонымі ўзгоркамі энергетыка... Ды яшчэ побач — Вязынка... Ведаеце, які я верш напісала? «Ад Замэчка Рагнеды да калыскі Купалы // Пехатой дабярэшся за гадзіну, мо дзве. // Але дзесяць стагоддзяў працякло, прастагнала, // Пакуль гукнула ўрэшце: Ну, а хто там ідзе». Штосьці тут пасеяна такое, што павінна прарасці».

Заслаўскі дзень на зыходзе. Мяне бярэцца праводзіць Галіна Мікалаеўна. Святло пераліваецца ў змяркание, а вочы мастачкі выхопліваюць з прыцемкаў усё новыя і новыя сюжэты. І разам з ёй па-іншаму глядзіш на дамы, каля якіх праходзіў дзесяткі разоў. «Ды гэта ж не я так бачу. Гэта мне Бог так паказвае, — кажа яна. — А ў маёй сібірскай душы — проста гісторыя і еднасць усходніх славян».

## ІВАН КАРЭНДА

### АПОШНЯЯ МАЛІТВА

Калі здарыцца так,
Што я моўчкі ўпаду,
Не сказаўшы апошняга слова,
Ведай, мама мая,
Што сустрэў я бяду
Сэрцам, поўным любові сыновай.

Калі здарыцца так,
Што ў апошні мой міг
Развітацца з каханай спазнюся,
Я малю цябе, Бог:
Што дзяліў на дваіх, —
Шчодра любай аддай:
— Не таргуйся.

Калі здарыцца так,
Што сардэчным сябрам
Не пацісну руку перад сконам, —
Усявышні, прашу:
Дай ім столькі дабра,
Каб нікому не білі паклонаў.

Калі здарыцца так
На апошняй вярсце,
Што сыноў са мной побач не будзе, —
Перадайце сынам,
Што я толькі хацеў,
Каб паклалі мне рукі на грудзі.

Калі здарыцца так —
На апошняй мяжы
Я звярнуся з малітвай да Бога:
Госпадзь, грэх адпусці —
Беларусь зберажы,
Пакажы ёй да шчасця дарогу.

## БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Акраец хлеба і глыток вады,
Святло кахання і букет рамонкаў
Дала ў дарогу мне на шчасце ты,
Мая Айчына, родная старонка.

Ці ўдзячны я за шчодры твой надзел,
За спадчыну багатую такую,
Ці радуе пражыты мною дзень
Тваю душу, што рэдка не смуткуе?

Твой сын, я мушу шчырым быць заўжды,
Аплачваць працай твой крэдыт даверу
І засланяць сабою ад бяды
Цябе ў часіны непагадзі шэрай.

* * *

Калі восень душу
Сцісне горкаю скрухай,
Перавяслам тугім
Перавяжа гады,
А за ёю зіма
Памялом завірухі
Абмалоціць снапы,
Замяце ўсе сляды, —

Колькі будзе зярнят
(Пэўна, жменька — не болей),
Я хачу, каб яны
Па вясне прараслі
Васількамі надзеі
На светлую долю
І маёй Беларусі
Свежых сіл дадалі.

* * *

Штодня дуэль — дуэль з сабою,
Штодня забіты шмат разоў,
А думкі горкія гурбою
Мяне палоняць зноў і зноў.

Пакуль апошні стрэл не грымнуў,
Не задушыў душу адчай,
Няхай у сэрцы светлым гімнам
Гады пражытыя гучаць!

## ПЛАЧ НА НЯМІЗЕ

Не плачма.
Не даплачамся.
Не дагукаемся.
Смерць усё перайначвае.
Лепей моўчкі пакаемся.

Не клічма.
Не даклічамся.
Не дачакаемся.
Маладых не далічымся.
І яшчэ раз пакаемся.

Не вернем.
Ды не верыцца,
Што не спаткаемся...
За жыццё, што наперадзе,
Тройчы шчыра пакаемся.

* * *

Што люба бясконца,
Як зорка мне свеціць, —
Не высушыць сонца,
Не выветрыць вецер.

А тое, што хмарна,
Пячэ сэрца жарам, —
Аддам я ахвярна
Няспраўджаным марам.

## МАТУЛІ

*(Кросны)*

Цябе не радавалі вёсны,
А зімы доўгія былі,
І ратавалі толькі кросны,
Што ў хаце з зазімкаў жылі.

Яны — спагадлівыя сведкі
Тваёй нядоліцы-бяды.
Больш давярала, чым суседкам,
Ты ім у слотныя гады.

Рыпелі зранку чынна ляды*,
Снавалі ўвішна чаўнакі.
За пару тыдняў, на Каляды,
Зіхцелі срэбрам ручнікі.

А потым ткаліся дзяругі,
Бо з імі ў вёсцы самы рух:
Яны — і ў поле, і да лугу,
Без іх жанчына, што без рук.

За імі — вабіў вока новы,
З вясновых колераў, узор —
Малюнак зыркі, дывановы,
Сатканы з кветак, мар і зор.

Пасля — яшчэ адна абнова,
Ажно цьмянела ўсё наўкол:
Была настольніца гатова
На велікодны шчодры стол.

Пазней, як браўся дзень угору
І набліжалася вясна,
Плыла тканіна без узору —
Кавалак ладны палатна.

...Я гойсаў з раніцы да ночы
Ля таямнічых кроснаў тых,
А ты ўздыхала: «Мой памочнік,
Хутчэй, хутчэй бы вырас ты...»

...На ўсе вясковыя прыборы,
На ўсю вялікую сям'ю
Дабра наткала, пэўна, горы...
...І зорку выткала маю.

* * *

*Жанчыне, якая падказала*
*тэму гэтага верша,*
*прысвячаю.*

Узмах крыла — і птушка ў вышыні,
І паляцела птушка, паляцела,
І гойдае паветра яе цела
На хвалях сінявокай цішыні.

Які прастор! Як поўніцца прастор
Святлом любові, чыстай і шчымлівай!
Насустрач дням пагодліва-шчаслівым
Гатова птушка ўзняцца вышай гор.

---

* Элемент кроснаў — прыстасаванне, у якое ўстаўляецца бёрда.

Спявай, душа птушыная, спявай!
Няхай лунае ў ціхім паднябессі
Твая святая, поклічная песня!..

...Спявай, душа, да скону дзён спявай.

* * *

Прыснілася, што я гару ў агні,
Шугае полымя пад самыя аблокі,
А з неба, з недасяжнай вышыні,
Анёл-ахоўнік мне міргае вокам.

Што азначае гэты боскі знак?
Аб чым заступнік папярэдзіць хоча? —
Не зразумець, не ўцяміць мне ніяк...
А побач чорт галосіць і рагоча:

«Грашыў, паэт, бяздумна бавіў час,
Не абмінаў спакусу маладую,
Што кроў тваю запальвала не раз...
Цяпер плаці... Я дроў не пашкадую...»

Яшчэ імгненне — і бывай, жыццё,
І знікне ўсё, што сэрцу люба-міла.
Шлях з вогнішча адзін — у небыццё...
Вось-вось загіну. Пакідаюць сілы...

«Згараць умомант, нібы смалякі,
Твае грахі — вялікія, малыя, —
Мне кажа чорт. — Напэўна, не такі
Ты бачыў скон свой?.. Не крыўдуй, не злы я».

Пякельны жах і невыносны боль.
Крычу ў знямозе... Хто мяне ўратуе,
Калі сам чорт на раны сыпле соль.
І мой апошні ўздых, як кат, вартуе?

Я бачу: зноў анёл падаў мне знак
І скінуў на зямлю букет вяргіняў.
Кудысьці знік раз'юшаны вядзьмак...
Я галавешкі ўбок нагой адкінуў...

Гляджу: аднекуль да мяне бяжыць
У промнях сонца фея залатая,
Крычыць здалёк: «Ты будзеш, будзеш жыць!..»
О, любая! Адзіная. Святая...

Каханнем сэрца поўніцца, пяе...
Апалены, абвуглены, счарнелы,
Я кінуўся з букетам да яе...
Яна — наўцёкі... І наўкол сцямнела...

...Прачнуўся я. Каб жыць з грахамі зноў,
Чакаць з надзеяй фею-чараўніцу.
Але жаданая ўладарка маіх сноў
Наўрад ці мне калі яшчэ прысніцца.

* * *

Што здавалася шчасным і вечным, —
Знікла разам — нібы не было.
І раптоўна тугой невылечнай
Маё сэрца да болю сцяло.

Што было зразумелым і простым,
Непадзельным, адным на дваіх, —
Прывяло нас на станцыю «ростань»,
Мае назву жахлівую — «міг».

Ад шчаслівай — да чорнай гадзіны.
Крыж пакут я адзін панясу.
Ты — адзіная. Я — не адзіны.
Нечаканы і жорсткі прысуд.

Жыць далей, без цябе, немагчыма.
Б'юць цунамі ў душы цераз край.
Ты — адзіная ў свеце жанчына,
З кім бы мог я патрапіць у рай.

Не магу я без вуснаў гарачых
І вачэй таямнічых тваіх...
...Як магла ты адна перайначыць
Гімн любові, што склалі ўдваіх?

* * *

Вецер шпурляе пад ногі лісты
З клёнаў прырэчных.
Цэлую вечнасць не пішаш мне ты,
Цэлую вечнасць.

Не разумею — ці ява, ці сон,
Ці недарэчнасць.
Цэлую вечнасць маўчыць тэлефон,
Цэлую вечнасць.

Што гэта — здрада, ці жорсткі падман,
Ці бессардэчнасць?
Цэлую вечнасць жыццё, як туман,
Цэлую вечнасць.

Роспач і сум спапяляюць душу...
Боль невылечны
Цэлую вечнасць у сэрцы нашу,
Цэлую вечнасць.

* * *

*В. В. Лазуткіну*

Зіма саступае дарогу вясне,
Вясну непрыкметна адольвае лета,
І лета на восень сплыве і міне —
Спрадвеку вось так, і далей будзе гэтак.

Ці ранак, ці поўдзень, ці дзень-маладзень,
Ці хмель — адвячорак, ці вечар, —
Жыццё не спыняецца, вольна ідзе,
Маршрут яго — з вечнасці ў вечнасць.

І нам застаецца, напэўна, адно:
З яго каляіны не збочыць,
Пакуль хоць адзін шанц дае нам яно, —
Наперад, хады не збаўляючы, крочыць.

**МІХАСЬ ЮЖЫК**

# МАРЫЯНЕТКІ І ЛЯЛЬКАВОДЫ

## *Раман**

*«Яшчэ трохі, і свет ужо не пабачыць Мяне;*
*а вы пабачыце Мяне, бо Я жыву,*
*і вы будзеце жыць» (Іаан 14 : 19).*

### 1

— Не! Ну гэта ж няможна болей цярпець! — ускрыкнуў галоўны рэжысёр, ён жа дырэктар драмтэатра «Кіцеж» Аркадзь Бабаеўскі. — Я спыняю! Чуеце, я спыняю гэты агідны фарс! Перапынак!

Ён ускочыў са свайго крэсла, павярнуўся да акцёраў спінай і жвава рушыў да выхаду з залы. Але раптам, нібы падстрэлены, спыніўся, павярнуўся да сцэны і кінуў:

— Пугач, чакаю вас праз пяць хвілін у сваім кабінеце. — І пайшоў, ужо не азіраючыся.

Акцёры пачалі гаманліва разыходзіцца па грымёрных, а памянёны Пугач, малады чалавек гадоў трыццаці ў вопратцы старасвецкага лёкая, панурыўшы голаў, паплёўся ў бок службовых памяшканняў.

Неўзабаве ў кабінеце галоўнага адбыўся наступны дыялог.

— Скажыце, Пугач, — гаварыў чырванатвары таўстун Бабаеўскі, разваліўшыся ў мяккім крэсле. — Скажыце папраўдзе... Вам што, надакучыла ў мяне працаваць? — І з непрыхаванай нелюбоўю ўтаропіўся на свайго падначаленага.

З усёй трупы толькі да Сяргея Пугача звяртаўся Аркадзь Рыгоравіч на «вы». Гэты афіцыйны зварот як бы трымаў яго на належнай дыстанцыі ад нялюбага артыста, ганарлівы характар якога раздражняў Бабаеўскага з першых жа дзён іх супрацоўніцтва. Калісьці, гады тры таму, галоўны на рэпетыцыі моцна накрычаў на Пугача, аблаяў, і той прылюдна асадзіў яго, папрасіўшы выбіраць словы і называць яго на «вы». З тае пары Бабаеўскі, які быў запанібрата амаль з усімі артыстамі, знарочыста, напаказ звяртаўся да хлопца на «вы» і пры гэтым зрабіўся непамерна патрабавальным і прыдзірлівым да Сяргее-

* Часопісны варыянт.

вых службовых абавязкаў. Пугач пачаў іграць у яго малазначныя, непрэстыжныя і нават абразлівыя ролі.

Смешна выглядала гэтая пара: мажны самаўпэўнены Бабаеўскі ў крэсле і нехлямяжы, у мудрагелістай старадаўняй вопратцы, хударлявы, быццам недакормлены, Пугач. Праўда, да роляў другога-трэцяга плана Сяргей дайшоў збольшага па сваёй віне, з'явіўшыся колькі разоў на рэпетыцыі п'яным, а аднойчы сарваў і спектакль. Пасля гэтага здарэння тры месяцы ён знаходзіўся па-за штатам, а потым быў пастаўлены Бабаеўскім на ролю маўклівага слугі Івана. Гібеў ён на такіх іванах і па сённяшні дзень.

Пугач ужо з год прыкладаў каласальныя намаганні, каб знайсці сабе месца ў іншым тэатры, бо разумеў, што жыцця яму тут не будзе. Але ў сталічныя трупы было не прапіхнуцца, у правінцыю ж з'язджаць не хацелася. Ён са студэнцкіх гадоў быў напалоханы апавяданнямі рускіх класікаў аб нядолі правінцыйных акцёраў. Аднак надзеі не губляў, не спыняў пошукаў месца пад сонцам, а пакуль мусіў трываць здзекі Бабаеўскага.

— Дык я слухаю вас, — з'едліва пазіраў знізу ўверх Аркадзь Рыгоравіч на чалавека ў лёкайскай вопратцы. — Чаму вы не жадаеце выконваць вашыя службовыя абавязкі?

— Чаму… жадаю… — прабурчаў, зірнуўшы спадылба, Сяргей, цярэбячы фалды каптана.

— Слухайце, Пугач, — раздражнёна зморшчыўся рэжысёр, — вы нармальны чалавек ці не?

— А што такое? — насупіўся падначалены.

— А тое «такое», што я вас звольню к чортавай маці, калі яшчэ хоць раз палезеце за рамкі дадзенай вам ролі! Якога ражна вы ў трэцяй дзеі шпацыравалі на заднім плане з разумным тварам, а пасля ўселіся на крэсла і пастуквалі абцасамі?!

Акцёр прамаўчаў.

— Ці не вам заўчора было сказана стаяць слупам… Чуеце, слупам на заднім плане і не торгацца, не парушаць цішыню, бо ў гэты момант доўжыцца паўза ў ключавым маналогу галоўнай гераіні. — (Галоўную гераіню іграла трыццацігадовая Танька Зарэмба, сужыцелька Бабаеўскага.)

— Дык навошта ж чалавек на заднім плане, калі ён стаіць слупам?

— Маўчаць! — гаркнуў галоўны, прыўскочыўшы з крэсла. — Не разважаць! — Ён скамячыў на стале нейкую паперыну і злосна вытарашчыўся на Пугача.

Той дзёрзка (так здалося рэжысёру) паглядзеў на начальніка.

— Работа артыста — таксама творчасць… — заўважыў ён.

Пасля гэтых слоў Бабаеўскі адчуў, што кроў хлынула ў галаву, і не на жарт спужаўся, што яго разаб'е паралюш. Нядаўна ўрач, яго добры знаёмец, з прычыны паўнакроўя папярэджваў яго аб наступствах. Канешне, Аркадзь Рыгоравіч ненавідзеў гэтага сугнея Пугача, але ж не на шкоду свайму бясцэннаму здароўю!

Ён неяк абмяк, апусціўся ў крэсла і асцярожна, каб не спарадзіць голасам павелічэнне ціску ў мазгавых сасудах, ціха і абыякава прамовіў:

— Ідзіце, Пугач… Гэта апошняе вам маё папярэджанне.

Сяргей з ледзь улоўнай крывой усмешкай павярнуўся і патупаў у сваім нехлямяжым каптане лёкая да выхаду. Нават са спіны ён здаваўся Бабаеўскаму занадта ганарлівым і непакорлівым.

«У, мардасіна! — зноў прачнуўся не дарэшты ўтаймаваны гнеў, але рэжысёр спахапіўся і пачаў сябе ўлагоджваць: — Спакойна, толькі спакойна...» — Ён прыклаў пальцы да соннай артэрыі і баязліва прыслухоўваўся да сардэчных тактаў, што пакрысе радзелі і прыходзілі да нормы.

Яшчэ не хапала яму траціць нервы на такія пусцяковіны! У свае пяцьдзесят гадоў ён толькі і адчуў смак жыцця, калі нарэшце кінуў агорклую састарэлую жонку і сышоўся з маладой белацелай Таняй Зарэмбай. Таму здароўе цяпер вой як спатрэбіцца! Тым больш што сышоў з сям'і нядобра, са скандалам. І не ў жонцы тут справа: з гэтай псіхапаткай ён даўно, ужо гадоў дзесяць, як на нажах. А апошнія два гады дык хоць зусім дамоў не прыходзь — так замучыла дробязнымі прыдзіркамі, рэўнасцю. Як жанчына яна даўно яму нецікавая. А ён творчы чалавек, між іншым! Яму патрэбны імпэт, бадзёрасць, страсць, калі ўжо на тое пайшло. А інакш які ён да халеры рэжысёр! І вось тут падвярнулася Зарэмба са сваім пышным бюстам... У-ух! Прайшоў год іхняй сувязі, а пры адной згадцы пра гэтую частку цела вар'яцее ён, пяцідзесяцігадовы галава сямейства, нібы юнак у пару палавога выспявання. Канешне, здраджваў ён жонцы і раней, здраджваў заўсёды. Не тое каб вельмі часта, але былі такія перыяды жыцця, уласцівыя кожнай творчай асобе, калі нішто не вяселіць, не вабіць, усё абрыдла. Гэты настрой, гэты назапашаны стрэс рэжысёра, а затым і кіраўніка тэатра ён здымаў не рыбалкай і не гарэлкай — жанчынамі. Балазе ахвочых хапала, толькі дай знак! Але рабіў гэта Аркадзь Рыгоравіч без усялякіх прыкмет кахання. Таму жанчын (пераважна актрыс) выбіраў маладых, гарачых, пачуццёвых да бессаромнасці. З імі лёгка было сыходзіцца, лёгка развітвацца, лёгка сыходзіцца зноў. Дый не патрабавалі яны нічога, апроч гэтай ліхаманкавай валтузні ў яго кабінеце — у няўрочныя часы, а то і ў перапынках паміж рэпетыцыямі, перад спектаклямі. Дзеля жыццёвага тонусу. Каб спорылася праца ды не пакідала творчае натхненне. Такую псіхалагічную ўстаноўку, такое апраўданне сваім любоўным прыгодам шмат гадоў даваў сабе Бабаеўскі, таму пазбег згрызот сумлення і ў вочы жонцы і дзецям глядзеў адкрыта і шчыра. Дзяцей ён любіў, жонку цярпеў і разлічваў гэтак прычакаць паважаную, добрапрыстойную старасць.

І трэба ж было такому надарыцца, што ў пяцьдзесят гадоў з'ехаў ён з глузду настолькі, што, пакінуўшы чатырохпакаёвую ўтульную кватэру і двух сыноў-студэнтаў, перасяліўся да трыццацігадовай актрысачкі ў варты жалю аднапакаёвы катух. Пакахаў, стары чорт! Пакахаў напраўду, страсна, раўніва, учэпіста.

А пачыналася ўсё з таго ж банальнага цела! З таго ж бюста, з тых жа ручак і ножак! Утрэскаўся, уляпаўся, угруз па самую макаўку... Старэеш, старэеш ты, брат Бабаеўскі. Сантыментаў хочацца табе, дружа, ласкі, ціхіх сямейных вечароў з каханым чалавекам, паэтычнага інтыму... Не задавальняюць ужо цябе гэтае паспешлівае зрыванне адзежын, гэтае звярынае навальванне ўсім сваім грузам на мініяцюрных Анжэл, на крутабёдрых Наташак. Хочацца, каб і па галоўцы нехта пагладзіў, і згатаваў нешта смачненькае, і гальштук паправіў перад работай, і... Карацей, усяго таго хочацца, чаго ўжо даўно-даўно недадае законная жонка.

Так што нічога не заставалася Бабаеўскаму, як сысці з дому і жыць разам са сваёй падначаленай. Хлопцы падраслі, разважаў ён год таму, на ногі пастаўлены, у інстытуты ўладкаваны, дый грашыма ён іх не

пакрыўдзіць... Але выйшла неспадзяванка: праклялі яго сыны, адракліся ад роднага бацькі; ды яшчэ і ў прэсу гэты скандал прасачыўся. Тады, у эйфарыі свайго любоўнага захаплення, не надта бедаваў з тае прычыны Аркадзь Рыгоравіч. «Свінюкі няўдзячныя! Ну і хрэн з імі! — адмахваўся ён ад гэтай праблемы. — Чакай, папросяць яны ў мяне грошай». Але не толькі грошай не папрасілі няўдзячныя нашчадкі, а і знаць яго не хацелі, і за год не пазванілі ні разу. І Рыгоравіч ім не званіў — не дазваляў гонар. Тым больш што дайшла да яго пагудка, нібыта распаўсюджваюць яго сыны па горадзе розныя мярзотныя плёткі, так узненавідзелі роднага бацьку.

І вось, праз год пасля разрыву з сямействам, затрывожыўся апальны яго галава, не на жарт задумаўся пра сваю будучыню. Міжволі паўставалі непажаданыя, вярэдлівыя пытанні перад пяцідзесяцігадовым Аркадзем Рыгоравічам. Нішто не вечнае пад гэтым небам, і калісьці (а магчыма, і нядоўга чакаць) састарыцца ён, Бабаеўскі, зблажэе. Страціць ён пасаду і дырэктара драмтэатра, і рэжысёра. Выпруць яго адтуль маладыя і дужыя. І ўжо як само сабой зразумелае ўяўлялася яму страшная перспектыва расстання з маладой і прыгожай Таццянай. Бо будзе ёй у яго шэсцьдзесят гадоў усяго толькі сорак... На які хрэн ёй нямоглы пенсіянер?

Гэтая дваццацігадовая розніца паміж імі найбольш прыгнятала Аркадзя Рыгоравіча. Каму, як не яму, ведаць, на чым грунтуюцца цесныя ўзаемаадносіны паміж мужчынам і жанчынай. А тут, як на бяду, ужо ў пяцьдзесят гадоў — недаравальна рана! — пачалося рэзкае аслабленне яго мужчынскіх здольнасцей. А пару разоў дык і наогул выходзілі канфузы. Даводзілася блытана апраўдвацца стомленасцю, недамаганнем. Гэта яму, Бабаеўскаму, пра «геройствы» якога ў кулуарах тэатра ходзяць легенды!

І занепакоіўся з гэтай прычыны Аркадзь Рыгоравіч, запанікаваў, па дактарах кінуўся. Цяперака хапае розных прыватных сексолагаў. Супакоіў адзін, прапісаў таблетак дарагіх замежных, параіў не ператамляцца, не нервавацца, знізіць крывяны ціск... Знізіць ціск! Ды дзе ж ты яго знізіш, пракляты, калі такія, як Пугач, яго падвышаюць і падвышаюць. Тут або звальняйся, або памірай стоячы. І няма куды адступаць, у старую сям'ю не прымуць. З жахам, усё часцей і часцей, трызнілася Бабаеўскаму яго недалёкая, нямоглая старасць. Напорыста малявала жвавае ўяўленне рэжысёра брудны пакой і высахлага неахайнага дзеда, што сядзіць ля акна, бязмэтна ўтаропіўшы ашклянелыя вочы на вуліцу. А то паўставаў перад унутраным вокам інвалідны дом у Дражні (Рыгоравіч неяк ладзіў там для інвалідаў і састарэлых дабрачынны спектакль). Гэтыя прапахлыя мачой, медыкаментамі і маннай кашай калідоры, гэтая казённая мэбля, гэтая жывая магіла... Гэх, доля яго гаротніцкая. Кіне, абавязкова кіне яго красуня Зарэмба, сыдзецца з нейкім плячыстым кабялём або знойдзе сабе новага рэжысёра-сужыцеля. Міжволі апаноўвала стоеная злосць на Таццяну за яе маладосць, за яе бессаромна прыгожае цела, за тое, што жыве яна з Бабаеўскім дзеля кар'еры...

Але нічога, ён яшчэ пазмагаецца! Толькі трэба сябе берагчы, толькі прыняць таблетак...

Зладзеявата азірнуўшыся, Бабаеўскі наліў з графіна шклянку вады, затым вывудзіў з верхняй шуфляды стала сіні пачак, дастаў з яго ружовую капсулу, паклаў у рот і пракаўтнуў, запіўшы вадою. Пачак тут жа схаваў у шуфляду і замкнуў на два абароты ключа.

Гэта быў нейкі мудрагелісты прэпарат па амаладжэнні арганізма і павелічэнні палавой актыўнасці. Паводле слоў доктара, гэтыя капсулы робяць з мужчыны тыгра. Прымаў іх Бабаеўскі пяты дзень, але з трывогай зазначаў, што ён не толькі тыграм, але і простым шэрым ваўком не зрабіўся. Супакойваў сябе тым, што прайшоў малы тэрмін ад пачатку прыёму, што лекі, нават самыя дзейсныя, не могуць даваць імгненнага эфекту. Але патаемная трывога, боязь стацца нікчэмным і быць адпрэчаным трывала сядзела ў свядомасці і апошні месяц літаральна атручвала яго жыццё.

## 2

Як толькі Сергей Пугач вылузаўся з дырэктарскага кабінета і паплёўся ў недарэчным сваім адзенні па калідоры, з процілеглага боку, з выхаду на лесвічны пралёт, высунулася жаночая постаць у парыку і, крыху счакаўшы, імкліва прашалахцела ў апартаменты Бабаеўскага. Гэта была Танька Зарэмба.

Перш чым распавесці, што ж адбылося ў кабінеце, прыпынімся на гэтай асобе.

Родам з райцэнтра, выхаваная ў сям'і звычайных служачых, Таццяна Зарэмба ўжо ў чатырнаццаць гадоў зразумела, што будзе артысткай. Прырода не пакрыўдзіла яе ні фігурай, ні тварам. Хутчэй наадварот, зляпіла гэтакі дасканалы ўзор жаночай прыцягальнасці, без загаднай прыгажосці. Была яна сярэдняга росту, з точанымі плячыма і шыяй, вузкай таліяй, стройнымі доўгімі нагамі, у меру шырокім, не вульгарным, тазам. Чарнявая, з чорнымі ж хітраватымі агністымі вачыма, са смуглым румяным тварам. Усе пералічаныя вартасці цела самі па сабе не надта рэдкія ў прыродзе, але вельмі рэдка яны спалучаюцца ў такіх цудоўных прапорцыях, як у Таццяны. Часцяком геніяльны мастацкі твор — а трэба прызнаць, Зарэмба была геніяльным тварэннем прыроды — мае невялічкую хібу, няправільнасць, якая адно надае яму сілы. Такой няправільнасцю былі дзівосныя, большыя, чым таго вымагаюць класічныя прапорцыі, Таніны грудзі.

Менавіта з-за гэтых шчодрых грудзей адчувала Таццяна пастаянную, упартую і напружаную ўвагу да сябе з боку мужчынскага полу. Ужо з пятнаццаці гадоў ляпіліся да яе ўсе — ад смаркатых малалеткаў да лысых старых, ад самавітых сямейнікаў да валацугаў. Гэта быў бясконцы, няспынны паток юрлівых асобін... Часам ёй рабілася страшна і брыдка, усё далейшае жыццё бачылася як адчайнае адмахванне, адбіванне ад гэтай зацятай чаргі. І Зарэмба некаторы час змагалася... Але рэчаіснасць узяла сваё. На адной вечарынцы яна спазнала мужчыну: амаль гвалтам яе ўзяў прыяцель аднакласніка, студэнт. І з першага ж разу, што ў дзяўчат бывае вельмі рэдка, Таццяна адчула ўсю слодыч такіх стасункаў. Праз тры месяцы яна ўжо жыла напружаным любоўным жыццём, ухітралася мець некалькіх каханкаў адначасова. Зарэмба хутка зразумела, што гэты паток юрлівых мужыкоў, якога яна раней так палохалася, не такая ўжо і благая штука. Бо некаторыя жанчыны здольныя прынадзіць за жыццё двух-трох мужчын — не болей, і за гэта гатовыя ахвяраваць чым заўгодна. А ёй, Зарэмбе, усё даецца лёгка, гуляючы. Трэба толькі ўмела кіраваць гэтым патокам, пускаць яго ў патрэбнае рэчышча. Таму што багата ў ім мужчын, якія за тое, каб лапаць яе за грудзі, ціскаць клубы ды кусаць за жывот, будуць слацца перад ёй посцілкай, поўзаць на каленях, дадуць грошай, прададуць родную маці...

Прыгажосць, што напачатку прыносіла Тані гэтулькі праблем, зрабілася таварам, за які можна займець многае.

Пераважна дзякуючы гэтай прыгажосці (а не акцёрскаму таленту, які быў пасрэдны), удалося ёй паступіць у сталічны тэатральны інстытут, паспяхова здаваць сесіі, а потым уладкавацца ў адзін з прэстыжных тэатраў. У Бабаеўскага яна працавала толькі два гады і ўжо праз год зрабілася фактычна другім чалавекам у тэатры пасля дырэктара. Бо за пятнаццаць гадоў блізкіх узаемадачыненняў з мужчынамі ведала яна пра іх усё і кіравала імі зайздросна.

І тым не менш асабістае жыццё Таццяны Зарэмбы можна лічыць няўдалым. Так нярэдка бывае з празмерна прывабнымі жанчынамі. Бо надта ўжо доўгая, разнамасная, шалёная стаіць па іх чарга, надта няпроста ў ёй разабрацца і выбраць таго адзінага, што дасць і каханне, і дабрабыт, і дзяцей, і апірышча...

Пры ўсіх сваіх здольнасцях замужам Таня была толькі раз. Але і гэтага разу хапіла з лішкам. У дваццаць пяць гадоў выйшла яна за акцёра свайго тэатра, равесніка. І таленавіты, і Апалон цалам. З двухпакаёвай кватэрай у цэнтры сталіцы. І каханне было такое, што зімой шыбы ў іх спальні плавіліся. Але, накахаўшыся да пасінення, недзе праз тры месяцы яны выявілі, што трэба ж неяк яшчэ і *жыць*. Што жыццё — не адно ложак, і не адно сцэна, а паўсядзённая барацьба за існаванне з усімі яе атрыбутамі: здабываннем і гатаваннем харчоў, прыбіраннем у кватэры, мыццём бялізны і іншым непаэтычным друзам. А тут два халерыкі, два разбэшчаныя эгаісты, якія гэтага не толькі рабіць не любяць, не хочуць ды не ўмеюць, а яшчэ не церпяць ніякай улады над сабою.

І ўжо праз паўгода сямейнае жыццё сталася для Таццяны кашмарам. Кватэра зарастала пылам і брудам, у халадзільніку было пуста, а калісь палкае каханне ператварылася ва ўзаеманянавісць, узаемарэўнасць. Тут упершыню зведала Зарэмба, што мужчына можа не толькі лашчыць, цалаваць і насіць на руках, а яшчэ і біць яе слабае цела. У запале скандалаў гэты малойчык, бывала, цягаў яе па кватэры за валасы, зачыняў у ваннай, выганяў голую на лесвічную пляцоўку, разбіваў табурэткамі аконныя шыбы. Словам, свавольнічаў з усім тэмпераментам і фантазіяй артыста. А потым каяўся, поўзаў перад ёй на каленях, абдымаў, нёс у ложак і зноў кахаў да бяспамяцтва.

З цяжкасцю ўдавалася Таццяне запудрываць перад рэпетыцыямі-спектаклямі сляды мужавых пабояў. Так вытрымала яна крыху больш за год. Потым дамаглася разводу: шумнага, праз суд і грамадскую суполку тэатра, куды давялося прынесці заяву з апісаннем некаторых інтымнасцяў.

У выніку мужа звольнілі з тэатра, неўзабаве мусіла сысці адтуль і Таня, бо калектыў, што чамусьці абраў мужаў бок, ад яе адвярнуўся. З год валэндалася яна без сталай працы, падзарабляла ў тэлевізійных масоўках і аднаразовых шоу. Добра, што ўдалося хоць паўкватэры адцяць у суджанага — было дзе прытуліцца. А папраўдзе, жыла яна гэты год за кошт розных мужчын. Быў у яе і малады мастак, і добрапрыстойны сем'янін прафесар, і бізнесмен сярэдняй рукі, і нават адзін волат грузчык.

Калі нарэшце знайшла работу ў тэатры Бабаеўскага, ужо праз месяц, наслухаўшыся плётак пра ахвочасць дырэктара да слабага полу, ведала Зарэмба, што яго песенька спета. Аднак праходзілі тыдні і месяцы, а не ўдавалася завабіць спрактыкаванай Таццяне ў свае цянёты старога распусніка. А ўсё таму, што працавала яна з іншымі рэжысёрамі

і ўбіцца на ролю да Бабаеўскага не было магчымасці. Кароткія ж сустрэчы ў людных кулуарах тэатра не прыносілі плёну. Але цярпела Таццяна, знарок не заводзіла сабе палюбоўніка з маладых акцёраў, што з першых жа дзён актыўна яе дамагаліся. Яна ведала, што рана ці позна возьме дырэктара з усімі трыбухамі, а мужыкі дужа раўнівыя да мінулага. Таму жыла па-ранейшаму з мастаком і прафесарам.

І ледзь толькі Таццяне ўдалося патрапіць на рэпетыцыю да Аркадзя Рыгоравіча, лёс яго быў вырашаны канчаткова і беззваротна. Кінуў Бабаеўскі сям'ю, быў публічна пракляты сынамі, завочна абсмяяны трупай, перасяліўся з чатырохпакаёўкі ў Зарэмбін катух, але ўважаў сябе за найшчаслівейшага чалавека на свеце.

Хутка стаў Рыгоравіч рабом сваёй падначаленай. Выдыхся гэты дзед ужо пасля трох месяцаў любоўнага жыцця з маладой і дужай Зарэмбай. Не паспяваюць яго магчымасці за яе апетытамі. І, адчуваючы гэту віну, на ўсё для яе гатовы цяпер дырэктар тэатра «Кіцеж». Галоўная роля ў лепшым спектаклі — Таццяніна. Хай зайздросцяць калегі, хай заліваюцца жоўцю. Чхаць ёй на іх любоў, ёй патрэбныя павага з пашанаю. А паважаюць і шануюць моцных, пасяховых ды ўплывовых. Прабіў ёй Бабаеўскі і кінапробы ў двух серыялах. Адна, праўда, правалілася — ніяк не захацеў паверыць галоўны рэжысёр у яе геніяльнасць. Дык ён і ў пасцелі з ёю не быў! Паверыў бы мігам. Ну ды халера з ім. Затое ў другі, яшчэ больш грашавіты, серыял, яна прайшла як па масле. Цяпер чакае пачатку здымак.

### 3

— Колькі разоў я цябе прасіў, Танюсік, — з дакорам пазіраў Аркадзь Бабаеўскі на Зарэмбу, — не заходзіць сюды ва ўрочныя гадзіны.

Ён ускочыў з крэсла, жвава затэпаў да дзвярэй і замкнуў іх.

Таццяна, прапусціўшы міма вушэй яго заўвагу, пакіравала да халадзільніка, што стаяў у далёкім куце прасторнага кабінета. Як у сябе дома, яна адчыніла яго і пачала шнарыць усярэдзіне. Неўзабаве вывудзіла пачак ананасавага соку, наліла ў фужэр і развалілася ў крэсле, пацягваючы жаўтлявы напітак.

— У-у-ф, нешта я сённяператамілася, — штучным млявым голасам сказала актрыса і, раптам нешта ўспомніўшы, дадала куды жывей: — Што гэта Пугач такі пабіты выходзіў?

Бабаеўскі сярдзіта махнуў рукой і апусціўся ў крэсла.

— А тое, што гэты жываглот у магілу мяне загоніць сваімі выбрыкамі. — Ён узяў самапіску і пачаў нервова перабіраць яе ў пальцах. — Вось ужо дзе — малая куча ды смярдзюча! Мёртвага дапячэ...

— Ты проста да яго нераўнадушны.

— Ды па мне б хоць ён пад зямлю праваліся! — фыркнуў Аркадзь Рыгоравіч. — Не ўмееш іграць, дык хоць не замінай іншым. Якога нячысціка ён толькі што падносам круціў, як жанглёр, калі ў сцэнарыі чорным па белым напісана: падай гаспадарам віно, пакланіся ды адыдзіся пачціва?!

— Не ведаю… — прыжмурылася Зарэмба. — Мне дык гэты яго жэст спадабаўся. — Ёй чамусьці хацелася зараз уесці Бабаеўскага.

— Ага! — ускінуўся рэжысёр. — А то я бачыў, як ты на яго скасавурылася! Замест таго каб глядзець на суразмоўцу, што, дарэчы, — ён зрабіў націск на апошнім слове, — табе па ролі належыць.

— Дык я што, па-твойму, дрэнна іграла?! — падробна абурылася Зарэмба; а насамрэч ёй было напляваць і на гэтую рэпетыцыю, і на меркаванне рэжысёра, настолькі ўпэўнена яна тут пачувалася.

— Я ж не гавару, што ўвогуле дрэнна іграла. Але ў адным месцы схібіла. І вінаваты ў тым твой любімы Пугач!

— Чаму мой любімы? — крыва ўсміхнулася Таццяна.

— А таму, што зачаста ты яго, як пагляджу, бароніш, — прабурчаў Аркадзь Рыгоравіч.

— Я не бараню, а проста бачу, што ты цкуеш таленавітага чалавека, гноіш яго на ўсялякіх танных ролях... — Таццяна паставіла пустую шклянку на тумбачку, устала з крэсла і зноў падышла да халадзільніка.

— У гэтага таленавітага, як ты кажаш, чалавека было дастаткова магчымасцяў сябе праявіць. Хіба не даваў я яму роляў?! Дык ён мне спектакль праваліў. Сволач! — гаркнуў рэжысёр і ў запале змахнуў са стала нейкую паперыну.

Але тут жа перапужаўся магчымага прыліву крыві ў галаву і, адкінуўшыся на спінку крэсла, замоўк і пачаў лічыць пульс на шыйнай артэрыі.

А Зарэмба тым часам шнарыла па халадзільніку.

— Слухай, Рыгорыч, — звярнулася яна да рэжысёра, — я тут учора паўшакаладкі пакінула. Не бачыў?

Бабаеўскі дэманстратыўна маўчаў, падлічваючы сардэчныя такты.

— Я ў цябе пытаюся, — патрабавальна павярнулася да яго Таня, дзівосна прыгожая ва ўбранні сярэднявечнай пані.

— А халера яе ведае. Я не еў, — адмахнуўся ад яе Бабаеўскі.

Ён быў дужа ўстрывожаны тым, што пры замеры пульсу адзначыў не толькі пачашчэнне, але і перабоі ва ўдарах сэрца. Гэта тахікардыя, прадвесце інфаркту. А тут Зарэмба са сваім паганым шакаладам...

Актрыса падышла да яго рабочага стала і бесцырымонна пачала корпацца ў службовых паперах і папках.

— Што ты тут забыла? — агарошана паглядзеў на яе Аркадзь Рыгоравіч. — Ды не камячы ты дакументы!

— Не, ну дакладна ж памятаю, што палову шакаладзіны я не даела. — Таццяна не звяртала ўвагі на яго абурэнне.

Раптам яна нагнулася і высунула ніжнюю шуфляду рэжысёравага стала. Бабаеўскі абамлеў, бо ў верхнюю ён толькі што паклаў лекі, пра існаванне якіх ведаць яго палюбоўніцы было зусім неабавязкова. У Аркадзя Рыгоравіча заняло мову, і ён здранцвела ўтаропіўся на Таццяну, што па-свойску корпалася ў гэтай аб'ёмістай скрыні. Добра, што ён замкнуў верхнюю шуфляду! Але тут жа варухнулася ў галаве трывожнае: ці замкнуў, ці дакладна ў *верхнюю* шуфляду паклаў ён тыя ганебныя таблеткі? І адчуў дырэктар найвядомейшага тэатра сталіцы, як па яго спіне прабег халадок...

А тым часам Зарэмба, не здаволіўшыся павярхоўнымі пошукамі, стала выцягваць з шуфляды папкі з дакументамі ды вывальваць іх на стальніцу, каб лацвей было шукаць сваю шакаладзіну.

— Э, ды ты што, Танюсік! — усклікнуў Рыгоравіч, хапаючы яе за рукі. — Ды тут жа міністравы ўказы ляжаць! Калі што згубіцца... — Ён збянтэжана пазіраў на стройны стан Таццяны, што нахілілася і арудавала ў напаўпустой шуфлядзе.

Скончыўшы там пошукі, яна тарганула ручку верхняй скрыні стала. Бабаеўскаму падалося, што сэрца яго спынілася ад страху. Ён ужо ўсур'ёз пракручваў варыянт, як — калі шуфляда раптам паддасца — коршунам кінецца на сіні пачак, каб не даць прачытаць Таньцы яго прызначэнне...

Але шуфляда не паддалася, бо ўсё-ткі была абачліва замкнута.

— Дзе ў цябе ключ? — нахабна павярнула да яго Зарэмба свой прыгожы твар.

Яшчэ не хапала яму апраўдвацца перад ёй у сваім кабінеце! Гэта ўжо занадта.

— Слухай, — узяў строгі тон дырэктар, — а табе не здаецца, што ты не тым займаешся ў працоўны час?

— Я хачу есці, — з выклікам, карцінна ўзяўшыся ў бокі, сказала Таццяна.

— Для перакусаў унізе ёсць буфет, і ён, дарэчы, адкрыты на ўвесь час рэпетыцый. — Бабаеўскі ўзяўся засоўваць назад выцягнутыя сужыцелькай службовыя паперы.

— А я хачу шакаладу, — капрызна заладзіла Зарэмба.

— Я табе не шакаладная фабрыка, а між іншым дырэктар гэтага тэатра. І наогул, прызначаны мной перапынак скончаны... Так што давай, — ён нервова махнуў рукою ў бок дзвярэй, — на рэпетыцыю.

— А я гавару, што я тут учора пакінула сваю шакаладку і хачу яе ўзяць. — Таццяна пачала жвава торгаць ручку замкнутай шуфляды.

Бабаеўскі схапіў яе за руку.

— Ну няма тут твайго шакаладу! — усклікнуў ён. — Няма, чуеш? Я, я яго з'еў!

— Няпраўда! — упарта дужалася з ім ля стала палюбоўніца. — Ты не любіш салодкага.

І богведама чым бы гэта скончылася, каб не пачуўся мілагучны званок дырэктарскага тэлефона.

— Слухаю, Бабаеўскі, — узяў трубку задыханы Аркадзь Рыгоравіч. Раптам яго твар прыняў дагодліва-адказны выраз, уся пастава вытрунілася, а дыханне само сабой нармалізавалася. — Так. Так, Мацвей Лукіч. Так. Зразумеў. Зробім. Так. Прымем да ўвагі. Так. Запісваю: адзінаццатага ў 15.00.

Ён павярнуўся да Таццяны, якая, скарыстаўшыся тэлефонным званком, зноў намагалася пранікнуць у таямніцы верхняй шуфляды. Дырэктар, што не пераставаў рабалепна падтакваць міністру культуры (гэта званіў ён), тузануў Зарэмбу за плячо і сваім перакошаным тварам, страшнымі вырачанымі вачыма, а таксама ўзмахамі рук стаў упрошваць яе пакінуць кабінет і не замінаць размове з начальствам.

Зарэмба, якая ўвогуле вызначалася кемлівасцю, зразумела, што жарты скончыліся, і прашалахцела да дзвярэй.

Па заканчэнні тэлефоннай размовы Аркадзь Бабаеўскі зноў замкнуў дзверы, кінуўся да стала і хапатліва дастаў з яго злашчасны сіні пачак. Потым адамкнуў службовы сейф, паклаў таблеткі туды. Секунду павагаўшыся, ён працягнуў руку па бутэльку каньяку, што стаяла там жа, і паўнютка наліў сабе невялікую чарку. Доктар параіў гэтак здымаць стрэсы, што з'яўляюцца першапрычынай.

## 4

Пасля рэпетыцыі, цягам якой Сяргею Пугачу яшчэ пару разоў даводзілася ўдаваць хадзячага балвана, ён прыйшоў у сваю грымёрную ў кепскім настроі. Злосна сарваў з галавы парык і шпурнуў на крук. Парык не ўтрымаўся і зваліўся на падлогу. Гэтак жа зацята сарваў з сябе і каптан, а тады плюхнуўся ў крэсла і стаў здымаць пантофлі.

Грымёрная — цесная невыгодная кабінка — была не адно Сяргеева, ён дзяліў яе з Янкам Тышкевічам. Пугач чуў яго голас у адной з грымёрак па калідоры, дзе, відаць па ўсім, наладзілася чарговая вясёлая гамонка.

Сяргей выслабаніў ногі з пантофляў і пачаў абціраць грым з твару. Рабіў ён гэта нядбайна і нават грэбліва. Крыўда, нанесеная яму ў чарговы раз галоўным рэжысёрам, не аціхала. Цяпер акцёра душыла неспатоленая злосць, і свярбела з кімсьці пагаварыць, пажаліцца на прыдзірлівасць Бабаеўскага, пакпіць з яго дурноты. Але гаварыць так шчыра ён мог з нямногімі — з Тышкевічам ды яшчэ з парай-тройкай акцёраў.

Увесь час, пакуль галоўны распякаў яго ў кабінеце, Сяргей змагаўся з дзіўным жаданнем моўчкі падысці да Аркадзя Рыгоравіча, ухапіць яго за строгі гальштук і марудна, праз стол, пацягнуць на сябе. Уяўлялася, як збарвянее яго тлусты твар, як вытрашчацца ад неспадзеўкі вочы. Пугач нават рукі схаваў за спіну, каб не паддацца гэтай спакусе.

Такія жаданні даўно, з самага дзяцінства, мучылі Сяргея Пугача, і часцяком ён даваў ім волю.

Аднойчы, калі яму было гадоў пяць, падчас урачыстага шматлюднага банкету ў іх доме нейкі адказны чалавек прамаўляў тост. Усе прыціхлі. Сяргея звычайна за стол не пускалі, але перад самым тостам ён без дазволу ўвайшоў у залу і ўзлез на калені бацьку, што сядзеў якраз насупраць прамоўцы. Ці то падзейнічала на хлопчыка незвычайная цішыня, ці то напружаныя ўрачыстыя твары застольшчыкаў, а толькі схапіў ён знячэўку з талеркі масліну, запусціў у прамоўцу і, зарагатаўшы, выскачыў вон. Бацька, які пры выхаванні сына ніколі не ўжываў рукапрыкладства, пакараў яго зняволеннем у пустым пакоі на паўсутак.

Падобныя прыступы раз за разам паўтараліся з Сяргеем і ў школе. Асабліва на ўроках фізікі, якую вяла суровая дырэктарка. І чым больш гнятлівай і адказнай была атмасфера ў класе, тым часцей карцела Пугачу выкінуць нейкае штукарства. На кантрольных, калі ўсе тужыліся над складанымі задачамі, а строгая настаўніца хадзіла па радах, каб не дапусціць спісвання, Сяргея душыў рогат. Нярэдка ён быў пакараны за гэта двойкамі, прагнаннямі з урокаў і выклікамі бацькі ў школу. Затым хлопец стаў хітраваць і, апярэджваючы прыступ неўтаймоўнага смеху, закрываў твар хусткай, імітаваў насавое крывацячэнне і выбягаў з класа. Насоўку ён насіў у кішэні папярэдне заляпаную чырвонай гуашшу.

Вельмі няпроста было Сяргею і ў час службы ў войску, дзе не дапускалася парушаць цішыню ў страі перад якім-небудзь грозным палкоўнікам ці генералам. Таму ён навучыўся заўсёды станавіцца ў другі рад, і нямногія бачылі, якая барацьба адбывалася на яго твары, якія высілкі прыкладаў гэты салдат, каб не зарагатаць.

Пугач нават баяўся сябе, нібы сядзеў у ім нейкі іншы, непадуладны яму чалавек, здатны на самыя эксцэнтрычныя ўчынкі, што ніяк не стасаваліся з агульначалавечымі правіламі.

Толькі за апошні тыдзень яму тры разы карцела на рэпетыцыях падскочыць да Бабаеўскага і заляпіць поўху, два разы Сяргей змагаўся з жаданнем прылюдна пацалаваць яго палюбоўніцу — Таньку Зарэмбу, адзін раз — даць у калідоры падножку народнаму артысту Дамаронку, старому паважанаму чалавеку, а яшчэ раз — сарваць афішу на тумбе перад тэатрам.

...Як толькі акцёр здымаў з сябе мудрагелістыя вопраткі і сціраў грым, было відаць яго сапраўднае аблічча.

А ён бялявы малады чалавек сярэдняга росту, нядрэннага целаскладу, з худым і нервовым тварам. Выглядаў ён маладзей за свае пашпартныя дваццаць дзевяць гадоў. Але асноўнай адметнасцю яго твару быў невялічкі шрам над левым брывом, атрыманы Сяргеем яшчэ ў дзяцінстве. Ён як бы падаўжаў гэтае брыво і загінаў яго дагары, надаваў твару нешта мефістофелеўскае і адначасова камічнае. Пугач з дзяцінства камплексаваў з гэтай прычыны, бо якіх толькі мянушак не прыцягвала на яго галаву гэтая хіба. Але, можа, дзякуючы шраму і паступіў ён калісьці ў тэатральны.

Сяргей памыў твар і рукі, нахапкам апрануўся і выйшаў на калідор. Па дарозе ён хацеў стрэльнуць пару цыгарэт у Тышкевіча і таму скіраваў да кабінкі, адкуль даносіўся зухаваты перасмех і акцёрская гамана. Але калі наблізіўся да дзвярэй, расчуў голас Альберта Сычова, свайго заклятага нядобразычліўца і халуя Бабаеўскага. Альбертаў тонкі гугнявы голас, перабіваючы суразмоўнікаў, нёс нейкую несусвеціцу... «Мярзотная душа!» — вылаяўся Пугач і прамінуў дзверы.

У фае, перад гардэробам, ён сустрэў Людку Дробаш, маладую актрысу, сваю добрую прыяцельку.

— Прывітанне прыніжаным і абражаным, — сказала яна, жартаўліва ўшчыпнуўшы Сяргея за вуха.

— Прывітанне ўзвышаным і знакамітым, — адказаў Пугач. — У цябе курыць ёсць?

— «Гродна».

— Давай перакурым.

— Я ўвогуле ў буфет збіралася. Хадзем, са мной пасядзіш.

— Угаварыла.

Адносіны Сяргея Пугача з Людкай Дробаш былі неадназначнымі хаця б таму, што гады тры назад яны перажылі бурны і кароткі раман. Каханне доўжылася які месяц, потым адбылася кароткая размова — з тых, што звычайна вядуць да прымірэння. Але прымірэння не адбылося, таму што Людка, нечакана нават для сябе, праз два тыдні выскачыла замуж за нейкага журналіста. І як бывае ў абсалютнай большасці падобных выпадкаў, стаўся гэты шлюб няўдалым. Журналіст, што літаральна зачараваў Людку красамоўствам і густымі чорнымі вусамі, насамрэч аказаўся чалавекам даволі пустым і нікчэмным: ныцікам, фантазёрам ды яшчэ і п'яніцам. Ён кінуў яе праз паўгода, з'ехаўшы ў іншы горад, — кінуў на трэцім месяцы цяжарнасці, а таксама з даўгамі за кватэру, якую яны здымалі. І мусіла бедная Дробаш вяртацца ў свой камунальны пакойчык. Блізкіх родзічаў у яе не было, і таму, як ні балела душа, давялося ёй паспяшацца з абортам. Вось такая гісторыя.

Людку, што раней была весялухай і рагатухай, з год было не пазнаць. Яна пацямнела з твару, зблажэла целам, замкнулася, і Пугачу, які ведаў толькі пра няўдалы шлюб, адно заставалася здагадвацца, якія буры бушуюць у душы яго колішняй каханкі. Толькі яе ігра на сцэне — гэта таксама кідалася ў вочы — стала куды больш глыбокай і драматычнай. Неўзабаве Дробаш пачалі даваць небывала значныя ролі, яе імя зачасціла на старонках культурніцкіх газет, а праз некаторы час яна патрапіла ў расейскі тэлесерыял і прагрымела на ўсім постсавецкім абсягу.

Цяпер Дробаш мела трохпакаёўку ў цэнтры, аўтамабіль «Таёта», і Аркадзь Бабаеўскі ўсур'ёз непакоіўся, што яна пакіне тэатр «Кіцеж» з яго смяхотлівымі капеечнымі зарплатамі. Але Людка была (а мо за апошнія тры гады стала) разумнай жанчынай і ведала, што жыццё — гэта страшэнна зменлівая і непрадказальная штука, што няблага, пакуль там лунае ў небе яе журавель, мець у руках і сініцу — у выглядзе іхняга сціплага, аднак паважанага тэатра, сваёй невялікай, але пастаяннай зарплаты, свайго сварлівага і зайздрослівага, але звыклага калектыву.

Рана, нанесеная Людцы законным мужам (з якім яна і пасёння афіцыйна не развялася), дарэшты не загаілася. З тае пары яна ўзненавідзела мужыкоў, лічыла іх юрлівымі, карыслівымі істотамі і толькі Пугачу, перад якім як бы адчувала сваю віну, яна давярала. Сяргей, у сваю чаргу, па-чалавечы спачуваў Людчынай жаночай нядолі і шчыра захапляўся яе артыстычным талентам. Словам, на момант, з якога пачынаецца гэты аповед, паміж імі ўстанавіліся цёплыя, сяброўскія адносіны.

У напаўпустым буфеце яны селі за кутні столік, папярэдне ўзяўшы сёе-тое за стойкай. Дакладней, узяла паесці Людка, а Сяргей абмежаваўся бутэлькай кока-колы.

— Ты б таксама перакусіў, — кіўнула актрыса на свой поўны паднос.

— Не хачу. Бабай ужо накарміў — кусок у горла не лезе.

— Дык да чаго ён прычапіўся?

— А ліха яго ведае, — зморшчыўся Пугач, — не з той нагі ўстаў, мусіць. Ён, бач ты, хоча, каб я быў гэткім бязмоўным ёлупам — «падай-прынясі». І не дацямяць яго глузды атлусцелыя, што нават слуга, лёкай на сцэне *іграць* павінен.

— Табе б, Серж, да іншага рэжысёра перайсці.

— Ды спрабаваў, Людок, хіба не ведаеш! Яны ж усе пад бабаеўскую дудку скачуць. Тут кожны сабака ведае, што я ў яго ў апале. А каму трэба заядацца з галоўным!

— Ты перабольшваеш яго магчымасці. — Людка адсунула пустую талерку і ўзялася за новую. — Вунь Фурсаў — чалавек зусім самастойны…

— Вой не смяшы! — ажно папярхнуўся Сяргей кока-колай. — Славік Фурсаў? Ды першы падпявала Бабаеўскага, яшчэ і баязлівец якіх пашукаць.

— Ды ну? — здзівілася Дробаш. — Дзяўчаты яго хвалілі…

— Не ведаю, за *што* там яны яго хвалілі, — фыркнуў Сяргей, — а толькі гэты «самастойны» чалавек проста заявіў, што ён надта даражыць сваім месцам, каб з такімі, як я, звязвацца. Ледзь стрымаўся, каб яму па мордзе не з'ездзіць! — Ён сціснуў жылісты кулак на стале.

— Таму што не ўмееш ты з людзьмі дамаўляцца. Адразу на ражон прэш.

— Канешне! — ускрыкнуў Пугач, і на іх абярнулася некалькі чалавек за суседнімі столікамі. — Канешне, — панізіў ён голас і нахіліўся да суразмоўніцы, — не ўмею я дамаўляцца, не ўмею запабягаць, не ўмею ў лазню звадзіць, напаіць ды ўлагодзіць патрэбнага чалавека, не магу ў ложак легчы з кім трэба. Гэтага я не ўмею. І, чуеш, ты, — ён ізноў узвысіў голас, — не ха-чу! Але яны яшчэ пра мяне пачуюць. Смяецца той, хто смяецца апошні, Людок. — Астатнюю фразу Сяргей прамовіў з помслівай шматзначнасцю.

— Гэта ў якім сэнсе? — зацікаўлена зірнула на яго прыяцелька.

— А так. Няважна… — махнуў рукою Пугач. — Проста тэатр для мяне — нішто. Гэта схованка, дзе я адседжваюся ў чаканні сапраўдных роляў. Тэатр адмірае, Людочак.

— Ну, гэта збітая тэма, — насмешліва хітнула галавой Дробаш. — Адмірае, ды не адамрэ. Ужо колькі дзесяцігоддзяў яму гэта прарочаць…

— Адамрэ, харошая мая, адамрэ. Бо тэатр — гэта прыдумка антычнасці. Ён нясе з сабой тыя формы, што ў сучаснасці выглядаюць не толькі наіўнымі, але і недарэчнымі, як манная каша на п'янкім застоллі.

— Не згодная.

— Таму і кінуліся цяпер усе тэатры — апроч такіх дапатопных нерушаў, як наш, шукаць новыя формы, прыёмы, голымі па сцэне скачуць, гавораць непрыстойнасці, ледзьве палавымі органамі не трасуць. А ўсё дарма! — Ён высмактаў рэшткі напітку і паставіў пляшку на стол. — Бо яно гэтак жа падобнае на рэальнасць, як дзіцячыя мульцікі! Хіба ў жыцці так голасна, напаказ прамаўляюць, як на сцэне? Хіба там ёсць такія карцінныя жэсты, такія паўзы, заломліванні рук, поўзанне на каленях?

— Ёсць.

— Дзе? Ачніся, Людочак! Агляніся. Не ўбачыш ты гэтага ў жыцці, бо яно нашмат прасцейшае і адначасова больш драматычнае, чым на сцэне! Там ніхто сваіх пачуццяў не выстаўляе, ніхто не выкрыквае на ўсю залу свайго запаветнага, працягваючы дрыготкія рукі да гледачоў. А калі хто і распускае нюні — то адно ў п'яным выглядзе сабутэльніку.

— А чаго ж тады тэатр пераажыў тысячагоддзі?

— А таго, што не было яму альтэрнатывы, любая. Таму што толькі за апошняе стагоддзе чалавецтва зрабіла крок, даўжэйшы за ўсю сваю папярэднюю гісторыю. Мы цяпер перажываем жахлівы час, калі руйнуюцца ўсе шматвяковыя ўяўленні чалавека пра светабудову. І пра культуру, мастацтва — у тым ліку… Кінематограф — вось што пакуль можа паспець за нашым шалёным часам, толькі ў кіно можна сыграць набліжаную да жыцця ролю.

— Але ж ёсць вечныя каштоўнасці: каханне, вернасць, спагада, што былі пры Гамеры, пры Шэкспіры, пры Чэхаве…

— Ха! Былі ды сплылі! — ухмыльнуўся Пугач. — Ты зірні зараз у тэлевізар і адразу дацяміш, якія цяпер каштоўнасці.

— Ну і якія?

— Свабодная любоў, секс без разбору! Крутыя нізкалобыя хлопцы з аўтаматамі ды не менш крутыя і тупыя «мянты», якія гэтых бандзюгаў ловяць. Вось яны — каштоўнасці і героі сучаснасці. Табе гэтага мала?

— Дык якраз для таго, каб супрацьстаяць гэтаму, існуе тэатр.

— Ну і што, супрацьстаяў ён, перамог бездухоўнасць? — пранікліва паглядзеў на Людку Сяргей. — Ды давай жа будзем шчырымі — не супрацьстаяў, не перамог, а сам гэтаму паддаецца. І ўжо бегаюць па некаторых сцэнах галаногія дзеўкі, ужо ганяюцца за імі голыя ж мужыкі, ужо прамаўляюцца на публіку каляпасцельныя (не шэкспіраўскія) пошласці, ужо прапагандуецца гвалт... — Пугач перавёў дух. — Тэатр новага часу, тэатр камерцыйны — гэта язычніцкі балаган, групавая распуста, пададзеная пад вытанчаным соусам.

— А чаму ж у нас, дзе ідзе класічная драматургія, аншлагі? Чаму ж... — запнулася Людка, бо Сяргей ухапіў яе за локаць.

— А таму, — зашаптаў ён, — што з двух-трох мільёнаў заўсёды знойдзецца кучка людзей, каб запоўніць нашу маленькую глядзельную залу. Трэба ж неяк час бавіць. Тэлевізар тэлевізарам, а тут усё-ткі жывыя блазны крыўляюцца.

— Дык хай бы хадзілі туды, дзе, як ты кажаш, бегаюць аголеныя дзеўкі, — хацела злавіць Сяргея на супярэчнасці Людка.

— А пакуль што не ўсе да гэтага апусціліся, — парыраваў Пугач. — Дый, відаць, не звядуцца дарэшты тыя ёлупні, каго цікавіць не толькі голае цела, а і яшчэ сёе-тое на свеце.

## 5

Кватэра Леаніда Нілыча Пугача, Сяргеевага бацькі, была не з маленькіх: чатырохпакаёўка ў пасляваенным сталінскім доме. З трохметровымі столямі, з прасторнымі кухняй і ваннаю. Дый чалавек Леанід Нілыч быў нешараговы. Калісьці, яшчэ за брэжнеўскім часам, ён заняў даволі высокую пасаду ў Саюзе мастакоў і змяніў сваю несамавітую двухпакаёўку на гэтыя харомы ў цэнтры горада. Была ў яго непадалёк і майстэрня.

Але прыйшла перабудова, за ёй — наш варварскі капіталізм, і з майстэрняй давялося расстацца. Не, Леанід Нілыч не разгубіўся ў новых умовах. Наадварот, пайшоў угору дзякуючы прыроджанай камерцыйнай жылцы і ўменню ладзіць з людзьмі. І майстэрню ён мог бы зняць новую... Ды проста замнога аказалася яму для адзінокага жыцця і чатырох пакояў кватэры. Сяргей, сын, пажадаў жыць асобна ад бацькі. Здымае, за бацькавы ж грошы, кватэрку ў Богам забытым раёне. Так што два пакоі Нілыч пераабсталяваў пад рабочыя.

Жонкі ў яго няма так даўно, што часам здаецца, не было ніколі.

А іншым разам наляціць, апануе туга Леаніда Нілыча, перанясе яго гадоў гэтак на трыццаць назад, і наноў, балюча перажыве ён тыя падзеі...

І ўсё было тады не так, і ўсё было лепей, таму што былі яны маладыя, таму што кахалі, і жыццё ўяўлялася няспыннай квяцістай стужкаю... Ён любіў сваю жонку, ва ўсялякім разе цяпер пастаянна пераконвае сябе ў гэтым. А тады... Тады была страсць, тады былі першыя творчыя поспехі і народзіны першынца — сына. І блаславёны той час, калі чалавек не задумваецца пра сэнс існавання, пра глыбіню сваіх пачуццяў, правільнасць учынкаў, а проста жыве, проста дзейнічае, проста кахае.

Яны былі на рэдкасць розныя з Ірай. Ён — мастак, непаседа, любіў кампаніі. Яна матэматык, як казалі — таленавіты. Працавала ў ака-

дэміі, пісала нейкую пакручастую дысертацыю, цяжка пераносіла застоллі і Леанідавых шумных, зухаватых прыяцеляў. Але хто сцвердзіў, што толькі блізкія па інтарэсах людзі ствараюць шчаслівыя шлюбы? У іх сям'і панавалі спакой і паразуменне. І пражылі б яны, магчыма, доўгае і ўзаемаўдзячнае жыццё, і мелі б яшчэ дзяцей… Ды, напэўна, прызначана было Ірыне ў нябесных дакументах пражыць усяго дваццаць пяць…

А жыла яна, як ні дзіўна, так, нібы адмерана ёй гадоў дзевяноста. Бо напрарочыла ў маладосці Ірыне — будучаму кандыдату матэматычных навук! — нейкая шарлатанка доўгае жыццё, здаровую старасць, а неўзабаве — і сустрэчу са сваім суджаным, які, аказалася, па ўсіх прыкметах супаў з Леанідам Нілычам. І захапілася з таго часу Іра гараскопамі, свята паверыла ў сваю шчаслівую зорку. Вылічвала па іх, калі ісці на адказную справу, а калі дома адседжвацца, калі выпадзе ёй удача, а калі не… Вось і падгадала сабе паехаць у камандзіроўку ў Тбілісі, спадзявалася прабіць новую распрацоўку… І была ўпэўненая, што праб'е.

Аднак занадта складаны сусвет, каб ахапіць яго гараскопамі… Запрасілі там яе ў горы на шашлыкі. Вярталіся зацемна. І тысячу ж разоў раней пралятаў над той цяснінай бывалы вадзіцель, і яшчэ б столькі разоў праехаў, ды собіла яму памыліцца менавіта тады, калі ў машыне, на заднім сядзенні з прыяцелямі, знаходзілася Леанідава жонка, яго каханая Іра…

Леаніду Нілычу толькі праз два тыдні пасля трагедыі прывезлі урну з прахам. Казалі, што і даставаць там не было чаго — кіламетровая глыбіня, камянюкі. І як найстрашнейшае вылучае цяпер яго памяць нават не раптоўную звестку пра Ірыніну гібель, а тое тыднёвае стаянне урны з парэшткамі ў калідоры. Балазе Сярожка, якому ледзь споўнілася тры гады, мала што разумеў... Эх, не хацелася весці на могілкі яе прах, але і глядзець на урну было невыносна. Помніцца, апанаваны адчаем, два разы прымаў Леанід яе з трумо і хаваў на антрэсоль. І неўзабаве, змучыўшыся душою, вяртаў назад — да вазы з кветкамі.

Пакутлівы год пражыў мастак пасля гібелі жонкі. Магільнымі чарвякамі, днём і ноччу, заядалі яго згрызоты сумлення. Усё малазначнае ды неістотнае, што дзеелася пры яе жыцці, набывала цяпер надзвычайны сэнс. І здавалася, што недастаткова ласкавы і чулы быў Леанід з нябожчыцай, многага недадаў, у многім пакрыўдзіў. Ды што там пакрыўдзіў! Якраз у апошні год і пачаў ён ад яе падгульваць, тыповаму мужчынскаму эгаізму паддаўся. Здалося, бач ты, яму, што замала ўвагі стала надаваць ягонай асобе Ірына — усё больш за кніжкамі ды за сшыткамі прападала, на канферэнцыях розных, калоквіумах. А калі адрывалася ад навук — усё сына лашчыла ды песціла. І не спытае ніколі, як там у яго, Леаніда, творчыя поспехі. А мастакі — народ датклівы, раўнівы да свайго рамяства… Гэх! І пачалося ж з драбязы. Ну зусім не па сваёй волі здрадзіў ён жонцы. Хлопцы, у нос ім перцу, падставілі. Запрасілі ў лазню на выхадныя, ды не сказалі, што і плыўчых туды маладых гарачых завабілі. І выйшла такая неспадзяванка, што толькі мужчына і зразумее... Сорамна было потым, балюча. Месяц не мог глядзець Ірыне ў вочы. А яна і не падазравала, бедная: усё дыферэнцыравала там на сваіх паперынах. А далей… Ці то ў смак увайшоў трыццацігадовы Леанід Нілыч, ці то зноў падаткнуў нячысцік, а толькі ўжо наступную жанчыну ніяк выпадковай не назавеш.

І ў рэстараны ён тую актрысачку вадзіў, і рамантычныя букеты дарыў, і ў акно па пажарнай лесвіцы лазіў. Неяк поначы і сарваўся ён з тае лесвіцы, паламаў нагу і два месяцы на мыліцах праскакаў.

Леанід Нілыч, на той час чалавек няверуючы, але забабонны, успрыняў гэта як знак, папярэджанне: маўляў, спыніся, будзе горай. І спыніўся ён, і зарокся не блудніча́ць болей. Сям'і аддаўся. Дальбог, так кахаў жонку, як і падчас мядовага месяца не здаралася, усе хатнія справы ў яе перахопліваў, на каленках з сынам поўзаў, у салдацікі ды параходы гуляючы. І думалася, перахварэў ён, усё прайшло, забыта, будзе лепей і лепей... Гэх, не спыніш, не пераматаеш назад, як у кінематографе, жыццёвую стужку. За ўчынак кожны, за слова неабдуманае, нават за подлую думку — плаці пажыццёва.

Так грыз сябе цэлы год Леанід Нілыч. Працаваць не мог, перажыў творчы крызіс. Цяпер перад сынам, перад малым Сяргеем, гатовы быў ён укленчаны поўзаць за тое, што здрадзіў ягонай маці, за недастатковую любоў да яе. І знаходзіў ён у малым мілыя сэрцу рысы твару і характару нябожчыцы. Пакляўся тады сабе Леанід, што ніколі не ажэніцца паўторна, што абароніць Сяргея ад мачахі, што ў блін разаб'ецца, а зробіць сына шчаслівым.

Сваё слова стрымаў — не ажаніўся ні з кім, хоць жанчын абысці за наступныя дваццаць пяць гадоў, вядомая рэч, не ўдалося. Не, з год, пакуль выдзіраўся з душэўнага мораку, ён на іх не глядзеў і ні аб чым заганным не думаў. Але так ужо зладжаны чалавек, што не можа ён пакутаваць вечна: або памірае ён, або жыве ды імкнецца да радасці, да шчасця, да асалоды. Вярнуліся да Леаніда і творчае натхненне, і пахі фарбаў, кветак, зяляніны, жаночай парфумы. Бо не пераставаў яго магутны сялянскі арганізм прасіць ежы, паветра і сонца, не пераставалі ў ім выпрацоўвацца пэўныя гармоны. Прырода брала сваё. Але душа! Душа яго засталася там, з Ірынай, і ніхто не здолеў заняць яе месца.

Азіраючыся назад, з вышыні пяцідзесяці трох гадоў, бачыў мастак як бы расколатасць, размежаванасць свайго жыцця на дзве палавіны: да і пасля трагедыі. Зусім іншымі крытэрыямі і каштоўнасцямі вызначаліся гэтыя жыцці. Белае стала чорным, а чорнае — белым. Праўда, з цягам часу чорнае крыху пасвятлела і пашарэла белае, размыліся межы, прытупілася боль, але новым, напраўду новым і памудрэлым чалавекам стаў Леанід не цяпер, не год дзесяць таму, а тады — пасля Ірынінай гібелі.

Раней, да трыццаці гадоў, шкура на ім гарэла: хацелася і ў Саюз мастакоў, хацелася грошай і славы. І радаваўся ён па-дзіцячаму сваім поспехам, быў чуйны і раўнівы да крытыкі і ўхвалы. Важна, надзвычай важна было тады, каб ведалі сябры, ведалі яго і жончыны родзічы пра гэтыя часовыя поспехі. Была ў іхняй сябрыне маладых мастакоў задзірыстая творчая канкурэнцыя, бравада, паказушнае вальналюбства, жаданне адзін аднаго пераплюнуць, каб усе апладзіравалі.

Усё знікла разам з Ірынай... І калі праз год выйшаў-такі спакутаваны Лёня на творчую арбіту, то не хвалявалі яго больш ні Саюз мастакоў, ні выставы, ні кар'ера, ні грошы. Але, як часта бывае ў жыцці, дамагаемся мы з дзіўнай лёгкасцю якраз таго, да чаго найменей імкнёмся. Таму што не перажываем за гэта, а менавіта перажыванні, нецярплівая прага дасягнуць мэты з'яўляюцца нашымі першымі ворагамі.

Дамагаўся Леанід Нілыч сяго-таго толькі таму, што цвёрда ведаў: жыццё — гэта рух наперад; без паступальнага руху, без развіцця яно балота. Дапамагала і выратоўвала Леаніда ад многіх нягодаў тое, што заўсёды, нават у пару славалюбнай маладосці, ён цвяроза ацэньваў свае магчымасці. Нейкім прыроджаным чуццём, яшчэ на пачатку творчага шляху, уразумеў ён адну простую ісціну: нішто ў жыцці на сподачку не падносіцца, за ўсё трэба змагацца, усё трэба браць з боем. Каму ж, як не яму, хутарскому хлопцу, які калісьці прыехаў заваёўваць сталіцу, было ведаць, што ўсе месцы пад сонцам даўно занятыя ў такой жа зацятай барацьбе, што ніхто іх проста так не саступіць. Ніхто не раскрые гарачыя абдоймы ад захаплення Леанідавымі талентамі, не ўсцеле яму дарогу кветкамі. Наадварот, будуць браты-мастакі, учуўшы моцнага канкурэнта, усяляк замінаць яму дабрацца да запаветнага п’едэстала, каб не адабраў у іх хлеб і славу. І наконт талентаў сваіх трэба маўчаць... Трэба непрыкметным шэранькім конікам караскацца на вяршыню грамадскай піраміды і, толькі набраўшы пэўную вышыню, набыўшы і вагу і сувязі, заявіць людзям пра свае творчыя здольнасці. А іначай паляціш ты з гэтае піраміды потырч, няшчадна разаб’ешся аб дол.

Усё гэта ўцяміў сабе Леанід Нілыч. Ён ішоў угару паступова, не ўсцешваўся часовымі поспехамі, не бедаваў ад няўдач, нікому не зайздросціў, ні з кога не зларадпічаў. Ён ніколі не падводзіў ні таварышаў-мастакоў, ні заказчыкаў. Яго паважалі як абсалютна неславалюбнага, неамбіцыйнага чалавека, гэткага цягавітага, добрага рамесніка — і не болей. Але менавіта таму і любілі, і давяралі яму браты па пэндзлі, абіралі на розныя пасады ў Саюзе мастакоў, прабівалі яму памяшканні для выставаў і прэзентацый.

Грымнула гарбачоўская перабудова, і тут не знячэвіўся, не прапаў Леанід Нілыч. Бо, як аказалася, асноўны капітал — гэта не грошы, не талент, а сувязі. А сувязяў і знаёмстваў з патрэбнымі людзьмі было ў яго досыць. Да таго ж за гады творчай дзейнасці склалася свая кліентура, і бывала, што напісаную за адну ноч карціну ўдавалася прадаць за пяцьдзесят, за сто долараў. Ён стаў модным мастаком, харызматычнай постаццю. І самае дзіўнае, што, малапрыкметны напачатку, яго талент як бы ўзрос, падужэў, раскрыўся. Леанідавы палотны, год за годам, дзякуючы нястомнай, уседлівай працы, пачалі набываць усё болей адметныя, вартыя рысы.

Асаблівы рывок зрабіў Нілыч за апошнія пяць гадоў, калі асэнсаваў працэсы, што так рэзка адбыліся ў краіне, у кантэксце сусветнай гісторыі. Гэтае падзенне жалезнай заслоны, што справакавала хвалю новай літаратуры, новых ісцін, каштоўнасцяў і псеўдакаштоўнасцяў у мазгі непадрыхтаваных да свабоды людзей, зрабіла моцны пераварот і ў душы заўсёды разважнага, памяркоўнага, псіхалагічна ўстойлівага Леаніда Нілыча.

Ён адкрыў, што перайначанае на яго вачах жыццё ніяк не ўкладваецца ў тыя схемы, па якіх ён прывык існаваць, і не падпарадкоўваецца ўжо тым ісцінам, у якія ён раней верыў; што тыя ісціны не ёсць аксіёмы, а толькі пробныя мадэлі жыцця, якія не вытрымалі выпрабавання часам. Свет нібы пашырыўся перад Леанідам Нілычам, стаў гразнейшым, аб’ёмнейшым і цікавейшым. Атрымаўшы доступ да раней забароненых кніг гістарычнай, эзатэрычнай і мастацкай тэматыкі, ён выразна ўбачыў, што ісцін, якія руйнаваліся няўмольным часам,

за перыяд існавання чалавецтва было мноства. І толькі шараговая з іх, не лепшая за ўсе астатнія, — марксізм-ленінізм.

Дзе ж праўда? Гэтае адвечнае пытанне змучыла мастака пасля падзення ягоных ідалаў. Як, чым і па якіх правілах яму цяпер жыць? І галоўнае, навошта? Чуццё гаварыла, што адказ ёсць. Ён стаў чытаць далей, насычацца ведамі і вопытам чалавецтва, што былі подла ўтоены ад яго на працягу сарака гадоў свядомага жыцця. Ён кінуў маляваць карціны і стаў шукаць нейкую сакральную кропку ў гісторыі чалавецтва, нейкую падзею, што б адказала адразу на ўсе пытанні, прымірыла супярэчлівыя тэорыі, прасвятліла б яго паняцце пра светабудову. І прыйшоў ён туды, куды прыходзяць у рэшце рэшт усе шукальнікі — на дзве тысячы гадоў назад, на Галгофу. Бо толькі там, і пакуль аднойчы, сышліся ў смяротным баі сусветныя дабро і зло, святло і цемра, праўда і псеўдаправўда. Толькі там Пераможаны стаў Пераможцам, а Забіты — Вечна Жывым…

Гэтае азарэнне ўвайшло ў мастакову душу, зніталася з яго творчасцю. І па-новаму, зусім па-іншаму глядзеў ён цяпер на палотны Рэмбрандта і Рафаэля, Шагала і Гоі. Там, дзе з маладосці быў знаёмы кожны штрых і мазок, свяцілася *тое самае*: Галгофа і крыж са сваёй страшнай Ахвяраю, месца, дзе яднаюцца зямля і неба, дзе ў кропку сціскаецца час і бяжыць ужо ў іншым напрамку.

## 6

Багата знаёмых, кліентаў, усялякіх сяброў-прыяцеляў меў Леанід Нілыч Пугач. Ён лёгка знаёміўся, сыходзіўся з людзьмі і сам быў, што называецца, чалавекам лёгкім. Але толькі адну дружбу пранёс ён з маладосці да сённяшняга дня, толькі з адным чалавекам на свеце быў ён самім сабой, адкрытым і шчырым — з Адынцом Валерыем Віктаравічам.

Адвечар таго дня, з якога пачаўся наш аповед, Адынец завітаў да Леаніда Нілыча ў госці. Адвячорак, дарэчы, стаяў марозны і ветраны, але ў вялікай зале Пугачовай кватэры было горача — ці то ад батарэй ацяплення, ці то ад палкай спрэчкі, якую вялі між сабою сябры.

Адынец быў чалавек незвычайны ва ўсіх адносінах. Пазнаёміўся з ім Нілыч у пару рамантычнай маладосці, падчас байдарачнага паходу. Неяк разгаварыліся яны ля вогнішча, і адразу ўразіў Леаніда небывалы і не абы-які для свайго ўзросту культурны досвед суразмоўніка, яго манера грунтоўна і ненавязліва адстойваць свае думкі. А быў Адынец усяго толькі маладым інжынерам.

І гутарка, што завязалася тады паміж імі на беразе возера, як бы не канчаецца і па сёння, хоць састарыліся суразмоўнікі, хоць шмат чаго памянялася ў іх жыцці, хоць жывуць яны ўжо не пры сацыялізме, а пры капіталізме.

Апрача таго, што Валерый Адынец заўсёды быў для Леаніда Пугача цікавым чалавекам і надзейным сябрам, ён яшчэ з'яўляўся як бы сувязной ніццю паміж маладосцю і сталасцю, паміж колішнім рамантычным, жанатым і шчаслівым Лёнем і цяперашнім мудрым, разважлівым, мацёрым мастаком Леанідам Нілычам.

Сам жа Адынец не змяніўся ніхрохі. Вецер далёкіх вандровак па-ранейшаму гуляў у галаве гэтага эстэта, летуценніка, ідэаліста. За трыццаць гадоў ён выслужыўся адно да вядучага інжынера і атрымліваў у сваім СКБ мізэрную, вартую жалю зарплату. Гэтай зарплаты,

аднак, хапіла, каб сабраць пакрысе адну з найбагацейшых прыватных бібліятэк сталіцы, мець зайздросны архіў нашых і замежных музычных кружэлак, процьму касет з песнямі ўсемагчымых бардаў, некалькі альбомаў рэдкіх марак з усіх куткоў свету, калекцыю старадаўніх манет і шмат чаго іншага. А зmяшчалася тое багацце ў невялічкай двухпакаёвай кватэры.

Як ні дзіўна, збіраў усё гэта Адынец не з азартнай карысці, не з жадання праславіцца, не для навуковых і культуралагічных даследаванняў, а з банальнай любові да жыцця і мастацтва.

Тады, калі большасць грамадзян былога Савецкага Саюза марнела ад сухіх лозунгаў і дэманстрацый, калі культурніцкая эліта пакутавала за так званай жалезнай заслонай, не адчуваў Валерый ні лозунгаў тых, ні заслоны гэтай не бачыў. Бо ў яго несамавітай двухпакаёўцы заўсёды лунаў дух Шэкспіра, гасцяваў Моцарт, завітваў Мальер, стала пражывалі Пушкін, Талстой, Дастаеўскі…

Адно прыкра — не было сярод іх жывых людзей, ніколі не раздаваўся прарэзлівы дзіцячы крык, не гаспадарылі на кухні шумлівыя жаночыя рукі. Так, Адынец быў перакананы халасцяк. Прычын таму шмат. У першую чаргу — тое, што нельга было ўявіць паміж гэтым дзіваком і яго раўнівай, дзесяцігоддзі збіранымі калекцыямі яшчэ кагосьці трэцяга, чацвёртага, пятага… Тут і аднаму было не павярнуцца між шафаў, груваскіх паліц, сакрэтнікаў, між скульптур і палотнаў, якія, нібы дзеці, патрабавалі да сябе нязводнай увагі, догляду і любові.

Праўда, аднойчы, даўно-даўно, ледзь не ажаніўся па мужчынскай слабасці Адынец, ды ўратаваў яго ўсё той жа рамантычна-ідэалістычны погляд на рэчы. Пакахаў ён у трыццаць гадоў адну журналістку. І здавалася, разумная была, развітая жанчына. Можна было з ёй гаварыць пра Веласкеса і Байрана, і Шылера яго любімага яна прымала як быццам… А толькі за два тыдні да вяселля, калі жылі яны ўжо як муж з жонкай, неяк поначы собіла яго сяброўцы ляпнуць, што некаторыя мужчыны робяць нешта там так, а яшчэ і вось так і вось гэтак… Тых неабдуманых слоў хапіла, каб моўчкі ўстаў Адынец з ложа страсці, моўчкі апрануўся і пабрыў па начным горадзе да сваіх карцін, кружэлак і кніжак…

З таго часу ён ужо не дазваляў сабе ўплятаць у светлае паняцце любові цялесны аспект і жыў абсалютным аскетам. З гадамі гэтае самотніцтва і ненармальнае пазбяганне слабага полу ператварылася ў невыяўнічае жанчынаненавісніцтва, якое было пастаянным яблыкам разладу паміж Адынцом і Леанідам Нілычам. Бо мастак, хоць і не «ашчаслівіў» сына мачахай, усё ж не пагарджаў жаночымі вабнотамі і заўсёды меў сяброўку жыцця. За што папракаў яго Валерый Віктаравіч і, у запале спрэчак, называў старым ханжой і «спаднічнай» душою.

Між іншым, іхнія гутаркі часцяком насілі нямірны характар, і, бывала, развітваліся сябры, ажно ў дзвярах праклінаючы адзін аднаго ды надзяляючы абразлівымі мянушкамі. Але мірыліся хутка, праз пару гадзін, па тэлефоне. Бо гэтыя запальчывыя сваркі былі неад'емнай і неабходнай часткай іх інтэлектуальнага, духоўнага існавання, сродкам выплескаў як адмоўных, так і станоўчых эмоцый.

Валерый Віктаравіч належаў да тае катэгорыі халасцякоў, што хваравіта педантычныя ў справах і неверагодна дбайныя да чысціні

і парадку рэчаў. У яго кватэры ўсё ляжала, стаяла і вісела строга на сваіх месцах, старанна аберагалася ад пылу і бруду. Адынец быў просты і акуратны ў адзенні і наўздзіў непераборлівы ў ежы. Змесціва яго халадзільніка і цяпер, пры «капіталізме», не вызначалася багаццем і разнастайнасцю. У ліхія ж часіны гайдараўскага абвалу халадзільнік і наогул збольшага пуставаў, а яго гаспадар перабіваўся з кефіру на хлеб. Таму што не мог Адынец дазволіць сабе марнаваць вольны час на беганіну па горадзе ў пошуках чагосьці пажыўнейшага, выстойваць у тлумных чэргах. І ў галодную, і ў сытую пару ён захоўваў сваю нязменную сухую камплекцыю, упэўненасць у рухах і светлы дапытлівы розум.

Чаму найболей дзівіўся Леанід Нілыч, то гэта непазбыўнай бадзёрасці, пастаяннай жыццярадаснасці Адынца. Як ні пазвоніш — у голасе яго праменіць блазнаватае захапленне, як ні сустрэнешся — па-маладому гарадзь яго вочы. Нават раздражняла гэта падчас. Уважаў жа сябе Леанід Пугач за моцнага, трывалага чалавека, але і ён, бывала, упадаў у меланхолію, паддаваўся нудзе і маркоце. Так часам дапячэ жыццё — ці сын выкіне чарговае штукарства, ці напаскудзіць нехта з нядобразычліўцаў, ці палаешся з палюбоўніцай, — і падкоціць пад горла даўкі камяк, і сам сабе зробішся ненавісны, і бачыць нікога не хочацца. Тады зачыняўся Нілыч у сваёй майстэрні, адключаў тэлефон і мабільнік ды на некалькі сутак унурваўся ў працу. Або, калі ўжо зусім было моташна, кідаў усё да чортавай маці, адпраўляўся на вакзал, сядаў у любую электрычку, вылазіў на малалюдным паўстанку і цягаўся, блукаў па лясных і палявых дарогах, па бездаражы да самае цемры... І гэта ён — чалавек, не абдзелены ні грашыма, ні славай, ні грамадскай увагаю!

Ды не ведаў Леанід Нілыч, што ў створаным Адынцом маласвеце вольны выбіраць гэты дзівак толькі прыемных сабе людзей — якія не падвядуць, не аблаюць, не здрадзяць; людзей адукаваных, высокадухоўных, лагодных. А іменна аўтараў шматлікіх раманаў, філасофскіх трактатаў, энцыклапедый, стваральнікаў разнастайных сімфоній і опер. Таму і весяліцца яго душа, таму роўны яго настрой, таму жыццярадасны яго голас.

Але ёсць яшчэ адна тайна ў Валерыя Віктаравіча, пра якую не ведае яго найбліжэйшы сябар. Страшная тайна, якая тым не менш дае яму сілы жыць пабожна, удзячна і жыццялюбна.

Каля дваццаці пяці гадоў у загараднай псіхбальніцы жыве — не жыве, а марудна паміраe яго брат-блізнюк Алег Віктаравіч.

Калісьці Алег вучыўся ў тэхналагічным інстытуце і быў самым звычайным хлопцам — вясёлым, з кучай сяброў і сяброўак, аматар студэнцкіх вечарынак, дыскатэк і іншых жыццёвых радасцяў. Аднак на апошнім курсе як падмянілі Алега. Ці прычынай таму няшчаснае каханне, ці здрада сябра, ці яшчэ якое душэўнае ўзрушэнне — ніхто не дазнаўся дагэтуль. А толькі абарваў ён усе знаёмствы, стаў прападаць у чытальных залах і горамі цягаць з бібліятэк розныя мудрагелістыя кнігі. Збольшага зацятай бязбожнасцю, спірытызмам аддавала тое чытво. Паглынаў яго брат запоем, нешта пісаў у сшытках, мармытаў пад нос, не выходзіў з дому і па трое, і па чацвёра сутак. Устрывожыліся бацькі, сталі распытваць Алега. Навуковую працу пішу, у аспірантуру збіраюся, схлусіў ён. Крыху супакоіліся дамашнія. Ды ненадоўга. Неяк стрэў Валера ў горадзе Алегавага прыяцеля-сакурсніка,

свайго шапачнага знаёмца, і дазнаўся, што ўжо паўгода як не паказваецца ў інстытуце Алег, на сесію не з'явіўся, але акадэмічны не браў і таму, найхутчэй, адлічаны... А далей — усё горай: стаў брат сам з сабой размаўляць, а на роспыты бацькоў лухту нейкую несці. Што, маўляў, усё мана, што ўсё роўна памром, дык хоць трэба ратаваць свае душы... што ў апраметнай нас чакаюць — не дачакаюцца, але ён ведае выйсце... І падобную несусвецiцу. Спужаліся бацькі, пачалі псіхолагаў выклікаць розных, падпольных экстрасэнсаў вышукваць. Толькі палохалі яны сваім выглядам няшчаснага брата, толькі глыбей заганялі яго ў вар'яцкую прорву. Трызнілася ўжо Алегу, што палюе за ім нейкі каратканогі лысы чалавек (гэта асабліва запомнілася Валерыю), што ваюе той чалавек з кітападобнай пачварынай — дэманам, у закладзе ў якога нашыя жыцці, што бегае той пляшывы па дэманавай тушы і рэжа яе крывым нажом, а адрэзаныя кускі ажываюць, у маленькіх пачварын ператвараюцца ды кусаюць, намагаючыся пажэрці, вялікую тушу. Блытана так гаварыў Алег, вісклівым голасам. І ўсё паказваў у акно, што стаіць той пляшывы каратканогі то за тэлефоннай будкай, то ў дзвярах пад'езда працілеглага дома, то ў альтанцы нібыта хаваецца... Перастаў брат есці, бо баяўся, што падсыпле яго вораг атруту, перастаў мыцца, бо не вада гэта, а пякельная вадкасць. Прымусова яго карміілі; сілком, у шэсць рук, вадзілі ў ванную, абмывалі пад душам. А сесці ў ваду не хацеў, бо той уяўны пляшывы чалавек мог і пад вадой дыхаць, дык зацягне яшчэ на дно і будзе трымаць...

Карацей, сербанулі яны на ўсю закрутку. Хоць не хацелася, а прыйшлося пакласці Алега ў вар'ятню. За пяць наступных гадоў, пакуль не загнала гора бацькоў у магілу, некалькі разоў, у часы прасвятлення, забіралі яны Алега дамоў. Ды кожны раз і месяца з ім не вытрымлівалі...

Кожныя два тыдні закупляў Валерый Віктаравіч валізу ласункаў і фруктаў ды адпраўляўся за горад, дзе за высокай мураванай агароджай дажываў свой век яго брат-блізнюк, яго кроў, яго вобраз і падабенства...

Апошні год было зусім кепска: Алег ужо не ўставаў з ложка і амаль не пазнаваў Валерыя Віктаравіча. Але неяк пасвятлеў тварам, заўсёдныя жахі пакінулі яго гаротны розум, і здавалася, што Бог злітуецца і неўзабаве прыбярэ да сябе гэтую пакутную душу.

Валерый Віктаравіч мужна нёс свой крыж. Ён быў упэўнены, што брат узяў на сябе нейкія цяжкія грахі яго далёкіх, нязнаных продкаў, тым самым дараваўшы яму ясны розум і радаснае светаўспрыманне. Дзеля гэтага спакутаванага бледна-сіняга твару, дзеля гэтай згарбелай спіны і высахлых братавых ног не можа, ні ў якім разе не можа наракаць Адынец на свае жыццёвыя нягоды і злыбеды, а толькі — шукаць дабро, збіраць яго па крупінках.

## 7

— Назад у паганства! Вось як бы я ахарактарызаваў сённяшні дзень, — гаварыў, узрушана тэпаючы па зале, Леанід Нілыч.

Яго суразмоўнік, наадварот, патанаў у выгодным крэсле і быў як быццам зусім спакойны. Левая яго рука расслаблена ляжала на мяккім падлакотніку, а правая трымала фігурысты фужэр з чырвоным віном, якое Адынец пакрысе і пацягваў.

— Што ты маеш на ўвазе? — прыжмурыўся ён, пазіраючы на каржакаватага барадача Нілыча.

— А тое, браце, што адбываецца вакол нас за апошняе дзесяцігоддзе, — раздражнёна махнуў Нілыч рукою. — Гэта ж кашмар несусветны! Маральныя каштоўнасці хрысціянства знішчаюцца на нашых вачах, а мы толькі ў ладкі пляскаем: ай дэмакраты, ай маладзцы!

— Старая песня, — з нудою ў голасе зморшчыўся Адынец. — І не надакучыла табе з пустога ў парожняе пералімваць…

— Не, не надакучыла. І не надакучыць, пакуль будуць на экранах выпендрывацца тупагаловыя выскачкі, пакуль будуць яны…

— А ты не глядзі! — перабіў яго Валерый Адынец.

— Як «не глядзі»?

— А не ўключай тэлевізар, і годзе.

— Я яго, лічы, і так не ўключаю. Патрэбны ён мне як мёртваму прыпаркі! — гарачыўся Леанід Пугач. — Моладзь шкада. Што ж з яе вырасце на гэтых пошлых ток-шоу, баевіках, парнусе? На гэтым мярзоцці, што выліваецца на кволыя галовы нашых сыноў, дачок, унукаў…

— Це, це, це, це, — пагардліва адмахнуўся ад яго суразмоўнік. — Чу-улі, Леанід Нілыч, усё гэта мы тысячу разоў чу-улі.

— Аднаго не зразумею, навошта было развівацца ад малпы да чалавека, стагоддзямі душыць у сабе паганскія звычкі, каб на парозе трэцяга тысячагоддзя ад нараджэння свайго Збавіцеля ўсё адрынуць, распранущца дагала і зноў, як у добрыя старыя часы, скакаць вакол вогнішча?

Адынец ніяк не хацеў падхапіць гэтую тэму і ад таго яшчэ больш распаляў Леаніда Нілыча.

— Ты ж паглядзі, Валер, што наўкол вытвараецца. Я ніколькі не перабольшу, калі кажу, што мы да паганства вяртаемся. Людзі, мабыць, толькі таму пабудавалі цывілізацыю, стварылі шэдэўры мастацтва, што год за годам, на працягу тысячагоддзяў выціскалі з сябе жывёльны пачатак. І першы да гэтага крок — вопратка. Не прыкрываючы голае цела, нам немагчыма прыглушыць юр, а не прыглушыўшы яго, не можам мы мысліць, бо юр ачмурае... Нездарма ж раней ажно ўлетку людзі ў пальчатках хадзілі.

— Ага! Тыя, хто жыў за кошт чужой працы. Лайдакі, свалачное панства.

— Не свалачное панства, а шляхетнае панства. Таму і думкі ў іх былі высокія, і на жанчыну яны глядзелі як на боскую таямніцу, і паводзіліся далікатна, што цела сваё хавалі пад вопраткамі. А цяпер?! У школу — на заняткі для спасціжэння мудрасці! — ходзяць у данельга кароткіх спадніцах, у празрыстых майках. А потым бядуе нейкая матуля, што згвалціў яе пятнаццацігадовую дачку аднакласнік. Ды няўцям ёй, бесталковай, што тая дачка два гады распаляла яго маладую жарсць сваім какецтвам, сваімі аголенымі нагамі. І дагулялася!

— Спрытна завярнуў! — тэатральна пляснуў у далоні Адынец. — Поспехі робіш, Нілыч.

— Смейся, смейся, зубаскал. — Пугач падышоў да часопіснага століка, наліў сабе паўфужэра віна і мігам яго пракаўтнуў. — Паглядзім, што ты далей прахіхікаеш. — Ён зноў пусціўся шпацыраваць

па зале. — Дык вось, дабраўшыся да вяршыняў інтэлекту, чалавецтва не знайшло нічога лепшага, як зноўку павярнуць да сваіх каранёў, да язычніцтва. Зноўку ўзнялі на п'едэстал фалас і яму пакланяюцца. І вяршэнствуюць душамі ўжо не літаратары і асветнікі, як было сто гадоў назад, а галапупыя эстрадныя зоркі, плячыстыя героі баевікоў, секс-бомбы эратычных трылераў…

— Дзякуючы тваёй жа цывілізацыі.

— Не зразумеў… — здзівіўся Леанід Нілыч.

— А ты падумай. — Валерый Адынец з'едліва ўсміхнуўся. — Памазгуй, брат славуты мастак, пакумекай. І, можа, дапнеш нарэшце, што якраз дзякуючы тэлевізарам, магнітафонам, Інтэрнетам і верхаводзяць народнымі масамі ўжо не мысляры, не навукоўцы, а эстрадныя выскачкі. Ці не так?

— Яно так… канешне… Але ж не для таго прыдумляліся электронныя сродкі зносінаў, каб народ разбэшчваць. Упэўнены, дзеля дабра вучоныя шчыравалі…

— Це, це, це... — Адынец, лянотна пазяхаючы, з выглядам інтэлектуальнай перавагі глядзеў на прыяцеля.

— Я ж памятаю, колькі радасці было, калі я тэлевізарам абзавёўся. Гэта быў рывок у прастору, духоўны ўздым, увесь пад'езд да мяне збягаўся. А каляровы тэлевізар! О, як я радаваўся, калі ўбачыў бліскучыя чырвоныя шлемы зборнай СССР па хакеі: чырвоная форма на белым лёдзе! Ды я, нібы хлапец, ад шчасця трымцеў. А цяпер гэты тэлевізар, гэтае акно ў свет, ворагам робіцца найлюцейшым!

— Заеўся ты, значыць. Трэба, відаць, цябе зноў на сталінскае радыё пасадзіць ды павадзіць на дэманстрацыі. Тады б ацаніў ты гэтага «найлюцейшага» ворага.

— Не, Валер, не куплюся я цяпер на яго. Таму што ведаю д'ябальскую сутнасць гэтай гаваркой скрыні. Нячысты яе апанаваў, апаганіў, як ён апаганьвае ўсё на свеце: царкву, каханне, літаратуру. А тэлевізар для яго, д'ябла, самая ласая пазіцыя, бо ўадначас ахоплівае сотні мільёнаў душаў. І прапагандуе ён па ўсіх каналах наступнае: панаванне дужага над слабым, уладу грошай, гвалт і цынічны секс.

— І не надакучыла табе штампамі гаварыць? — У знак пратэсту Адынец ажно прыкрыў рукой вочы. — Ты ж не лектар па чысціні нораваў.

— А за гэта, за чысціню нораваў, з якой ты насміхаешся, варта жыццё аддаць! — Нілыч ізноў плюхнуў сабе віна. — Бо без той чысціні няма мастацтва, а без мастацтва нам з табой — гамон. Затопча нас асатанелы натоўп.

— Ну, ты ўсё сказаў?

— Не, не ўсё! Не ўсё, братка. Мы дагуляліся да таго, што ніводная кніга, ніводны фільм не будуць прададзены, пакуль у іх няма вышэй пералічаных «каштоўнасцей»: мора грошай, гвалту і голага цела. Гэта, што называецца, фінал! Прыплылі, спадарове… — Нілыч перавёў дух. — Цяпер адкрыта, у час, калі і немаўляты спаць не кладуцца, па любым канале можна ўбачыць, як нейкія багацеі «культурна» адпачываюць у лазні з адборнымі дзеўкамі. Яны, так бы мовіць, увасабляюць ідэал адпачынку: камфортная цеплыня, смачная ежа, курыва, выпіўка, а галоўнае — бабскія целы на любы густ, што сноўдаюцца перад іх блудлівымі вачыма. І яны, багацеі, выбіраюць гэтыя грудзі і зады, як персікі і ананасы з талерак, што стаяць у іх тут жа. Бо за целы, як

і за фрукты, заплачана. І заўваж, заплачана тымі ж паскуднымі грашыма, на якія гэтыя багатыры вучаць у Англіях і Швейцарыях сваіх сыночкаў і дочачак, на якія апранаюць сваіх раскормленых жонак і выпраўляюць іх у розныя круізы.

— Ну-ну.

— Дзе тут мараль, я пытаюся? Нямашака.— Нілыч карцінна развёў рукамі. — Але ім на яе напляваць. Ім напляваць і на элементарную гігіену: нават жывёлы не спаруюцца там, дзе ядуць ці адпачываюць. А ім, нашым «новым беларусам», усё адразу падай! Ну, ладна, — на табе, задушыся! А далей што? Што далей, калі ты ўсё атрымаў, усё купіў за свае грошы? Да чаго ж заўтра імкнуцца? А да таго, адкажуць мне яны: сёння крэветкі нашанскія, а заўтра — японскія; сёння піва нямецкае, а заўтра — бельгійскае; сёння пышнацелая Машка, а заўтра хударлявую Светку хачу! І так да бясконцасці, а праўдзівей — да скону, пакуль іхняя плоць здатная прымаць дарункі жыцця.

— Ды ты, брат, філосаф.

Тут зазваніў тэлефон. Леанід Нілыч схамянуўся і ўвішна дастаў з кішэні штаноў мабільнік.

— Слухаю... А, Макарыч! І ты будзь здаровы. — Ён грузна апусціўся ў крэсла, што стаяла з другога, насупроць Адынца, краю часопіснага століка. — Ну зробім, Макарыч, я ж ужо казаў. Падыходзь заўтра гэтак... гадзінак у адзінаццаць... Добра... Добра. Толькі патэлефануй папярэдне. Згода. — Нілыч вярнуў у кішэню мабільнік і неяк няўважліва паглядзеў на прыяцеля.

— Дык вось слухай мяне, — сказаў яму той роўным, упэўненым голасам. — Усё, што ты тут прамаўляў, я называю, прабач, прыгожымі соплямі.

Пугач саўгануўся на крэсле і ўжо хацеў абурыцца, але Адынец папераджальна ўзняў руку дагары.

— Чакай! Ты тут памудраваў досыць. То дай і мне сказаць пару слоў. — Ён скрыжаваў на грудзях рукі. — Я сцвярджаю, што літаральна за дзесяць хвілін магу тваю тэорыю разнесці ўшчэнт.

— Паспрабуй! — задзірыста буркнуў Леанід Нілыч.

— Але спачатку адкажы мне на адно пытанне.

— Валяй.

— Навошта ты тут разводзіў маралізатарства ды прапаведаваў чысціню нораваў, калі сам жывеш з жанчынай у незарэгістраваным шлюбе? Толькі не крыўдуй.

— Ну ты даеш! — ажно засмяяўся мастак. — Хто ж вінаваты, што прырода зрабіла мяне мужыком, а яе жанчынай! Тут, браце, святы інстынкт падаўжэння роду.

— Ну, спадзяюся, ты не будзеш казаць, што вы сустракаецеся дзеля працвітання чалавечага роду?

— Не... ну... гэта ж іншае...

— Не, шаноўны, гэта якраз тое самае, пра што казаў вялікі Свіфт яшчэ трыста гадоў таму. А іменна: што дзеці не абавязаны дзякаваць бацькам за сваё жыццё таму, што бацькі ў момант зачацця думалі не пра іх, а кіраваліся адно сваімі страсцямі. У цябе ж ёсць дарослы сын, у яе, Марыны, дванаццацігадовая дачка, і значыць — свае абавязкі перад прыродай вы ўжо выканалі...

— Вярзеш нейкія глупствы, — бянтэжліва прамовіў Нілыч і ўзяў за рыльца бутэльку, мерачыся папоўніць фужэры. — Ну, апрача таго

што ёсць здаровы інстынкт, існуюць яшчэ і цеплыня, духоўная блізкасць паміж…

— Духоўная, кажаш? — саркастычна ўхмыльнуўся Адынец.

— Ды што ты да мяне прычапіўся! — з крыўдай, але без злосці ў голасе ўсклікнуў Пугач.

— Ну ладна, ладна, даруй! — Валерый Віктаравіч пацягнуўся цераз стол і паляпаў суразмоўніка па руцэ. — Больш не буду. — Ён зрабіў паўзу, пракашляўся і загаварыў сур'ёзна: — Усё гэта я, брат, распачаў з мэтай паказаць, што бязгрэшных людзей не бывае; што «не судзі, ды не будзеш асуджаны» — гэта несмяротныя словы. І калі ты крытыкуеш сучасную рэчаіснасць за падзенне нораваў, то падумай, ці нашмат былі вышэйшыя тыя норавы гадоў дваццаць, трыццаць таму.

— Вышэйшыя адназначна.

— Добра. Так і запішам. А вось цяпер слухай. — Валерый Віктаравіч ізноў скрыжаваў рукі і прыўзняў падбародак. — Я сцвярджаю, што чалавек па сваёй прыродзе заўсёды быў нізкай, блудлівай, хлуслівай і зайздросլівай істотаю. І прынцып, якім ён адвеку кіруецца, ёсць дасягненне ўласнае асалоды. Усё пытанне ў тым, ці дазволіць грамадства яму гэтую асалоду атрымаць. Бо кожная з асобін грамадства таксама імкнецца да асабістай асалоды. Адсюль і натуральны адбор. Адсюль і перавага дужага над слабым і багатага над бедным, адсюль і выбіраем мы пародзістых жанчын, а не розных там вырадкаў. А жанчыны, акрамя фізічнай пароды, яшчэ глядзяць і на нашы жыццяздольнасць, уменне зарабляць грошы, а значыць, утрымліваць будучую сям'ю. Ужо ў гэтым ты мне павер!

— Веру! Аднак не згодны з тым, што выключна натуральны адбор кіруе чалавечай супольнасцю…

— Вось! Слушна, — зноў узяў вяршэнства Адынец. — І менавіта таму, што існуюць яшчэ іншыя, духоўныя, каштоўнасці, мы і называемся людзьмі, а не быдлам. Але! — Ён узвысіў голас. — На пэўных этапах свайго развіцця чалавечая супольнасць можа кіравацца выключна жывёльным аспектам. Тлумачу: пасля развалу Савецкага Саюза зруйнаваліся не толькі духоўныя ідэалы, але і ежы, элементарнага хлеба, можна сказаць, не стала. І што было рабіць: шукаць іншыя ідэалы і паміраць з голаду? Тут ужо не да парасят, калі свінню смаляць! Галоднаму не да кніжак, не да тэатраў, не да высокай духоўнасці. Трэба было целы свае тленныя ратаваць. І кінулася грамада здабываць тую банальную спажыву — па-іншаму і быць не магло.

— Ну, а цяпер? Цяпер жа часы разрухі мінуліся, — свідраваў Леанід Нілыч позіркам суразмоўніка. — Пара, так бы мовіць, зноў людзьмі станавіцца.

— І станем! Не спяшай, станем! Ты ж зразумей, што семдзесят гадоў камуністы мучылі нашы блудлівыя, прагныя да асалоды целы, нашы вольналюбівыя душы прыгняталі яны сваім цемрашальствам. А тут — гоп! — і адкрыліся нам свабоды заходнія небывалыя: музыка не ўрачыстая, а забаўляльная; адзенні не саўдэпаўскія нехлямяжыя, а зграбныя целалюбівыя вопраткі; жаніцьба не па штампе ў пашпарце, а грамадзянскім шлюбам — маўляў, жыві, пакуль кахаецца, а разлюбіў, то хоць і каленам пад зад. Пацярпі, Нілыч, — куражыўся Адынец. — Дай жа наесціся! Мучылі нас ідэалогіямі, кармілі нас замест сексу і ежы абяцаннямі пра светлую будучыню, дык ужо не крыўдуй-

це, што мы цяпер наталяемся. А насыціўшыся, гэтак гадоў праз дваццаць, мы і пра культуру падумаем, пра літаратуру і мастацтва ўспомнім. Карацей, станем такімі ж паважнымі і добрапрыстойнымі, як амерыканцы, французы і немцы.

— Хрэн калі мы станем такімі! — фыркнуў мастак.

— А я гавару — станем. І ўжо становімся, ужо наядаемся мы гэтымі баевікамі, эротыкай, жахамі. І неўзабаве захочацца нам душэўнага, лагоднага, сентыментальнага. Ужо — а я сачу за гэтым, Нілыч — з'яўляюцца маладыя эстрадныя спевакі і спявачкі, што нясуць у масы прыстойнае слова і высокую музыку. І кіно наша, перахварэўшы на хамства і пошласць, пакрысе паварочваецца да традыцый савецкага кінематографа.

— Не ведаю. — Леанід Пугач устаў з крэсла. — На мой погляд, дык сучасная эстрада нічым не адрозніваецца ад сакавіцкага кацінага ляманту, калі самцы раз'юшана клічуць самак. «Прыйдзі, бо я цябе хачу!» — вось асноўны матыў гэтых шматтысячных песень. Або: «Ты кінуў мяне, і таму мне дрэнна!» І пад гэты прымітывізм вар'яцеюць тысячы на стадыёнах, і пускаюць соплі мільёны тэлегледачоў. Жах!

— А я сцвярджаю, што і такія прымітыўныя песні надзвычай неабходныя грамадству. Таму што яны найбольш расслабляюць маладзёнаў, даюць выйсце іхняй прыроднай агрэсіі. І, наскакаўшыся пад гэтую бязглуздую музыку, юнак прыйдзе дамоў улагоджаным і будзе добрым сынам, братам, дбайным вучнем.

— Ды ну?

— А ты ведаеш, што менавіта з прычыны недахопу забаўляльных відовішчаў за савецкім часам квітнеў тэрарызм настаўнікаў над вучнямі, бацькоў над сынамі, мужоў над жонкамі? Што ў кожным класе быў свой падпольны пахан, шэрая скацінка і «апушчаныя» — самыя безабаронныя, фізічна кволыя вучні. Пра ПТВ я і казаць не буду! А гэтыя бойкі раён на раён, вуліца на вуліцу паміж падлеткамі? Ды тады можна было быць збітым проста за тое, што ты з чужога раёна, нетутэйшы. А адбіранне грошай старшакласнікамі ў малодшых вучняў! І ўсё гэта рабілася пад вонкавай абалонкай добрапрыстойнасці, паміж камсамольскімі сходамі і піянерскімі лінейкамі. А чаму? Таму што душыла гэтая ідэалогія агрэсіўную чалавечую прыроду, штучна заганяла яе ўглыб, не давала натуральнага выйсця. На Захадзе — гэта спорт, разнастайныя шоу, дыскатэкі, канцэрты, каханне без забабонаў, для інтэлектуалаў — магчымасць праявіць сябе ў навуцы, літаратуры, мастацтве, магчымасць заняць у грамадстве месца, адпаведнае свайму таленту і працавітасці. А пры Саветах?! Усе гэтыя народныя дзеячы мастацтваў, пра якіх народ і блізка не чуў! Гэх, не спяшай асуджаць, Нілыч, не грашы перад Богам. Не прыніжай наш няшчасны народ...

— Ды я сам гэты народ, — з прыкрасцю сцепануў плячом мастак, — і сам жа прыніжаны. — Ён падышоў да акна, сашчапіў за спінай рукі і ўтаропіўся долу — на двор.

## 8

Там, унізе, на абкружаным дамамі двары, было зусім цёмна. Дзень дагараў. Але на вуліцы, кавалак якой віднеўся ў прасвеце паміж двума будынкамі, было значна святлей, а на антэне адной дзевяціпавярхоўкі нават паблісквала апошняе сонечнае праменне.

Падворак перад Пугачовым домам быў прамакутны, утульны, на яго выходзілі пад'езды ўсіх чатырох пасляваенных будынін. Вясной і ўлетку тут было шумнавата, хаця народ пражываў збольшага прыстойны — мастакі, акадэмікі, прафесары, не абы-якія пісьменнікі, драматургі. Праўда, за апошнія два гады падсялілася колькі бізнесоўцаў. Але бізнесоўцы не шараговыя, не шушамець капеечная, і паводзяць сябе ціхамірна. Зачаста толькі іхнія аўтамабілі лямантуюць процівыкрадальнымі сірэнамі, калі дзятва мячом у іх трапіць ці закране, гарэзуючы. Зрэшты, для мячоў ёсць непадалёку, за супрацьлеглым домам, стадыён. Бацькі тут усё людзі творчыя, сур'ёзныя, не церпяць шуму, і таму іх дзеці гуляюць пераважна на спортпляцоўках.

І яшчэ цэнны іх двор тым, што не забрыдаюць сюды п'яныя гаманлівыя кампаніі, ніхто не буяніць, не галосіць пасярод ночы. Было пару выпадкаў, дык хутка міліцыя прыязджала і карала хуліганаў на ўсю закрутку. Двор на адмысловым уліку ў органаў правапарадку.

На лавачках ля пад'ездаў ці ў альтанках пад дрэвамі сядзяць тут людзі выключна паважныя, добранадзейныя, цікавыя суразмоўнікі. Тут ніхто не б'е бутэлек, не вылівае на двор памыяў, не вытрасае з балконаў дываны і ўжо тым болей не мочыцца ў кустах і пад'ездах.

Цяпер, з прычыны студзеньскай халадэчы, людзей унізе амаль не было. Сіратліва выглядалі голыя бярозы і таполі. На снезе тыднёвай даўнасці не заўважна чалавечых слядоў, тут ніхто не ходзіць па цаліку, а толькі — па ачышчаных сцяжынах-дарожках. Стаіць некалькі машын, з адной выйшаў мужчына ў кажусе і хутка знік у пад'ездзе.

Леаніду Нілычу стала сумна — ці то ад выгляду бязлюднага змрачнаватага двара, ці то ад тэмы, узнятай у размове з сябрам. Заўсёды ж умее заесці гэты Адынец за балючае. Рамантык рамантыкам, а калі трэба, і цынізму, стары чорт, не пашкадуе. І ўсё ў яго ладна так, абгрунтавана выходзіць. Аргументамі, як гарохам, сыпле. І бачыць жа сам, што гіне культура, быдлее народ, а не — будзе даказваць адваротнае. Прымі зараз Пугач яго пазіцыю, пачні горача яе адстойваць, Адынец і гэта абвергне. Во ж дзе саплівая філасофія: не кляніся, не заракайся, не асуджай, — быццам баіцца ён заняць пэўную пазіцыю. Леанід Нілыч так не прывык.

У гэты момант у пярэдняй ляпнулі дзверы, пачуўся шоргат і нехта затупаў па калідоры ў напрамку залы.

Мастак абярнуўся, пытальна зірнуў на Адынца, які, хоць і глядзеў у пройму, працягваў пацягваць з фужэра віно...

У пакой, у зімовым паліто, але без шапкі і чаравікаў, уваліўся мастакоў сын — Сяргей Пугач — і, не вітаючыся ні з бацькам, ні з госцем, пакіраваў да буфета.

— Прывітанне, нашчадак! — здзіўлена аслупянеў Леанід Нілыч. — Што за пажар?

Сын буркнуў няўцямнае «дабрыдзень», адчыніў дзверцы буфета, выбраў бутэльку піва і спрытна яе адкаркаваў.

Быў ён у паганым настроі. Пасля памятнай размовы з Людкай Дробаш за столікам тэатральнай кавярні, дзе ён нічога не еў, Сяргей яшчэ добрыя тры гадзіны гойсаў па горадзе па нейкіх справах. Ён намёрзся, здарожыўся, але не вырашыў таго, што хацеў, і таму быў галодны, злосны і схільны да сварак.

— Ты б хоць з госцем павітаўся дзеля прыліку, — папікнуў беспардоннага сына бацька.

— Даўно бачыліся, — прабурчаў той пад нос, заядаючы цёплае піва салёнымі арэшкамі.

— Гэта сучасныя норавы, — пракаменціраваў Сяргееву непачцівасць Адынец.

Хлопец нічога не адказаў, а са смакам прыклаўся да бутэлькавага рыльца. Піва хутка саграваў нутро. Дасмактаўшы яго, Сяргей, зноў жа моўчкі, прайшоў каля прысутных да выхаду, прамінуў доўгі калідор і знік на кухні.

— Вось яна, свінтухатая наша змена! — сказаў агарошаны Леанід Нілыч. — Людзі, так сказаць, новай фармацыі. — Ён з'едліва зірнуў на Валерыя Віктаравіча. — Гадаванцы твайго ўлюбёнага капіталізму.

Мастак сеў у крэсла.

— Ды не, Нілыч, гэта якраз *нашы* з табой, сацыялістычныя, гадаванцы. І прычына іхняй распаразанасці няправільнае выхаванне. А іменна душэнне ўсялякай ініцыятывы і вальнадумства, прымус хадзіць па лінейцы і гаварыць лозунгамі. А адсюль — непазбыўны інфантылізм у спалучэнні з ваяўнічым цынізмам і бездухоўнасцю.

— Ды кінь ты, Віктаравіч! — зморшчыўся Пугач-старэйшы. — Хто яго да чаго прымушаў! Ды я ж, — ён панізіў голас, — пасля Ірынай смерці парушынкі з яго здзьмухваў. Ніводнага разу рэменем не прайшоўся. А было за што!

— І дрэнна. Мяне бацька лупцаваў да чатырнаццаці гадоў. Таму я паважаў не толькі яго, а і ўсіх навокал. Бо чалавек адно страх разумее. Не былі б мы дужэйшыя за сваіх дзяцей, пакуль яны яшчэ пад стол ходзяць, то, мусібыць, зямля даўно ў апраметную правалілася б. Тут жа важнейшае не гэта, а тое, што раб (а за савецкім часам ці не ўсе рабамі былі), як толькі ўчуе слабіну, гатовы свайго пана ў багну ўвагнаць ды яшчэ памачыцца на яго голаў. Лепей, вядома ж, без бізуна абыходзіцца. Але раз узняў яго, то не апускай ніколі!

— Ат, тут не тое! — скубануў бараду Нілыч. — Не ладзіцца ў яго ў тэатры, вось ён і псіхуе. Накухталяюць там у каршэнь, дык, значыць увесь свет вінаваты! — гаварыў ён узрушаным шэптам. — Пара ж, здаецца, уразумець трыццацігадоваму чалавеку, што на халяву нішто не даецца, што за кожны свой поспех крывёй і потам чалавек плаціць… Да таго ж і работа ў артыстаў не прывядзі Божа. З тысячы мо адзін і праб'ецца, ды не заўсёды самы таленавіты. Там, лічы, кожны асуджаны шэрай скацінкай быць, гэткім падносчыкам снарадаў абраннікам лёсу. Простая тэорыя верагоднасці…

— То гэтак жа паўсюль, куды ні ткніся, — усміхнуўся Адынец.

— Не зусім так, Валера. У артыстаў гэта асабліва востра, бо ім не выпадае разлічваць, што праз дзесяцігоддзі нехта прачытае і выдасць іх геніяльныя рукапісы, што збярэ раскіданыя па ўсім свеце і раней непрызнаныя карціны, што нехта будзе захапляцца іхнімі санатамі і операмі, — як цешаць сябе некаторыя апальныя пісьменнікі, мастакі, кампазітары. Не, браце! Тут рэалізуйся, пакуль дыхаеш. Ды бяда ў тым, што іграць і спяваць ты можаш толькі ў кіно ці на сцэне. А дзе ж на ўсіх сцэнаў набрацца? Вось і ідзе закулісная валтузня за месца пад сонцам. І каб прабіцца на гэтае панаднае месца, трэба з дзесяткамі людзей паладзіць. Дастаткова, каб адзін-адзінюткі з іх цябе знелюбіў,

і будзеш усё жыццё ў масоўках марнець або сап'ешся ад безвыходнасці. Артысты народ ранімы, тэмпераментны. Яны сапраўды без сцэны не пражывуць.

— Дык ты хочаш сказаць, што сапраўдны талент не адужае жыццёвых абставінаў?

— А хто яго ведае, хто там сапраўдны, а хто побач стаяў. У нейкім класічным, не помню якім, літаратурным творы спытаўся герой у Бога, хто самы таленавіты палкаводзец за ўсю гісторыю чалавецтва, і Бог паказаў на старога шаўца, што ўсё жыццё гарбеў у душнай майстэрні, не ведаючы свайго прызвання.

— А па-мойму, дык толькі гвалтоўная смерць здольная прыпыніць генія на яго шляху. І цяжка мне ўявіць, што не былі б акцёрамі, напрыклад, Папанаў з Міронавым. Таму што такія постаці — катэгорыя містычная, за іх пуцявіны сам Бог дбае. І падкажа ім заўсёды анёл-ахоўнік, што рабіць, куды звяртацца і як паводзіцца, каб на сцэну прабіцца. А калі не прабіўся, не спраўдзіўся як артыст, значыць, такая твая доля, значыць, малакаштоўны твой лёс для Усявышняга, мала ён у цябе ўклаў, каб перажываць за цябе.

Яны крыху памаўчалі.

— Ты паглядзі, якія раней былі фільмы! — працягваў Адынец. — Праз адзін — шэдэўр, дый годзе. А ўсё чаму? Таму што не рабілі іх цяп-ляп, абы грошай нарэзаць, а працавалі грунтоўна, з любасцю. Дый артысты ого якія былі, рэжысёры… Вунь разанаўская «Іронія лёсу» дваццаць пяць гадоў усе рэйтынгі б'е. Там жа кожная фраза, песня, жэст — у гармоніі. Там душу народа рэжысёр паказаў. Прычым нягледзячы на фантастычнасць сюжэта, мне і дагэтуль падаецца, што напраўду жывуць на той вуліцы Будаўнікоў Жэня з Надзяй, — настолькі яны праўдзівыя.

— Ды лухта гэта ўсё! — раздаўся знячэўку рэзкі голас. — Прыгожая казка для п'яных ёлупаў ці захопленых істэрычак. — У дзвярах стаяў Сяргей, твар яго меў раздражнёны, агрэсіўны выраз.

У адной руцэ ён трымаў ладны кавалак вэнджанай каўбасы, у другой лусту чорнага хлеба і надкушаны салёны гурок.

— Балазе цяпер не казкі здымаюць, — пагардліва скасавурыўся на Сяргея Валерый Віктаравіч, — людзей на кавалкі сякуць, а мяса з крывёю — дзецям у вочы, каб спакайней засыналі. Гэта, па-твойму, правільна?

— Правільна. Бо праўдзіва. Няхай прывыкаюць гэтыя дзеткі да сучаснага жыцця, асноўны прынцып якога — чалавек чалавеку воўк. Хоць будуць знаць, як бараніць сваю шкуру. — Сяргей гаварыў нядобрым, зайздрыстым тонам.

— Так, ты сюды для чаго прыйшоў — палаяцца? — папікнуў яго бацька. — То ідзі на базар, да бабак сварлівых. А ў нас тут інтэлігентная размова…

— Бязглуздая ў вас размова, — з набітым каўбасой ротам грубіяніў Сяргей, — сю-сю-му-сю, саладжавы кісель. Я гэтага за жыццё да млосці наслухаўся. І вашых кніжак казачных начытаўся, і вашых хлуслівых фільмаў нагледзеўся! Гэтыя Карлсаны, добрыя кракадзілы Гены ды каты Леапольды, байкі пра спагадлівых следчых, што чытаюць маралі зладзеям, і зладзеі робяцца добрымі. Ха-ха-ха! — закаціўся ён здзеклівым рогатам. — І самае подлае, што я ў гэта, на сваю бяду, калісь паверыў. Ды толькі гэта не жыццё, — узвысіў голас прамоўца і

злосна ўтаропіўся на бацьку, — гэта мана, фантазія. І за тую фантазію я дорага заплаціў, сутыкнуўшыся нарэшце з рэальным жыццём, якое гэтак жа падобнае на фільмы і школьныя падручнікі, як гара на камень.

— Слухай, ішоў бы ты жраць на кухню, — гаркнуў на сына бацька. — Хочаш мітынгаваць, шыбуй да Дома ўрада і там свае прэтэнзіі выкладзі.

— Ды навошта, Лёнь, дай выказацца маладому пакаленню, — паблажліва сказаў Адынец. — Мне дык нават цікава, чым яны дыхаюць.

— Вам цікава! — усклікнуў Сяргей. — Вам цікава глядзець, як мы мучымся! Што ж, глядзіце, цешцеся, што за жыццё вы нам збудавалі. І фільмы вашыя — дрэнь, з іх наіўнасці нават дзеці смяюцца, і кнігі вашы — лухта, з іх чорна-белымі героямі, з іх агорклым маралізатарствам і бязглуздым павучаннем, як жыць. Што, навучылі? Хрэн вы чаму нас навучылі!

— Во ідыёт, — азірнуўся Нілыч на сябра.

— Не, ён жа праўду кажа.

— Навучылі вы нас таму, — Сяргей у запале так сціснуў рэшткі гурка, што пырснуў сок, — што мы ўжо нічому не хочам вучыцца. Абрыдла! Я хачу проста жыць, і хай мне ніхто не перашкаджае.

— Ды «проста жыць» не атрымаецца, Сярожка, — спакойна заўважыў Валерый Віктаравіч, — іначай вэрхал будзе, іначай адно аднаго на шматкі парэжаце ў змаганні за сваё «я». Жыццё — гэта, брат, найскладанейшая сістэма.

— А я не жадаю ніякай сістэмы! Дасістэматызаваліся, хопіць! Я хачу, каб ніхто мне не чмуціў галаву, ніхто не ціснуў на псіхіку, не лез з павучаннямі. Я хачу вольнага самавыяўлення, творчай прасторы! І начхаць мне на ўсё астатняе.

— Во куды загнуў! — узяў бацька слова. — А калі табе на ўсё начхаць, то навошта ж ты на сцэну рвешся? Выйшаў бы на вуліцу з шапкай ды скамарошнічаў. Навошта ты да мяне прыстаеш, каб я табе прабіваў кінапробы? Табе ж на ўсіх наплюваць!

Сяргей са злосцю свідраваў бацьку вачыма.

— Так што ты, дружа, на грамаду не плюй! — працягваў Леанід Нілыч. — А то не ўтрэшся, калі яна плюне. І законы чалавечыя не ганьбі, бо без іх ты ніхто — базарны крыўляка, скамарох, пудзіла. Ды такіх, як ты, тысячы…

Адынцу на міг падалося, што сын кінецца на бацьку, каб ударыць па твары. Але той з бледным, нібы амярцвелым тварам, заікаючыся, прамовіў:

— Не, бацька, гэта такіх, як ты, — тысячы. Гэта на цябе забудуцца хутка пасля тваёй смерці, бо ўсе твае выставы, кліенты — толькі даніна модзе. І аўтарытэтны ты толькі таму, што займаеш пэўныя пасады ў грамадстве, выкладаеш у акадэміі. Ты патрэбны людзям, можаш вырашаць іхнія лёсы, вось табой і захапляюцца. А творчасць твая ламанага шэлега не вартая…

— Адкуль такая ўпэўненасць, малады чалавек?.. — запярэчыў быў Адынец, аднак Нілыч яго перапыніў:

— Чакай, Валера. Ва ўсялякім разе, я цяпер ведаю прычыну непрыязнасці да мяне роднага сына. Ён мне зайздросціць, — з горыччу вымавіў мастак. — Зайздросціць маёй вядомасці, выстаўкам, павазе людзей. Але праўда яго, я не Мікеланджэла, не Леанарда, і талент мой сціплы. Ды зразумей, сынку, у чым асноўная мая над табой перавага:

я ведаю, на што здольны, і дзякую Богу за тое, што ён мне прызначыў. У мяне няма тваіх невымерных амбіцый, я не лезу на недасяжныя вышыні, а калі зрываюся з нейкіх прыступак, то не вінавачу ў гэтым усё чалавецтва. І табе раю, пакуль не позна, так рабіць. Супакойся, агледзься, ацані нарэшце свае магчымасці…

— Што ты гэтым хочаш сказаць? — зіхатнуў вачыма Сяргей.

— А тое, што, можа, і ты не Міронаў?

На некалькі секунд утварылася няёмкае маўчанне.

— Апусціўшы планку, лягчэй жыць, сынок. Ты ўжо павер мне, мацёраму дзядзьку. — Ніліч падышоў да сына і хацеў пакласці руку на яго плячо, але той адхіліўся.

— Дык навошта тады жыць? — ці то спытаўся, ці то сцвердзіў Сяргей. — І пакуль я жыву, — сказаў ён пасля невялікай замінкі, — то, прабач, буду ставіць сабе планкі самыя высокія ды іх пераскокваць.

— Глядзі, не разбіся, — сур'ёзна сказаў бацька.

— А разаб'юся, то туды мне і дарога, — нявесела ўсміхнуўся сын. — Адным дурнем менш будзе. — Ён павярнуўся і выйшаў з залы.

— Твая справа… — задумліва прамармытаў услед яму Ніліч і ўжо зусім пад нос прабурчаў: — А мой галаўны боль.

## 9

Дзень у Анатоля Гаруна, маркёра більярднай залы рэстарана «Ветразь», выдаўся нялёгкі. А праўдзівей, такога кепскага дня не было за ўсе чатыры гады Анатолевай службы.

Ужо трэція суткі ў рэстаране гуляў і сваволіў адзін нягоднік.

Прывялі яго з сабой два мясцовыя аўтарытэты — зладзюгі буйнога маштабу, — нешта там яны адзначалі. Як заўсёды, наладзілі страшэнны гармідар, кідаліся грашыма, паілі ўсялякіх дармаедаў і прастытутак. У тры гадзіны ночы целаахоўнікі пагрузілі іх, у поўнай непрытомнасці, на машыны… Але толькі гэтых двух, тутэйшых. Іхні ж таварыш (па чутках — бывалы піцерскі злодзей) у п'янцы ўдзелу не браў, а практычна ўвесь вечар і ноч правёў у більярднай.

Пачынаў ён спачатку сціпла, трымаўся досыць прыстойна і прыемна адрозніваўся ад сваіх сябрукоў, якіх, дарэчы, вельмі цаніў дырэктар рэстарана, бо падчас іхніх загулаў прыбытак вырастаў амаль удвая.

Дык вось, згаданы спадар аказаўся більярдным карыфеем і апусціў некалькіх паважаных заўсёднікаў на буйныя сумы. Як потым выхваляўся — агулам каля тысячы долараў. І па меры таго як разыгрываўся і багацеў гэты госць, ён усё больш смялеў, хамеў, патрабаваў да сябе ўвагі і рабалепства з боку рэстараннай абслугі.

На другі дзень ён заявіўся адразу пасля абеду, заказаў у галоўнай зале тры столікі, куды назбіраў рэстаранных шлюх, дробных жулікаў, наркаманаў, а потым паіў і карміў іх на выйграныя грошы цалюткі вечар. Там біўся посуд, раздаваліся адборныя мацюкі, бабскае хіхіканне і грубы мужыцкі рогат. Піцерац моцных напояў не піў ды амаль што і не сядзеў у гэтым хаўрусе, бо мэтанакіравана «высаджваў» з грошай більярдных аматараў. У залу ён заяўляўся перакусіць, адпачыць і паслухаць дыфірамбы, якія спявала яму падгулялая на яго ж грошы кампанія. Асабліва шчыравала Марынка, танная прастытутка. Прывычная алкагалічка, ачмурэлая ад французскага каньяку, яна злавіла ку-

раж і проста-такі збівала з ног афіцыянтак сваімі бязглуздымі, супярэчлівымі заказамі. Заказы яна рабіла загадным тонам, выкрыквала: «Гэй, ты!», «Ф'ю, як там цябе...» і таму падобнае. А Пашка Смаржок, рэстаранны блазан, падонак, запабягаючы перад піцерскім карыфеем, сваім карміцелем, раз-пораз падлятаў да аркестра і, крыўляючыся, заказваў песні ў яго гонар, выхопліваў у музыкаў мікрафон і называў яго «бацюхнам», «блізкім сябрам» і «мілым, дарагім чалавекам».

Рэстаранная публіка была вельмі незадаволена такімі паводзінамі. І ахоўнікам даўно б пара выкінуць більярдыста і яго хаўрус на вуліцу, ды нельга было гэтую мярзоту кранаць, бо прывялі сюды неспакойнага госця людзі, пад прыкрыццём якіх, у прынцыпе, «Ветразь» існаваў. Усе супрацоўнікі гэта ведалі, а тым больш — дырэктар Ашот Гаспаран, які даў строгае ўказанне ўсяляк залагоджваць піцерца, патураць ягоным капрызам.

А госць не сунімаўся. На другі дзень ён выйграў яшчэ больш і на трэці карміў і паіў удвая большую колькасць народу, удвая больш было шуму, і абстаноўка станавілася нездаровай. Узнікла сварка паміж адной прыстойнай кампаніяй і збродам, што гуляў на більярдыставы грошы. Сварка пагражала перарасці ў тузаніну, якую з цяжкасцю ўдалося папярэдзіць. Ды не зусім: праз дзесяць хвілін у прыбіральні, пры нявысветленых абставінах, нехта расквасіў нос аднаму хлопцу з прыстойнай кампаніі. Хтосьці выклікаў па тэлефоне нарад міліцыі, і Ашоту давялося мець доўгую непрыемную размову з лейтэнантам у сваім кабінеце, даваць грошы.

Але і гэта б яшчэ не бяды, начхаць бы Анатолю Гаруну і на рэстаранных наведвальнікаў, абражаных паводзінамі піцерца і яго хаўрусу, і на Ашотавы грошы, якіх у таго прорва. Уся рэч у тым, што гэты прыхадзень з гадзіну таму моцна абразіў самога Анатоля: прылюдна плюхнуў яму ў твар півам...

Анатоль, будучы чалавекам непрыкметным, тым не менш заўсёды балюча перажываў прыніжэнне сваёй годнасці. Яшчэ ў дзяцінстве, з прычыны разнастайных хвароб, ён адстаў ад сваіх равеснікаў у фізічным развіцці і нязменна цярпеў уціск з іхняга боку. Ажно да шостага класа, дзень пры дні, яго мучыў адзін здаравіла. Пабіўшы некалькі разоў, ён панаваў над Анатолевай воляй і вытанчана, з бязлітаснай вынаходлівасцю малалеткі здзекаваўся з Гаруна. Нават і зараз не можа без трымцення ўспомніць Анатоль, як тэрарызаваў яго той аднакласнік загадамі, хамаватымі падколкамі, абразлівымі мянушкамі. Ды ўсё пры дзяўчатах. Анатоль ведаў, што ў іхніх вачах ён раб, бязвольны пігмей, паганка. Даводзілася хавацца на перапынках па ўсялякіх закутках школы або наогул уцякаць на вуліцу і блукаць па раёне, — настолькі не выносіла яго ранімая душа тых здзекаў. Колькі разоў карцела кінуцца на здаравілу і малаціць, малаціць сціснутымі да болю кулакамі па ненавісным таўсматым твары, ударыць у пах каленам!.. А там — будзь што будзе. Аднак ведаў Анатоль, што з прычыны сваёй баязлівасці не тое што кінуцца на мучыцеля, а нават запярэчыць яму не асмеліцца. О, як ненавідзеў сябе за гэта Толік! Ад затоенай крыўды на сваю фізічную кволасць ён на пераменках, употай, скусваў да крыві рукі, а дома, на адзіноце, заходзіўся істэрычным плачам злоснага карліка і біўся лбом аб сцяну.

У шостым класе Гаруну стала асабліва невыносна цярпець здзекі гэтага вырадка, які год ад года адно здаравеў і ўжо ледзьве не ўдвая

пераўзыходзіў Анатоля вагою. Рос і псіхалагічны комплекс Гаруна перад сваім катам, пры адным гуку голасу якога хлапца разбірала дрыготка. Ён усур'ёз думаў пра тое, каб угаварыць бацькоў перавесці яго ў іншую школу. Але дзе ўпэўненасць, што на новым месцы не знойдзецца чарговы сатрап, што не будуць там гэтак жа зацята цкаваць Анатоля? Чуццё падказвала, што так будзе паўсюдна. Таму што ведаў, ох ведаў хлопец сваю прыроджаную, да поту ў далонях, баязлівасць, няздатнасць пастаяць за сябе. Але жыццёва неабходна было нешта мяняць. І Анатоль знайшоў выйсце.

Ён упарта, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя сродкі, пачаў шукаць сабе сяброў-прыяцеляў з шэрагу дужых, але не такіх агрэсіўных, як ненавісны здаравіла, аднакласнікаў і вучняў старэйшых класаў. У ход пайшлі ліслівасць, подкуп, запабяганне, дапамога на кантрольных; Гарун даваў спісваць хатняе заданне патрэбным людзям, частаваў іх у буфеце ласункамі, а галоўнае — стараўся не адыходзіць ад іх ні на крок. Яго ўжо ляпалі па плячы «крутыя» хлопцы-равеснікі, весела аклікалі і здароўкаліся старшакласнікі, яго пачалі цаніць. І здаравіла, Анатолеў закляты вораг, тут жа адстаў. Такія людзі звярыным нюхам адчуваюць сілу ці слабасць і не соваюцца туды, дзе можна сустрэць адпор або атрымаць па карку. Больш таго, праз паўгода Гарун наладзіў хітрамудрую інтрыгу і, сам застаўшыся ў ценю, нацкаваў на здаравілу двух старшакласнікаў, якія бязлітасна яго адмяцелілі. Пасля таго выпадку закляты вораг і зусім зрабіўся рахманым.

З той пары Анатоль заўсёды ставіў сябе на такія жыццёвыя пазіцыі, дзе меней за ўсё можна падвергнуцца гвалту, фізічнаму і маральнаму здзеку, перад якімі ўсё-ткі непазбыўна комплексаваў. Канешне, было б найлепей увайсці ў інтэлігенцкае асяроддзе, дзе пераважаюць не звярыныя, а чалавечыя ўзаемадачыненні. Але, апрача ўсяго, не выйшаў Гарун і розумам — праваліў ён у свой час дзве спробы паступіць у ВНУ. Тады канчаткова ўцяміў Анатоль, што яго козыры — хітрасць, абачлівасць, уменне ладзіць з уплывовымі і моцнымі людзьмі.

Калі хто думае, што месца рэстараннага служкі, якое займае Анатоль, месца несамавітае, непрэстыжнае і малааплатнае, то гэта памылка. Рэстаран «Ветразь» з'яўляецца адной з самых вядомых, дарагіх і прыстойных устаноў велізарнага горада. Толькі тут ёсць більярдная зала на пяць сталоў, што размешчана асобна, на трэцім паверсе будыніны з вытанчанай архітэктурай. Яна працуе па шаснаццаць гадзін у суткі, бывае — усю ноч, сюды збіраецца самая заможная публіка, і, зразумела, тут круцяцца не самыя малыя грошы. Залу, апроч прыбіральшчыц, абслугоўвае дзевяць чалавек, што працуюць па мудрагелістым графіку. Але ў кожны момант тут знаходзіцца не менш як тры высокакваліфікаваныя маркёры. У іх абавязкі ўваходзіць: сачыць за парадкам і правільным падлікаў ачкоў, папярэджваць канфлікты, падаваць і мазаць крэйдай кіі, расстаўляць шары, выконваць разнастайныя заказы кліентаў і іншае. Адно тут не дазваляецца — прыносіць спіртныя напоі, уключаючы піва. Бо більярд — гульня тонкая, вымагае бездакорнай каардынацыі. Да таго ж стаўкі тут бываюць нежартоўныя, а буйныя грошы здатныя спараджаць буйныя ж канфлікты, у якіх алкаголь добры памочнік. Адным словам, надпіс перад уваходам у залу «Унос спіртнога строга забаронены» святое правіла не толькі для персаналу, што абслугоўвае більярдную, але і для сталых яе навед-

вальнікаў, і для ўсіх добранадзейных грамадзян. Канешне, і раней здараліся недарэчнасці і непаразуменні, аднак іх удавалася ціхамірна гасіць.

Але нядаўна, гадзіну таму, надарыўся выпадак, проста неверагодны па сваім нахабстве і подласці.

У піцерскага більярдыста сёння быў асаблівы шанцунак. Паводле прыблізных падлікаў Гаруна, да дзевяці гадзін вечара ён выйграў ужо тысячы паўтары. Вакол яго сабралася ладная колькасць цікаўных, сярод якіх былі, відаць па ўсім, людзі грашавітыя. Апанаваны прагай «нарэзаць» як мага больш долараў, піцерац амаль не спускаўся ў рэстаранную залу, каб адпачыць. Гадзін у восем Анатоль змеціў у яго руцэ бляшанку піва і хацеў быў зрабіць заўвагу, але не асмеліўся. Да таго ж ён не адказваў за стол, дзе гуляў гэты нахабнік; там упраўляўся Хведзька Кандыбін, які таксама ніякіх заўваг піцерцу не рабіў.

Падагрэты півам і салідным выйграшам, більярдыст быў у гуморы. Ён яўна пазіраваў перад цікаўнымі, што згрупаваліся каля яго стала, гуляў на публіку. Жэсты яго, трэба прызнаць, былі элегантныя, рухі выверaныя, голас зычны, упэўнены, пастава відная. Гэта быў дзяцюк гадоў сарака, чырванаморды, укормлены, крамянага здароўя. Гарун ненавідзеў такі чалавечы тып, бо заўжды пасаваў перад здароўем і дужасцю. А чортаў піцерац, нібы ўчуўшы гэта, пастаянна, ужо на працягу трох дзён, мардаваў беднага Анатоля дробнымі прыдзіркамі, заказамі ды загадамі. То кій яму крывым падасца, то крэйда мокрай, то збегай яму ўніз па цыгарэты, то пакліч каго-небудзь, то нешта камусьці на словах перадай. І менавіта Гаруна падзываў, нібыта больш не было ў зале абслугі! Ды прытым так уладарна, падлюга, абразліва выкрыкваў: «Гэй, чалавек! Ну ты, сутулы!» Ды за ўсю службу тут ніхто так не звяртаўся да Анатоля.

І вось сёння: здаецца ж, заплюшчыў Гарун вочы і на піва яго, і на паводзіны празмерна шумлівыя, дык не прыставай жа ты, абразіна, да чалавека. Аж не! А палове дзевятай усчаў піцерац братацца з адным бізнесоўцам, якога толькі што выставіў на долараў трыста. Суцяшаў, абдымаўся, даваў свае каардынаты, абяцаў памагчы, «калі што», а ў дадатак выклікаў да сябе Анатоля і безапеляцыйна загадаў прынесці два куфлі піва, каб «абмыць новую дружбу». Гэта было ўжо занадта. Гарун узяў афіцыйны тон і далікатна давёў, што гэта немагчыма, таму што ў іх не дазваляецца насіць спіртныя напоі ў більярдную, што, калі спадар жадае, можа спусціцца ўніз і заказаць што заўгодна... Ён не дагаварыў, бо гэты бандзюган страшна змяніўся з твару, адной рукой ухапіў яго загрудкі і, прасіпеўшы: «Раздушу, падла, па сценцы размажу!» — выплюхнуў з бляшанкі, што трымаў у левай руцэ, рэшткі ліпкага піва Гаруну ў твар. Анатоль быў гатовы заплакаць ад крыўды. А піцерац тузануў яго за грудзі і пад смех прысутных загадаў: «Па піва, бягом марш!» — і брыдка вылаяўся.

Ашаломлены Анатоль павярнуўся і падаўся да выхаду. На хаду дастаў насоўку і, як мог, абцёр твар, кашулю і пінжак ад мярзотнай вадкасці. Яму падалося, што разам з півам на яго твар выплюхнулася і сліна гэтага падонка. «Бягом, я сказаў!» — куражыўся той услед.

Гарун як бы падаўся да выхаду, але накіраваўся не ў залу, а ў кабінет Ашота Гаспарана, дырэктара, з рашучым намерам паскардзіцца на піцерскага більярдыста, запатрабаваць, каб таго заклікалі да парадку. Ашота ў кабінеце не было. Анатоль спусціўся на другі паверх і вы-

светліў, што дырэктар ужо з'ехаў у няпэўным накірунку. Распалены несціханай крыўдай, хлопец набраў нумар яго мабільнага тэлефона і пра ўсё расказаў.

Ашот, які ў той момант застольнічаў з прыяцелямі, быў дужа незадаволены званком такой нікчэмнасці, як Гарун. Ён сурова вылаяў бесталковага падначаленага, абазваў «аслiным хвастом» і загадаў імчацца ў більярдную і выконваць усе жаданні дарагога кліента, а інакш заўтра Гаруну не паздаровіцца, і гэтак далей. На заканчэнне паабяцаў, што калі той яшчэ раз адарве яго ад важных спраў сваімі дробязнымі праблемамі, то можа шукаць іншае месца працы.

Зусім замаркочаны хлопец пабрыў у бар, наліў два куфлі піва і, сцяўшы зубы, занёс іх свайму крыўдзіцелю. Усе бачылі яго прыніжэнне.

Пасля гэтага Гарун зачыніўся ў прыбіральні і заплакаў, як школьнік. Было пакутліва шкада сябе, бо жыццё яшчэ раз нагадала Анатолю, што ён чарвяк, якога можа раздушыць кожны багаты дый проста бязлітасны і дужы чалавек. Змываючы пад кранам слёзы і смаркачы, хлопец бедаваў над тым, які ён слабы, адзінокі, нікім, апроч маці, не любімы чалавек. А матуля, для якой ён сапраўды дарагі і любімы, вось ужо паўгода ляжыць у паралюшы, і няма ніякіх спадзяванняў, што акрыяе. А калі пакіне яго мама, якую і цяжка і пакутна яму даглядаць, то ўжо зусім ніводнай блізкай душы не застанецца на зямлі ў трыццацігадовага Анатоля. Адны ворагі, ашуканцы, зласліўцы. Ён нават сям'ёй не змог абзавесціся, таму што не кахаюць яго жанчыны, такога нясмелага, і прымушаны Гарун купляць іхнія ласкі за грошы. А хочацца, жудасна хочацца ўтульнага сямейнага агменю, дзяцей хочацца. Анатоль вельмі любіць дзяцей...

## 10

Аднак праз гадзіну пасля нанесенай Гаруну смяротнай крыўды нечакана з'явілася магчымасць адпомсціць.

Спусціўшыся па справах у вялікую залу, Анатоль згледзеў там аднаго знаёмца. Так, гэта быў ён — Яніс. Акрамя імені, пра яго ў «Ветразі» ведалі хіба тое, што гэта класны більярдыст і вельмі маўклівая, таямнічая асоба.

Яніс з'яўляўся тут зазвычай а дзесятай гадзіне вечара, не больш як два разы на месяц. Ён заказваў у зацішным куце залы столік, куды яму прыносілі лёгкую рыбную закуску і нязменную шклянку гранатавага соку, няспешна вячэраў, на месцы выкурваў адну цыгарэту і паважна паднімаўся ў більярдную. Столік заставаўся за ім. У більярднай ён бавіўся не больш за дзве гадзіны, спускаўся назад, выпіваў фужэр «Бардо», што чакаў яго на стале, выкурваў яшчэ адну цыгарэту, спускаўся ў фае, адкуль ужо не вяртаўся. І так штораз.

Анатоль таму так дасканала ведаў звычкі Яніса, што ў «Ветразі» пра яго хадзілі легенды. Першая адметнасць памянёнага спадара была ў тым, што ён ніколі не прайграваў. Ва ўсялякім разе, ніхто не згадае такога выпадку. Другая адметнасць — гэта тое, што Яніс знікаў гэтак жа нечакана, як і з'яўляўся. У любую пару года ён прыходзіў у нязменнай чорнай тройцы, таму не меў справу з гардэробам і часцяком, выйшаўшы на вуліцу нібыта перакурыць, знікаў бясследна. Спачатку думалі, што ён жыве недзе непадалёк. Але неяк адзін рэстаранны заўсёднік убачыў, як каля Яніса, што задумліва прагульваўся ўздоўж прылеглай вулачкі, рэзка спынілася чорная іншамарка, той спрыт-

на заскочыў у яе, і машына рванула з месца. Як высветлілася пазней, кожнага разу яго забірае новае аўто. Гэта яшчэ больш падагрэла інтарэс да Яніса.

Гуляў у більярд Яніс выбітна. Манера яго была някідкая, разважлівая, халодны прыбалтыйскі твар не выяўляў пры гульні ніякіх пачуццяў. Рот ён адкрываў рэдка і выключна па сутнасці справы. Забітым шарам не радаваўся, не бедаваў ад прыкрых промахаў, якія, трэба сказаць, надараліся нячаста. Гэта быў нібы не чалавек, а дасканалая машына. Многія падазравалі ў Янісе заезджага прафесіянала, які сумяшчае тут трэніроўку і магчымасць падзарабіць; некаторыя, уважаючы на яго шляхетныя манеры і маўклівую ганарлівасць, — замежнага дыпламата ці арыстакрата. Карацей, якіх толькі домыслаў не спараджала гэтая напраўду цікавая асоба.

І яшчэ. Яніс ніколі не гуляў больш як тры партыі, агульная стаўка ў якіх не перавышала паўтары тысячы долараў. Але мог гуляць і на чыста сімвалічную, дробную стаўку. Гэта давала падставы меркаваць, што яму прыносіць асалоду сам працэс, а не канчатковы вынік, што більярд не з'яўляецца для яго галоўнай крыніцай даходаў. Праўда, некаторыя заўсёднікі схіляліся да думкі, што «Ветразь» — гэта не адзіны Янісаў «палігон», што ёсць яшчэ не адно месца ў горадзе, дзе ён дэманструе свае таленты, і што быццам бы нехта яго бачыў у іншых більярдных залах.

Анатоль Гарун, які трэці год назіраў за выбітным більярдыстам і часцяком прыслужваў яму пры гульні, пільнаваўся версіі, што той быў высакакласным прафесіяналам. З Янісавых выйгрышаў нямала перападала Гаруну «на чай», нават калі той яму не прыслужваў. Словам, для Гаруна гэта быў выгадны і звышпаважаны кліент, а цяпер нібы само наканаванне пасылала яго Анатолю, каб выпатрашыць грошы з агорклага піцерскага злодзея, збіць з яго пыху і тым самым адпомсціць за выплюхнутае ў твар піва.

Гарун ніколі не дароўваў крыўды. Ён мог насіць яе ў душы гадамі, па-мазахісцку смакаваць, прытым ветліва ўсміхаўся і нават сябраваў са сваімі крыўдзіцелямі. Але нічога не забываў, быў напагатове і пры першай жа магчымасці, як толькі пакаўзнецца, захістаецца яго вораг, — Анатоль наносіў няўмольны ўдар. Наносіў, вядома, спадцішка, почасту чужымі рукамі, нярэдка — ананімнымі паклёпамі, нагаворамі. Толькі тады ён мог засынаць са спакойнай душою, толькі тады не грызла яго неспагнаная злосць і не даймалі думкі пра ўласную недасканаласць, калі быў пакараны яго вораг.

...Маркёр яшчэ раз зірнуў на Яніса, што ціхамірна закусваў у сваім куце, уважліва агледзеў залу і накіраваўся на кухню.

Там ён наблізіўся да купкі афіцыянтак, што завіхаліся каля стойкі, стаўляючы на падносы заказаныя стравы. Злёгку крануў адну з іх, мініяцюрную бландзінку, за плячо і, калі тая да яго абярнулася, зрабіў знак адысціся. Сам жа каля яе не спыняўся, а прайшоў далей і знік у цесным выгінастым калідорчыку. Хутка за ім працокала і згаданая афіцыянтка.

— Так, Ліка, ёсць справа, — дзелавіта шапнуў ёй Анатоль, калі яны засталіся сам-насам, і насцярожліва стрэльнуў вачыма па баках.

— Толькі давай шпарчэй, — таксама дзелавіта адказала яму Ліка Табольчыц, маладзіца гадоў дваццаці сямі, — а то з ног збіваюся.

— Ты бачыла, што Яніс прыйшоў? — коратка шапнуў Анатоль.

— Так, я сама яго абслугоўвала. А што?..

— Ну, значыць, нашае шчасце, — ухмыльнуўся Гарун і яшчэ раз жулікавата агледзеўся. — Прыбытак падзелім пароўну, — падміргнуў ён суразмоўніцы.

Дзяўчына заінтрыгавана пазірала на хлопца.

— Слухай сюды, — Анатоль нахіліўся да Лікі і зашаптаў у самае вуха...

Праз хвіліну яны разышліся.

А яшчэ праз дзесяць хвілін Ліка з'явілася ў більярднай і, віхляючы сцёгнамі, рашуча падышла да стала, дзе стоўпілася ладная колькасць народу. Там якраз завяршаў сваю чарговую партыю піцерскі злодзей. Ліка прычакала момант, калі ўдар перайшоў да яго праціўніка, і кранулася рукой пляча піцерца.

Той здзіўлена абярнуўся да яе.

— Ёсць чалавек, які хоча вас перайграць, — ледзь чутна, з загадкавым выразам твару кінула афіцыянтка.

— А хто ён такі, каб гэтага хацець? — пыхліва, з вышыні свайго немалога росту зірнуў більярдны карыфей на дзяўчыну.

— Самы моцны сапернік, якія тут бываюць, — знарок голасна, каб пачулі тыя, хто стаяў паблізу, адказала Ліка.

Тут яна пацэліла ў самую кропку, бо пасля гэтых слоў фанабэрлівы більярдыст ужо не мог адступіцца; за тры дні, прабаўленыя у «Ветразі», ён дамогся поўнага пакланення, і тое, што прапаноўвала афіцыянтка, было замахам на яго трон.

— Ну гані яго, мілка, сюды, — нядбайна махнуў ён рукою і, змераўшы стол вопытным позіркам, сказаў: — Я закончу хвілін праз пяць.

Ягоны сапернік якраз сапсаваў лёгкі шар. Піцерац узяў працягнуты яму маркёрам кій і, ужо прыстасоўваючыся да ўдару, кінуў афіцыянтцы:

— А грошы ў яго хаця б ёсць?

— Выйграеце — пабачыце, — адказала тая і заспяшалася да выхаду.

— Ну-ну, — з'едліва хмыкнуў більярдыст і хвосткім ударам даслаў шар у лузу.

Праз хвілін дзесяць у залу ўвайшоў стройны чалавек у чорнай тройцы. Да яго адразу падскочыў бліжэйшы маркёр, а па зале прашалахцеў паважлівы шэпт. Многія абарочваліся ў яго бок, некаторыя прывітальнаківалі, але ніхто не здароўкаўся за руку. То быў Яніс — малады чалавек гадоў трыццаці пяці, сярэдняга росту, з саламянымі валасамі і цвёрдым падбародкам тыповага прыбалта. Высакалобы яго твар нельга было назваць прыгожым, тым больш што над левым брывом віднеўся невялікі застарэлы шрам, які ўносіў дзіўную асіметрыю. Але было ў гэтым твары нешта адухоўленае, шляхетнае, як і ва ўсіх манерах памянёнага спадара — у яго паставе, голасе, далікатнай стрыманасці ў рухах. Яніс быў з тых людзей, што адразу, богведама чаму, выклікаюць павагу. І хоць быў ён тут, можна сказаць, сталым наведвальнікам, ніхто не асмельваўся трымацца з ім запанібрата, тыкаць і, тым больш, хаміць, грубіяніць.

Яніс падышоў да піцерца, які нядаўна закончыў партыю і цяпер разваліўся ў прывольным крэсле, адпачываючы.

— Добры вечар, — сказаў ён з характэрным для прыбалтаў расцягваннем і прапяваннем галосных. — Мяне завуць Яніс.

— Вечар добры, — адказаў піцерскі злодзей і, нечакана для сябе, падняўся і працягнуў руку: — Яраслаў.

Яніс суха парукаўся з ім сваёй халоднай далонню і з расстаноўкай прамовіў:

— Мне сказалі, вы не супраць правесці са мной партыю. Таму хачу найперш давесці пра ўмовы, на якіх я гуляю. Калі яны вас, Яраслаў, не задаволяць, то проста разыдземся па розных сталах. Згода?

— Чаму ж не задаволяць… — хітравата зірнуў на яго піцерац. — Давай…це, выкладайце вашыя ўмовы. — (За тры дні ён яшчэ нікога не называў тут на «вы».)

— Умовы мае вельмі простыя: я згаджаюся гуляць не болей як тры партыі, гэта ўсе тут ведаюць. — Яніс абярнуўся да людзей, што згрудзіліся каля іх.

— Так… Праўда… Ён гуляе па тры партыі… Гэта праўда… — адразу ж раздаліся разнамасныя галасы.

— Ну, тры дык тры, — паблажліва ўсміхнуўся Яраслаў. Яму было ніякавата ад гэтай цырымоніі, ён быў чалавек справы.

— Агульная мая стаўка, — як аўтамат працягваў Яніс, — звычайна не перавышае тысячы долараў.

— Гэта мала, — рашыў казырнуць піцерац. — Давайце па пяцьсот. Тры партыі, па пяцьсот кожная.

— Ладна, — пасля трохсекунднай паўзы згадзіўся прыбалт. — Але з адной агаворкай: першая — трыста, другая — пяцьсот, трэцяя — семсот.

— Гэта яшчэ навошта? — падазрона зірнуў на яго са596пернік.

— А калі хто прайграе першыя дзве, у яго застанецца шанц амаль усё адыграць у трэцяй, — патлумачыў Яніс. — Але, паўтараю, толькі тры партыі. Вы чулі, спадары? — Ён ізноў звярнуўся да прысутных.

— Так… чулі… тры партыі… каб усё сумленна…

— Вы згодныя з маімі ўмовамі, Яраслаў? — Яніс пільна і нават строга зірнуў будучаму саперніку ў вочы.

— Ды згодны, згодны. Давайце распачынаць.

— Піцерцу карцела як найхутчэй збіць гонар з гэтага самаўпэўненага лабуса; да таго ж ён няўтульна пачуваўся, калі змушаны быў размаўляць на прыстойнай (не прыблатнёнай) гаворцы, якую неяк няўзнак навязаў яму прыбалт.

— І яшчэ, — роўным голасам дадаў пунктуальны Яніс. — Права першага ўдару я звычайна разыгрываю жэрабем.

— Ды што за праблема! — нецярпліва ўзмахнуў рукой піцерац. — Ды я вам саступаю разбіваць першаму. Давайце ж толькі хутчэй!

— Не, — сур’ёзна сказаў гэты невыносны педант, — толькі жэрабем. Так будзе справядліва. Іначай я не магу пачынаць.

— Ды ладна, ладна… — Тут Яраслаў хацеў мацюкнуцца, але невядомая сіла яго стрымала, і ён прабурчаў: — Як вам заўгодна.

Яніс зняў пінжак, аддаў яго маркёру і застаўся ў чорнай камізэльцы. Піцерац ужо даўно быў у адной кашулі. Ад вялікай колькасці народу ў празмерна нагрэтай зале было душнавата, і на мясістым твары Яраслава блішчалі кропелькі поту.

Анатоль Гарун, стаіўшыся за спінамі прысутных, з нянавісцю пазіраў на гэты таўсматы твар. Яго вар’явала, што піцерац не абцірае пот насоўкай, як усе людзі, і той перыядычна капае на кашулю, стол і падлогу.

Кінулі жэрабя манетай. Прычым манету падкідваў староннi чалавек. Упала яна на сукно і вызначыла першым разбіваць піцерцу. Перш чым нанесці ўдар, ён прыдзірліва агледзеў і падправіў піраміду, потым адышоўся ад стала, прысеў, зацінуў кій паміж каленямі і пацёр далонь аб далонь. А тады імпэтна наблізіўся да стала, элегантна прыгнуўся, нацэліў кій і няўлоўным тычком стукнуў па шары. Той смачна ўрэзаўся ў піраміду, слізгануў па адным з першых шароў і накіраваўся раўнютка ў правую бакавую лузу.

У памяшканні, дзе на колькі секунд устанавілася цішыня, пасля ўдалага шара пачуўся шэпт захаплення. Гарун адвярнуў твар ад стала і пакутліва зморшчыўся. І толькі Яніс застаўся як быццам зусім абыякавы. Ва ўсялякім разе, ніводзін мускул не таргануўся на яго бледным халодным твары. Ён адно адышоўся яшчэ далей ад стала, даючы магчымасць саперніку дзейнічаць у поўную волю.

А Яраслаў, натхнёны выдатным пачаткам, раскачагарыўся і стаў заганяць шары адзін за адным. Тым больш, што піраміда разбілася на рэдкасць удала, і асобныя шары раскаціліся на стопрацэнтныя пазіцыі.

Ух, як хваляваўся ў гэты час Анатоль Гарун. Ён нават забываўся на свае службовыя абавязкі і пару разоў атрымаў вымову ад кліентаў, што гулялі на суседнім стале і якіх ён мусіў абслугоўваць. Рукі Гаруна падрыгвалі, на нервовым абліччы раз-пораз праступалі сляды страшнай унутранай барацьбы, ён нават крадком свідраваў вачыма шары, якія мерыўся даслаць Яраслаў у лузу, каб сурочыць. Але гэта не дапамагала. Піцерац яўна злавіў кураж і ўпэўнена набліжаўся да перамогі.

Яму заставалася набраць толькі два ачкі, і якраз выпала выдатная магчымасць гэта зрабіць. Два шары сталі ў надзвычай зручныя пазіцыі — гэта было бачна нават Гаруну з нясблізкай адлегласці. Але Яраслаў ці то не заўважыў іх, ці то вырашыў казырнуць, а толькі перайшоў ён на супрацьлеглы бок стала і прыцэліўся на два зблізаныя шары. Вопытны Гарун адразу скеміў, што піцерац хоча загнаць дубль, забіць, так сказаць, двух зайцоў разам: патрапіўшы паміж шарамі, меркаваў накіраваць адзін у найбліжэйшую бакавую, а другі — у далёкую кутнюю лузу. Гэта быў рызыкоўны і ў дадзеным выпадку малаапраўданы ход. Але Яраславу, які злавіў фарт, рупела эфектна завяршыць партыю.

Ён налёг на стол, зажмурыў адно вока і, як заўсёды, упэўнена ўдарыў.

Але тут адбылося штосьці дзіўнае. Накіраваны ў далёкую лузу шар трапіў у яе, нават не закрануўшы борціка. Але другі, што знаходзіўся ў лічаных сантыметрах ад бакавой лузы, папоўз да яе няўклюдна, тыцнуўся ў адзін край, у другі ды так і замёр, не праваліўшыся.

Піцерскі злодзей ад неспадзеўкі нават мацюкнуцца не здолеў. І тут жа, у замагільнай цішыні залы, леваруч ад яго, раздаўся кароткі радасна-трыумфальны ўскрык, які вокамгненна заглух, нібыта чалавеку заткнулі рот.

Угневаны гэтым выгукам, Яраслаў стрэльнуў вачыма ў той бок, адкуль ён данёсся. Але на піцерца глядзелі адны спагадлівыя, здзіўленыя ягоным промахам вочы людзей. Яніс жа, пра якога ўсе часова забыліся, ужо падыходзіў да стала справа і, бясспрэчна, крычаў не ён. Тады хто ж? Яраслаў гатовы быў морду разбіць за гэты радасны выкрык.

Але разважаць яму доўга не давялося, бо прыбалт узяўся за справу так спорна, што спачатку непрыемна здзівіў, а затым і ўсур'ёз засмуціў Яраслава. Карацей, Яніс закончыў партыю на сваю карысць хвілін за пяць. Наносіў удары прыбалт без перапынкаў, не мудраваў і асабліва не прымерваўся да шароў. Было відавочна, што ён, калі сядзеў наводдаль і назіраў за гульнёй саперніка, дасканала пралічыў усе магчымыя варыянты.

Развітваючыся з першымі трымастамі долараў, Яраслаў міжволі стараўся згледзець на абліччы саперніка якую-небудзь радасць, насмешку. Але нічога падобнага не было: Яніс суха прыняў грошы, кіўком пакланіўся і адышоў рыхтавацца да наступнай партыі.

Затое з Анатоля Гаруна радасць так і перла фантанам. Вочы яго зіхацелі, на шчоках выступіў румянец, хацелася співаць і танчыць. Хлопец баяўся аднаго — вонкава выдаць сваё ненармальнае ўзрушэнне. Таму, калі прыслужваў за сваім сталом, усяляк стараўся паварочвацца да заклятага ворага спінай.

Наступныя дзве партыі сталіся для Яраслава кашмарам. У другой ён не набраў ніводнага ачка па той простай прычыне, што яго супернік аніразу не прамахнуўся: упэўнена разбіўшы піраміду, ён, нібы па нітачцы, раскруціў клубок партыі да пераможнага канца. Яраслаў адно здранцвела і заварожана назіраў, як мяняе Яніс свае паставы над сталом, як пераходзіць з аднаго кута да другога, як шустрыць яго жаўтлявы кій над зялёным сукном. І пры ўсім гэтым — спакойны, амаль абыякавы выраз твару!

І што самае агіднае, людзі, якія нядаўна захапляліся ім, Яраславам, цяпер зусім на яго забыліся і ледзьве ў далоні не пляскаюць гэтаму лабусу, гэтаму аўтамату па загонцы шароў у лузы. Вунь адзін, таўстапузы ў рудой камізэльцы, якога Яраслаў учора выпатрашыў на трыста долараў, — цяпер дык відавочна ўсцешаны. А той заморак, якога Яраслаў сёння півам абліў? Каму ж, як не яму, мярзотніку, радавацца! «З дзярмом змяшаў бы!» — скрыпеў ён зубамі, пазіраючы на сутулую спіну Анатоля Гаруна, які ўвіхаўся непадалёку. Закарцела схапіць шар і шпурнуць яго ў тую рухавую, вяртлявую спіну.

Злосць авалодала піцерцам. Пакуль прыбалт няўмольна вёў да завяршэння трэцюю партыю, Яраслаў пачуваўся так, нібы спуталі яму рукі і ногі, як барана, паваліілі на дол, і адно застаецца пакорліва чакаць сваёй смертухны. І не крыкнеш, што абжулілі, ашукалі Яраслава. Гэта не карты, тут усё навідавоку, сумленна. Прайграў, май мужнасць прызнаць. Ух, як жа не любіў ён цярпець паразы!

У фатальнай трэцяй партыі Яраслаў, які напачатку ўдала разбіў піраміду, не трапіў у лузу трэцім шаром. Прытым шмаргануў кіем па стале, што для іграка яго класа выглядала ганебным. І зноў палаcнуў па вушах чыйсьці кароткі, з'едлівы смяшок! І зноў Яраслаў не ўпільнаваў, хто засмяяўся.

Асаблівае прыніжэнне пераажыў піцерац, калі разлічваўся з Янісам за трэцюю партыю. Аддаўшы шэсцьсот долараў буйнымі купюрамі, ён выявіў, што ў яго кашальку адна дробязь. Давялося шнарыць па ўсіх кішэнях, збіраць дзесяткамі і пятакамі апошнюю сотню. Да таго ж — ці то ад шалу, ці то ад боязі не расплаціцца — па-здрадніцку закалаціліся рукі. І гэта бачыў не толькі Яніс, што бязмоўным манекенам стаяў каля яго і чакаў разліку, а і людзі, для якіх ён яшчэ гадзіну таму быў неаспрэчным аўтарытэтам.

Нарэшце расплаціўшыся з Янісам, агаломшаны паразай, Яраслаў спусціўся ў бар і, што з ім здаралася рэдка, на працягу пятнаццаці хвілін выпіў за стойкай некалькі чарак каньяку. Але раздражненне не аціхала, нясцерпна хацелася адыграцца, і нішто іншае не лезла ў галаву. Да таго ж падавалася, што бармен, які дагодліва напаўняў яму чаркі, хавае за сваімі вусамі кплівую насмешку.

Так, трэба было браць рэванш. І Яраслаў, ачмураны каньяком і падбухтораны нячысцікам, зноўку пацёгся ў більярдную.

— Дзе Яніс? — схапіў ён за лацкан першага ж маркёра, што яму трапіўся.

— Не ведаю. Мусіць, на другім паверсе, — адказаў служка.

— Чорт вас усіх раздзяры! — Яраслаў павярнуў наўспят і, пераскокваючы праз тры прыступкі, паляцеў у рэстаранную залу.

— Гэй ты, бялявая! — акрыкнуў ён Ліку, якая, заўважыўшы піцерца, паспрабавала прашмыгнуць на кухню. — Стой, я табе кажу! Дзе Яніс?

— Яніс?.. — удала недаўменне Ліка і знерухомела.

— Ну гэты, такі бялявы, — падскочыў да яе і нецярпліва замахаў рукамі Яраслаў, — лабус, прыбалт, Янісам яго зваць... — І раптам успомніў: — Дык ты ж сама мне яго падсунула, курва! Гавары, а то цыцкі паадрываю!

— А... Дык ён уніз пайшоў, здаецца... да гардэроба, — нібыта пакрысе ўспамінала Ліка; папраўдзе, яна вельмі спужалася.

— Даўно?! — злосна тарашчыўся на яе Яраслаў.

— Ды хвілін пяць, мусіць.

— Ат! — махнуў ён рукой і пабег да выхаду з залы.

Тут трэба сказаць, што за час, пакуль Яраслаў у роспачы жлукціў каньяк, Ліка паспела падысці да Яніса, што вярнуўся да свайго століка, узяць у яго сто даляраў (умоўлены працэнт з выйгрышу) і, мала таго, нават аддаць пяцьдзесят даляраў Гаруну, які і без тых грошай быў на сёмым небе ад шчасця.

Усё адбылося прывычна, упраўна і незаўважна для іншых.

Яніс жа выпіў заўсёдны келіх «Бардо», ціха ўстаў і прывідам выслізнуў з залы, у супрацьлеглым куце якой, за стойкай бара, бедаваў і заліваў пройгрыш каньяком піцерскі злодзей.

Словам, калі піцерац выскачыў у фае, Яніса ўжо і след прастыў.

— Гэй, стары! — кінуўся Яраслаў да пажылога самавітага швейцара. — Тут Яніс не паяўляўся?

— А хто гэта такі? — спытаўся добра абучаны вартаўнік.

— Ну, прыбалт, бялявы такі, у більярд тут гуляе заўсёды, — нерваваўся Яраслаў.

— А хто яго ведае... — няпэўна буркнуў швейцар. — Хіба мала сюды народу спускаецца.

— Дык на які хрэн ты тут пастаўлены, ёлуп! — насунуўся на яго піцерац. — Гавары, падла, праходзіў Яніс ці не! А то ўраз мардасіну размяжулю. — Ён схапіў дзеда за каўнер, націснуў кулаком на кадык.

Перапалоханы такім паваротам, крыху прыдушаны, швейцар зашаптаў:

— Ну, праўда ж... не ведаю я дакладна... Ну спускаўся... ён пару разоў перакурыць... мо і на вуліцу прашмыгнуў.

— Дык выходзіў ці не? — штомоцы тузануў яго піцерскі злодзей. — Гавары, плесня смярдзючая!

Вакол іх ужо сабралася колькі чалавек, але ніхто не наважваўся ўступіцца за швейцара.

— Ну выйшаў. Дык што з таго? — сіпеў дзед. — Я ж яму не пастух. — Ды адпусці ты каўнер, шалёны!

Піцерац адштурхнуў дзеда прэч і грозна звярнуўся да прысутных:

— Хто бачыў прыбалта?

— Малады чалавек, — аклікнуў яго нехта збоку траскучым голасам; гэта быў гардэробшчык. — Яніс ужо не вернецца, ён прыйшоў сюды без верхняй вопраткі. І заўсёды без яе прыходзіць. А скандаліць тут не трэба, — загаварыў ён ужо смялей, бо па прыступках спускаліся два плячыстыя мардатыя ахоўнікі.

— Усё нармалёва, хлопцы, — правільна ацаніўшы сітуацыю, кіўнуў ахоўнікам Яраслаў, калі тыя наблізіліся.

Ён з цяжкасцю ўтаймаваў гнеў, зашпіліў і паправіў пінжак ды зноў падняўся па лесвіцы ў рэстаранную залу.

— Апусцілі падонка... Так яму і трэба... Не лезь у чужую стайню... Малайчына лабус... — запанаваў у фае зларадны перашэпт.

Але Яраслаў не чуў гэтых слоў.

Гэты вечар ён завяршыў катастрафічна. Зразумеўшы, што сёння Яніса не знайсці, ён наважыўся пільнаваць яго тут заўтра і пасляззаўтра, а пакуль падняцца ў більярдную, каб адыграцца на нейкім ёлупні. Але выпіты каньяк і душэўны разлад ад ганебнай паразы пайшлі не на карысць, і ўдача канчаткова адвярнулася ад піцерца. За тры гадзіны ён прайграў яшчэ пяцьсот долараў, і толькі паручыцельства мясцовых аўтарытэтаў, да якіх Яраслаў дзваніўся па «мабільніку» і звязаў з Ашотам, дазволіла яму выдрацца сухім з гэтае калатнечы: сябрукі паабяцалі за яго заплаціць.

У дадатак да ўсяго — па прынцыпе: чым горш, тым лепей — Яраслаў, які заўсёды кепска пераносіў алкаголь, перад самай раніцай набраўся як жаба твані, у беспамяцтве быў пагружаны на аўто і дастаўлены ў свае апартаменты ў гасцініцы «Інтурыст».

У «Ветразі» яго больш ніколі не бачылі.

## 11

Анжэла Гольцава была жанчына мажная, дзябёлая і бязвольная. У трыццаць пяць гадоў з-за паўнаты, пухлага бледнага твару і нейкай агульнай недагледжанасці наўрад бы хто даў ёй менш за сорак. А між тым яшчэ ў дваццаць пяць яе цела было ўсяго толькі схільнае да паўнаты, твар прамяніўся гарэзным румянцам, а валасы былі не зляжалыя, а пышныя і бліскучыя. Развітыя формы заўсёды прываблівалі да яе кавалераў, падабалася ім і Анжэліна памяркоўнасць: у тым плане, што можна было лёгка да яе падступіцца.

Стаўшы жанчынай ужо на другім курсе інстытута, Гольцава ажно да дваццаці пяці гадоў не магла выйсці замуж. Нават тыя яе сяброўкі, у каго не было прыкметнага поспеху сярод хлопцаў, адна за адной браліся шлюбамі. А ўсё ад таго, што былі яны, не ў прыклад Анжэле, хітрыя ды ўчэпістыя.

Але нарэшце пашэнціла і Гольцавай. Праўда, жаніх, Антось, аказаўся невысокі ростам, не волат, пра якога яна даўно і патаемна марыла, а нават з рэдзенькімі бясколернымі валасамі, з праплешынамі. Дый не хакеіст, не афіцэр, не кінаакцёр, а ўсяго толькі эканаміст — як ён сябе называў. А папраўдзе, шараговы бухгалтар.

Ну ды ніштo. Галоўнае, ён кахаў Анжэлу, і ад гэтага кахання неўзабаве, і паўгода пасля вяселля не прамінула, нарадзіўся Андрэйка, прыгожанькі такі, здаровенькі хлопчык.

Год шчасліва пражылі маладыя ў Анжэлінай трохпакаёўцы, што засталася ёй пасля рана памерлых бацькоў. Праўда, не муж насіў на руках Анжэлу, а яна гатовая была з яго пылінкі страсаць: абмывала, абшывала яго, пазбаўляла ад прыбірання кватэры, ад беганіны па прадукты і іншага. Ды ўсё спагадліва выслухоўвала ягоныя жальбы на беднасць, на несправядлівасць начальніка Аксёнкіна, на тое, што яго, Антося, ніхто не разумее.

На трэці год іх сумеснага пражывання выявілася ў мужа новая рыса: стаў ён пакутліва зайздросціць розным людзям — тым, хто ў час развалу імперыі спрытна зарыентаваўся ў рэчаіснасці і пайшоў угору. Вельмі заядала яго, няшчаснага, што многія былыя аднакурснікі паўладкоўваліся ў прыватныя фірмы, сталі галоўнымі бухгалтарамі, а то і свае справы паадкрывалі. Цяпер раскашуюць, чэрці. А ён, які і разумнейшы, і сумленнейшы за іх, вымушаны гібець на смехатворным акладзе і есці нішчымны боршч, які з году ў год — аж абрыдла! — гатуе яму Анжэла.

Гэтыя жальбы-нараканні закончыліся тым, што замкнуўся ў сабе Антось, як бы ўзлаваўся на ўсё і ўсіх, стаў прыходзіць позна, скрытнічаў. Гольцава небеспадстаўна западозрыла, што завёў муж сабе сяброўку. Аднак перажывала гэта ціха, затоена: ні спытаць, ні, тым больш, папракнуць не адважвалася яна свайго чалавека.

А ўсё аказалася куды як сур’ёзней: у адзін памятны дзень Антося арыштавалі, у кватэры правяліператрус і знайшлі на антрэсолі пакунак са скарбамі, украдзенымі ў адной заможнай сям’і: сталовае срэбра і золата, пярсцёнкі з дробнымі дыяментамі. Як казаў адвакат, наняты свякрухай, і невялікая гэта была кража, і артыкул не такі грозны, і стаяў Антось толькі на шухеры, але запраторылі-такі яго на тры гады — падкарміцца на казённых харчах, папрацаваць на карысць дзяржавы.

Першы год раскайваўся, слёзныя лісты дасылаў. Кахаю, пісаў, ты чакай толькі. Анжэла каўтала слёзы, чакала; працуючы на паўтары стаўкі, гадавала малога Андрэйку.

Потым, праўда, лісты сталі прыходзіць усё радзей і радзей, зніклі адтуль сантыменты і слёзнасць, з’явіліся нязвыклая косназыкасць і прыблатнёныя слоўцы, праглядвалася падазронасць да жонкі: ці не гуляе, ці не рыхтуе яму свінню ў выглядзе разводу, адмовы ў прапісцы і падобнае. Адчувалася нават скрытая пагроза.

І вось прайшлі чарадой зімы і леты, ды явіўся аднойчы ўвечары Анжэлін законны муж: нейкі схуднелы, замацярэлы, з насцярожана-нядобрым (гэта яна заўважыла) выразам твару.

Ну, абняліся, пацалаваліся. І адразу ж, не спытаўшыся нават пра пяцігадовага сына, Антось зашыўся ў пакоі, дзе стаяў тэлефон, ды з гадзіну гаманіў там са сваёй маці. Ласкава так называў яе: «матуля», «родненькая». Гэта моцна заела Анжэлу, бо са свякрухай у яе былі цяжкія, напружаныя адносіны.

За вячэрай размова яўна не клеілася. Жарты ў Антося былі прымітыўныя, аддавалі пахабшчынай, вочы зеўралі пустатою. Гольцавай нават страшнавата стала: нібы прыйшоў не доўгачаканы муж, бацька яе сына, а чужы, небяспечны чалавек заявіўся. Піў і еў ён пра-

гна. Але, асушыўшы паўпляшкі гарэлкі, пазмрачнеў, піць перастаў, адно безуважна калупаў відэльцам у талерцы і смаліў моцныя папяросы. Попел страсаў у шклянку. Потым прысунуўся да жонкі, агладзіў сукаватай рукой, на пальцах якой былі вытатуіраваны нейкія літары, і раптам, абхапіўшы левай за шыю, драпежна прыпаў губамі да Анжэліных вуснаў, акунуў правую кісць у яе раскошны бюст. Праз хвіліну, без усялякіх слоў і цырымоній, ускінуў на рукі і занёс у спальню. Святло ў зале так і гарэла да раніцы, стол застаўся непрыбраны.

Муж мучыў яе ў пасцелі цалюткую ноч... Толькі перад світаннем захроп. Анжэла ж так і ляжала з адкрытымі вачыма, тупа глядзела ў столь. Ужо займаўся восеньскі золак, праз гадзіну трэба было будзіць сына, карміць і адводзіць у садок. На работу вырашыла не ісці, узяць адгул.

Калі ўстала з пасцелі, балела ўсё цела і ламала косці, а зірнуўшы ў люстэрка, убачыла цёмныя мяшкі пад вачыма і пару сінякоў ад засосаў на шыі. У ваннай жа, прымаючы душ, заўважыла некалькі сініх плям на жываце і сцёгнах, драпіны на грудзях.

Муж праспаў сном немаўляці да першай гадзіны. Устаўшы, загадаў выпрасаваць яму кашулю і стары касцюм. З апетытам і амаль моўчкі паснедаў, узяў у Анжэлы дваццаць долараў («на разжытак») і, сказаўшы: «Вечарам буду», — знік за дзвярыма.

Антось і сапраўды прыйшоў вечарам. Толькі позна, а першай гадзіне ночы, пад добрай чаркаю. На скулах у яго выпнуліся жаўлакі, на кашулі быў адарваны верхні гузік і віднелася цёмная пляма — верагодна, ад віна; вочы калюча блішчэлі. Ён па-свойску палез у халадзільнік, вывудзіў недапітую ўчора бутэльку гарэлкі і сёе-тое з закусі. Выпіў першую чарку, а тады падазваў да сябе Анжэлу, што нясмела тапталася ў дзвярах. Усадзіў на калені, прапанаваў выпіць. Яна адмовілася.

— Грэбуеш, значыць! — Муж саштурхнуў яе з каленяў і брудна вылаяўся.

Дапіўшы гарэлку, Антось запатрабаваў грошай. Анжэла жахнулася і сказала, што ў яе толькі на харчы засталося, што хай ён падумае пра дзіцёнка, якога яшчэ не бачыў, — як таму жылося тры гады без бацькі.

Але муж падскочыў да яе, даў кулаком пад дых і тут жа, калі жонка, захліпваючыся, сагнулася крукам, выцяў у твар каленам.

Ашаломленая, ледзь не паўзком, калі з носа і губ цякла кроў, трымтлівымі рукамі дастала Анжэла з заначкі і аддала Антосю апошнія грошы. Добра, што днямі чакаўся аванс, інакш бы яны з Андрэйкам папросту галадалі.

Муж скрупулёзна пералічыў грошы і паклаў у кішэнь. Ён адразу падабрэў, скрывіў лагодную ўхмылку і падышоў да жонкі. Анжэла, душачыся слязьмі, абцірала кроў насоўкай і стаяла тварам да акна.

— Ну-ну, не крыўдуй, Анжэл, — прасіпеў ён і гулліва ляпнуў жонку далонню ніжэй спіны.

І тут жа з'едліва папракнуў:

— І ты ж не без грашкоў. Прызнайся, нябось падгульвала тут без мяне? Га? — З гэтымі словамі муж ізноў дабрадушна пляснуў Анжэлу па мяккім месцы.

— Адчапіся! — грэбліва сцепанула тая плячыма.

— Ну-ну, Анжэл, — прымірэнча сказаў нядаўні зэк і раптам абхапіў яе ззаду, груба, шчыпаючы пальцамі саскі грудзей, прыцягнуў да сябе.

— Гад! — прастагнала Анжэла, крутанулася, выцяла яго локцем у плячо і рванулася з кухні.

Антось дагнаў яе ў калідоры, пасля нядоўгай барацьбы, выкруціўшы левую руку за спіну, завалок у спальню і кінуў на высокую тахту, галавой у груду падушак. Наваліўся ззаду... Роспачныя Анжэліны енкі патаналі ў задушлівай пухлай падушцы. За дзесяць хвілін знаходжання ў такой позе яна думала, што або задыхнецца, або зломяцца яе шыйныя пазванкі.

Усё наступнае Анжэліна жыццё абяцала быць пеклам.

З гаспадыні яна ператварылася ў абслугу, кухарку для свайго мужа і яго блатных сябрукоў, што днявалі і начавалі ў іхняй кватэры. Тут не выветрываўся смурод танных він і гарэлкі, ад тытунёвага дыму ў пяцігадовага сына з'явілася бяссонне. Пастаянна нехта прыходзіў, сыходзіў, тупаў па кватэры.

Анжэла з Андрэйкам перабраліся ў маленькі кутні пакойчык і вечарамі сядзелі, як зацкаваныя звяркі. Муж мог у любы час — хоць бы і поначы — выклікаць жонку, каб яна кашаварыла для чарговага дарагога госця, бегла ў краму па яду і гарэлку. У яго з'явіліся пачкі грошай, што пужалі Анжэлу сваёй таўшчынёй, і небеспадстаўна меркавала яна, што грошы тыя мазольнай працай не зарабляліся.

Антось, калі быў цвярозы, ставіўся да жонкі з сынам даволі цярпіма, нават дабрадушна. Але тое была дабрадушнасць пана да сваіх прыгонных, якая ў любую хвіліну — калі яму чымсьці не ўнаровіш — гатовая была перарасці ў пагарду, нянавісць, агрэсію. Аднойчы сын за вячэрай палез у цукарніцу мокрай лыжкай, дык родны бацька зароў на яго як тыгр, аблаяў «свінтухом» і вывернуў цукарніцу пяцігадоваму хлопчыку на галаву. Той заплакаў. Яго слёзы толькі раз'ятрылі нервовага зэка, і ён, пакрыўшыся барвовымі плямамі, загадаў Андрэйку заткнуцца. Ад страху той разрумзаўся яшчэ больш. Тады бацька схапіў яго ручку сваёй лапінай, вышмаргнуў з-за стала і завалок у туалет. «Будзеш сядзець да ночы!» — вынес ён свой прысуд і зачыніў цёмны туалет на зашчапку.

«Толькі паспрабуй яго выпусціць!» — прыгразіў ён Анжэле, якая была так агаломшана гэтай сцэнай, што нават рота не пасмела раскрыць, не кажучы пра якое-небудзь супраціўленне.

А галава сям'і адкаркаваў пляшку піва, раскінуўся ў крэсле, паклаў ногі на часопісны столік і стаў глядзець тэлевізар. Увесь вечар якраз ішоў «Аншлаг»: крыўляліся гумарысты, і Антось паміраў з рогату.

Мяркуючы, што ён астыў і даўно забыўся на сына, Анжэла крадком выпусціла перапалоханага пасінелага Андрэйку з яго вязніцы і адвяла ў спальню. Хлопчыка біла дробная дрыготка, і ён доўга не мог слова вымавіць.

Бацька, насмактаўшыся піва, праз колькі часу пайшоў аблягчыцца ў прыбіральню і ўбачыў, што яго асмеліліся аслухацца. Раз'юшаны, уварваўся ён у спальню, адштурхнуў Анжэлу, што паўстала на яго шляху, выцягнуў паўсоннага маленькага сына з пасцелькі, кінуў на падлогу і зняў свой тоўсты, з важкай спражкай скураны рэмень...

Хвосткія ўдары абрушыліся на слабае цельца. Але трэба было бачыць твар ката: нейкая патоля, ухмылістая радасць выяўляліся на ім. Анжэла кошкай рынулася на мужа, учапілася ў валасы, падрапала шчокі пазногцямі. Аднак хутка адляцела да сцяны і выцялася хрыбетнікам аб рабро батарэі. Цяпер рэмень замалаціў ужо па ёй: па жываце, грудзях, галаве, якую яна няўмела бараніла рукамі.

Чорту ведама, чым бы скончылася гэтая сямейная разборка, каб у дзвярах не раздаўся настойлівы, працяглы званок.

«Замрыце тут, а іначай...» — загадаў муж такім голасам, што адразу стала ясна, як можа быць «іначай». Ён шчыльна зачыніў спачывальню і падыбаў да ўваходных дзвярэй, куды нехта настойліва званіў і стукаў. «Хто?» — пачула Анжэла яго хрыплы голас.

Аказалася: дружкі выклікалі па нейкай тэрміновай справе. Яны пашапталіся ў калідоры і неўзабаве зніклі.

Раніцой выявілася, што Андрэйка стаў заікацца, потым яго доўга лячылі ў розных неўрапатолагаў, лагапедаў і псіхіятраў. Залячылі. Але і дагэтуль — мінулася шэсць гадоў — у хвіліны моцных душэўных узрушэнняў з болем заўважае Анжэла, як зрываецца і вібрыруе сынаў голас, наскокваюць адно на адно словы... І тады ўспамінаецца тая страшная ноч.

Бог злітаваўся з яе, і праз тыдзень мужа арыштавалі.

На гэты раз не адкараскаўся ён малым тэрмінам, а атрымаў на поўную закрутку — дванаццаць гадоў. Адбіраючы грошы, адкалашмаціў ён з хаўруснікамі пажылога дзядзьку, а той вазьмі ды сканай праз пяць дзён у бальніцы. Адным словам, забойства. Запраторылі Антося ў калонію строгага рэжыму. І гэта яшчэ прамаўчала на судзе Анжэла, які «Асвенцім» наладзіў ёй муж за месяц сумеснага пражывання, а то б падкінулі яму гадкоў.

Усё адносна пад гэтым небам. І жыццё, што настала пасля другой мужавай пасадкі, — жыццё адзінокай маці, якое раней яна лічыла гаротным з гаротных, падалося Анжэле Гольцавай ледзьве не раем.

Праўда, даймала свякруха. Дакучліва звaніла па тэлефоне і папракала за тое, што не адказвае Анжэла на мужавы лісты, не падтрымлівае яго маральна. Падтрымліваць пачварыну, якая выйдзе і зноў пачне яе мардаваць! Ну не! Анжэла цвёрда рашыла абарваць з Антосем усялякія сувязі. З сынам пра бацьку не размаўляла; ён стаўся для іх больш чым нябожчыкам: пра тых хоць успамінаюць зрэдчас. Цяпер аднаго хацела яна — каб загнуўся яе законны ў той калоніі, каб ніколі з яе не выбраўся. Тым больш, што праз паўтара года прыйшло паведамленне, што накінулі яму яшчэ пяць гадоў — за панажоўшчыну. Ва ўсялякім разе можна было спадзявацца — калі вылузіцца Антось на волю, то ўжо прыйдзе не зухам, не малайцом, які збівае сына і гвалціць жонку, а разваліна́й, імпатэнтам.

Але часам вярэдзіла яе душу трывожнае: што як уцячэ муж з калоніі ды заявіцца неспадзеўкі? Проста халодны пот прабіваў тады Гольцаву, і ліхаманкава шукаў яе розум выйсце. І не знаходзіў. Менавіта гэты ўчэпісты страх перашкаджаў Анжэле зрабіць правільны крок: развесціся з агорклым бандытам, памяняць кватэру, пастарацца знайсці новага мужчыну, каб забыць усё даастатку. Яшчэ ж паўжыцця наперадзе! Тым больш і сяброўкі так раілі. Але па прыроджанай сваёй бязвольнасці, ад жаху перад магчымай помстай кончанага зэка, ад успамінаў пра яго кулакі не магла наважыцца Анжэла на развод.

Адно што зрабіла: вярнула сабе дзявочае прозвішча — Гольцава. І не так для сябе, як дзеля сына, якому трэба было ісці ў школу. Не хацелася Анжэле, каб па некалькі разоў на дні гучала там услых ненавіснае прозвішча, каб аклікалі па ім сябрукі-прыяцелі яе Андрэйку.

А сын рос разумным, кемлівым хлопчыкам, вучыўся амаль на «выдатна». Адно што хвалявала — надта дамасед ён, нібы людзей цураецца. Равеснікі на вуліцы дурня валяюць, у футбол гойсаюць, а ён сядзіць, у кнігі зануранi. Прычым чытае ўсё не па ўзросце. У чацвёртым класе да Купера, да «Трох мушкецёраў» дабраўся. Хіба гэта нармальна? І ўрачы кажуць, што не: гуляць трэба болей, на свежым паветры знаходзіцца, у школе і так мазгі дзецям будзь здароў замарочваюць. Вось і зрок у яго дрэнны, ужо мусіць надзяваць акуляры, а ў акулярах дзецям цяжэй — дражняць іх бязлітасныя аднагодкі, уціскаюць. Хаця Андрэйка не зломак: і ростам удаўся, і дужасцю, так што дасць, калі трэба, здачы. Але адзіночка ён, адзінокім цяжэй жывецца. Каму, як не Анжэле, гэта ведаць…

Пасля апошняй «пасадкі» мужа, на працягу першых двух гадоў, яшчэ рабіла яна вялыя спробы знайсці сабе сябра. І кандыдаты, здаецца, былі, і лёгкі флірт, аднак да сур'ёзных спраў не даходзіла. Не давярала яна больш мужчынам, баялася іх. Так і пражыла шэсць гадоў адна.

## 12

І ўсё ж, прыкладна паўгода таму, у Анжэлы Гольцавай з'явіўся мужчына. Пазнаёмілася яна з ім выпадкова, калі вярталася з далёкага рынку, па выхадзе з аўтобуса: нейкі хлопец вызваўся памагчы дацягнуць дадому ёмістыя пакеты з прадуктамі. Выгляду ён быў зусім някідкага — сярэдняга росту, са светлымі валасамі і невыразным тварам — і таму не выклікаў у Анжэлы недаверу, як, зрэшты, і асаблівай сімпатыі. Па дарозе, а дом Гольцавай адлягаў ад аўтобуснага прыпынку на добры кіламетр, яны разгаварыліся. Аказалася, хлопца завуць Віталь, ён студэнт чацвёртага курса політэхнічнага інстытута, у гэтым раёне выпадкова — едзе ад сябра.

Яны б так і развіталіся ля яе пад'езда, каб бабулі, што нязводна бавяцца тут на лавачцы, голасна не абураліся нахабным, на тры гадзіны запар, адключэннем электрычнасці. Зразумела, ліфт не працаваў. А Гольцава жыла пад самым дахам, на дзявятым паверсе. Абыходлівы малады чалавек, даведаўшыся пра гэта, не мог пакінуць жанчыну на вырак лёсу і пацягнуў пакеты наверх. Анжэла ж у сваю чаргу, без усялякай задняй думкі, таксама не магла не аддзячыць такому чуламу хлопцу хаця б чаем з булачкамі. Віталь, млява пасупрацiўляўшыся, згадзіўся. Пакуль распранаўся, мыў рукі, ішоў на кухню па вузкім калідорчыку, убачыў, што і краны цякуць, і кепска адладжаны зліўны бачок у туалеце, а пераключальнікі святла працуюць з сур'ёзнымі збоямі. За чаем Віталь далікатна пацікавіўся ў гаспадыні, у чым прычына такога дамашняга заняпаду, на што тая ўздыхнула і спярша неахвотна, а потым усё больш шчыра і горача распавяла выпадковаму знаёмцу пра сваю нядолю. Да таго ж адкрыла, што ўпраўдом — хам і дзяляга, а сантэхнік не бывае цвярозым, і ад яго прыходаў вада цячэ яшчэ больш. І гэтак далей…

Студэнт паспачуваў і без ваганняў прапанаваў — калі, вядома, яе гэта не бянтэжыць — сваю сціплую дапамогу: тое-сёе адрамантаваць,

прывесці да ладу. Праўда, зараз ён спяшаецца на лекцыю, а вечарам трэба рыхтаваць курсавую, але заўтра, пасля абеду, ён абавязкова прыйдзе да Анжэлы і, па магчымасці, штосьці зробіць.

Ён не падвёў, прыйшоў наступнага вечара і ўзяўся выпраўляць хібы заняпалай Анжэлінай гаспадаркі. Адзінаццацігадовы Андрэйка не адыходзіў ад яго ні на крок, цікаўна за ўсім сачыў, падаваў патрэбныя інструменты. Працы аказалася прорва. Трэба было ссунуць некаторыя шафы на кухні і ў пакоях, бо за дзевяць гадоў за мэбляй назапасіліся горы пылу і бруду. Акрамя таго, узнікла неабходнасць выбіць усе дываны, што былі прыціснутыя да падлогі грувасткімі шафамі, а цяпер з-пад іх вызваліліся. Словам, яны не ўправіліся за адзін вечар, і спатрэбілася яшчэ некалькі прыездаў дабрадзейнага студэнта, каб прывесці кватэру ў больш-менш гожы выгляд.

За гэты час студэнт здружыўся з Андрэйкам, а самае важнае, паміж ім і Анжэлай устанавілася трывалая сімпатыя. Яна разрасталася пры кожным спатканні, і неяк суботнім днём, калі Андрэй быў у школе, збылося тое неадхільнае, што бывае паміж маладымі мужчынам і жанчынай і дзякуючы чаму тысячагоддзямі жыве чалавечы род, жыве і не зводзіцца…

Пасля гэтага Віталь, які быў маладзейшы за Анжэлу аж на дванаццаць гадоў, стаў час ад часу начаваць у яе кватэры. Дарэчы, пры спакойным стаўленні да гэтага Андрэйкі, якому мяккі і абыходлівы характар мамінага сябра яўна быў даспадобы. Мабыць, спрацаваў тут кантраст паміж лагодным Віталем і шалёным, бязлітасным родным татам, якога сын і дагэтуль не мог успамінаць без агіды і жаху.

Анжэле ж Гольцавай мужчына быў вельмі патрэбны. Змучаная адзінотай, вярэдлівымі ўспамінамі і бязрадаснымі думкамі душа была гатовая прыняць любога, хто дасць ёй цяпло, пяшчоту і ласку. Літаральна за месяц у Анжэлы выправілася паходка, у жэстах і галасе з'явілася нармальнае жаночае какецтва, зноў засвяціліся вочы, зарумянеў твар… І толькі празмерная паўната ніяк не спадала, бо ад добрага настрою ўзрос апетыт. Аднак тое ўжо была не паўната друзлай малапрывабнай кабеты, а пышнай сімпатычнай маладзіцы, на якую зноў сталі аглядвацца мужчыны.

Віталь жа, як выявілася ў хуткім часе, сам меў нямала праблем і таксама адчуваў моцную патрэбу ў сяброўцы жыцця, якой можна было б распавесці пра сваё набалелае, прытуліўшыся ўночы, абагрэць і душу і цела.

Быў ён родам з глухога мястэчка пад Полацкам, адкуль усе маладзёны, хто не хоча прапасці і спіцца, уцякаюць на злом галавы. Адслужыўшы ў войску, выправіўся і Віталь у сталіцу ў пошуках свайго шчасця. Але паступіў ён не ў тэатральны, не ў мастацкі, не ў медыцынскі, а ў банальны політэхнічны інстытут, на самую малапрэстыжную спецыяльнасць. Даводзілася зубрыць супраматы і тэорыі механізмаў, карпець над бясконцымі мудрагелістымі чарцяжамі. А ўмоў для гэтага не было, таму што пасялілі студэнта ў самы заняпалы інтэрнат, у пакой да заядлых гулякаў і бузацёраў. У пакойчыку ледзьве змяшчаліся тры казённыя ложкі і кульгавы столік, на якім не тое што чарціць — есці было немагчыма. Сужыцелі пастаянна вадзілі сюды п'яныя хеўры: з песнямі, гітарай і дзеўкамі. Віталю ўсе чатыры гады, каб сяк-так выконваць вучэбную праграму, давялося туляцца па чытальнях, бібліятэках, прыяцелевых кватэрах. Нярэдка, калі позна ве-

чарам вяртаўся ў інтэрнат, заставаў там разнастайных алесяў, васілёў і наташак, якія спакойна сабе дрыхнулі на яго ложку пасля чарговай гулянкі. Дый не толькі дрыхнулі…

Усё гэта, ціха жалячыся, расказваў Віталь сваёй новай сяброўцы. Зрэшты, не будзем многа пра яго гаварыць, бо ён яшчэ пра сябе выкажацца. Тым больш, што акурат у той марозны студзеньскі вечар, калі разыгралася драма ў рэстаране «Ветразь», Анжэла Гольцава чакала чарговага Віталевага прыходу.

Ён пазваніў на пачатку адзінаццатай і паабяцаў быць праз гадзінку. Жанчына вельмі ўзрадавалася гэтаму, бо Віталь здаваў зімовую сесію і аж з Новага года не мог да яе прыехаць. Звычайна ж ён начаваў у Гольцавай два разы на тыдзень. Часцей не мог, бо, уважаючы на шалёных сужыцеляў, апасаўся за сваё месца і няхітрую маёмасць. Ужо некалькі разоў, калі Віталь ездзіў на пабыўку дадому, сужыцелі самавольна ўкладвалі на яго ложак разнамасных прыяцеляў-алкашоў, якіх потым было надзвычай цяжка вытурыць. Гэтыя «пасяляне» спалі на яго ложку, елі яго лыжкай з яго талеркі ды, мала таго, валтузіліся з жанчынамі сумніўнай чысціні на яго просцінах… Словам, кватэра Гольцавай была запаветным прыстанкам для гэтага шматпакутнага студэнта і добрага, мяккага чалавека.

…Гадзіннік паказваў дзесяць хвілін на першую, а Віталя ўсё не было. Гольцава хвалявалася. Яна нервова тупала па кухні, раз-пораз падыходзіла да акна і ўзіралася праз шыбу ў начную цемру. Іх двор быў асветлены нядрэнна, але квартал перад аўтобусным прыпынкам, цераз які мусіў ісці Віталь, сёння быў вусцішна цёмным. Яна трывожна ўслухоўвалася і быццам бы чула адтуль выгукі і п'яны рогат тутэйшых хуліганаў, якія заўсёды наводзілі на яе агіду і страх. Тут ужо двойчы забілі ціхамірных жыхароў, што вярталіся дамоў поначы. Аднаго — у суседнім доме, проста пад Анжэлінымі вокнамі: на саракагадовага мужчыну напаў нейкі вырадак з арматурынай і наводмаш, бязлітасна малаціў па грудзях, спіне і галаве, пакуль той не ўпаў мёртвы. Гэта бачылі жыхары, пад чыімі вокнамі адбываўся той жудасны гвалт. Міліцыя, якую яны выклікалі, не толькі не выратавала нябогу, але і ягоны забойца бясследна растаў у начным цемрыве.

Гэтая і падобныя жахлівыя гісторыі ўпарта лезлі ў галаву беднай Гольцавай. А яшчэ даймаў Андрэйка, які захапіўся чарговай прыгодніцкай кніжкай і ніяк не хацеў засынаць. Маці ўжо два разы заходзіла ў яго спальню і загадвала гасіць святло. Сын, бледны ад празмернага чытання, спрачаўся з ёй і капрызнічаў. Анжэла, вычарпаўшы ўсе слоўныя аргументы, вырвала кнігу з яго рук, і Андрэйка нечакана закрычаў на яе, пачаў нешта тараторыць і, як пачасту з ім бывала, збіўся на заіканне, заплакаў. Расплакалася і Анжэла. Яна кожнага разу пасля такіх выпадкаў успамінала мужа, што быў прычынай гэтага заікання, і нібы перажывала нанова падзеі шасцігадовай даўнасці. А надоечы ёй прысніўся сон, ад якога яна і дагэтуль не можа прыйсці да душэўнай раўнавагі. У тым сне сярод ночы нешта стукнула, рыпнула, а затым стала нязвыкла ціха. Анжэла пакутліва ўслухоўвалася ў цішыню, і ёй падалося, што ў кватэры ёсць нехта трэці. Яна ўскочыла з ложка і, пераадольваючы жах, прадыбала ў калідор. Паспрабавала ўключыць святло, але пераключальнік заела. І тут яна ўбачыла, што з залы, дзверы ў якую былі няшчыльна зачынены, прабіваецца прывіднае блакітнае святло. Яна пракралася да шчыліны, прыпала да

яе, спрабуючы зазірнуць у пакой. Раптам дзверы разнасцежыліся самі, і Анжэла ўбачыла пасярод залы свайго мужа Антося, залітага месяцовым святлом; бязмоўны і страхалюдны, ён трымаў у адной руцэ крывы доўгі нож, а ў другой за валасы чыюсьці адсечаную галаву. Галава была павернута да Анжэлы патыліцай, але недарэчная здагадка працяла яе існасць: гэта галава Віталіка! Ашаломленая страшнай здагадкай, яна рынулася з залы і пабегла па калідоры да спальні. Але калідор аказаўся бясконцым, ногі Гольцавай блыталіся і вязлі ў чымсьці смярдзючым і ліпкім, а ззаду гулка бухалі неадхільныя крокі яе мужа-забойцы… У гэты момант Анжэла прачнулася. Яна ляжала на левым баку, за грудзінай тахкала і заміралa напалоханае сэрца…

І якраз наступнага дня прыперлася свякруха. А дагэтуль з паўгода не паказвалася і не тэлефанавала. Гольцаву як перуном жахнула: нездарма такія супадзенні. Свякруха, гэтая старая карга, апошнія шэсць гадоў упарта даймала Анжэлу сваімі прыходамі. Заявіцца, бывала, без папярэджання — паі яе чаем, вынаходзь нейкія пустыя словы, бо пра мужа Гольцава зараклася з ёй не размаўляць. І дзіўна, тая таксама амаль не ўзгадвала свайго сына, а толькі дакорліва пазірала на нявестку ды шнырыла калючымі злоснымі вачыма па кватэры. Анжэла ведала — шукае сляды мужчыны, сынку свайму ненаглядна-му плошчу зберагчы хоча. Сама ж жыве ў камуналцы, і калі вернецца сынок-забойца, то ёй хоць з дому збягай. Хоча, старая гадаўка, каб ён да Анжэлы вярнуўся, каб ізноў мучыў яе і Андрэйку. А іначай нашто ёй прыходзіць? Пра ўнука свайго адзінага амаль не спытаецца: ці не хварэе ён, як вучыцца? За шэсць гадоў прынесла яму дзве заляжалыя, пакрытыя белым налётам шакаладкі. Анжэла іх выкінула ў смеццеправод. І сыну загадала, каб не адпіраў бабулі, калі адзін дома. Аднойчы і не адпёр Андрэйка, убачыў старую ў дзвярное вочка — і не пусціў. Доўга, напорыста, з паўгадзіны званіла свякруха, цвяліла нервовую сістэму дзіцяці. Той мусіў патэлефанаваць Гольцавай на работу, і яна стрымгалоў, праз паўгорада, памчалася дадому, каб падраць праклятай ведзьме твар і навек адвадзіць ад іхняй сям'і. Дзякаваць Богу, не заспела яна старую. Некалькі месяцаў з таго часу яна не прыходзіла.

А ўчора, акурат пасля жудлівага Анжэлінага сну, і заявілася свякруха. Страшная нейкая, змарнелая. Прыняла яе Гольцава на кухні, кавы наліла, падала сёе-тое. Не кранулася старая ні пітва, ні ежы. А толькі абыякава так, нязвыкла абыякава глядзела на нявестку, блытана гаварыла то пра надвор'е, то пра тое, як цяжка стала на пенсію жыць… Спыталася пра ўнука. «Да сябра пайшоў», — зманіла Анжэла, бо перад тым як адчыніць дзверы, загадала сыну заперціся ў спальні. Так бесталкова і праседзелі яны на кухні хвілін дваццаць, затым зазбіралася старая, пайшла да выхаду. І ўжо ў дзвярным праёме, калі пераступала парог, нехлямяжа абярнулася і кінула:

— Ад Антося табе прывітанне… — Гольцава так і здранцвела ад гэтых слоў.

Праз колькі секунд ачомалася і зыкнула ўслед свякрусе, што ўжо спускалася да ліфта:

— Што значыць — «прывітанне»? Што ён ад мяне хоча?!

Не адказала свякруха, не павярнула да яе твару, а борздзенька шмыгнула ў ліфт, што якраз падышоў, націснула кнопку.

Гольцава рынулася да ліфта і замалаціла кулакамі ў дзверы.

— Адчапіцеся вы ад мяне, ірады! Ненавіджу вас, і род ваш свалачны ненаві-іджу!!!

І асеклася: а раптам гэтае прывітанне ад мужа — *з волі*, раптам ён уцёк і рыхтуе над ёй расправу, раптам, пакуль яна спускалася да ліфта, ён пранік у адчыненую кватэру і там затаіўся? Рукі і ногі адняліся ў Анжэлы ад жаху, у спіну нібы ўсадзілі кол і свідравалі ім цела… Яна ледзьве давалаклася да кватэры, ліхаманкава зачыніла дзверы і паклікала сына.

Той тут жа выйшаў са спальні — напэўна, падслухоўваў іхнюю гаворку. «Усё нармальна, сынок?» — кінулася да яго Анжэла і стала асыпаць пацалункамі. — «А што здарылася?» — няўцямна глядзеў на яе адзінаццацігадовы Андрэйка. — «Усё добра, сынку… усё добра», — прашаптала яму на вуха маці. Аднак тут жа вярнулася да ўваходных дзвярэй, зачынілася на ўсе замкі, накінула ланцужок...

…І зараз, на пачатку першай гадзіны ночы, калі трывожна чакала Віталя, не выходзілі з галавы ні сон той пракляты, ні візіт ненавіснай свякрухі, ні д'ябальскае «прывітанне», вымаўленае той нейкім таямнічым, зларадным і злапомслівым тонам. І чым далей перавальвала стрэлка гадзінніка за поўнач, тым мацней разыгрывалася Анжэліна фантазія. Уяўлялася, напрыклад, што сцеражэ зараз ейны пачварны муж Віталіка ў нетрах пад'езда, тоячы за пазухай крывы доўгі нож… А мо ўжо падсцярог?! І выбягала тады бедная жанчына на лесвічную пляцоўку, і пільна ўслухоўвалася ў рэдкія начныя гукі…

## 13

Віталь з'явіўся толькі а палове першай. Задыханы, узрушаны, з нейкім цёмным пакетам у руках. Быццам падымаўся ён на дзевяты паверх пешкі.

— Прывітанне, — цмокнуў ён Анжэлу ў шчаку, пераступаючы парог кватэры. — Андрэйка спіць?

— Павінен спаць. — Гольцава пачала памагаць яму здымаць паліто. — Хаця, можа, і чытае ўпотай. Пэўна ж здагадаўся, што ты прыйдзеш.

— На вось, — Віталь дастаў з мятага пакета шакаладку, — перадай яму заўтра.

— Дык сам перадасі. Раніцой жа ўбачыцеся.

— Не ведаю, мне заўтра рана ўставаць трэба.

— Гэта яшчэ чаму?

— Не шумі, хлопца разбудзіш, — шэптам сказаў Віталік. — Зараз раскажу. — І накіраваўся ў ванную, каб памыць рукі.

— Дрэнныя мае справы, — сказаў начны госць, калі яны селі за кухонны стол, куды Анжэла выставіла сёе-тое паесці. — Сёння гэтыя чэрці мой зборачны чарцёж зглумілі.

— Хто?

— Ды гаўрыкі мае, Сашка з Пецькам. Прывялі зноў чортведама каго, гармідар наладзілі… — Віталь безнадзейна махнуў рукой і ўзяў са сподачка скрылёк сыру. — Здаецца ж, пад ложак чарцяжы прыхаваў, паперай іх паабгортваў — усё адно півам пазалівалі.

— Я ж табе прапаноўвала іх да мяне перанесці, — папікнула яго Анжэла. — І наогул, чарцяжы трэба ў футарале трымаць.

— Ды што цяпер у пусты след гаварыць, — уздыхнуў Віталь. — Канешне, я вінаваты. Прыйшоў сёння ўвечары: сядзяць пяць чалавек. Рас-

пітыя такія, нахабныя будкі. Двое — на маім ложку. У пакоі накурана, чатыры пустыя трохлітровікі валяюцца і піўная лужына на падлозе. У мяне аж сэрца спынілася: прапалі мае чарцяжы! Рынуўся пад ложак — так і ёсць: мокры скрутак. Ды па законе подласці зборачны чарцёж, самы з іх складаны, найбольш пацярпеў. Бо абгортваў сабой усе астатнія.

— Дык, можа, высушыць яго, адпрасаваць і…

— Дзе там, Анжэла! — усклікнуў Віталь. — Я спрабаваў. Ён цяперака на туалетную паперу падобны. Ды прытым, прабач, на тую, якой добра пакарысталіся. Ох… — Ён аблакаціўся на стол і закрыў твар далонямі. — Капец мне, Анжэла. Я яго за тыдзень не аднаўлю, да экзамена мяне, натуральна, не дапусцяць. А калі буду чарціць (а іншага выйсця няма), то правалю і астатнія экзамены. Э-эх… Прападаць, дык з музыкай. — З гэтымі словамі ён дастаў з пакета, які ўвесь час трымаў на каленях, бутэльку партвейну ёмістасцю 0,7 літра.

— Ну вось яшчэ! Знайшоў час, — здзівілася Гольцава. — Хіба гэта вырашэнне праблемы? Нап'ешся, як будзеш заўтра працаваць?

— Дык тое ж заўтра, — з адчайнай абыякавасцю сказаў студэнт, адкаркоўваючы пляшку. — Ненавіджу алкаголь і, верыш, ніколі ў жыцці не здымаў стрэсы з яго дапамогай. Але і рэдка ж мне было так пагана, як сёння…

— Ты паеш хоць, Віталік, лягчэй стане. — Гольцава пасунула да яго талерку з нарэзанай варанай каўбасой і вяндлінай. — Хочаш, яешню згатую?

— Не, Анжэла, кусок у горла не лезе. Падай лепш пару шклянак, калі ласка.

Гольцава з неахвотай паставіла на стол два груваcткія нязграбныя фужэры. Віталь наліў сабе поўны, ёй — палавіну.

— Вып'ем не чокаючыся. — Ён адным махам праглынуў нізкаякасны напой, зморшчыўся.

Анжэла толькі прыгубіла.

— І што ты цяпер думаеш рабіць?

— Ат! — матнуў студэнт галавой. — Пераначуем — лепш пачуем. Неяк выкручуся. Чарцяжы я да Івана занёс. Я табе гаварыў, ёсць у мяне прыяцель з тутэйшых. Харошы чалавек. Абяцаў мне пакой і поўны камфорт на тыдзень.

— А навошта да сябра? Да мяне б ехаў… — сказала Анжэла.

Яна нічога не ела, а толькі спачувальна глядзела на Віталя, які, хоць і сказаў, што «кусок у горла не лезе», раптам прыняўся спорна ўпісваць каўбасу, вяндліну і сыр, адрываў ад лусты буйныя кавалкі хлеба і запіхваў у рот. Відаць, партвейн вярнуў яму апетыт.

— Дык Іван жыве за два крокі ад інстытута, а мне трэба туды перыядычна заскокваць. У мяне ж і па іншых прадметах «хвасты».

— І па іншых?

— А ты думала! Праўда, кароценькія.

Калі Віталь схіляўся над талеркай, доўгая пасма валасоў падала яму на вочы, ён завучаным рухам адкідаў іх улева. Але праз колькі секунд непаслухмяныя валасы зноў спадалі з ілба. І так раз за разам.

Гольцаву заўсёды смяшыў гэты Віталікаў рух. Так звычайна робяць эстрадныя спевакі: наўмысна адпускаюць доўгую чупрыну, якая раз-пораз захінае вочы, каб элегантным узмахам рукі збіваць яе ўбок. Але гэта робіцца на публіку. У Віталіка ж была іншая прычына: вала-

сы зачэсваліся набок, каб схаваць застарэлы шрам над краем левага брыва, якога хлопец чамусьці дужа саромеўся.

Анжэла аднойчы не сцярпела і спыталася пра гэты шрам, пра Віталеву звычку хаваць яго пад валасамі рухам, падобным на нервовы цік. Хоць тады была ноч і пакой асвятляўся толькі слабым таршэрам, Гольцава заўважыла, як пачырванеў Віталікаў твар. Пасля няёмкай паўзы ён усё ж расказаў, што ў дзяцінстве столькі нацярпеўся з-за гэтага шрама ад равеснікаў, што камплексуе і стараецца ўсяляк хаваць гэтую хібу. Віталік нават адкрыўся, што з-за агорклага шрама ў яго да дваццаці гадоў не было сяброўкі, бо лічыў сябе вырадкам і баяўся дзяўчат. Хаця і ў кніжках чытаў, і ад людзей чуў, што шрамы на мужчыне адно дадаюць яму гонару, — нічога не мог з сабой зрабіць.

— Ну што — давай яшчэ па трошачкі? — Віталь плюхнуў у свой фужэр партвейну, абнавіў сяброўчын. Ад выпітага яго нос збарвянеў і неяк абвіс, у голасе з'явіліся жывейшыя, задзірлівыя ноткі.

— Давай вып'ем за тое, — студэнт падняў фужэр, — каб усё ж менш зла было на зямлі, каб подлых людзей паменшала.

— Давай, — журботна сказала Анжэла і неспадзявана для сябе выпіла ўсё налітае.

— Я ведаю, мной некаторыя пагарджаюць за мяккасць і дабрадушнасць, — сказаў Віталь, перажоўваючы салёны гурок. — Мяне нават слабым чалавекам лічаць. Прынамсі — тыя малойчыкі, што сёння мой чарцёж півам пазалівалі. Яны толькі б тады запаважалі мяне, каб я камусьці з іх морду за гэта начысціў. Але давай рэальна, Анжэла. Што я мог зрабіць, апроч як сабраць свае манаткі і пайсці, так бы мовіць, прыніжаным і абражаным? А крыўдна ж! Ох, як крыўдна было… Я нават спінай адчуваў, як яны з мяне пасміхаюцца…

— Ды ладна табе, што за размова… — супакойлівым голасам пачала Гольцава; ёй, папраўдзе, хацелася закругляцца ды ісці спаць.

— А рэч, мілая мая, у тым, — Віталь пацягнуўся па пляшку і наліў ужо толькі сабе, — што такія, як яны, мяне лічаць за нікчэмнасць, за камара, якога можна раздушыць адным пальцам. І раздушылі б, паспрабуй я толькі абурыцца наконт чарцяжоў, ад якіх, можа, усё маё жыццё залежыць. Гэта ж недачалавекі нейкія! І самае страшнае, Анжэла, што яны — студэнты! Хай сабе не гуманітарыі, не музыкі, але яны будучыя інжынеры — будаўнікі, так сказаць, еўрапейскай дзяржавы. Яны не ходзяць на лекцыі, ніколі не робяць курсавых, не рыхтуюцца да экзаменаў, а тым не менш ціхамірна здаюць сесію за сесіяй, атрымліваюць дыпломы… А я, — Віталь нервова адкінуў валасы з ілба, — і на лекцыі хаджу, і бібліятэкі наведваю, і над курсавымі гарбачуся, а ў выніку вылечу з інстытута я, такі дбайны, а не яны, каму на вучобу начхаць і нас…ць.

— Ну неяк жа яны здаюцьэкзамены.

— Здаюць, зразумела. Чаму б не здаваць! Курсавыя яны купляюць за грошы, а на залікі ды экзамены ходзяць да таго, пакуль выкладчыку не надакучаць іхнія тупыя фізіяноміі, і ён не падмахне ім па «траяку». І выходзяць праз пяць гадоў з нашага інстытута інжынеры, якія за гэты час добра папілі піва, уволю пераймелі жанчын, удосыць наскакаліся на дыскатэках, але не прачыталі ніводнага падручніка! Пра мастацкую літаратуру не буду казаць — яны яе проста ненавідзяць. І вось ідуць яны ў жыццё. Добра, калі не па спецыяльнасці. Найхутчэй — гэта будучыя дзялкі, круцялі, бандыты. Але ж некаторыя,

мізэрная з іх колькасць, уладкуюцца ў СКБ і пачнуць праектаваць механізмы, дамы, віядукі, дарогі. Якія ў нас дамы і якія дарогі, я думаю, табе не трэба казаць. — За размовай Віталь ужо размахваў рукамі; апроч носа, у яго цяпер збарвянелі і шчокі.

— Давай я табе чаю налью. — Анжэла ўсур'ёз непакоілася, што яе сябар зусім з'едзе з рэек.

— Не хачу чаю і партвейну болей не буду. — Віталь адсунуў локцем бутэльку, яна пахіснулася і ўпала б, каб Гольцава яе не падхапіла. Бутэльку яна рашуча схавала ў халадзільнік.

— Дзе ж ім ведаць пра апорныя канструкцыі, — працягваў разгарачаны студэнт, — калі ўся іхняя апора — піва, гарэлка ды бабы. Вось чым яны сілкуюцца ўсе пяць гадоў. А не будзе ў іх гэтай спажывы, то яны чалавека прыб'юць, а сваё возьмуць. Я табе, Анжэла, не казаў, а ў нас паўтара года таму найжахлівейшы выпадак здарыўся. Перад летняй сесіяй пазычыў адзін з такіх «супермэнаў» грошы ў прыстойнага студэнта. Прыйшоў тэрмін — не аддае, сабака. А таму хлопцу грошы да зарэзу патрэбныя: прыйшла тэлеграма — з бацькам дрэнна, трэба тэрмінова ляцець дадому. Пайшоў ён да свайго даўжніка, а там сядзіць прыкладна такая кампанія, як і ў мяне сёння: п'юць, жаруць, заліваюцца рогатам... Той і так, і гэтак упрошваў вярнуць грошы, ды хіба можа чалавек з малпай паразумецца? Я падрабязнасцей, канешне, не ведаю, але раззлаваў ён гэтую п'яную хеўру, і нехта з гарачкі заехаў яму бутэлькай па галаве. Хлопец упаў, знепрытомнеў. Тыя ў ачмурэнні падумалі, што забілі яго. Заўваж, толькі падумалі! Але, каб не рызыкаваць, яны вось што зрабілі: завалаклі нябогу на адзін паверх вышэй (а былі яны на дванаццатым), разбілі шыбу на лесвічным пралёце і скінулі чалавека з гэтакай верхатуры. Маўляў, сам сігануў.

— І што?! — вылупіўшы вочы, з жахам спыталася Гольцава.

— Вядома, насмерць. — Віталь сціснуў кулакі на стале, і па яго твары прабегла сутарга. — А можа, яго толькі аглушылі бутэлькай? Як цяпер дазнаешся?..

«Глядзі, як супадае! — напалохана думала Анжэла. — І сон мой жудлівы, і свякруха прыперлася, і цяпер гэты расказ…»

— Во, як хвацка распарадзіліся чалавечым лёсам! Шух — і няма дваццацігадовага хлопца… Ды мала таго, нічога ніхто не даказаў, хоць апошні ёлупень у інтэрнаце цяпер ведае, як гэта было. Хто жыў з ім, зналі, каму ён грошы пазычыў, да каго ў той вечар выправіўся… «Самагубства» — канстатавала правасуддзе, бо бацькі ў гэтых вырадкаў аказаліся не ўломкі і падкупілі ўсіх, каго трэба. Хадзіла пагалоска, што ў аднаго з тых трох нават асабняк у правінцыі прадалі, каб выплаціць хабар. Правільна! Чаго не зробіш дзеля выратавання бясцэннага нашчадка свайго! Толькі хацеў бы я паглядзець, — скрывіў страшную ўсмешку Віталік, — як цяпер жывуць тыя вылюдкі: ці не прапаў у іх апетыт, ці не мучыць іх начамі бяссонне? Не! — бухнуў ён кулаком па стале. — І не глядзеўшы, ведаю, што і з апетытам яны жаруць, і з насалодай баб топчуць, і нават прастуда іх не бярэ.

— А яны зараз вучацца?

— Не, паўгода таму паспяхова атрымалі дыпломы. І, упэўнены, занялі не апошнія месцы ў нашым грамадстве. Бо мараль: памры ты сягоння, а я заўтра — яна самая надзейная.

— Гэта не мараль.

— Не, Анжэла, для іх — мараль — жыццёвыя прынцыпы, якіх яны няўхільна пільнуюцца. Калі трэба ім будзе пажэрці адно аднаго — і зжаруць, не трывожся… — Віталь абхапіў галаву рукамі. — Тут жа страшнае — безвыходнасць. Безвыходнасць у тым, што нам з імі жыць, і нікуды тут не падзенешся… Больш таго, быць нам давеку пад іх уладаю, таму што такія гарлахваты — заўжды наверсе, заўжды верхаводзяць, іх нельга ўявіць падначаленымі, нейкімі там дробнымі клеркамі. Нават пры поўнай адсутнасці мазгоў — яны начальнікі, яны чыноўнікі, яны ўладары нашых лёсаў. Нават калі й не вылечу я з інстытута, калі неяк зачаплюся за горад (што досыць праблематычна) — усё адно буду рабом такіх вось мардасін, чалавекам на пабягушках. Да скону. А вылечу, вярнуся дамоў — тады зусім мне хана! Сап’юся, як мой бацька і брат. Брацельнік старэйшы мой, я табе раней не казаў, цяпер інвалід, аднаногі. А якім малайцом быў! Усё гарэлка… Раней трактарыстам працаваў, дзевак меў колькі душа пажадае; у мясцовым клубе, калі якая сварка ці бойка, — ён першы. І прасіла маці, і маліла яго: жаніся, Сяргей, — усё дарэмна. Зірне на яе, дурнавата ўсміхнецца — і да крамы. А там сябрукі, блатхата, шлюхі… Прыцягнецца дамоў перад світаннем, пару гадзін падрыхне, здаровы бугай, і на работу, за трактар. Так штодзень. Хіба гэта нармальна для трыццацігадовага чалавека?

Анжэла моўчкі і не вельмі ўважліва слухала.

— Пакуль не дагуляўся Сярога наш… — унурыўшы пагляд у стол, гаварыў Віталь. — Неяк зімой напіўся да ачмурэння і заваліўся ў сумёт ля плота. Так да ранку і пралежаў, бядак… Адну нагу адмаразіў — адрэзалі па калена; другую, дзякуй Богу, выратаваць удалося. А яшчэ — двухбаковае запаленне лёгкіх. Словам, тры месяцы брацельнік мой па бальніцах праваляўся, выйшаў на мыліцах. А тут: вясна, красавік, зеляніна бярэцца, вішні зацвітаюць, птушкі прыляцелі… І як бы не для яго гэта ўсё. Прывык жа мой Сярога над усімі верхаводзіць, усё сілай ды нахрапам браць; за здароўем сваім магутным і не заўважаў ён, які гэты свет цудоўны, колькі ў ім і без гарэлкі, і без баб сэнсу ёсцека… — Віталь уздыхнуў. — Цяпер ужо другі год інваліднічае. Цяжка яму, бо не прывучыўся ён за жыццё ні чытаць, ні галавой думаць. Ляжыць, добра, калі тэлевізар уключыць. А больш — у столь глядзіць, маркоціцца. Папівае, але ціха цяпер, без буйства, з бацькам на пару. Бацька ж мой, Анжэла, таксама выпіць не зломак. Звычайна не многа п’е, пагаманіць любіць за чаркаю, палітыку абмеркаваць, футбол… Але колькі разоў на год так запівае, што не дай Божа. Электрык ён, спецыяліст, якіх у нашым мястэчку нямашака, таму і не гоняць яго з работы, церпяць… Карацей, і братава інвалідства, і бацькавы запоі, і маё безнадзейнае студэнцтва — усё кладзецца на маміны плечы. Яны ж свае грошы прапіваюць амаль дарэшты, і каб не хатняя гаспадарка, якую мама цягне практычна адна, то я б, Анжэла, вучыцца не змог. Стыпендыі цяпер смяхотлівыя. А так то сала, то каўбасы свойскай маці падкіне, то яшчэ чаго. Праўда, каб адзін я жыў, а то і астатніх кармі — Сашку з Пецькам, — апетыты ж у іх будзь здароў, асабліва, калі пад чаркай. А пад чаркай яны заўсёды. Эх… — Віталь пацёр далонню асавелыя вочы. — Але як ні кепска мне жывецца ў інтэрнаце, усё ж буду за яго зубамі трымацца. Таму, што як уяўлю сябе ў нашай хаце, з братам-інвалідам ды з састарэлым запойным бацькам, то хоць вешайся. Бедная, бедная мая мама…

Недарэчны, прарэзлівы ў начной цішы данёсся з калідора тэлефонны званок. Гольцаву аж перасмыкнула; яна вокамгненна падхапілася з месца і кінулася з кухні, баючыся, каб званок не разбудзіў і не напужаў сына.

— Ало! — нервова шапнула яна ў трубку.

Маўчанне. Злавеснае маўчанне было ёй адказам. Дзіўны, містычны страх скаваў Анжэлу. Ёй здалося, што нехта схапіў абцугамі за яе страўнік і выварочвае.

— Ало... — ледзьве вымавіла яна. — Хто гэта?

І тут, нібы адказваючы на паўторнае пытанне, у трубцы раздаліся кароткія, бяздушныя, як сама смерць, гудкі.

«Абцугі» адпусцілі яе страўнік, але пад лыжачкай ныла, сардэчныя такты было чуваць увушшу, а далоні брыдка і баязліва ўспацелі... Гольцава на дыбачках падышла да дзвярэй, прыпала да іх, з хвіліну хваравіта ўслухоўвалася ў цішыню. Потым старанна праверыла замкі і засаўкі, зірнула ў вочка: слаба асветленая пустая пляцоўка, насупраць — чорныя абабітыя дзверы з нумарам «156», каля іх — дзіцячы ровар без аднаго кола...

«Які невыносны, які вярэдлівы дзень!» — прашаптала Гольцава сабе пад нос і пацягнулася на кухню.

Віталь стаяў ля акна і задуменна глядзеў на непрывабны начны мікрараён. Цяпер толькі асобныя вокны свяціліся сярод грувасткіх шматпавярховак.

— Хто гэта так позна? — не абарочваючыся спытаў ён.

— А ніхто. — Анжэла надала свайму голасу штучную абыякавасць. — Відаць, на лініі збой або нумарам памыліліся...

— Слухай, — прамовіў Віталь. — Ты даруй, што я тут табе разнюніўся. Але праўда, няма ў мяне чалавека бліжэйшага за цябе... Апроч мамы, канешне... Я больш не буду.

— Што ты... — Гольцава ласкава абняла яго ззаду. — Што ты, харошы мой чалавек...

*Працяг будзе.*

## ВАСІЛЬ МАКАРЭВІЧ

### ПАЛЯЎНІЧЫЯ

*Хв.Гурыновічу*

**1**

Калі сплывуць
Нарэшце воды талыя
І скогат крыг аціхне над ракой, —
Спяшае на адстрэл да нас Італія
Анёлаў паднябесных —
Жаўрукоў.

Дзе камнем дол
Ляжыць у непрытомнасці
І руні зеленеюць астраўкі, —
З найноўшымі двухстволкамі прытояцца
Заезджыя замежныя
Стралкі.

А пасткі іх
З хітрушчаю прыманкаю,
Што спевамі спаўюць навокал дол,
Завуць паднебных небажат у мяккае,
Ля ўзмежку прыхаванае,
Гняздо.

У ім яны
Ажно да самай раніцы
Раскашавалі ды глядзелі сны.
Чаму, скажыце, шчыра давяраюцца
Замежнай і падробцы
І хлусні?!

Са сквапнасцю,
Зацятаю і лютаю,
Па іх замежжа — бах! — ды зноў — бабах!
А мы, хаця і цешымся валютаю,
Ды ўсё-ткі застаемся
На бабах!

Са свету зводзім
Спрэс зямное логава.
Хіба адзін сцадзілі вадаём?!
А сёння неба — уладанне Богава —
Замежжу за бясцэнак
Прадаём!

2

Ну як трываць,
Калі нябёсы з трэлямі
За таннае рыззё а ці барыш
Над нашымі галовамі расстрэльвае
То Рым гарласты, то гурман
Парыж!

І наша неба
Са святой лампадаю
У травы, што стаптаў чужы башмак,
Згарнуўшы крылы, з немым крыкам падае
Да ног замежжа глуха —
Чмяк ды чмяк!

Я чую,
Што душа мая ўстрывожана,
І не магу зацяць за справу рук,
Бо недзе ў вышыні хвілінай кожнаю
Крыляе і душы маёй
Жаўрук.

А што, як там,
Дзе воблакі паклычаны
І кожнае плыве, нібыта цень, —
Па-снайперску такія паляўнічыя
Яго знячэўку возьмуць
На прыцэл?!

Турнуць бы іх
З начыннем, з парасонамі, —
Дружыць нам з браканьерствам не з рукі!
Я хабар ад сябе далей адсоўваю,
Што мне падносяць хітрыя
Стралкі.

Хто пальцам сквапна
Мне ў даляры тыцкае?!
Патравы не выношу я з патраў.
А гэты верш — сапраўдная петыцыя
У міністэрства іх замежных
Спраў!

## МАНАШКА

1

Сярод двароў,
Каменных спарышоў,
Падобных да закінутага ляда,
Ігрушу выпадкова я знайшоў,
Што ядрана буяла
Без прыгляду.

Разбегліся
Радзімкі па кары
Уверх і ўніз, як дробныя мурашкі.
У закуце, нібы ў манастыры,
Яна маўчала нема,
Як манашка.

Тут куры
Не сакочуць «куд-кудах».
З шурпатаю карою, нібы тарка,
Была яна ў маршчынах і гадах,
Хаця і не сказаць,
Каб перастарка.

У стомленай
Чмялінай гамане,
Дзе варажбіткі з восенню гадалі,
Здаецца, тут, у зацішы, мяне
Яна чакала цэлымі
Гадамі.

Ніхто ёй ножку
Вапнай не бяліў,
Не падразаў пакручанае голле.
Адной уцехай для яе былі
І глухата і цемень
Завуголля.

2

Здаецца,
Без мітрэнгі і прыгод,
Са шчодрасцю і прастатой вясковай,
Яна на дол страсала з году ў год
Крамяную і золкую
Аскому.

У гэтых вось
Каменных берагах,
Сасмаглая дарэшты, нібы каня,
Яна сябе, напэўна, берагла
Для гэтага жаданага
Спаткання.

І я да лета
Смагнуў і пасціў,
Нібы чакаў папраўкі а ці скону.
Таму глыбока зубы запусціў
У ядраную крохкую
Аскому.

Пакуль вятрыска
З боку ў бок зыбаў
Траву, што стаць магла яго пасцеллю,
Ах, як ігруша на маіх зубах
Пішчала і адчайна
Храбусцела!

Не! Салавей
Не шчоўкаў: цёх ды цёх! —
Шаптала штосьці бадыллё на вуха.
І сок з ігрушы крутабокай цёк
Пад ногі мне сапраўднай
Медавухай!

## БУДАЎНІЧЫ БАТАЛЬЁН

1

Напэўна, болей,
Чымсьці ў сотню рук,
Дзе вуліца паслалася прамая,
Рабыя робы у пярэсты брук
Пясчаны пляц увішна
Апранаюць.

Без стуку,
Па-каменнаму маўчком,
З ачэсанымі роўнымі бакамі,
Да плечука кладуцца плечуком,
Як чарапахі, каля камняў
Камні.

Каб плошча
Вока цешыла штодзень
І стала лепшай плошчай-харашуляй,
Стараецца будбат яе адзець
У сінюю каменную
Кашулю.

2

Па камню ўдарыць
Пешні востры клык, —
Увойдзе ён у дол ці стане рубам?
Ваенны батальён, ты — будаўнік!
А я ў юнацтве стаўся
Лесарубам.

Ды і цяпер
Не кіну шкадаваць,
Што не для стадыёна, не для пляжа, —
Ажно да мора Лапцевых, відаць,
Тайгу сякерай і валіў
І пляжыў.

3

Грымець і біць бы
Ў рэйку ці набат,
Каб горад знаў і пра тваю правінку, —
Ты засцілаеш так зямлю, будбат, —
Не вылезе з-пад камня
І травінка!

У горле
Перасядзе даўкі ком, —
Калі амаль да чуйных сцен Кітая
Жалезны мамант залатым катком
Гудрон да камняў прытна
Прыкатае.

З акна зірну
З наіўнасцю святой,
Дзе ліхтары вісяць, нібы вароны, —
Як пад нямой магільнаю плітой,
Маўчыць зацята плошча
Пад гудронам.

## РАЗДАРОЖЖА

1

Хаця і рос ты,
Гледзячы на лес,
Каціў перад сабой бядот калоддзе, —
Ды грэбень веку ледзьве пералез,
Каб дзесь на ўскрайку жыць
Тысячагоддзя.

А з чым прыйшоў,
І што з сабой прынёс
Добраахвотна сам, а не з-пад палкі?
Магчыма, толькі дым ад папярос,
Ды дзве ці тры шчарбатыя
Запалкі?

Я ў новы час
Не быў праваднікам
І не вучыў, як выбірацца з дому, —
З уранавым і дымным руднікам,
А ці з бяздоннай шахтаю
І домнай.

Бо кожны з нас
Быў гэткі багацей,
Што ў патаемным месцы, за палічкай,
Меў у запасе — хіба не лацвей! —
Заместа домны толькі
Запальнічку.

А што яшчэ
Мы ўзяць з сабой маглі,
Калі б раздзелі блізкіх і разулі,
Хіба што абгарэлыя вуглы, —
Надпрыпяцкі задымлены
Везувій?

**2**

Хоць сціртi спрэс
Перавярні аблок, —
Дзе знойдзеш ты вар'ята а ці дурня? —
Каму патрэбны ён, чацвёрты блок,
З Чарнобыльскай жахлівай
Смалакурняй!

Ён сажай
І легендамі аброс,
Не чуючы, як крыллем б'е цяцерка.
А дзе той чорт, што нам яго паднёс
І выпусціў з нязнанай
Табакеркі?!

Не будзем
Па-цыганску варажыць,
Хто вінаваты больш — Масква ці Кіеў.
Каб прысак гаркаты не варушыць,
Лепш там яго, ў мінулым,
І пакінем!

Ці не таму,
Майстры і партачы,
Для нас замест  АЭС — зямнога змея —
Лепш ступу мець, каб крупы ў ёй таўчы,
Ды жорны тыя, што і камень
Змелюць.

Ад спёкі, гляньце,
Спрэс быльнёг пажух,
Паўзе на чацвярэньках ён да студні...
Хмурына расшпіліла вунь кажух,
І — снегам грудзі мне
І долу студзіць!

▸ ЯГОР КОНЕЎ

# АМЕРЫКАНСКАЯ АДЫСЕЯ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ[1]

## *Аповесць*

* * *

Вашынгтон узгадаў пра Касцюшку адразу ж, як прыехаў ганец з Ньюпарта і прывёз пасланне камандуючага французскім экспедыцыйным корпусам: генерал-лейтэнант Рашамбо пагадзіўся злучыцца з кантынентальнай арміяй. Вашынгтон цяпер меў падставы напісаць у Кангрэс, быццам камандуе саюзнымі войскамі.

Па дарозе ў Вест-Пойнт Касцюшка сустрэў кантынентальную армію на маршы і далучыўся да яе.

Сустрэча амерыканскай і французскай армій адбылася ў полі ля гарадка Добс-Фэры, недалёка ад Манхэтэна. Там адбыўся ўрачысты парад, на якім брудныя амерыканцы ў абшарпаных кашулях выглядалі бандай галаварэзаў побач з французскімі жаўнерамі, апранутымі ў чыстыя белыя мундзіры. Французскія шыхты маршыравалі роўным крокам — да сораму янкі, якія праз сто ярдаў наогул збіліся з тэмпу.

Пасля парада Вашынгтон запрасіў французскіх гасцей у свой намёт на банкет. Амерыканскім афіцэрам пачастунак падаўся па-каралеўску шчодрым. Французскія ж арыстакраты круцілі носам перад талеркамі са смуроднай вяндлінай і неміласэрна палітымі воцатам саламі, неахвотна цадзілі кіслае віно.

Камандуючы Рашамбо пакпіў:

— У Францыі жабракі харчуюцца лепей. Відаць, янкі знарок сілкуюцца такім брыдоццем, каб мець лёгкі страўнік. З лёгкім страўнікам лягчэй уцякаць ад ростбіфаў.

— Наша армія — сур'ёзная сіла! — пакрыўдзіўся Вашынгтон.

І павёў генерал-лейтэнанта інспектаваць амерыканскі лагер.

Экскурсія пераканала Рашамбо — выйграць гэтую вайну можна толькі тады, калі янкі не перашкодзяць! Бо хіба можна назваць лагерам гэтае смуроднае зборышча дзіравых намётаў, насельнікі якіх сноўдалі ў лахманах і спаражняліся на ўзбоччы дарогі, па якой ішлі генералы?!

---

[1] Заканчэнне. Пачатак у № 10, 2004.

Прыкладваючы да носа хусцінку, змочаную адэкалонам, Рашамбо скептычна пераміргваўся з афіцэрамі світы — дзіўных саюзнікаў абраў сабе кароль Людовік!

— Наша армія налічвае 13 тысяч жаўнераў, а хутка далучацца 16 тысяч апалчэнцаў! — з імпэтам заявіў Вашынгтон.

Насамрэч яго армія скарацілася да 6 тысяч чалавек і падмацаванняў не прадбачылася — ніхто не ішоў у апалчэнне, большасць амерыканцаў лічыла вайну з Брытаніяй прайгранай.

Агледзеўшы лагер, Рашамбо цвёрда заявіў:

— Штурмаваць добра ўмацаваны Нью-Йорк з такім войскам — самагубства! Бітвы за Нью-Йорк не будзе! Мой корпус ідзе на поўдзень. Там цяплей, і правіянт здабыць лягчэй.

— А як жа ваш саюзніцкі абавязак?! — абурыўся Вашынгтон.

— Я цвяроза ацэньваю сітуацыю, — запярэчыў Рашамбо. — Брытанскія сілы ў Амерыцы падзелены на тры часткі. Корпус Клінтана бароніць Нью-Йорк, Карнваліса — Йорктаўн, дывізія Сміта — Чарлстан. Йорктаўн прастрэльваецца з мора. Туды ўжо плыве эскадра адмірала дэ Граса, вязе асадную артылерыю і боепрыпасы. Хочаце перамогі — далучайцеся да мяне...

Вашынгтон памаўчаў дзеля прыліку і паважна сказаў:

— Эскадра дэ Граса — істотны аргумент на карысць вашага плана. Але я настойваю, каб камандаванне аб'яднанымі арміямі засталося за мной. І гэта трэба засведчыць ва ўсіх рэляцыях!

Рашамбо пацiснуў плячыма:

— Няма пярэчанняў. Толькі не замінайце мне.

— Дык паспяшаемся на поўдзень! — бадзёра ўсклікнуў Вашынгтон.

* * *

За тры тыдні дзве арміі прайшлі больш за тысячу міль.

Касцюшка падчас маршу кіраваў узвядзеннем пераправаў.

Тая выправа запомнілася яму невыноснай спякотай. Ветру — ні подыху. Палкі крочылі між выпаленых сонцам плантацый і перасохлых балот, уздымаючы пыл ботамі, капытамі коней, коламі павозак і гармат. Гарачы пыл уядаўся ў вопратку, у скуру, у валасы.

Сонца ўставала і садзілася ў бураватай смузе. Праз хмары пылу на яго можна было глядзець няўзброеным вокам. Касцюшку падавалася — барвовая міса вісіць над бязлесымі раўнінамі, сноўдаецца па нябесным скляпенні, шукае ўстойлівае месца і ніяк не знойдзе. Хіба і сам ён не сноўдае гэтак жа па свеце, шукае сваё шчасце? Ці знойдзе?..

Калі траляліся па дарозе гарадкі або фермы, амерыканскія і французскія авангарды імкнуліся першымі захапіць калодзежы. Бойка ішла адчайная — прыкладамі, штыкамі. Афіцэры ледзьве ўтрымлівалі шарагоўцаў ад страляніны. Да падыходу ар'ергардаў вада ў калодзежах была ўжо вычарпана да глею.

Калі ж трапляліся азёры, сажалкі або рэчкі, жаўнеры, не зважаючы на вокрыкі і лаянку камандзіраў, распраналіся, кідалі зброю і плёхаліся ў вадзе, пакуль не падыходзіў наступны полк і не вытурваў прэч шчаслівых папярэднікаў. Ар'ергардам і тут даставалася не вада, а каламуць — яна папраўдзе ўжо не адрознівалася ад мулу.

Ад спякоты ў Касцюшкі невыносна балела галава. Дзякаваць Богу, клапатлівы ардынарац штодня нейкім чынам здабываў камандзіру вядро больш-менш чыстай вады. Тадэвуш адыходзіў за хмызняк, распранаўся і з асалодай абліваўся, а Марцін цішком назіраў за ім.

Цяжка пераносіў спёку і Зюзя — не мог доўга бегчы за канём гаспадара. Дык Тадэвуш клаў яго упоперак сядла — так і ехалі. Сабака цяжка дыхаў, высалапіўшы язык і нервова торгаючы вушамі...

10 верасня саюзныя арміі дапялі да Йорктаўна і ўзялі горад у аблогу. А ў затоцы ўжо бялеліся ветразі эскадры адмірала дэ Граса.

17 верасня Касцюшка ў світе галоўнакамандуючага падняўся на борт 110-гарматнага французскага флагмана «Парыж» — самага буйнога ў той час карабля ў свеце. Госці былі ашаломлены і аглушаны знакамі пашаны — халастымі залпамі гарматаў і музыкай аркестра. Тоўсты гігант дэ Грас абняў Вашынгтона і закрычаў, абдаючы ўсіх наўкол вінным перагарам:

— Вось і ты, мой дарагі генералік!

Французскія афіцэры засмяяліся, амерыканскія — збялелі, збянтэжаныя непачцівым стаўленнем да іхняга галоўнакамандуючага.

Вашынгтон вырваўся з абдымкаў бесцырымоннага марака:

— Сэр, вы абражаеце гонар Злучаных Штатаў!

— Калі б Людовік XV не страціў гэтыя землі ў Сямігадовай вайне, сёння вы і не думалі б пра незалежнасць! — выказаў свой погляд на амерыканскую гісторыю адмірал.

На тым працэдура знаёмства і скончылася.

Госці перайшлі ў адміральскую каюту, дзе адбыўся ваенны савет. Французскія афіцэры, водзячы ўказкамі па мапах, жвава сыпалі спецыяльнымі тэрмінамі. Вашынгтон нічога не зразумеў з іх тлумачэнняў, але з глыбакадумным выглядам ухваліў усе прапановы.

Калі плылі ў шлюпцы да берага, Касцюшка — адзіны з амерыканскіх афіцэраў, які разумеў, пра што ішла гаворка, — растлумачыў яму сутнасць французскага фартыфікацыйнага плана. Галоўнакамандуючы задаволена кіўнуў:

— Няхай жабнікі вырашаюць тактычныя пытанні — як узяць горад. А я вырашу стратэгічнае — якім чынам інфармаваць Кангрэс. Калі нас разаб'юць — гэта будзе параза французаў. Калі авалодаем Йорктаўнам — гэта будзе наша перамога!..

Неспадзявана на небакраі ўзніклі брытанскія ветразі — эскадра адмірала Грэйса намагалася заблакаваць французскі флот, падтрымаць абложанага Карнваліса.

Вашынгтон запанікаваў і стаў падумваць пра адступленне.

Ды знянацку наляцеў шторм — пашкуматаў варожыя фрэгаты і амаль не зачапіў французскіх, якія схаваліся ў ціхай затоцы. Грэйс сплыў назад у Нью-Йорк — чакаць, пакуль супакоіцца акіян.

Між тым у лагерах саюзнікаў з-за благой ежы і бруднай вады распаўсюдзілася дызентэрыя — тагачасныя эскулапы называлі яе «лагернай ліхаманкай». Санітары не лячылі хворых, бо бракавала медыкаментаў, адно суцяшалі размовамі на духоўныя тэмы: маўляў, ад дызентэрыі ўратуе толькі Боская літасць.

І хаця дызентэрыяй хварэў кожны пяты жаўнер, гэта не перашкодзіла саюзнікам прыступіць да поўнамаштабнай аблогі.

* * *

9 кастрычніка сапёры пад кіраўніцтвам Касцюшкі выкапалі першую паралель — за 500 футаў ад брытанскіх ліній. У траншэі зацягнулі гарматы. Прыйшоў галоўнакамандуючы — яму належала зрабіць першы стрэл. Вашынгтон паднёс запалены агонь да кнота — са ствала грымнула ядро, узарвалася побач з варожым рэдутам. З таго моманту артылерыйскія выбухі грымелі амаль безупынна.

11 кастрычніка праклалі другую паралель — за 350 футаў ад брытанскіх пазіцый. Цяпер гарматы пасыпалі ядрамі не толькі кожную вуліцу ў горадзе, але і кожны карабель у порце.

Убачыўшы з вокан сваёй штаб-кватэры пажар у бухце, полымя якога сягала вышэй карабельных мачтаў і паглынала будынкі складаў, лорд Карнваліс як скамянеў. Ніякіх загадаў не аддаваў, адно сядзеў у крэсле і разгублена пазіраў на агонь, які ўспыхваў у розных кварталах горада.

Гарматную дуэль брытанцы прайгралі — на дзесяць французскіх і амерыканскіх гармат даводзілася адна англійская. Гарнізон Йорктаўна меў удосталь прыпасаў, харчу, вады, пораху, зброі ды амуніцыі. Але не меў надзеі на прарыў аблогі: 8 тысяч брытанцаў і гесенцаў не бачылі шанцаў супраць 17 тысяч саюзнікаў.

Карнваліс разлічваў на дапамогу Клінтана. Уратаваў жа яго Клінтан, калі Карнваліса аблажылі ў форце Найці-Сікс! Але цяпер Клінтан марудзіў, не спяшаўся пакінуць Нью-Йорк — чакаў падмацунку з метраполіі. А між тым Йорктаўн ператвараўся ў папялішча: амаль усе драўляныя дамы згарэлі, мураваныя былі разбураны, а смяротны дождж ядраў не спыняўся. Штодня корпус Карнваліса страчваў забітымі дзясяткі чалавек.

Ядро, якое разбурыла сцяну яго пакоя, вывела брытанскага лорда са здранцвення. Карнваліс зрабіў адчайную спробу ўратавацца — загадаў сабраць ў порце ўсе лодкі, пасадзіць у іх жаўнераў, пераплыць на супрацьлеглы бераг затокі ды ўцякаць ад саюзнікаў пехам.

Аднак усе планы зноў сапсаваў нечаканы акіянскі шторм. Высокія хвалі на трэскі разбілі аб прычалы падрыхтаваныя для пераправы лодкі. Бура падалася Карнвалісу праявай Боскага гневу.

— За што нябёсы караюць нас?! — енчыў лорд на ваенным савеце.

І зноў на працяглы час змоўк, амярцвеў, знерухомеў.

15 кастрычніка амерыканскія і французскія батальёны лёгкай пяхоты ўзялі штурмам брытанскі рэдут на ўскраіне Йорктаўна.

Ядро прабіла дах у штаб-кватэры Карнваліся. Выбух другі раз вывеў лорда з прастрацыі. Пазіраючы на разбураныя столь і сцяну, Карнваліс у адчаі абвясціў сваім афіцэрам:

— Пара заканчваць гэтую бойню. Ніштo нас не ўратуе...

Ён не ведаў, што з Нью-Йорка плыве яму на дапамогу буйная эскадра — нарэшце шторм у Атлантыцы аціхнуў.

17 кастрычніка да Вашынгтона прыйшлі парламенцёры — дамаўляцца аб умовах капітуляцыі. Стары Ліс не зацягваў перамовы, абяцаў палонным лепшыя ўмовы абыходжання і прызначыў цырымонію капітуляцыі на паслязаўтра.

19 кастрычніка неба расчысцілася ад хмар, і яго блакіт, якога не бачылі колькі тыдняў, падаўся на дзіва бліскучым.

Уздоўж дарогі ад саюзнага лагера да Йорктаўна выстраіліся армейскія шыхты — амерыканцы з левага боку, французы з правага.

Напрыканцы гэтага 17-тысячнага калідора ў атачэнні світы стаялі верхам на конях Вашынгтон і Рашамбо.

Апоўдні паказаліся дзве калоны: брытанцы, за імі — гесенцы. Парадныя чырвоныя мундзіры пераможаных, з надраенымі да бляску гузікамі, выглядалі шыкоўнымі побач з бруднай вопраткай янкі-пераможцаў. Зайграў англійскі аркестр: загрукаталі барабаны, пранізлівыя валынкі выводзілі мелодыю «Свет перакуліўся дагары нагамі!» Амерыканскі грымнуў «Янкі дудль». Пад гукі гэтай какафоніі амерыканскія жаўнеры скалілі зубы, крывіліся, прыскоквалі, пагражалі палонным ружжамі. Дык Карнваліс загадаў падначаленым:

— Зважай направа!..

І брытанцы пайшлі, пазіраючы на французаў. Брытанцы дэманстравалі, што капітулююць перад цывілізаванай еўрапейскай арміяй, а не перад зграяй абарванцаў-малпаў.

Вечарам Вашынгтон даў банкет у гонар камандавання трох армій. Англійскія і французскія афіцэры, аб'яднаныя духам армій законных манархаў, добразычліва паляпвалі адзін аднаго па плячы. Амерыканцы ж трымаліся асобна.

Вашынгтон спытаў у Рашамбо, які куляў келіх за келіхам:

— Ці не пачаць нам цяпер аблогу Нью-Йорка?

— Узімку трэба адпачываць, — адмовіўся генерал-лейтэнант. — Мы атабарымся на зімовыя кватэры ў Вірджыніі. Тутэйшае насельніцтва нас любіць, бо мы плацім золатам, а не доларамі...

Назаўтра ля Йорктаўна з'явіўся брытанскі флот. Убачыўшы, аднак, што спазніўся, адмірал Грэйс зноў павярнуў у Нью-Йорк.

* * *

У лістападзе Вашынгтон паехаў у Філадэльфію, прыхапіўшы з сабой вялікую світу, у тым ліку і галоўнага інжынера.

Галоўнакамандуючы хацеў пераканаць Кангрэс, што неабходна павялічыць фінансаванне арміі. Ён баяўся, што кангрэсмены пераацэняць поспех пад Йорктаўнам, вырашаць, быццам вайна выйграна, і залягуць у дрымоту будзённасці. А між тым вораг па-ранейшаму быў моцны!

У філадэльфійскіх храмах штодня на імшы дзякавалі Усявышняму за перамогу пад Йорктаўнам. Штовечар неба над горадам расфарбоўвалі салюты і феерверкі — пораху на іх затрацілі больш, чым пры аблозе Йорктаўна. Кожны паважаны банкір імкнуўся залучыць на банкет Вашынгтона са світай і ашаламіць раскошай.

Кангрэс атрымаў пазыку ў 6 мільёнаў луідораў ад Францыі і абвясціў, што Канфедэрацыя больш не з'яўляецца банкрутам.

Парламенцкая асамблея Вірджыніі, дзеля жарту, дэкрэтам прызначыла новыя нацыянальныя святы — Дзень Шакаладу, Дзень Дзівакоў, Дзень Кошкі, Дзень Пудынгу і Дзень Эклера. Кожны сумленны амерыканец абавязваўся 17 лістапада пачаставаць кубкам гарачага шакаладу суседа, 10 студзеня — апрануцца ў маскарадны касцюм і чапляцца да прахожых на вуліцы, 1 мая — абмяняцца рэцэптамі хлебнага пудынгу з суседам, 27 красавіка — пакарміць і прылашчыць першую кошку, якую сустрэне на вуліцы, 22 чэрвеня — з'есці пудынг з марцыпанамі. Губернатар Вірджыніі Томас Джэферсан са смехам падпісаў гэты дэкрэт. І ніхто не прадбачыў, што наступныя два стагоддзі ўся Амерыка будзе дбайна адзначаць гэтыя святы.

Вашынгтон звярнуўся да Кангрэса з просьбай хутчэй сплаціць вайскоўцам запазычанае жалаванне. Аднак заканадаўцы вырашылі, што куды важней збудаваць мармуровую калону з надпісам, які распавядзе пра векапомную аблогу Йорктаўна.

Калону за пару тыдняў ўзвялі на плошчы перад ратушай, дзе пяць гадоў таму Касцюшка бачыў намаляваны плакат — на ім тады дзёрзкі амерыканскі арол, сімвал свабоды, біўся з брыдкай пачварынай, сімвалам Брытанскай імперыі. Цяпер жа ў свіце галоўнакамандуючага Касцюшка прысутнічаў на ўрачыстым адкрыцці калоны, і яго зноў уразіў арол — жалезны, на вяршыні калоны.

Закінуўшы галаву, Тадэвуш пазіраў на велічную птушку, якая, распасцёршы крылы, учарэпілася ў мармур буйнымі кіпцюрамі. Надта грозным падаўся яму новы сімвал краіны. Падумалася — Злучаныя Штаты ствараліся па ўзоры Рымскай Рэспублікі, аднак ужо нагадваюць Рымскую Імперыю! Пакуль Амерыка не абараніла незалежнасць, а цень крылаў яе арла ўжо над светам!

Тадэвуш апусціў галаву, паглядзеў на пячатку свайго сыгнета, на выяву срэбнага арла, і сказаў старому сябру: «Той арол, што быў на плакаце, падабаўся мне больш...»

Па вечарах у вокнах дамоў высвечваліся выразаныя з паперы алегорыі — іх героем быў Джордж Вашынгтон, які, з каронай на галаве, перамагаў мячом пачварыну. Праязджаючы па вуліцы, галоўнакамандуючы сарамліва адводзіў вочы ад тых алегорый.

У гарадскім тэатры на прадстаўленні п'есы Гарыка «Ілжывы слуга» галоўнакамандуючы замуляўся ў гасцявой ложы, калі акцёры перапынілі дзеянне і прачыталі нудотную оду, у якой услаўляўся «ўвянчаны перамогай ваяўнічы сын Калумбіі, бліскучы Вашынгтон», абаронца «новых Афінаў на Захадзе».

Амаль такімі ж эпітэтамі ўхвалялі галоўнакамандуючага і ў Кангрэсе, куды ён прыйшоў на пасяджэнне.

Аднак заканадаўцы не павялічылі асігнаванні на ваенную кампанію, бо атрымалі звесткі з Нью-Йорка — за паразу пад Йорктаўнам камандуючы Клінтан адкліканы ў метраполію. Кангрэсмены меркавалі, што вайна цяпер скончыцца. Гарматы сваё адгаварылі, слова за дыпламатамі! Пара, маўляў, распускаць кантынентальную армію!

Ды не ведалі кангрэсмены, што пераемнік Клінтана — генерал Карлтан — меў загад урада Яго Вялікасці ўтрымаць за каронай хаця б паўднёвыя штаты. І Карлтан меў падставы для спадзеву, бо дывізія генерала Сміта надзейна ўтрымлівала Чарлстан — буйнейшы горад Амерыканскага Поўдня.

* * *

Як звычайна, у Філадэльфіі Касцюшка кватараваў у доме Ханса Эванса. Гаспадар перадаў яму канверт, сказаўшы:

— Вам ліст з Еўропы. Даўно вас чакае.

У Тадэвуша задрыжэлі рукі, калі ўзяў канверт. Ад каго пасланне? Ад брата? Ад сясцёр? Не забылі яго на Бацькаўшчыне!

Сышоў у свой пакой і распячатаў канверт.

Ліст быў ад Людвікі, княгіні Любамірскай.

Прачытаўшы яго, Касцюшка не мог заснуць да світанку. Сядзеў на ложку і здранцвела глядзеў на запаленую свечку. Неаднойчы пера-

чытваў радкі: «Думкай я імкнуся да цябе, любы Тадэ. Як мая душа была з табой, так маё сэрца і цяпер належыць табе, і толькі цела я аддала князю. Я сказала яму гэта перад вянчаннем, а табе кажу пасля вяселля. І хачу запэўніць, што сэрцам я нязменна і да труны твая...»

Ліст быў датаваны 5 мая 1781 года. Месяц ішоў з Валыні да французскага Брэста, два месяцы плыў праз Атлантыку, тры месяцы чакаў у Філадэльфіі. А колькі часу Людвіка выношвала намер напісаць яго! Самой напісаць мужчыну! Па ліцвінскіх мерках — праява надзвычайнай распусты! Ды, відаць, такая туга накаціла на сэрца Людвікі, што ўзяла ў рукі пяро — каб падзяліцца расчараваннем.

І рэхам выклікала востры боль у Касцюшкавым сэрцы! Яму лягчэй было думаць, што Людвіка пакахала князя Любамірскага, адкрыла ў ім годныя духоўныя якасці, што іх дзеці — плён узаемнасці і пяшчоты. Аказалася ж, кахае Тадэвуша, а дзяцей нараджае Міхаілу. Ну, як зразумець жаночую логіку?!.

Боль, несуцешны, пякучы боль! За тысячы міль ад Айчыны думкі аб няспраўджаным каханні падаліся невыноснымі!

Тадэвушу захацелася напіцца — абы не думаць пра Людвіку. Сядзеў і чакаў раніцы, каб пайсці ў партовы шынок.

Але на світанку да яго завітаў Аляксандр Гамільтан і перадаў загад галоўнакамандуючага — тэрмінова пакінуць Філадэльфію.

Касцюшка маланкава апрануўся, сунуў ліст Людвікі ў кішэню мундзіра, развітаўся з гаспадаром і разам з Гамільтанам выйшаў з дома. Па дарозе разважаў: «Бог літасцівы, знайшоў мне працу. Калі б не было чым заняцца — звар'яцеў бы ад роспачы!..»

Расчараваны правалам сваёй місіі, але ўтойваючы крыўду ад кангрэсменаў, да якіх ставіўся як да неразумных дзяцей, Вашынгтон з'ехаў перад Калядамі ў лагер каля гарадка Ньюберы пад Нью-Йоркам — сюды прыйшла зімаваць яго армія.

Пад кіраўніцтвам Касцюшкі лагер хутка абсталявалі: збудавалі дамы для афіцэраў, склады і казармы.

Ды палова казармаў пуставала. Ледзьве жаўнеры і апалчэнцы пачулі, што галоўнакамандуючы сам не ведае, калі Кангрэс сплаціць ім запазычаны заробак, многія пасыходзілі з лагера. Кантынентальная армія скарацілася да 3 тысяч чалавек.

Афіцэраў жа менш турбавала масавае дэзерцірства, чым няпэўная будучыня. Аляксандр Гамільтан шчыра прызнаўся Касцюшку падчас каляднай святочнай вячэры:

— Што з намі будзе, калі вайна скончыцца? Мы ж нічога больш не ўмеем, акрамя як ваяваць...

Касцюшка і сам не ўяўляў, што будзе далей.

Ды не верылася яму, быццам вайна хутка скончыцца. Выява срэбнага арла на яго сыгнеце нібыта папярэджвала: будуць новыя бітвы, новыя перажыванні, новыя здзяйсненні...

## 1782 год

Палкоўнік Гамільтан хваляваўся дарма. Амерыканскія, брытанскія і французскія дыпламаты, якія вялі перамовы ў Парыжы, не знаходзілі паразумення. Амерыканцы патрабавалі, каб прызналі іх су-

верэнітэт. Брытанцы пагаджаліся на статус дамініёна — не больш. А французы наогул патрабавалі сабе Канаду.

А ў Амерыцы тым часам арміі Вашынгтона і Карлтана займалі ўмацаваныя пазіцыі пад Нью-Йоркам, чакалі навінаў з Еўропы.

Для галоўнага інжынера арміі справы не знаходзілася, таму Тадэвуш, каб з карысцю бавіць вольны час, узяў пачытаць у Гамільтана «Артыкулы Канфедэрацыі» — першую Канстытуцыю Злучаных Штатаў, ратыфікаваную Кангрэсам чатыры гады таму.

Прачытаўшы «Артыкулы», адчуў сумнеў — ці доўга праіснуе краіна з такой дэцэнтралізаванай уладай? Канстытуцыя клапацілася пра суверэнітэт кожнага штата, а Кангрэсу пакідала прывід улады. Кангрэс меў армію, але ваенны бюджэт складаўся з узносаў штатаў.

Амерыканскую Канфедэрацыю, разважаў Тадэвуш, знітоўваў страх перад брытанцамі. Але цяпер пагроза англійскай акупацыі адыходзіла ў мінулае. Паміж трынаццацю штатамі заставалася адзіная сувязь — фінансавыя абавязкі Кангрэса, які пакінуў на руках тысяч людзей стосы сертыфікатаў і распісак. Залежнасць ад гэтых паперак, надзея атрымаць за іх грошы яднала фермераў, якім тыцкалі сертыфікаты фуражыры, забіраючы сена і харч, банкіраў, якія неабдумана адкрылі крэдыт Кангрэсу, жаўнераў і апалчэнцаў, якім выплачвалі жалаванне распіскамі, фінансістаў, якія скупілі сертыфікаты ў фермераў і вайскоўцаў за бесцань і хацелі, каб Кангрэс разлічыўся з імі па поўнай цане. Сквапнасць і разлік, меркаваў Касцюшка, згуртуюць амерыканцаў у нацыю, але не ўтвораць паўнавартасную дзяржаву!

Гартаючы старонкі па-мудрагельску напісаных раздзелаў, Тадэвуш марыў — а раптам і ён калісьці складзе Канстытуцыю? Ды не абы-дзе, а на Бацькаўшчыне!.. А раптам кароль даручыць яму здзейсніць вайсковую рэформу? Чаму б і не? Баявога вопыту ў яго болей, чым у генералаў Рэчы Паспалітай разам узятых!..

А між тым на нядзельных афіцэрскіх зборах у ньюберскім пратэстанцкім храме ўсё часцей гучалі трывожныя прамовы. Маўляў, Кангрэс і раней затрымліваў грошы вайскоўцам, у часы смяротнай пагрозы для Канфедэрацыі. Цяпер жа армію распусцяць, і яны вернуцца дадому жабракамі. І хто, маўляў, нагадае распусным заканадаўцам пра нясплачаны заробак? Хто прымусіць іх плаціць пенсіі? Сумленне? Грамадзянскі абавязак? Страх Боскі, дый годзе!

Ад такіх размоў Касцюшку ахоплівала туга. Увачавідкі паўставала незайздросная перспектыва — пакінуць Новы Свет тым жабраком, якім прыплыў сюды, пакутаваць ад думкі, што лепшыя гады ахвяраваў барацьбе за свабоду краіны, урад якой аказаўся няўдзячным.

Галоўнакамандуючага непакоіў такі настрой афіцэраў, і ён ліхаманкава шукаў, чым бы заняць падначаленых. Слушна мяркуючы, што сум спараджае гультайства, ён распарадзіўся, каб на прылеглым да лагера полі праводзіліся шыхтовыя практыкаванні. Пад музыку аркестра палкі штодня старанна грукалі ботамі. Таксама дзеля «павышэння маралі» вайскоўцам прадпісвалася наведваць рэлігійныя службы ў храме, а ў нядзелю — танцы, якія адбываліся там жа.

Касцюшка, дзеля жарту, прапанаваў Вашынгтону:

— На маёй Бацькаўшчыне, ваша светласць, у лютым святкуюць Дзень Святога Валянціна. Каханыя дораць адзін аднаму выразаныя з

пурпуровай тканіны сэрцайкі. Чаму б і нам не зрабіць тое ж самае? На складзе маецца пурпуровая тканіна. Назавём сэрцайкі «значкамі за заслугі». Будзем заахвочваць імі тых, хто старанна маршыруе. Вядома, чырвонае сэрцайка — драбяза, але і такая ўзнагарода падбадзёрыць!

Вашынгтону прапанова спадабалася. На працягу лютага ён загадаў узнагародзіць колькі сотняў жаўнераў пурпуровымі сэрцайкамі, якія прышываліся на мундзіры. Пакрысе пра «значок за заслугі» забыліся. І ніяк не прадбачыў Касцюшка, што ягоную забаўку, «значок», праз паўтара стагоддзя раптам узгадаюць і адродзяць як адзін з ганаровых баявых ордэнаў Амерыкі — «Пурпуровае сэрца»...

У адрозненне ад папярэдніх зімовак, калі армія гібела ад голаду і нястачы, у Ньюберы вайскоўцы не елі мяса здохлых коней — дастаўку правіянту нарэшце наладзілі. Аднак ад сытасці яшчэ больш расла азлобленасць сярод афіцэраў — яны з жахам думалі пра дэмабілізацыю, пасля якой пачнуцца прыніжальныя для гонару пошукі акрайца хлеба.

У красавіку палкоўнік Гамільтан запытаў у Касцюшкі:

— Ці не думаеце, Тэд, што прыспеў час прад'явіць свае законныя патрабаванні Кангрэсу? У нашых руках — меч...

Тадэвуш паціснуў плячыма. Яго думкі сягалі ў іншых сферах. Гэтай вясной ім авалодаў невыносны сум па Бацькаўшчыне. Так захацелася вярнуцца ў Сяхновічы! Ён часта бачыў у сне, як расцвітаюць вішні ў садзе, як паважна ходзіць грак між дрэў, як кружаць над калючым асотам пчолы, як цвітуць жоўтыя дзьмухаўцы, прaразаюцца на градках гародчыка стрэлкі цыбулі, шчэміцца між жардзінамі плота крапіва... Колькі ён ужо не быў дома? Сем гадоў!

— Лёс навучыў мяне цярплівасці, Аляксандр, — адказаў Касцюшка. — Варункі жыцця — за межамі нашага розуму. Мы толькі пазней спасцігаем, што выпрабаванні пасылаліся нам нездарма. Дык варта не азлабляцца, не кідаць выклік наканаванню, а набрацца цярплівасці і памятаць — мы не маем улады над сваім лёсам.

— Памыляецеся, Тэд! Нашу будучыню вызначаюць акурат нашы ўчынкі! — даводзіў сваё Гамільтан. — І трэба змагацца за дабрабыт, каб не аказацца банкрутам напрыканцы жыццёвага шляху!

Касцюшка ўсміхнуўся і суцешыў яго:

— Упэўнены, вы будзеце выдатны міністр фінансаў... А я не забудуся пра свой афіцэрскі абавязак і ні пры якіх умовах не парушу дысцыпліны. І вам таго ж зычу...

У маі ўзбунтаваўся полк, расквартараваны за дзесяць міль ад Ньюберы. Мяцежнікі патрабавалі заробак, які ім не плацілі ўжо два гады. Бунт падавілі ў той жа дзень — начальства запрасіла завадатараў на перамовы, а калі тыя прыйшлі, іх расстралялі на месцы.

На зборы афіцэраў Аляксандр Гамільтан сказаў з гэтай нагоды:

— Паўстанне мае шанц на поспех толькі тады, калі яго ўзначаляць генералы. Дык чаму б, сябры, не падумаць пра усталяванне манархіі? Хіба не можа стаць каралём вольнай Амерыкі Джордж Першы?

Многім афіцэрам — звычайна ў храме збіралася каля сміСот чалавек — Гамільтанава прапанова прыйшлася даспадобы.

Пачуліся выкрыкі з месцаў: хіба дэмакратыя, маўляў, не засведчыла сваю заганнасць?! Сем гадоў Канфедэрацыя выпрабоўвалася кры-

вёй і агнём, а ўрэшце апынулася ў становішчы, горш за якое і не прыдумаеш! Пры рэспубліканскім ладзе добра жывуць толькі бессаромныя махляры! Няхай жа дэмакратыю зменіць больш дасканалы лад, уласцівы цывілізаваным краінам Еўропы, — манархія! На трон Амерыканскай імперыі — адзінага сумленнага чалавека на кантыненце — Джорджа Вашынгтона! Кароль Джордж аплаціць усе запазычанасці!

Касцюшка не ўседзеў на лаве, закрычаў:

— Манархія — заганны лад! Наша Рэч Паспалітая гіне з-за таго, што манархам аказаўся слабавольны чалавек! Імператарская ўлада загубіла Рым! А вы хочаце загубіць новы Рым, які яшчэ і не збудаваны як след? Вопыт Амерыканскай Рэспублікі занадта кароткі, каб рабіць сур'ёзныя высновы! Лепей умацоўваць дэмакратычную ўладу, чым спадзявацца на асабістыя якасці яго светласці! Пераемнікі добрага караля Джорджа могуць аказацца тыранамі!

— Вось і вяртайцеся ў сваю Польшчу ды змагайцеся там за дэмакратыю! — укалоў Гамільтан. — А за нас не хвалюйцеся. Амерыка — для амерыканцаў, сэр!

Тадэвуш пакрыўдзіўся — ажно рукі задрыжэлі.

— А я думаў, Амерыка — агульны дом для ўсіх, хто шануе свабоду!.. А я, між іншым, нарадзіўся ліцвінам! — і пакінуў храм.

* * *

Галоўнакамандуючаму штодня паступалі спакуслівыя прапановы — усталяваць дыктатуру, абвясціць сябе манархам. Падтрымку гарантавалі не толькі афіцэры і генералы, але і гандлёвыя дамы, буйнейшыя банкі ўсіх штатаў.

Ды Вашынгтон адмоўчваўся, здзіўляўся: няўжо не разумеюць, што дыктатура для яго — пастка, мяжа, за якой — адзінота і разбэшчанасць, душэўныя пакуты і боль, нянавісць падданых і страх расплаты?! Няўжо не могуць дапяць, што самаму папулярнаму ў Амерыцы чалавеку, Бацьку Нацыі, не патрэбна неабмежаваная ўлада?

Каб не спараджаць больш крыватолкаў, Вашынгтон напісаў афіцэрам арміі ліст, які загадаў агучыць на зборы.

Касцюшка прысутнічаў у храме, калі зачытвалі той ліст.

— «...Запэўніваю Вас, джэнтльмены, ніводная падзея за ўсю вайну не прычыніла мне столькі болю, як існаванне ў арміі такіх поглядаў, што выклікаюць у мяне агіду і самы суровы дакор. Дык заклінаю Вас, калі маеце хоць кроплю любові да радзімы, клопату пра сябе і нашчадкаў, нарэшце, павагі да мяне, выкіньце гэтыя думкі з галавы...»

Збор прысаромлена маўчаў. А Касцюшка паглядаў на сыгнет, на выяву срэбнага арла, дзяліўся ўражаннямі са старым сябрам: «Якія словы! Узважаныя, пераканаўчыя, поўныя чалавечай годнасці, грамадзянскай мужнасці! Ну, хіба можна не захапляцца такім незвычайным чалавекам?! Я ахвяраваў бы за яго жыццё!..»

Калі пасланне дачыталі, Гамільтан падняўся з лавы і заявіў:

— Гэтая адмова — не апошняе слова яго светласці. Калі армія ўсталюе дыктатуру, ён будзе вымушаны ўзначаліць наш рух! Трэба спяшацца! Калі армію распусцяць, позна будзе штосьці прадпрымаць!

Папулярнасць Аляксандра Гамільтана дасягнула найвышэйшай ступені — афіцэры гатовы былі пайсці за ім, весці свае батальёны на Філадэльфію, каб скрышыць карумпаваную ўладу Кангрэса.

Але армейскі бунт прадухіліла эпідэмія ветраной воспы — інтэнданты завезлі яе ў лагер з поўдня. У чэрвені хварэлі два палкі — палова арміі. Памёрлі звыш пяцісот вайскоўцаў.

На шчасце для Касцюшкі, галоўнакамандуючы накіраваў яго зноў у Паўднёвую армію генерала Грына.

— У лагеры вам няма чаго рабіць, Тэд! — прыязна сказаў яму Вашынгтон. — У адрозненне ад мяне, вы не хварэлі ў дзяцінстве воспай, у вас няма ад яе імунітэту. Супраць эпідэміі мы бяссільныя. Семдзесят адсоткаў усіх нашых страт — ад хваробаў і дрэннай ежы. Я не хачу, каб ваша жыццё папоўніла сумную статыстыку...

Тадэвуш пачціва ўсміхнуўся:

— Я хачу гэтага яшчэ меней, ваша светласць.

Вашынгтон падвёў яго да мапы.

— Зараз Грын аблажыў Чарлстан. Дывізія Сміта, якая бароніць горад, — асноўная частка брытанскай арміі ў Амерыцы. Пакуль вораг утрымлівае Чарлстан, у яго застаецца магчымасць узяць пад кантроль паўднёвыя штаты. Калі ж Чарлстан стане наш, дык і Поўдзень уратуем, і пазбавім ростбіфаў рэсурсаў для працягу вайны. Лондан зараз ваюе з Францыяй, Іспаніяй і Галандыяй, дык падмацунку Карлтану не прыйдзе. Авалоданне Чарлстанам узмоцніць пазіцыі нашых дыпламатаў у Парыжы, наблізіць мір. Дапамажыце, Тэд, Грыну узяць Чарлстан, як дапамаглі Гейтсу пад Саратогай, а мне — пад Йорктаўнам!..

* * *

Праз тыдзень Касцюшка разам з Грынам і афіцэрамі яго штаба аб'язджалі абложаны Чарлстан.

Невялікі партовы горад у камяністай лагчыне баранілі два фарты — з іх курцінаў і артылерыйскіх валгангаў брытанскія стралкі палявалі на адчайных коннікаў. З усходу і поўдня да горада падступаў акіян, з поўначы і захаду — скалістыя ўзвышшы.

Падчас рэкагнасцыроўкі Тадэвуш вызначыў — тут не паўторыш вопыт Саратогі і Йорктаўна!

Так і давёў камандуючаму:

— Для пракладвання паралеляў занадта вузкая прастора, кожны дзюйм прастрэльваецца з фартоў....

— Як жа быць? — спытаў Грын. — Чакаць, пакуль у ростбіфаў правіянт скончыцца? Дык разведчыкі кажуць, што ў горадзе вялізныя склады з харчам і пітвом...

— А чаму б проста не расстраляць іх? — прапанаваў Тадэвуш. — Зацягнуць на ўзвышшы гарматы і...

Грын скрушна ўздыхнуў, разгладзіў свае пышныя вусы.

— Гарматы ёсць, пораху і ядраў няма. І кулі заканчваюцца...

Касцюшка задуменна паглядзеў на Зюзю. Круціцца, гарэза, вакол яго каня — то адбяжыцца, то вернецца, падскочыць, дакранецца лапай да гаспадарскага бота. Гаўкае, запрашае гаспадара пагуляць з ім.

— Сядзець! — загадаў Тадэвуш сабаку і павярнуўся да Грына: — Я павінен падумаць, сэр! Дайце мне час...

А ўначы Тадэвуш нечакана сніў Людвіку. Сніў той жнівеньскі поўдзень 1775-га ў Варшаве, калі цалаваліся на ўроку малявання, а потым нечакана загаварылі пра ваенную стратэгію.

— Чаму цябе гэта цікавіць? — здзівіўся Тадэвуш.

— Мяне хвалюе ўсё, да чаго ты неабыякавы, — сказала Людвіка. — У мяне, праўда, няма вайсковай адукацыі, і спецыяльных тэрмінаў я не зразумею. Але ты растлумач мне.

Растлумачыць, што такое стратэгія, дзяўчыне, якая не ведала, чым пехацінец адрозніваецца ад сапёра, было цяжка. Дык Тадэвуш не стаў тлумачыць тэорыю, а паказаў на чысты мальберт, намаляваў на ім колькі рысачак.

— Уяві, што аўстрыйцы ідуць на нас вайной. Ім трэба пераадолець Татры. У гарах — два праходы. У ворага — тры дывізіі. У нас — чатыры. Уяві, што табе даручылі камандаванне, загадалі абараніць мяжу. Як ты размесціш свае дывізіі, каб стрымаць немцаў?

Людвіку напалохала адказнасць за лёс Айчыны.

— Хіба могуць дзяўчыне даручыць камандаванне?

Тадэвуш спаслаўся на гістарычную аналогію:

— Жанне Д'Арк было семнаццаць, калі кароль прызначыў яе галоўнакамандуючым. За чатыры месяцы яна выйграла пяць бітваў...

— Жанна Д'Арк прадала душу д'яблу! — запярэчыла Людвіка. — Я глядзела п'есу Шэкспіра «Генрых Шосты»... І спалілі яе як вядзьмарку!

— Але ж табе васемнаццаць! — тлумачыў Касцюшка. — І душа твая перад Богам чыстая...

Людвіка пацалавала яго. Паглядзела на мальберт, вырашыла:

— Дзве дывізіі ахоўваюць заходнюю дарогу, дзве — усходнюю.

— Так загадаў бы военачальнік з ардынарным мысленнем! А цяпер уяві: ты наступаеш! — паставіў новую ўмову Касцюшка. — Пад тваім камандаваннем — тры дывізіі. У ворага — чатыры, ён бароніць два горныя праходы. Як ты размесціш свае аддзелы?

Людвіка задумалася і пэндзлікам намалявала тры рыскі:

— Усе тры накірую па адной дарозе!

— Чаму?

— Таму, што вораг размесціць свае дывізіі пароўну. Значыць, мае тры супраць дзвюх аўстрыйскіх. Значыць — перамога!

— Вось гэта і ёсць стратэгія, — сказаў Тадэвуш, зафарбоўваючы белым колерам мальберт. — Ты вызначаеш накірунак удару. Ты плануеш ход вайны. Ты дзейнічаеш нечакана для ворага...

— Я ж казала — ты будзеш славутым военачальнікам! — прытулілася да яго каханая. — О, мой стратэг...

Абудзіўшыся на світанку, Касцюшка выцер слёзы, паўтарыў:

— Нечакана для ворага...

І зразумеў, чаму Людвіка нагадала пра сябе!..

* * *

Уранку Касцюшка прыйшоў з дакладам да камандуючага.

— Я хачу прапанаваць самы рашучы сродак, сэр. Трэба зрабіць тое, чаго не чакае вораг. Штурм! Штыкавая атака!

Грын скептычна пакруціў галавой.

— Ростбіфы расстраляюць нас яшчэ на падыходзе... Хіба вы самі не тое ж самае казалі летась генералу Лі, калі ён прапаноўваў штурмаваць Найці-Сікс? Дзе ж ваша паслядоўнасць, Тэд?

Ды Касцюшка настойваў:

— Пад сценамі Найці-Сікс былі іншыя стратэгічныя ўмовы. А цяпер мы праявім тактычную гнуткасць. Ростбіфы падрыхтаваліся да працяглай аблогі. А мы скарыстаем фактар нечаканасці. Атакуем зняпацку! Толькі яны спахопяцца, а мы ўжо авалодаем умацаваннямі. А без фартоў горад не пратрымаецца...

Генерал нахмурыўся.

— Вы ўяўляеце, якія страты мы панясём?

Касцюшка ўпарціўся.

— Трэба не ісці ў атаку — бегчы! Я павяду авангард!..

Камандуючы паглядзеў яму ў вочы.

— Вам зусім не шкада свайго жыцця, Тэд?

Тадэвуш паціснуў плячыма.

— Аднойчы яго светласць сказаў мне — на вайне мы найперш ваюем з уласным страхам. Здаецца, свой я перамог... Дый, калі загіну, хто пра мяне пашкадуе? — Падумаў і дадаў: — Хіба што мой ардынарац і мой сабака...

Няўрымслівы Зюзя, які прыцёгся за гаспадаром следам, якраз лізнуў Тадэвушаву руку.

Грын па-ранейшаму вагаўся.

— Ваш план, Тэд, падаецца мне прывабным. І — авантурным. Няхай нашы штабісты яго ўсебакова абмяркуюць...

Абмеркаванне на ваенным савеце доўжылася два тыдні. Касцюшка тым часам штодня выязджаў на рэкагнасцыроўку — пазначаў на мапе кожны грудок і кожную канаву на мясцовасці перад фортамі, кожную выкапаную «воўчую яму» з каламі на дне, прыкідваў на вока агнявую моц праціўніка, адлегласць, якая прастрэльвалася з варожых курцінаў.

Брытанцы час-почас контратакавалі Паўднёвую армію — з горада налятаді кавалерысты, высякалі янкі на перадавых пазіцыях.

Падчас аднаго з такіх неспадзяваных налётаў загінуў камандзір трэцяга палка палкоўнік Флаўрман. У труну яго паклалі без галавы — яе, згодна індзейскаму звычаю, у якасці трафея прыхапіў з сабой брытанскі коннік. На вакантную пасаду камандзіра трэцяга палка Грын прызначыў Касцюшку.

— Ваш полк пойдзе першы у атаку, — сказаў генерал.

Але ваенны савет і штаб арміі выказаліся супраць штурма Чарлстана, настойвалі на пракладванні паралеляў. Грыну раілі нават адаслаць Касцюшку і запрасіць з Філадэльфіі даўняга Тадэвушавага незычліўца — падпалкоўніка Радзіера.

Касцюшка пакрыўдзіўся і прапанаваў камандуючаму:

— Дазвольце, сэр, правесці разведку боем!

— Колькі чалавек хочаце задзейнічаць? — удакладніў генерал. — Узвод? Роту? Батальён?

— Увесь полк, — цвёрда вымавіў Касцюшка. — А калі разведка задоўжыцца, прашу ў падмогу кавалерыю...

Грын зразумеў яго намер, нахмурыўся. А потым усміхнуўся, сказаў:

— Мой рэзерв падтрымае вас... Ну, вы разумееце...

І абодва па-змоўніцку зарагаталі, задаволеныя тым, як лоўка перахітрылі асцярожных штабістаў і членаў ваеннага савета...

* * *

Разведка боем распачалася ўранку 12 снежня.

Перад атакай Касцюшка загадаў Марціну, каб пасадзіў Зюзю на ланцуг — ведаў, што верны сабака паўсюль за ім увяжацца. Але і Зюзя праявіў тактычную хітрасць: убачыў, што ардынарац падкрадваецца да яго з ланцугом, і збег, хаваўся каля маркітанцкіх павозак, вынюхваў — ці няма чым падсілкавацца? А як пратрубілі гарністы баявы сігнал — прымчаўся на плац, дзе пастроіўся полк. Прысеў каля ног Касцюшкі — язык высалапіў, вушы прыціснуў да галавы, дагодліва круціў хвастом. У Касцюшкі не хапіла рашучасці прагнаць яго. Так і падаўся Зюзя за Тадэвушам у атаку — аціраўся ў гаспадара ля ног.

Калі полк выйшаў на баявыя пазіцыі, Тадэвуш выхапіў з похваў шпагу, закрычаў з усяе моцы:

— Хто першы падымецца на курціну, атрымае чын лейтэнанта!.. За нашу свабоду!.. За мной!..

Палкавы строй зламаўся, жаўнеры пабеглі за адчайным камандзірам. З фартоў даплылі гукі сігнальных ражкоў, сцены пачырванелі ад варожых мундзіраў, усплылі ў чыстае неба аблачынкі парахавога дыму ад ружжаў і гармат. Засвісталі вакол Касцюшкі кулі, то там, то тут уздыбліваласся зямля ад выбухаў. Ды палкоўнік не зважаў на іх, не замаруджваў кроку, і — і баяўся азірнуцца: а раптам салдаты спыніліся, спалохаліся? Лепш загінуць, чым такое ўбачыць!

А Зюзя — не баяўся. То наперад выскачыць, то вернецца, таўханецца аб бот, і ўсё — з вясёлым брэхам. Падабалася сабаку такая прагулка!

У стаўцы Грына, які сачыў за боем, тым часам здзіўлена пераглядваліся члены ваеннага савета. Адзін з іх спытаў:

— Вы ўпэўнены, сэр, што гэта менавіта разведка боем, а не штурм, ад якога мы адгаворвалі?

— Ніякіх сумненняў! — бадзёра заявіў камандуючы і сказаў ад'ютанту: — Перадаць загад: палкам рэзерву — на баявую лінію!

Вакол Касцюшкі падалі забітыя, параненыя. Палкоўнік і сам ледзь не ўпаў — спатыкнуўся аб Зюзю. Да камандзіра падбег Марцін, адпіхнуў сабаку і памог Тадэвушу падняцца на ногі. Зюзя гламзануў ардынарца за нагу і тут жа адкаціўся на бяспечную адлегласць.

Вакол іх нястрымна беглі ў атаку жаўнеры: трымалі ў руках не толькі вінтоўкі, але і неслі звязкі ламачча, валаклі лесвіцы. Ламачча ляцела на дно «воўчых ямін», лесвіцы прыстаўляліся да сцен.

Упаў сцяганосец. Дрэўка са сцягам лягло пад ногі атакуючых.

Марцін Эванс падняў сцяг, узмахнуў дрэўкам — залунала зорнапаласатае палотнішча над галавой. Шчасліва засмяяўся хлопец — ён ганарыўся сабой!

Жаўнеры жвава караскаліся на сцены, не зважалі на варожыя штыкі, што ўпіраліся ім у грудзі, на стрэлы, што грымелі ў твар.

Узабраліся на курціны і Касцюшка з Эвансам. А Зюзя застаўся ўнізе — пакрыўджана гаўкаў, спрабаваў ускочыць на драбіны, ды падаў. Атакуючыя цудам не затапталі сабаку.

З брамы Чарстана паказалася англійская кавалерыя — намагалася ўдарыць у тыл янкі. Але камандуючы Грын кінуў у атаку свой рэзерв. А членам ваеннага савета патлумачыў:

— Разведка перарасла ў штурм. Здараецца ж такое!

Чырвонамундзірная конніца аказалася заціснутай паміж палком Касцюшкі і рэзервовымі палкамі. Страціўшы каля двухсот вершнікаў, брытанцы адступілі ў горад. Уцякла кавалерыя — і згас ваяўнічы запал у абаронцаў фартоў. Амерыканцы авалодалі курцінамі, штыкавы бой перамясціўся ў двор перад казармамі.

Апоўдні вецер развяваў над фартамі зорна-паласатыя сцягі.

Касцюшка загадаў артылерыстам развярнуць гарматы на валгангах і распачаць абстрэл Чарлстана.

Грыну, які прыскакаў у форт, Тадэвуш пахваліўся:

— Захопленых пораху і ядраў хопіць, каб зруйнаваць горад.

— Які далейшы план аблогі? — спытаў камандуючы.

— Аблога завершана, сэр. Заўтра да вас прыйдуць падпісваць акт аб капітуляцыі. Трэба толькі страляць безупынку...

* * *

Гарматная дуэль доўжылася суткі. Нешматлікія брытанскія гарматы абстрэльвалі фарты з прыгарадаў Чарлстана, але агнявая перавага была на баку янкі. Брытанскія ядры крыху пашкодзілі масіўныя сцены, ад амерыканкіх жа ў горадзе ўспыхнулі пажары. Уначы зарыва над Чарлстанам не згасала — полымя ахоплівала квартал за кварталам: артылерысты-янкі вялі прыцэльны агонь.

На світанку ў амерыканскі лагер прымчаў верхам камандуючы гарнізонам Чарлстана генерал Сміт, заявіў Грыну:

— Падпалілі горад — самі і тушыце!

І падпісаў акт аб капітуляцыі.

На працягу дня пераможцы тушылі пажары, а пераможаныя перайшлі з горада у форты, дзе паскладвалі зброю.

14 снежня Паўднёвая армія параднымі калонамі ўвайшла ў Чарлстан. Першым ехаў на кані Грын, побач з ім — Касцюшка.

Члены ваеннага савета, якія мелі генеральскія чыны, былі абураны такой прывілегіяй для «выскачкі-паляка» і непавагай да сябе. Але Грын на гэты конт выказаўся непахісна:

— Джэнтльмены, лаўры пераможца належаць палкоўніку Касцюшку. Яго бездакорны план дазволіў нам ўратаваць Поўдзень і паставіць кропку ў гэтай вайне...

І цяпер галоўны інжынер са шчаслівай усмешкай на твары зважаў на прывітальныя воклічы гараджан, якія шчыльна стаялі ўздоўж цэнтральнай вуліцы, і жмурыў вочы ад сонца.

Побач з яго канём бег, гаўкаючы і падскокваючы, Зюзя. Крыкі з натоўпу палохалі сабаку, нервова торгаліся ягоныя вострыя вушы. Але ж хіба ён пакіне без нагляду гаспадара?

А Тадэвушу чамусьці прымроілася: калі-небудзь гэта паўторыцца! Ён будзе ўязджаць у вызвалены горад на чале арміі, і гараджане будуць крычаць яму: «Віват!»... Калі ж гэта адбудзецца? І дзе?..

На шырокім ганку губернатарскага дома пераможцаў вітала чарлстанская знаць. Дзяўчаты ў белых сукенках паднеслі букеты ружаў генералу і палкоўніку.

Потым былі баль і банкет для афіцэраў. Напрыканцы банкета Грын падышоў да Касцюшкі, прысеў побач з ім, паведаміў:

— Мне даставілі ліст ад галоўнакамандуючага.

Тадэвуш браў з талерак розныя прысмакі і частаваў хітрага Зюзю, які стаіўся пад сталом, накрытым доўгім абрусам.

— Што піша яго светласць? — пагладзіў Тадэвуш сабаку.

— Віншуе з перамогай і запрашае сустрэць Каляды разам з ім у Ньюберы. Дык заўтра ад'язджаем...

Генерал, які кульнуў не адну чарку, пацягнуўся, каб пагладзіць Зюзю. Але сабака ўкусіў яго за палец. Генерал войкнуў, пачырванеў.

— Ляжаць! — загадаў Тадэвуш Зюзю, пагразіў пальцам: — Паважай старшых па чыне... — А перад камандуючым вінавіта развёў рукамі: — Ну, вы разумееце...

І абодва зарагаталі на ўсю залу.

* * *

Жыццё ў лагеры ля Ньюберы было па-ваеннаму аднастайным: імша і танцы ў нядзелю і муштра на плацы ў будні.

У снежні сюды дайшла вестка — у Брытаніі адбыліся новыя выбары ў парламент. Паводле вынікаў сфарміраваны ўрад на чале з лордам Рокінгэмам, які абвясціў ворагам нацыі кожнага, хто загаворыць пра працяг вайны з Амерыкай. Адзіны, за кім пакінулі такі прывілей, быў кароль Георг. У тую пару, праўда, яго вялікасць ужо з'ехаў з глузду — да кожнай фразы дадаваў слова «пінгвін». Дык на яго выказванні проста не зважалі.

Ініцыятыву брытанскага ўрада Джордж Вашынгтон загадаў адсвяткаваць парадам, феерверкам і банкетам. Як раз у той дзень у лагер прыехалі Грын і Касцюшка.

Падчас банкету галоўнакамандуючы сказаў Тадэвушу:

— Я накіраваў у Кангрэс просьбу аб наданні вам чыну генерала. Мо цяпер да маіх парад прыслухаюцца...

Касцюшка не прыдумаў, што сказаць з гэтай нагоды — разгублена ўсміхнуўся і аддаў чэсць...

Толькі паспела армія працверазець пасля святкавання, як у Ньюберы прыцёгся французскі экспедыцыйны корпус на чале з генералам Рашамбо. Саюзнікі прыйшлі развітацца — атрымалі каралеўскі загад вяртацца ў Еўропу. Людовік XVI, пакрыўджаны тым, што брытанцы не аддаюць Канаду, планаваў высадзіць дэсант пад сценамі Лондана.

З французамі прыехала процьма маркітантаў і вабных жанчын. Жаночая прысутнасць істотна падарвала армейскую дысцыпліну — жаўнеры нават з караулаў бегалі да іх.

Вашынгтон скардзіўся афіцэрам:

— Улетку ледзьве перажылі воспу. А ці перажывём узімку эпідэмію французскага катару?..

На развітальнай вячэры Вашынгтон частаваў французскіх арыстакратаў усім лепшым з армейскіх прыпасаў — віскі, ром, вяндліна і гародніна. Французы здзіўляліся:

— Вы па-ранейшаму ясце смуроднае мяса? У нас такое брыдоцце не ядуць ні слугі, ні сабакі...

— Такія прысмакі мы можам дазволіць сабе раз на год, — апраўдваліся амерыканскія афіцэры і налягалі на віскі.

Праз тыдзень корпус Рашамбо сышоў у Філадэльфію, пагрузіўся на караблі ды сплыў у Брэст. Зніклі і маркітанты з жанчынамі — сярод лагернай галечы шмат не заробіш!

Пасля сыходу французаў адарванасць Ньюберы ад усяго свету Касцюшка адчуў асабліва балюча. Вярнулася знаёмае пачуццё невыноснай адзіноты. Ён нудзіўся, ажно марнеў ад таго, што не ведаў, чым заняцца.

Ды перад Калядамі яго знянацку паклікаў галоўнакамандуючы, завёў прыватную размову:

— Чаму б вам не ўступіць у нашу ложу, Тэд?

— Ваша светласць — масон?

— Як і ўсе генералы нашай арміі. Як і ўсе члены Кангрэса. Хочаце стаць генералам — будзьце масонам. Кангрэсмены знойдуць тысячу адгаворак, каб не надаць генеральскі чын непасвячонаму. І ніводнай, каб адмовіць брату па ложы. Раю далучыцца да нас. Вашы душэўныя якасці — лепшая рэкамендацыя. Пакуль на свеце будуць такія людзі, як вы, Тэд, барацьба супраць тыраніі ў любых яе праявах не згасне...

— Прапанова вашай светласці — вялікі гонар для мяне, — не ўтойваў Тадэвуш. — Я марыў стаць генералам з першага дня, як ступіў на гэтую зямлю. І мне падаецца, я заслужыў гэты чын...

Назаўтра да Касцюшкі прыйшоў генерал Грын.

— Яго светласць даручыў мне падрыхтаваць вас да ўступу ў ложу. Я буду вашым рытарам...

Падрыхтоўка звялася да вячэрняй размовы ў доме генерала. Вецер шпурляў сняжынкі ў акно, а Касцюшка глядзеў на агонь у каміне і слухаў легенду пра Вялікага Архітэктара, які адкрыў запаветныя тайны Адаму пры стварэнні свету, пра нараджэнне масонскай іерархіі ў часы ўзвядзення Саламонавага Храма — за 4 тысячы гадоў да Нараджэння Хрыста.

— Цар Саламон даручыў кіраваць будаўніцтвам дойліду Аданіраму, — гаварыў Грын. — Тры тысячы рабочых Аданірам падзяліў на тры разрады — вучняў, чаляднікаў і майстроў. Адпаведна разрадам выплачваў заробак. Каб не квітнела зайздрасць, разрады ўтойваліся. Аднак пасвячоныя пазнавалі іх з дапамогай тайных знакаў і слоў...

«І нам на Літве не зашкодзіла б такая суполка! — сягаў думкай на Бацькаўшчыну Тадэвуш. — Патрэбна талака, якая нешта будавала б, пераўтварала жыццё на лепшы лад. Шляхта гібее ў марнатраўстве... Трэба ўскалыхнуць яе новымі ідэямі!»

Глядзеў на свой сыгнет, на срэбнага арла ў чырвоным полі, верыў: вернецца дадому — і ўскалыхне, пераўтворыць, збудуе!

— Тры чаляднікі, апантаныя дэманам зайздрасці, захацелі хутчэй стаць майстрамі. Яны падсцераглі Аданірама ў Храме і запатрабавалі, каб выдаў ім сакрэтныя паролі. Аданірам не раскрыў тайну, і першы змоўшчык ударыў яго па галаве цяжкай жалезнай лінейкай, другі — кельмай, а трэці ўваткнуў яму ў сэрца жалезны трохкутнік...

Касцюшка ўздыхнуў. Не хацеў бы, каб і яму гэтаксама не пашанцавала з паплечнікамі!

— Забойцы закапалі цела Аданірама на Ліванскай гары, а на магіле ўваткнулі ў зямлю галінку акацыі. Пасланыя царом Саламонам дзевяць майстроў знайшлі магілу. Адзін з майстроў узяў у рукі галінку акацыі, сказаў: «Акацыя ведае — плоць пакінула косці!» І майстры дамовіліся, што гэтыя словы будуць іх паролем. Цяпер і вы ведаеце пароль для ўваходу ў наша братэрства. Ведаеце, чаму ў масонскай

сімволіцы ёсць лінейка, кельма і трохкутнік. Цяпер і вы можаце пакласці сваю цагліну ў сцяну Храма, які стане жытлом Вялікага Архітэктара Сусвету...

— Дык значыць, замысел Вялікага Архітэктара — узвядзенне Храма ў сваёй душы? — разгадаў алегорыю Касцюшка.

— Мы так мяркуем, — кіўнуў Грын. — Калі Храм збудуецца ў душы кожнага, яго духоўная існасць увасобіцца ў рэальнасць. І тады Вялікі Архітэктар паселіцца сярод нас.

— Ці не занадта гэта проста? — здзівіўся Тадэвуш.

— Мы абапіраемся толькі на моц нашага розуму. А Ягоны замысел значна вышэйшы за наша разуменне. Што ведае вада ў лужыне пра акіянскія глыбіні? Наш розум — лужына на беразе акіяна. Вялікі Архітэктар, Бог — неспазнавальны акіян. Але вада ў лужыне — лепшае пацвярджэнне, што акіян існуе. У той час, як Д'ябал запэўнівае, быццам лужына выкапана ў пустэльні. Таму замысел Вялікага Архітэктара можна спасцігнуць не розумам, а дбайнай працай душы...

Касцюшка ўпадабаў такую ідэю. Тым больш, меркаваў ён, што масоны вельмі ўплывовыя ва ўсім свеце. Яму спатрэбіцца іх дапамога, калі вернецца на Бацькаўшчыну!..

Прыняцце ў братэрства адбылося напярэдадні Новага года ў сядзібе нью-йоркскага патрыёта, за тры мілі ад Ньюберы.

У цёмным пакоі Грын завязаў Тадэвушу вочы чорнай хусткай.

— Здымеце, калі пачуеце стук, — наказаў і некуды знік.

Калі прагучаў стук у дзверы, Касцюшка зняў павязку і ўбачыў свечку. Свечка свіцілася праз вачніцы чалавечага чэрапа. Чэрап стаяў на стале, а перад сталом — труна з косткамі. Гэтая алегорыя сімвалізавала духоўную смерць Касцюшкі, яго ачышчэнне ад колішніх грахоў і памылак.

Пра пачатак духоўнага адраджэння паведаміў генерал Лінкальн, начальнік штаба кантынентальнай арміі, які ўвайшоў у скураным фартуху і ў пальчатках з крагамі, спытаў:

— Дзеля чаго вы прыйшлі?

— Прагну мудрасці, дабрачыннасці, асветы, абнаўлення, — адказаў Тадэвуш, як інструктаваў яго Грын.

Лінкальн склаў на грудзях рукі.

— Ведайце: першая мэта нашага братэрства — захаванне таямніц, перададзеных Вялікім Архітэктарам Адаму. Другая — ачышчаць сэрца ад загanaў і прасвятляць розум ад забабонаў, каб падрыхтаваць сваю натуру для ўспрыняцця Боскіх таямніц. Трэцяя — папраўляць чалавечы род прыкладам дабрачыннасці, змагацца са злом, якое пануе ў свеце...

«Каб змагацца са злом, адной дабрачыннасці мала, — падумаў Касцюшка. — Не зашкодзяць штык і шабля...»

— Вам належыць часта думаць пра смерць, каб яна падавалася не ворагам, а сябрам, які ўратуе ад турботаў жыцця, прывядзе туды, дзе чакаюць спакой і ўзнагарода...

«Вайна — прыдатнае месца для роздумаў пра смерць...»

— У знак беспярэчнай падначаленасці — распраніцеся.

Касцюшка зняў фрак, камізэльку і левы бот. Лінкальн падняў кашулю на яго грудзях, закруціў яму штаніну на левай назе.

— У знак чыстасардэчнасці адкрыйце вашу галоўную слабасць.

— Жанчыны, — вымавіў Касцюшка.

Хоць і не пашчасціла яму дагэтуль закахацца, але інтарэс да прыгожага полу не змяншаўся, змушаў кожную вясну хваляваццa!

Лінкальн зноў завязаў яму вочы хусткай, узяў за руку і павёў у суседні пакой, ціха прамаўляючы:

— Вы — той, хто шукае. Памятайце пра святасць масонскага сяброўства. Вы — той, хто просіць. Памятайце пра мужнасць, з якой павінны пераносіць цяжар свайго падарожжа па жыцці...

Увайшлі ў пакой — да Касцюшкавых грудзей даткнулася лязо шпагі. Паўтараючы за Лінкальнам, Тадэвуш пакляўся захоўваць тайны ложы.

— Калі ж парушу яе, няхай мне перарэжуць горла, вырвуць язык, цела рассякуць напалам, вантробы спаляць, а попел развеюць!

— Цяпер убачыце святло, — прагучаў голас генерала Грына.

З Касцюшкавых вачэй знялі павязку.

Пакой асвятлялі некалькі свечак. Высокая столь знікала ў змроку. За накрытым чорным абрусам сталом сядзелі дзевяць чалавек. У крэсле старшыні — Джордж Вашынгтон, на яго шыі вісела аксамітавая стужка з вокам унутры трохкутніка. У крэслах уздоўж сцянаў — чаляднікі ў чорных мантыях (Касцюшка пазнаў многіх афіцэраў). На адной сцяне вісела зорка-пентаграма, унутры якой гарэла свечка, на другой — дыван з вытканымі сімваламі: месяцам і сонцам, молатам і рыдлёўкай, слупам і вокнамі. Насупраць дзвярэй узвышаўся алтар: да яго вялі сем прыступак, а наверсе ляжалі чэрап і раскрытае Евангелле.

Грын падвёў Касцюшку да алтара, указаў на прыступкі — яны сімвалізавалі дабрачыннасці, якія належала выхоўваць у сабе, — і загадаў:

— Увайдзі ў Храм! Будзь сціплы і дабрадзейны, мужны і шчодры. Памятай пра бясспярэчную падначаленасць вышэйшым чынам ложы. Любі чалавецтва. Любі смерць...

«Самы складаны запавет для мяне», — падумаў Тадэвуш, ступіў на сёмую прыступку, паклаў руку на Евангелле і паўтарыў за Грынам словы яшчэ адной клятвы — захоўваць вернасць законам ложы.

Сышоў з прыступак — і чаляднікі надзелі на яго белы скураны фартух, уручылі будаўнічую рыдлёвачку і дзве пары пальчатак.

— Ваш фартух, дарагі вучань, сімвалізуе духоўную моц і цноту, — звярнуўся да яго вялікі майстра ложы Вашынгтон. — Імкніцеся нічым не запляміць яго белізну. Заўсёды спяшайцеся на дапамогу брату, хто б ён ні быў. Дапамагайце тым, хто ўпаў. Вучыце тых, хто памыляецца. Не пускайце зайздрасць у сэрца. Унікайце помсты. Але майце моц, каб бараніцца ад злосці ворагаў. Рыдлёўкай ачышчайце сваё сэрца ад заганаў. Першую пару пальчатак насіце на нашых пасяджэннях, другую аддайце той жанчыне, якую абярэце ў спадарожніцы...

«Няўжо знойдзецца такая?» — падумаў Тадэвуш.

Верылася з цяжкасцю, але надзея не згасала.

Вялікі майстра наблізіўся да Касцюшкі, абняў і пацалаваў. Тое ж зрабілі і астатнія. Майстар Грын паказаў новаму вучню тайныя знакі ложы і назваў паролі, падвёў да крэсла, якое той будзе займаць на зборах ложы, і дазволіў сесці.

На заканчэнне пасяджэння ўсе паклалі ў кош, з якім абыходзіў іх майстар Лінкальн, хто колькі меў грошай — на дабрачыннасць.

З маёнтка Касцюшка ехаў у санях побач з Вашынгтонам.

— Ваша светласць, калі масонства насамрэч братэрства, чаму амерыканская і брытанская ложы не прадухілілі гэтую вайну? — звярнуўся Тадэвуш да галоўнакамандуючага з пытаннем, якое карцела задаць падчас рытуалу.

— Паміж брытанскімі масонамі няма адзінства, частка з іх падтрымлівае вігаў, частка — торы, — адказаў Вашынгтон. — Масоны — не маналітная арганізацыя. І не такая ўплывовая, як мроіцца іншым. Сотні ложаў у Еўропе дзейнічаюць аўтаномна, часам варагуюць між сабой. Уплыў ложы залежыць ад таго, ці ёсць сярод яе членаў аўтарытэтныя і перспектыўныя дзеячы. Напрыклад, я — аўтарытэтны дзеяч, а вы — перспектыўны...

— Вы сталі галоўнакамандуючым дзякуючы прыналежнасці да ложы? — спытаў Касцюшка.

— Сярод шасцідзесяці кангрэсменаў я адзіны меў баявы вопыт, — усміхнуўся той. — Астатнія былі юрыстамі і плантатарамі…

— Вы можаце скласці мне пратэкцыю, калі вярнуся на радзіму? — не ўтойваў сваіх думак Тадэвуш. — Папрасіць тутэйшых масонаў, каб дапамаглі мне стаць генералам у літоўскай арміі...

— Уплыў нашай ложы абмежаваны Злучанымі Штатамі, — пакруціў галавой Вашынгтон. — Пакуль...

Касцюшка ўздыхнуў. Ці не дарма ён ўступіў у ложу?

Ды паглядзеў на пячатку сыгнета, на выяву срэбнага арла. І стары сябра нібыта адказаў: нічога дарма не адбываецца!

Тадэвуш падняў позірк да начнога неба. Зоры струменілі праз чорную заслону райскае святло. Касцюшка пазіраў у зіхатлівую вышыню і думаў: збудаваў ён Вест-Пойнт — збудуе і Храм у сваёй душы! І паспрабуе ўдасканаліць жыццё вакол сябе. Ды не толькі тут, але і на Бацькаўшчыне!..

## 1783 год

Студзеньскія завеі намялі снегу пад дахі лагерных казармаў. Між сумётамі, вышэй чалавечага росту, пракапалі сцяжыны-траншэі, у якіх двум чалавекам не размінуцца. Муштру адмянілі. Афіцэры штовечар збіраліся ў храме, грэліся ля вялізнага каміна, гатавалі грог і пунш, абмяркоўвалі газетныя звесткі пра мірныя перамовы ў Еўропе.

А тым часам у Парыжы амерыканскія дыпламаты на чале з Бенджамінам Франклінам заключылі дамову з урадам Рокінгэма. Згодна ёй Брытанія не толькі прызнавала незалежнасць былой калоніі, але і адсоўвала мяжу Злучаных Штатаў да рэк Місісіпі і Місуры.

Прэм’ер-міністр Рокінгэм меркаваў, што такім чынам абхітрыў янкі. Маўляў, асваенне заходніх земляў паглыне ўсю энергію амерыканцаў, у іх не застанецца сілы квапіцца на Канаду. І цяпер можна перакінуць корпус Карлтана супраць Францыі, Іспаніі або Галандыі!

Бенджамін Франклін таксама думаў, што перахітрыў ростбіфаў. Маўляў, Амерыка ўдвая павялічыла сваю тэрыторыю, і гэта не каштавала ні кроплі крыві — толькі пару літраў чарніла!

Затое граф дэ Вержэн, міністр замежных спраў Францыі, быў раз'юшаны сепаратнай дамовай. Ён запрасіў да сябе ў палац Франкліна і абрынуўся на яго з праклёнамі. Хіба Амерыка, маўляў, не парушыла саюзніцкія абавязкі, тайна заключыўшы мір з ворагам?!

— Я бачу, што бескарыслівасць і непахіснасць дадзенаму слову не ўласцівы Амерыканскай Рэспубліцы! — крычаў дэ Вержэн.

Састарэлы мыслівец перачакаў яго гнеў і паважна запярэчыў:

— Няхай нашы ворагі цешаць сябе ілюзіяй, быццам пасварылі нас. Пазыка ў дзесяць мільёнаў луідораў дакажа ўсяму свету, што саюз Францыі ды Амерыкі непарушны...

І сам здзівіўся, калі Францыя, якой пагражала дзяржаўнае банкруцтва, пазычыла Амерыцы шэсць мільёнаў луідораў. А ўсё таму, што ў караля Людовіка XVI мінуў ваяўнічы запал. Вайна яму абрыдзела, ён раздумваў высаджваць дэсант пад сценамі Лондана і загадаў дэ Вержэну далучыцца да мірнай дамовы з брытанцамі.

— Усё гэта сведчыць аб перавазе рэспубліканскага складу розуму над манархічным! — сказаў Франклін сваім памочнікам. — Жабнікі не хочуць, каб агонь, які каштаваў ім так дарага, згас з-за недахопу паліва. Яны спадзяюцца, што Амерыка ў сваёй знешняй палітыцы будзе арыентавацца на Францыю. Дарма!..

* * *

А ў лагеры ля Ньюберы ўзімку захваляваліся афіцэры — зноў па віне Кангрэса, які ў чарговы раз адтэрмінаваў выплату жалавання.

Зноў на афіцэрскіх сходах загучаў рашучы голас Гамільтана:

— Армія павінна сама забяспечыць справядлівасць. І калі справа дойдзе да сутычкі са злоснымі неплацельшчыкамі, нас падтрымаюць тысячы грамадзянскіх крэдытораў. Паход на Філадэльфію і разгон карумпаванага Кангрэса — наш свяшчэнны абавязак перад амерыканскімі ідэаламі, перад нашчадкамі нашых нашчадкаў!

— А хто ўзначаліць паход? — спыталі ў яго. — Яго светласць нізавошта не парушыць прысягі...

Гамільтан нечакана вылучыў новую кандыдатуру:

— Прапануем дыктатарскія паўнамоцтвы Гарацыю Гейтсу!..

10 сакавіка ў лагеры распаўсюдзілі ананімную ўлётку, у якой афіцэраў заклікалі сабрацца праз чатыры дні ў храме і быць гатовымі да рашучых дзеянняў. Падкінулі яе і пад дзверы Касцюшкавага дома.

Тадэвуш прачытаў: «Ці зможаш ты пражыць рэштку слаўнага жыцця ў галечы? Калі зможаш — цярпі здзекі і пагарду, памірай з голаду! Аднак ёсць іншае выйсце — не распускаць армію да часу, пакуль не задаволяць нашы патрабаванні. Пад камандаваннем славутага правадыра мы пасмяёмся з перапалоханых кангрэсменаў...»

«Такі смех абернецца горкімі слязьмі! — падумаў Касцюшка. — Што ж зробіць Стары Ліс?..»

Прачытаўшы ўлётку, галоўнакамандуючы ўсклікнуў:

— Гэта мяцеж!

Аднак не забараніў сход, разумеў: афіцэрскі бунт няма каму падаўляць! Затое тэрмінова напісаў у Кангрэс палымяны ліст: дзе заўгодна адшукаць грошы і заплаціць, інакш — грамадзянская вайна!..

14 сакавіка ў Ньюберы прыехаў Гарацый Гейтс. Амаль тры гады герой Канадскай выправы і Саратогі, экс-камандуючы Паўночнай

арміяй і экс-кіраўнік Ваеннага ўпраўлення нудзіўся ў адстаўцы. Распачатае супраць яго Кангрэсам следства яшчэ не завяршылася. Ён баяўся, што ўрэшце апынецца ў турме. Пажыццёвая дыктатура, пра якую калісьці столькі марыў, падавалася яму адзіным сродкам пазбегнуць адказнасці за паразу ў Вірджыніі, за злоўжыванне ўладай, якое шырока практыкаваў у Філадэльфіі. Таму з энтузіязмам пагадзіўся на прапанову Гамільтана — быць старшынёй на сходзе.

У храме, дзе сабраўся афіцэрскі склад арміі, Гейтс горача даводзіў, што армія павінна зброяй адстойваць свае патрабаванні.

— Прад'явім ультыматум Кангрэсу! Каб сплаціў не толькі запазычаны заробак, але і штрафную пеню! Каб забяспечыў афіцэрам пажыццёвы пенсіён! А выкананне усіх абавязацельстваў пракантралюе часовы дыктатар! Калі Кангрэс аспрэчыць нашы довады — рушым на Філадэльфію! — І хрыпла дадаў: — Я ўзначалю паход!..

Касцюшка, які прысутнічаў на зборы, зноў не стрымаўся, папрасіў слова і падняўся на кафедру:

— Джэнтльмены, мне падаецца, што вы жывеце сённяшнім момантам і не думаеце пра наступствы. Калі армія выступіць супраць Кангрэса, ёй давядзецца ваяваць з апалчэннямі штатаў. Гэта будзе партызанская вайна, у якой нельга перамагчы! У Злучаных Штатах няма цэнтра, захоп якога дасць кантроль над краінай. У Еўропе можна захапіць Парыж ці Берлін — Францыя ці Прусія капітулююць. Брытанцы ж бралі і Філадэльфію, і Нью-Йорк — а супраціўленне не змяншалася. Нават калі захопіце сталіцы ўсіх трынаццаці штатаў, вы не зможаце згасіць полымя партызанскай вайны на такіх буйных абшарах. А колькі крыві пральецца! Вы падумалі пра гэта?! Брытанія, Іспанія і Францыя забудуць пра былую варожасць і падзеляць паміж сабой раз'яднаныя штаты. Дык заклікаю вас — устрымайцеся ад бунту!

Гейтс паглядзеў на колішняга падначаленага з непрыхаванай нянавісцю. Дарма ён наогул прыняў гэтага паляка на службу!

Выступ галоўнага інжынера засмуціў многіх афіцэраў. Аднак большасць прысутных праігнаравала яго пярэчанні. Ім здавалася — да запазычаных грошай і пенсіёна можна шпагай дацягнуцца!

«Сітуацыю пераломіць пазіцыя Старога Ліса!» — падумаў Касцюшка і паспяшаўся ў штаб-кватэру галоўнакамандуючага.

Калі падыходзіў, убачыў, як на комін над дахам генеральскага дома села варона, зазірнула ў комін і нечакана кульнулася. З аглушальным карканнем яна ледзь выляцела з пасткі.

Тадэвуш усміхнуўся: захацела ў коміне зрабіцца чарнейшай? Зняэўку падумаў: «І нашы афіцэры спрабуюць стаць чарнейшымі, чым ёсць! А потым пашкадуюць!.. І пасля Англійскай Рэвалюцыі адбывалася нешта падобнае. Парламент хацеў распусціць армію. Армія ж не разышлася па дамах, а прывяла да ўлады Олівера Кромвеля. Але дыктатура не спарадзіла пераемнасці! Памёр Кромвель — і ўсталявалася анархія, якая завяршылася Рэстаўрацыяй. Гейтс хоча паўтарыць шлях Кромвеля. Але яго дыктатура спародзіць мітусню, якая таксама скончыцца рэстаўрацыяй каланіяльнай улады...»

Паглядзеў на пячатку сыгнета, на выяву арла ў чырвоным полі, уздыхнуў. Цяжка быць срэбнай птушкай сярод зграі варон, аспрэчваць памылковую думку, выступаць супраць агульнага настрою! Ды свабодалюбная птушка не складзе крылаў!..

Касцюшка папрасіў дзяжурнага ад'ютанта перадаць яго светласці просьбу аб аўдыенцыі. Вашынгтон неадкладна прыняў яго.

Правёўшы ноч без сну, прыгнечаны цяжкім одумам, захутаны ў плед, галоўкамандуючы згорбіўшыся сядзеў ля згаслага каміна. Ён указаў палкоўніку на крэсла насупраць. Прысеўшы на краечак, Касцюшка дачакаўся, пакуль той парушыць маўчанне:

— Які настрой у афіцэраў, Тэд? Ад майго жытла да храма — сто футаў. Але прайсці іх — усё роўна, што дабрысці да Месяца. Паміж мной і маёй арміяй узнікла бездань... Афіцэры давяралі мне свае жыцці. Я не маю права пакінуць іх у такі цяжкі час. Як вы лічыце, дыктатура — гэта сапраўды адзінае выйсце?

Касцюшка зразумеў — Стары Ліс вагаецца, яму патрэбны спагада і спачуванне, штуршок у правільным накірунку!

— Няхай многія афіцэры і маюць думкі, якія розняцца ад вашых, сэр, — гэта іх грамадзянскае права, — пачціва сказаў Тадэвуш. — Аднак яны па-ранейшаму глыбока шануюць вас. І каб афіцэры ведалі, што вы спачуваеце ім, разумееце і любіце іх, думаю, вашай светласці варта пайсці зараз на сход...

Галоўнакамандуючы застагнаў ад зубнога болю і паправіў дрот, які ўмацоўваў ніжнюю сківіцу:

— Пагаджуся на дыктатару — і ў нашай гісторыі з'явіцца небяспечны прэцэдэнт. Любая ўлада разбэшчвае. Неабмежаваная ўлада разбэшчвае да крайнасці. Спакуса пажыццёвай дыктатуры можа аказацца неадольнай нават для мяне. Які тады чакае лёс Амерыку?.. Я не хачу здраджваць старажытнарымскім ідэалам. Для мяне рэспубліка — узор дзяржаўнага ўпарадкавання...

— І для мяне! — зазначыў Касцюшка. — Я гатовы ахвяраваць жыццём за дэмакратычныя ідэалы, за вас, сэр...

Кроплі дажджу стукалі ў акно, нібы захмараныя нябёсы хацелі дагрукацца да людзей.

— Самае лепшае, што ёсць у нас — гэта свабода, — сказаў Вашынгтон. — Дык шчыра зычу вам, Тэд: калі лёс узвысіць вас — не дамагайцеся неабмежаванай улады. Інакш станеце яе першай ахвярай. Самі шукайце абмежаванняў для сябе...

— Абяцаю! — падняў Касцюшка правую руку далонню наперад, на ўзор старажытных рымлян. — І ўсё ж, сэр... У мяне няма права настойваць. Але афіцэрам трэба пачуць гэту ісціну з вашых вуснаў. Калі засведчыце сваю непахіснасць, армія не парушыць прысягі!

Пасля роздуму галоўнакамандуючы вымавіў:

— Уранку прыбыў кур'ер з Філадэльфіі, прывёз пасланне Канрэса. Я мог бы зачытаць яго...

— Геніяльная ідэя! — палка запэўніў Касцюшка.

Вашынгтон прыязна ўсміхнуўся:

— Вы, Тэд, з тых людзей, якіх трэба увекавечыць ў бронзе. Ваш Вест-Пойнт — лепшы пастамент для такога помніка...

Тадэвуш разгублена прамаўчаў. Вядома, у яго ёсць такія-сякія заслугі перад Амерыкай! Але як рэагаваць на такую ўхвалу?

Галоўнакамандуючы рашуча падняўся з крэсла, адкінуў плед:

— Час прывесці сябе ў належны выгляд!..

Праз паўгадзіны Вашынгтон увайшоў ў храм у суправаджэнні ад'ютанта і Касцюшкі. Абмеркаванне фармулёвак ультыматума Кан-

грэсу было ў разгары. Ды імгненна запанавала цішыня. Афіцэры паўскоквалі з лаваў, утаропіліся ў галоўнакамандуючага.

Вашынгтон узышоў на кафедру, зірнуў у залу — і захацеў заплюшчыць вочы: на яго глядзелі непрыязныя твары. Генерал заўсёды пазбягаў публічных выступаў, адчуваў сябе няёмка перад натоўпам. Цяпер жа ў палкай прамове праявіў сябе вопытным сафістам:

— Джэнтльмены, я асуджаю заклік аўтара ананімнага звароту! Мы не маем права павярнуць зброю супраць Айчыны з-за таго, што Кангрэс здаецца нам непаслухмяным! Упэўнены, што вы не падтрымаеце гэты небяспечны заклік, пазбегнеце сцяжыны грэху! Высакароднасць вашых паводзінаў дасць магчымасць нашчадкам сказаць: «Калі б не было гэтага дня, свет ніколі б не ўбачыў вышэйшай ступені дасканаласці чалавечай натуры!..»

Агледзеў залу. Цішыня, пры якой пачаў гаварыць, змянілася незадаволеным перашэптваннем. Хтосьці выразна прамовіў:

— Сыты я рыторыкай!..

— Зараз я зачытаю пасланне новага старшыні Кангрэса містэра Міфліна, — выняў і разгарнуў паперу Вашынгтон. — У ім гаворыцца, што Кангрэс плануе зрабіць для арміі...

Паднёс ліст да вачэй, запнуўся, сунуў руку ў кішэню мундзіра і дастаў...: акуляры. З невыразным жалем камандуючы прамовіў:

— Джэнтльмены, дазвольце мне надзець акуляры. Я не толькі пасівеў, але і амаль аслеп на службе Айчыне, — і насунуў іх на нос.

Настрой ў зале вокамгненна змяніўся. Хтосьці кусаў сабе губы, у кагосьці па шчоках пацяклі слёзы, — і усё з любоўю глядзелі на яго. Афіцэры раптам усвядомілі, што гэты чалавек, якога ўспрымалі амаль за бога, перанёс такія ж сардэчныя пакуты, што і яны. І калі адмовіўся ад дыктатуры — значыць, мае важкія падставы! Афіцэры адчулі дзівоснае супакаенне ад таго, што імі камандуе такі сумленны чалавек.

Галоўнакамандуючы спакойна дачытаў ліст, у якім старшыня Міфлін паведамляў, што атрыманы ў Францыі крэдыт дазволіць усім афцэрам, якія выйдуць у адстаўку, выплачваць пажыццёвую пенсію, склаў паперу, сунуў акуляры ў кішэню і сказаў:

— Калі Кангрэс не выканае сваіх абяцанняў, маё жыццё будзе азмрочана горыччу да апошняга дня. Але я ўпэўнены — ўратаваная вамі Краіна не пакіне свае пазыкі нясплачанымі!

Пакланіўся і пайшоў да выхаду. Афіцэры ж крычалі яму ўслед:

— Віват!..

Пасля сыходу галоўнакамандуючага Гейтс прапанаваў працягнуць абмеркаванне ультыматума Кангрэсу, ды яго ўжо не слухалі. Афіцэры прынялі рэзалюцыю, у якой падзякавалі яго светласці за мудрую параду, і разышліся. Мара Гейтса пра паход на Філадэльфію разбілася аб акуляры Вашынгтона. Гэтага сардэчнага ўзрушэння няўдалы прэтэндэнт у дыктатары не перанёс — захварэў і неўзабаве памёр...

* * *

У красавіку Кангрэс Злучаных Штатаў атрымаў з Парыжа паведамленне — мір з Англіяй заключаны. Кангрэсмены прынялі пастанову аб заканчэнні вайны і перaслалі ў лагер ля Ньюберы.

Старшыня Кангрэса Міфлін — непісьменны, але багаты плантатар — дапісаў да той пастановы рэзалюцыю: «О. К.». Азначала гэта — «усё адкарэктавана», «all corrected». Такой рэзалюцыяй Міфлін суправаджаў кожную паперу, якая праходзіла праз яго рукі. Аднак ён думаў, што слова «all» пішацца з літары «о», а «corrected» — з літары «к». Сакратары не адважваліся зрабіць яму заўвагу — каб не звольніў. А ў іншых установах і падумаць не маглі, што заканадаўчую ўладу ўзначальвае непісьменны чалавек, меркавалі, быццам «ОК» — новая дзяржаўная фармулёўка, якая азначае — «усё найлепшым чынам». Такім чынам слоўца «о'кэй» і ўкаранілася ў Амерыцы.

Сам Джордж Вашынгтон, зачытаўшы 18 красавіка на ваенным савеце пастанову Кангрэса, вымавіў:

— О'кэй, джэнтльмены! Перамога!

Касцюшка пракаментаваў навіну на свой капыл:

— Нарэшце з'явіўся ў свеце асяродак свабоды для бедных і прыгнечаных усіх нацый і ўсіх рэлігійных веравызнанняў...

5 мая Вашынгтон сустрэўся з брытанскім камандуючым Карлтанам на беразе Гудзона і спытаў:

— Калі я магу ўвайсці ў Нью-Йорк?

Карлтан прыклаў руку да сэрца, быццам прасіў прабачэння:

— Не хапае караблёў, каб вывезці ўвесь мой корпус адразу. Эвакуацыя зойме шэсць месяцаў. Прашу вашу светласць улічыць маё складанае становішча і пачакаць.

— Улічу, пачакаю, — запэўніў яго светласць...

Каб прабавіць час, Вашынгтон сеў планаваць склад пасляваеннай арміі. Атрымалася, для абароны Злучаных Штатаў дастаткова 2 632 вайскоўцы — ахоўваць склады, Вест-Пойнт, Дэлаварскія ўмацаванні і памежныя фарты.

Ды ўсе падлікі аказаліся дарэмнымі — у чэрвені Кангрэс прыняў пастанову: кантынентальная армія распускаецца, яе зменяць апалчэнні добраахвотнікаў у кожным штаце. Акрамя таго, паколькі Амерыка перажывала новы фінансавы крызіс, Кангрэс адмяніў сваё рашэнне аб выплаце пажыццёвай пенсіі афіцэрам-адстаўнікам.

Зноў захвалявалася афіцэрства, загучалі ваяўнічыя прапановы — трэба ўсё ж прымусіць Кангрэс расплаціцца спаўна!

Каб прадухіліць новую змову, Вашынгтон склікаў пасяджэнне масонскай ложы, загадаў майстрам, чаляднікам і вучням:

— Усяляк утрымлівайце сваіх таварышаў ад мецяжу!

— А чаму б не прыняць у нашу ложу Аляксандра Гамільтана? — прапанаваў Касцюшка. — Палкоўнік можа не паслухацца галоўнакамандуючага. Але вучань не аслухаецца вялікага майстра.

На наступным пасяджэнні Вашынгтон прыняў у ложу Гамільтана і ўзнагародзіў Касцюшку разрадам чалядніка. Гамільтан, завадатар бунту, імгненна зрабіўся ціхмяным. Масоны — іх было не больш за сотню — зацятымі спрэчкамі на зборах уціхамірылі паўтысячы баявых таварышаў. Ваяўнічы запал у незадаволеных пакрысе выветрыўся.

У ліпені Вашынгтон на чале вялікай світы, у якую ўваходзіў і Касцюшка, паехаў у Філадэльфію: спадзяваўся угаварыць Кангрэс не распускаць армію, не пазбаўляць афіцэраў пенсіёну.

— Кантынентальная армія — адзінае, што нас злучае! — гаварыў ён на пасяджэнні. — Не будзе арміі, і рана ці позна Канфедэрацыя ператворыцца ў Раз'яднаныя Штаты Амерыкі.

Аднак пераканаць Кангрэс не здолеў.

— Пакуль існуе армія — існуе і пагроза дыктатуры! — прамаўляў старшыня Міфлін. — Дэмакратыю абароніць не ваяр, а свядомы добраахвотнік-апалчэнец!..

Не згадзіліся кангрэсмены і на пажыццёвую пенсію адстаўнікам. Замест яе пастанавілі выплаціць кампенсацыю: жалаванне афіцэрам за 5 гадоў службы, радавым — за 3 месяцы.

Пакуль галоўнакамандуючы змагаўся ў сценах Кангрэса, Касцюшка наведаў старога знаёмага — Ханса Эванса. Той расцалаваў госця, указаў на былую служанку і паведаміў:

— Цяпер яна — мая жонка!

— Віншую, місіс Эванс, — пацалаваў Тадэвуш руку кабеты.

— Цяпер не баюся, што мяне прагоняць, — пахвалілася тая сваім новым статусам у доме. — Цяпер сама наймаю служанак і затрымліваю ім заробак...

Падчас вячэры Эванс часта падліваліў госцю віна ў келіх. І нарэшце адважыўся задаць пытанне, якое вельмі хвалявала яго:

— А што мой сын? Па-ранейшаму ў вас ардынарцам?

— Так, — кіўнуў Касцюшка, разразаючы смажаную курыцу. — Не магу нахваліцца ім. Мужны, моцны, старанны...

Эванс расплакаўся:

— Я быў несправядлівы да яго. Я сапсаваў яму дзяцінства сваімі прыдзірками... Мне так шкада!.. Я зразумеў, наколькі люблю сына, толькі канчаткова страціўшы яго!

— Мо шчэ не канчаткова, — прыгубіў Касцюшка віна.

Гаспадар тут жа падліў яму ў келіх і ўсхвалявана спытаў:

— Думаеце, ён даруе мне? Даруе мае дурныя праклёны?

Скарыстаўшы момант, калі гаспадыня выйшла з пакоя, Тадэвуш адкрыў гаспадару самую страшную таямніцу Эванса-малодшага:

— Справа ў тым, сэр, што Марцін не любіць жанчын...

У Эванса-старэйшага акругліліся вочы:

— Дык ён гэты самы? Якія мужыкоў кахаюць?..

Касцюшка моўчкі выпіў віна.

Эванс цяжка паўздыхаў. Далікатна пацікавіўся:

— Прабачце, сэр, а паміж вамі нічога такога не адбывалася?

— Як вы маглі падумаць! — абурыўся Тадэвуш, нават келіх адсунуў.

Гаспадар вінавата ўсміхнуўся, а потым стукнуў кулаком па стале:

— Якая мне розніца?! Ён — мой сын! Які б ні быў! Я прыму яго такім, які ёсць! Абы вярнуўся! Абы я мог зноў абняць яго!

— Спадзяюся, вернецца, — узяў келіх у руку Касцюшка.

І яны чокнуліся, выпілі за паразуменне, за спагаду...

Уранку, калі Тадэвуш ў світце галоўнакамандуючага пакідаў горад, Ханс Эванс перадаў яму ліст, які пісаў палову начы.

На канверце надпісаў: «Марціну Эвансу, любаму сыну ад бацькі».

* * *

Па дарозе ў Ньюберы Вашынгтон разгаварыўся з Касцюшкам.

— Я хвалююся за лёс падначаленых, — сказаў генерал. — Быць камандзірам — значыць, адчуваць у сваім сэрцы боль кожнага з іх... У Кангрэса няма наяўных грошай. Французскую пазыку ўжо раскралі спекулянты. Вайскоўцам заплацяць сертыфікатамі. Нястача змусіць іх расстацца з сертыфікатамі па мізэрнай цане. Грошы скончацца і — галеча... Атрымліваецца, мы ваявалі за тое, каб сумленныя амерыканцы гібелі ў нястачы, а спекулянты — раскашавалі...

У такім прыгнечаным душэўным стане Тадэвуш даўно не бачыў галоўнакамандуючага. Касцюшка прыдумаў адзінае суцяшэнне:

— Наша служба — хамут. Калі натурыцца, ён пачынае муляць і ператвараецца ў пакуту. А калі не патураць сабе, хамут — добрая навука. Сам я атрымаў у Амерыцы добрую навуку. І мае баявыя таварышы з цягам часу зразумеюць, што нездарма запрагаліся ў гэты хамут, нездарма служылі Айчыне... Трэба толькі быць цярплівым, каб перажываць цяжкі час...

Ды засмучанага Вашынгтона яго развагі слаба суцешылі...

Прыехаўшы ў Ньюберы, Касцюшка перадаў бацькоўскі пакет ардынарцу. Той прачытаў ліст у яго прысутнасці — і расплакаўся, схіліў галаву на плячо камандзіру:

— Тата піша, што даруе. Піша, что чакае. Піша, што любіць. Піша, што вы яму ўсё распавялі...

— Лепей яму было пачуць ад мяне, чым ад кагосьці іншага, — пачаў апраўдвацца палкоўнік перад шарагоўцам.

— Дзякуючы вам наша сям’я з’ядналася... Памятаеце, я казаў, што Бог даслаў вас у Амерыку... Сэрца маё не памылілася, нездарма я закахаўся ў вас з першага ж імгнення...

Марцін абняў Касцюшку і хацеў пацалаваць, ды той далікатна адхінуўся. Як Тадэвушу абрыдла гэтае ненатуральнае каханне!

Пазіраючы ўбок, палкоўнік сказаў:

— Ты знойдзеш сваё шчасце, Марцін. Табе толькі дваццаць пяць. Наперадзе яшчэ столькі цудоўнага!.. Але не забывайся пра павагу да бацькі! Я свайго страціў, калі быў падлеткам. І за магчымасць зноў убачыць яго, абняць — аддаў бы ўсё...

І паспешліва адвярнуўся.

* * *

Калі ў лагеры даведаліся, што галоўнакамандуючы не дамогся ў Кангрэса саступак, жаўнеры пачалі сотнямі пакідаць Ньюберы. Афіцэры праклiналі лёс і дзесяткамі падавалі ў адстаўку. У час развітання з адстаўнікамі Вашынгтон ажно плакаў ад іх дакораў.

А ў Касцюшкі той восенню спраўдзілася даўняя мара.

28 кастрычніка яго выклікаў галоўнакамандуючы і спытаў:

— Здаецца, сёння у вас дзень нараджэння, палкоўнік?

— Так, ваша светласць. Мне споўнілася трыццаць восем.

Вашынгтон працягнуў яму паперу — пастанову Кангрэса.

— Віншую вас, генерал!

Тадэвуш учытаўся ў тэкст. Вашынгтону рэкамендавалася «выдаць палкоўніку Касцюшку дыплом на званне брыгаднага генерала і за-

сведчыць гэтаму афіцэру, што Кангрэс прасякнуты высокім усведамленнем яго працяглых і каштоўных заслуг...»

Калі папраўдзе, дык Касцюшка даўно лічыў сябе вартым генеральскага чыну. Але цяпер, калі мара здзейснілася, разгубіўся.

— Ды за якія заслугі? — прамармытаў ён.

— За Дэлаварскія ўмацаванні. За Цікандэрогу, Стэнвікс і Бенігтан. За Бемус-Хэйтс і Саратогу. За Вест-Пойнт. За Дэн, Йорктаўн і Чарлстан. За мужнасць у Ньюберы... Віншую, вы — першы генерал-паляк у амерыканскай арміі!

— Нарадзіўся я ліцвінам, — удакладніў Касцюшка.

Праз тры тыдні ў Ньюберы прыбыў кур'ер ад генерала Карлтана і перадаў Вашынгтону:

— Нью-Йорк — ваш...

25 лістапада 2 тысячы янкі — рэшткі арміі — увайшлі ў Нью-Йорк.

Пераможцы нетаропка праходзілі пустыннымі вулкамі. Жыхары пахаваліся ў дамах, баючыся рабункаў. Вецер гуляў на месцы разабраных платоў і павецяў-хлявоў, якія даўно пайшлі на паліва.

Калі калона на чале з Вашынгтонам наблізілася да партовай гавані, брытанская эскадра якраз адчальвала.

На прыбярэжным флагштоку развяваўся англійскі сцяг.

Вашынгтон распарадзіўся яго зняць і павесіць амерыканскі.

Жаўнеры караскаліся на слуп і спаўзалі ўніз — пад рогат і свіст з англійскіх караблёў. Брытанцы пажартавалі на развітанне — шчодра нацёрлі флагшток воскам.

Марцін Эванс папрасіў Касцюшку:

— Сэр, дазвольце паспрабаваць. У Філадэльфіі на Масленіцу я лазіў на такія слупы, даставаў прызы...

— Бяры прыз, Марцін, — дазволіў Касцюшка.

Ардынарац збегаў да выцягнутай на бераг шлюпкі і прывалок канат з якарам на канцы. Разуўся і палез наверх: утыкваў якар у дрэва, падцягваўся, ашчаперваў слуп босымі нагамі, каб не саслізнуць уніз, вырываў якар, усаджваў яго вышэй, зноў падцягваўся. І гэтак дапяў да вяршыні слупа, сарваў сіне-чырвоны сцяг, выняў з-пад мундзіра і замацаваў паласата-зорны. Палотнішча затрапятала на ветры. Марцін раскінуў рукі, шчаслівы, закрычаў:

— Перамога! — і слізгануў уніз.

Ад хвалявання ў Касцюшкі на вачах выступілі слёзы. Учынкам яго ардынарца завяршылася васьмігадовая вайна!

Англійскія фрэгаты знікалі ў акіянскай далечыні.

Амерыканцы прыкацілі ў порт гарматы і трынаццацю залпамі абвясцілі вызваленне ад брытанскага прыгнёту.

Зюзя ўвесь час круціўся каля гаспадара, падскокваў і гаўкаў. Калі Марцін падышоў, сабака падбег да яго, стаў на заднія лапы і ўпёрся пярэднімі у жывот Эванса. Марцін прысеў — і Зюзя лізнуў яго ў шчаку.

— Нарэшце запаважаў мяне! — узрадаваўся Эванс і абняў сабаку. — Бачыце, сэр? — звярнуўся да Касцюшкі.

Тадэвуш нічога не бачыў з-за слёз.

Ён перамог у гэтай вайне! Але — што далей?

* * *

Два тыдні вызваліцелі святкавалі перамогу: пілі ў тавернах, расхаджвалі па вуліцах і гарлапанілі песні, білі ў барабаны, размахвалі сцягамі. Неба над горадам расквечвалі феерверкі.

Арыстакраты засыпалі Вашынгтона і яго афіцэраў запрашэннямі наведаць іх салоны. Галоўнакамандуючы не адхіляў ніводнай просьбы — даваў такім чынам зразумець, што помсты не будзе, што амерыканцы больш не падзяляюцца на лаялістаў і патрыётаў.

Калі галоўнакамандуючы з'язджаў на баль, у ратушы, дзе базаваўся штаб, дзяжурыў хтосьці з яго давераных асобаў.

28 лістапада выпала чарга Касцюшку. У той вечар ён сядзеў адзін у пакоі — Зюзя блукаў па нью-йоркскіх завулках, заводзячы раманы з тутэйшымі сучкамі, увязваючыся ў грызню з сапернікамі. Яшчэ не сцямнела, калі прыйшла прыгожая кабета, звярнулася з просьбай:

— Я хачу, каб мяне прыняў яго светласць.

— Ваша імя, мэм? — узяў у руку пяро Тадэвуш і абмакнуў у чарнільніцу. — Сутнасць просьбы?

— Мэрэй. Джоана Мэрэй.

У Касцюшкі ажно дыханне сцяло. Узгадаўся верасень 1776-га, бой ля Гарлемскіх вышыняў, панічныя ўцёкі двух амерыканскіх брыгад ад гесенскай роты, спроба Вашынгтона звесці рахункі з жыццём...

— Тая самая Мэрэй, якая ўратавала нашу армію ад разгрому?

— Я толькі затрымала генерала Хоў. А ён затрымаў сваю армію. Я хачу прасіць, каб яго светласць падказаў Кангрэсу выплачваць мне пенсіён. Я жыву адна, у галечы, дроў няма за што набыць...

— Я перадам вашу просьбу яго светласці і асабіста прывязу адказ, — запэўніў Касцюшка.

Ён раптоўна адчуў неўтаймоўнае жаданне тут жа абняць і расцалаваць гэтую абаяльную жанчыну.

— Буду чакаць, — какетліва ўсміхнулася міс Мэрэй.

Аказваецца, яна яшчэ можа падабацца генералам!..

Галоўнакамандуючы распарадзіўся:

— Я пашлю ў Кангрэс просьбу аб пенсіёне для міс Мэрэй. Але прымаць яе не стану. Яе ўчынак быў прадыктаваны патрыятычнымі пачуццямі, аднак ляжыць за межамі этыкету. Даць ёй аўдыенцыю — недапушчальная раскоша для маёй рэпутацыі. Таму я даручаю вам, Тэд, выказаць ад майго імя падзяку міс Мэрэй і абнадзеіць яе...

Касцюшка пайшоў да Мэрэй з падарункам: яго ардынарац цягнуў вязанку дроў.

Кабета, убачыўшы візіцёраў, ад шчасця запляскала ў далоні:

— Вы не ўяўляеце, як цяжка знайсці дровы ў Нью-Йорку слабой жанчыне! А ў доме так холадна!

— Цяпер сагрэецеся, мэм, — раўніва прабурчэў Марцін.

Скінуў дровы ля каміна і сышоў.

Распаліла агонь ды таксама сышла і служанка гаспадыні.

Касцюшка і Мэрэй засталіся ўдваіх ва ўтульнай гасцёўні. Яна частавала Тадэвуша наліўкай уласнага вырабу, а той горача расхвальваў:

— Па веліччы духу ваш учынак не саступае подзвігам на палях бітвы! Там, дзе мужчыны выкарыстоўваюць кавалерыю, пяхоту і гарматы, вы ўжылі прыгажосць і чароўную абаяльнасць...

Расчуленая жанчына расплакалася:

— Вышэйшы свет Нью-Йорка адвярнуўся ад мяне! Шмат якія арыстакраткі плявузгалі, казалі брыдкія словы, нават хацелі адхвастаць бізунамі. А самі аказаліся лёгкай здабычай брытанскіх маракоў. Мяне і цяпер ігнаруюць, нікуды не запрашаюць. А да вайны столькі маладых джэнтльменаў круцілася пад вокнамі майго дома!

— Подзвіг — заўсёды па-за межамі нормаў, — быццам незнарок прытуліў яе галаву да свайго пляча Касцюшка. — І пакуль будуць памятаць гэтую вайну, не забудуць і ваш учынак. Дык зважайце не на тых, хто спрабуе запляміць ваш гонар, а на тых, хто схіліцца перад вамі з павагай. Асабіста я гатовы засведчыць глыбокую ўдзячнасць вам ад імя кантынентальнай арміі...

Мэрэй выцерла слёзы.

— Пасля Хоў да мяне заляцаліся некаторыя брытанскія генералы. Я ім адмовіла. Спаць з ворагам — непатрыятычна.

— Вы — ідэал амерыканскай патрыёткі! — заківаў Касцюшка.

— На жаль, вы не такі прыгожы, як Хоў, — заўважыла Мэрэй.

— Сляды на снезе не падобныя да таго, хто іх пакідае, — выкруціўся Касцюшка. — Гэтаксама і маё аблічча не адпавядае маёй сутнасці. Але паверце, у маёй душы шмат спагады...

— Хочаце паглядзець спальню, у якой генерал Хоў быў пераможаны? — пайшла кабета па лесвіцы наверх.

Разамлелы ад наліўкі, Касцюшка падаўся за ёй, расшпільваючы гузікі на мундзіры:

— Я хацеў бы даведацца, якім чынам вы перамаглі яго!..

На світанку Тадэвуш прызнаўся:

— Цяпер ведаю — на вашым ложку любы генерал забудзе пра вайну.

— Спаць з амерыканскім генералам — патрыятычна, — давяла да яго ведама гаспадыня. — Я магла б закруціць раман і з палкоўнікам, і з маёрам. Але я ведаю сабе цану і пайду замуж толькі за генерала...

Касцюшка на ўсялякі выпадак пацікавіўся:

— А калі б выйшлі за мяне, паехалі б са мной ў Літву?

— Куды?! — жахнулася тая. — Я не хачу з'язджаць з Нью-Йорка! Хіба можна жыць удалечыні ад радзімы?

— Гадоў сем можна. Паверце...

Калі выйшаў з дому Мэрэй, убачыў ля ганку Зюзю — верны сабака чакаў гаспадара. Ідучы па пустыннай вуліцы, Тадэвуш памахваў сваёй палкай з булдавешкай. Зюзя хапаў яе зубамі, адбягаўся, гаўкаў, падкрадваўся і зноў хапаў палку, каб потым зноў адбегчыся.

Так і дайшлі да дома, дзе кватараваў Касцюшка. Там камандзіра чакаў узнерваваны Марцін, дапамог яму зняць боты і распрануцца.

Тадэвуш паваліўся на ложак і захутаўся ў коўдру.

— Ад жанчын — толькі непрыемнасці! — з пагардай вымавіў ардынарац, чысцячы мундзір.

— Ехаў бы ты дадому, Марцін, — сказаў Касцюшка. — Цябе чакае бацька. А мяне — Бацькаўшчына...

* * *

4 снежня галоўнакамандуючы запрасіў афіцэраў кантынентальнай арміі на развітальную вячэру ў таверну «Францыя». Прыйшлі тры

дывізійныя і адзін брыгадны генерал (зразумела, Касцюшка). Дваццаць шэсць дывізійных і сорак тры брыгадныя генералы праігнаравалі запрашэнне: лічылі сябе падманутымі — столькі гадоў змагаліся за Айчыну, а яна выракла іх на галечу! Выказваючы непавагу Вашынгтону, генералы меркавалі, што такім чынам дэманструюць пагарду і да Кангрэса. Затое палкоўнікі, маёры, капітаны і лейтэнанты з'явіліся ўсе — галоўным чынам, каб падсілкавацца.

Прагучала процьма тостаў і палкіх прамоў.

Калі Вашынгтон падняў чару з пуншам, рука ў яго задрыжэла. Выгляд афіцэраў дратаваў яму сэрца — яны гатовы былі памерці за яго, а ён не змог ім дапамагчы, уратаваць ад жабрацтва!

На заканчэнне банкету да Вашынгтона па чарзе падыходзілі прысутныя, абдымалі, дакраналіся вуснамі да шчакі.

Касцюшку галоўнакамандуючы прапанаваў:

— Прыязджайце пагасціць да мяне ў Маўнт-Вернан.

— Уладкую справы ў Кангрэсе і прыеду, — абяцаў той.

З таверны Вашынгтон паехаў у порт, дзе сеў на барку і адплыў у Філадэльфію — здаваць камандаванне Кангрэсу.

Касцюшка, як і многія, застаўся ў «Францыі», цадзіў віно, час-пачас пазіраў на пячатку сыгнета, пытаўся ў срэбнага арла: «Цяпер я — адстаўны генерал.... Што далей?» Мудрая птушка не адказвала, але крылле ў чырвоным полі не складвала, мела намер яшчэ палятаць!

З таверны Тадэвуш на добрым падпітку пайшоў да Мэрэй — развеяцца ад цяжкіх думак, выспацца.

Выспацца жанчына не дала, затое цяжкія думкі яго пакінулі...

23 снежня на пасяджэнні Кангрэса Джордж Вашынгтон у сціслай прамове абвясціў пра сваю адстаўку з пасады галоўнакамандуючага кантынентальнай арміі ў сувязі з заканчэннем ваенных дзеянняў, пакланіўся надзьмутым ад пыхлівасці заканадаўцам ды з'ехаў у Маўнт-Вернан сустракаць Каляды. І шчыра меркаваў, што болей не вернецца да палітычнай дзейнасці. Досыць з яго гэтай клятай палітыкі!

А Касцюшка затрымаўся ў Нью-Йорку і ў кампаніі Джоаны Мэрэй адсвяткаваў Каляды.

## 1784 год

У студзені Касцюшка выправіўся з Марцінам у Філадэльфію.

Перад ад'ездам прапанаваў Джоане руку і сэрца. Тая абяцала:

— Я падумаю, Тэд. Я пакуль не ўпэўнена...

— Не ўпэўнены ў сваіх пачуццях?— перапытаў Тадэвуш.

— Ваша фінансавае становішча пакуль не падаецца мне прываблівым...

Вось Тадэвуш і паехаў, каб уладзіць свае праблемы.

У Філадэльфіі, як заўсёды, пасяліўся ў доме Эвансаў. Убачыў гарачую сустрэчу бацькі і сына, моцныя абдымкі і слёзы спагады. Разам з імі выпіў шмат рому і пачуў шмат прачулых слоў...

Да вясны штотыдзень наведваўся ў Ваеннае ўпраўленне, цікавіўся: якім чынам Кангрэс узнагародзіць яго? У адказ чуў:

— Гэтае пытанне будзе разгледжана на бліжэйшай сесіі. Прынамсі, містэр Вашынгтон даслаў ліст, у якім атэстуе вас як чалавека навукі і вышэйшых маральных якасцяў. Кангрэс улічыць яго атэстацыю...

У сакавіку кангрэсмены прынялі пастанову: Касцюшка атрымаў амерыканскае грамадзянства, зямельны надзел у 20 акраў і 12 280 долараў. Сакратар Кангрэса, аднак, папярэдзіў:

— Паколькі зараз у краіне складаная фінансавая сітуацыя, вам не заплацяць усю суму. Вы можаце атрымліваць толькі працэнты з яе — 736 долараў штогод.

Касцюшка падлічыў:

— Атрымліваецца 61 долар штомесяц. А пачынаў я службу з заробка ў 60 долараў... Калі піць не віскі, а каву, халасцяку на гэтыя грошы так-сяк можна пражыць...

Надзел яму «нарэзалі» недалёка ад плантацый Джорджа Вашынгтона. Дык Тадэвуш паехаў да яго, памятаючы колішняе запрашэнне, амаль як да суседа-землеўладальніка.

Вашынгтон ласкава сустрэў яго на ганку сядзібы:

— Рады вас бачыць, Тэд! У маім доме простыя парадкі. Вы заўсёды можаце разлічваць на кавалак свініны і чарку рому. І распараджайцеся сваім часам, як пажадаеце...

Касцюшка вырашаў: раней, назіраючы за Вашынгтонам, вучыўся, як камандаваць арміяй, а цяпер будзе вучыцца, як кіраваць гаспадаркай! Мо і ён на сконе дзён асядзе ў родавым гняздзе, у Сяхновічах, адчуе асалоду вясковай ідыліі? Дык бавіў увесь час побач з былым военачальнікам, стаў яму кшталту ад'ютанта.

У маёнтку была процьма сваякоў, пляменнікаў і пляменніц, гасцей і сабак. Гасцей звычайна — не менш, як дзесятак, сабак — дзесяткі два. Догі, тэр'еры, сенбернары і колі круціліся пад нагамі, забягалі ва ўсе пакоі, сцягвалі са стала кавалкі вяндліны, разбівалі талеркі з салатамі. Госці адчувалі сябе няёмка, малыя пляменнікі вішчэлі ад радасці, а гаспадар пазіраў на ўсё з пяшчотнай усмешкай і прапускаў міма вушэй жончыны скаргі. Ён быў вышэй за сваю Марту на дзве галавы, і калі жонка хацела яго аб нечым папрасіць, дык доўга торгала за гузік на сурдуце, перш чым ён схіляўся да яе.

З сабакамі Вашынгтона добра пасябраваў і Зюзя, якога Касцюшка прывёз з сабой. Днямі недзе гойсаў з догамі і тэр'ерамі, але начаваць прыбягаў да ложка Тадэвуша. Клаўся спаць або на ногі гаспадару, або, калі Тадэвуш спіхваў яго на падлогу, ля парога і пакрыўджана ўздыхаў. А на світанку лізаў гаспадара ў шчаку. І не адыходзіў, пакуль Тадэвуш, з заплюшчанымі вачыма, не казытаў яго за вушамі! Тады толькі Зюзя задаволена вішчаў і сыходзіў. Адкрываў дзверы Зюзя спрытна — лажыўся на бок і пярэднімі лапамі падцягваў дзверы да сябе, а потым маланкава праслізгваў ў шчыліну.

На імя Вашынгтона прыходзілі стосы лістоў — людзі выпрошвалі ў экс-галоўнакамандуючага пратэкцыю, пыталіся пра лёс сваякоў.

— Просяць мяне напісаць, што я ведаю пра нейкіх Рычарда, Тома ці Гары, якія служылі ў нейкай роце нейкага палка нейкай дывізіі! — скардзіўся той Касцюшку. — Узгадваюць са свайго жыцця тысячы падзей, якія тычацца мяне не больш, чым Вялікага Магола!

І ўсё ж на кожны ліст дасылаў вытанчана ветлівы і беззмястоўны адказ.

— Уяўляю, як будуць стагнаць будучыя даследчыкі вашай дзейнасці, — усміхаўся Тадэвуш. — Вы напісалі столькі дзелавых і асабістых лістоў, што яны патонуць у папяровым акіяне...

У Маўнт-Вернан бясконца наязджалі наведнікі — паглядзець на славутасць. Вашынгтон прызвычаіўся не зважаць на іх — нават калі гаварыў візіцёру пару раўнадушных фраз.

Распарадак дня ў яго быў немудрашчы. Клаўся спаць на змярканні, а дзесятай вечара, а падымаўся на світанку, а шостай. Паслугамі камердынера, старога раба-мулата, не карыстаўся, апранаўся без яго дапамогі. Дарэчы, Касцюшка ні разу не бачыў камердынера цвярозым — той быў на падпітку ўранку і да непрытомнасці п'яны ўвечары. Але Вашынгтон любіў старога, які служыў яму больш за сорак гадоў.

Пасля сняданку — малако з кавалкам праснака — гаспадар аб'язджаў плантацыі на кані, вяртаўся ў тры гадзіны, пераапранаўся і выходзіў у гасціную палуднаваць. Еў моўчкі, ні на кога за сталом не зважаў, а пасля кавы ішоў у кабінет, занатоўваў, што зроблена па гаспадарцы і што належыць зрабіць, падлічваў, колькі сплачана і колькі зароблена ад продажу тытуню.

Падлікі прыводзілі ў роспач. Вашынгтон скардзіўся Касцюшку:

— Як ні высільваюся, выдаткі усё роўна пераважаюць над прыбыткамі! Вірджынская глеба не дае шчодрых ураджаяў, а ўсё сабранае з'ядаюць госці, прыслуга, рабы...

— Мо рабства усяму віной? — выказаў здагадку Касцюшка. — Вашы рабы не зацікаўлены ў добрасумленнай працы...

— Амерыка пакуль не гатова да іншых форм уласнасці, — бараніў Вашынгтон паўднёваамерыканскія прынцыпы. — Як, дарэчы, і ваша Рэч Паспалітая, Тэд. Толькі нашы рабы маюць чорную скуру, а вашы — белую. Наш Кангрэс вызваліў з рабства тых чарнаскурых, якія ваявалі ў кантынентальнай арміі. Кангрэс пастанавіў не завозіць больш рабоў з Афрыкі. Сам я забараніў ужываць цялесныя пакаранні, а ў тастаменце запісаў, каб пасля маёй смерці вызвалілі ўсіх дзвесце шаснаццаць рабоў. Я ніколі не прадаваў ніводнага раба без яго згоды... — Памаўчаў і прызнаўся: — Не паверыце, Тэд, але ў той красавіцкі дзень 1775-га, калі ў Бостане пачалася рэвалюцыя, я напісаў аб'яву, у якой прызначаў узнагароду за злоў раба-ўцекача...

З Філадэльфіі Вашынгтону рэгулярна прысылалі кніжкі па аграноміі. Аднак паколькі чытаць ён не любіў, дык гэты абавязак узяў на сябе Касцюшка: за дзень прачытваў навінку, а за вячэрай пераказваў яго светласці самыя цікавыя ідэі.

Асабліва ўразіла Тадэвуша кніга Артура Юнга, знакамітага знаўца сельскай гаспадаркі. Юнг раіў замяніць тытунь, які абясплоджваў глебу, кукурузай або пшаніцай. Касцюшка пераказаў гэта Вашынгтону, і плантатар вырашыў рызыкнуць — з наступнага сезону.

Потым у Вашынгтона нарадзіўся новы план, як абагаціцца — аддаць у арэнду сотні акраў, набытыя ў маладосці за Алеганскімі гарамі. Дык з групай сяброў і слуг паехаў аглядаць тамтэйшыя ўладанні. Вядома, і Касцюшка паехаў з ім. У падарожжа прыхапілі віно, рыбалоўныя прылады, прыправы да прысмакаў, нават сталовае срэбра. Аднак прыемны настрой доўжыўся да тае пары, пакуль не апынуліся па другі бок хрыбта Блю-Рыдж. Аказалася, у Вашынгтонавых уладаннях даўно пасяліліся сотні фермерскіх сем'яў, якія і не ведалі, што гэтыя землі некаму належаць. Гадамі апрацоўвалі неўрадлівую глебу,

выкарчоўвалі лясы пад пашу, бараніліся ад сцюжы, спякоты, індзейцаў — і на табе: прыехаў нейкі багацей, патрабуе арэндную плату!

— Гэтая зямля належыць мне! — трос Вашынгтон купчай трыццацігадовай даўніны. — Не паверыце мне, паверыце суду! Суд спагоніць з вас вялікі штраф. Дык лепш давайце дамовімся!

І прапанаваў арэнду на 999 гадоў. Пасяленцы ж апелявалі да Боскай справядлівасці і плаціць арэндную плату не жадалі.

— Як вам не сорамна, джэнтльмены? — сарамаціў іх Касцюшка. — Вы маеце справу з Бацькам амерыканскай нацыі, экс-галоўнакамандуючым кантынентальнай арміі...

— Якой яшчэ арміі? — здзіўляліся фермеры, якія нічога не чулі ні пра якую вайну. — Які ён нам бацька?

Бацька Краіны страшэнна брыдкасловіў, а пасяленцы цэліліся ў яго з паляўнічых ружжаў.

— У суд на вас падам! — пакляўся Вашынгтон.

З тым і паехаў у Маўнт-Вернан.

Засмучаў Вашынгтона не толькі замах на яго ўласнасць. Гэтае здарэнне нагадала яму пра куды больш значныя беды Амерыкі.

— Я адасобіўся ад палітычных звадак, Тэд, — завёў ён па дарозе гаворку з Касцюшкам, — і ўсё роўна не магу не думаць пра гаротны стан нашай краіны. Увесь час атрымліваю навіны з розных штатаў — і бачу шмат падстаў для смутку. Бачу, што Кангрэс ужо не кіраўнічы орган, а дарадчы. Парламенцкія асамблеі штатаў не зважаюць на яго пастановы, рэдка дасылаюць прадстаўнікоў на пасяджэнні. Бачу, што амерыканская нацыя ператвараецца ў трынаццаць народаў, ніводны з якіх не гатовы ахвяраваць суверэнітэтам...

— Зусім, як у мяне на Бацькаўшчыне, — сказаў Тадэвуш. — Кожны жыве сваімі інтарэсамі. А да агульнай бяды Рэспублікі клопату няма...

— І часам так баліць сэрца, калі чытаю лісты сяброў. У кожным звароце — страх перад непрадказальнай будучыняй, апакаліпсічны настрой. Пакуль ваяваў, я верыў, што людзі па сваёй прыродзе дабрадзейныя. Варта зрынуць з іх вярыгі тыраніі, і яны выйдуць на дарогу да шчасця... Ды штосьці мы блукаем кружным шляхам. Амерыка нагадвае мне маладога гультая, які заўчасна атрымаў вялікую спадчыну. Мае суайчыннікі не могуць распарадзіцца сваёй свабодай...

— І вас папросяць дапамагчы ім, — напрарочыў Касцюшка. — Змусіць штаты да адзінства, сцэментаваць нацыю зможа дзеяч толькі з такім выключным аўтарытэтам, як ваша мосць.

— Каб я вярнуся ў палітыку? — жахнуўся Вашынгтон. — Ніколі! Улада для мяне — цяжкі абавязак, а не асалода...

— Таму ваша кандыдатура — найлепшая, — прамовіў Касцюшка...

І першым крокам, як падалося абодвум, стаўся збор у Філадэльфіі членаў «Таварыства Цынцыната». Запрашэнні на яго ўжо чакалі іх у Маўнт-Вернане. Вашынгтон патлумачыў:

— Ідэя заснаваць гэтую суполку з'явілася пазалетась у генералаў Грына, Лінкальна, Нокса і Штабена. Яны распрацавалі статут і прапанавалі мне пасаду ганаровага старшыні.

— Бліскучая аналогія, — ухваліў Касцюшка. — Патрыцыю Луцыю Квінкцыю Цынцынату Сенат Рымскай Рэспублікі таксама двой-

чы надаваў дыктатарскія паўнамоцтвы. І пасля перамогі над эквамі і сабінамі Цынцынат адмаўляся ад паўнамоцтваў. І застаўся ў гісторыі узорам сціпласці, мужнасці, вернасці грамадзянскаму абавязку. І каму ж, як не вам, сучаснаму Цынцынату, узначаліць таварыства?

— Я не адразу пагадзіўся, — з гонарам сказаў амерыканскі Цынцынат. — Спярша ўважліва пачытаў статут. Шмат што спадабалася. У прыватнасці, намер аб'яднаць былых афцэраў, каб клапаціцца пра іх дабрабыт, аказваць філантрапічную дапамогу. Але насцярожыла, што членства прадугледжвалася спадчыннае, а ганаровымі членамі маглі стаць палітычныя і фінансавыя дзеячы. Такім чынам таварыства хацела ўплываць на ўнутраную і знешнюю палітыку Злучаных Штатаў. А нашчадкі яе членаў сталі б новымі арыстакратамі. Але ж гэта пярэчыць прынцыпым Дэкларацыі аб незалежнасці! Навошта тады было абвяшчаць, быццам усе людзі нараджаюцца роўнымі? Непакоіла мяне і тое, што амерыканская эліта будзе складацца з вайскоўцаў. Гэта азначае, што Амерыка заўсёды будзе з кімсьці ваяваць!.. Дык я пагадзіўся ўзначаліць суполку толькі пасля змен у статуце. Таварыства адмяніла спадчыннае членства і дакляравала неўмяшальніцтва ў палітыку!

Касцюшка пакруціў галавой:

— Цяжка паверыць, каб генералы адмовіліся ад намеру ўплываць на палітыку... Упэўнены, на гэтым пасяджэнні вашу светласць папросяць, каб вы публічна выказаліся супраць сённяшняй анархіі. На ваш голас звернуць ўвагу заканадаўцы. І вам запрапануюць вышэйшую пасаду...

— Я не пагаджуся на карону, — бараніўся Вашынгтон. — А канстытуцыя прадугледжвае адзіную вышэйшую пасаду — старшыні Кангрэса, якога штогод пераабіраюць.

— Канстытуцыю можна перапісаць. І ўнесці пункт аб пасадзе, напрыклад, Начальніка дзяржавы...

— Каб унесці змены, патрэбна згода парламенцкіх асамблеяў! Сумняваюся, каб яны ахвяравалі сваім суверэнітэтам!

Ды Касцюшка не сумняваўся:

— Усім урэшце абрыдзее анархія...

* * *

Перш, чым ехаць у Філадэльфію, Тадэвуш паглядзеў на тыя 20 акраў на ўзбярэжжы Дэлавара, якімі яго ўзнагародзіў Кангрэс.

«Займацца тут гаспадаркай? — думаў ён, аб'язджаючы на кані верасовую раўніну, на якой там-сям тырчэлі фермы самавольных пасяленцаў. — Збудаваў бы сабе маёнтак. Не раскашаваў бы, але і не галадаў бы... А што далей? Зарабляць грошы, каб потым марнаваць іх на забавы? Які сэнс у такім жыцці? Тое ж самае магу рабіць і на Бацькаўшчыне. Аднак на Літве ў мяне хаця б будзе шанц, што займуся не сяўбой грэчкі, а чымсьці больш карысным...»

Вярнуўшыся ў Маўнт-Вернан, ён прапанаваў Вашынгтону:

— Чаму б вам не набыць маю зямлю?

Той вылучыў іншую прапанову:

— У мяне няма грошай, каб прыдбаць вашы акры. Але я магу ўзяць іх у арэнду. Буду вырошчваць на іх кукурузу і прадаваць. А ва-

шы працэнты ад прыбытку пераводзіць на рахунак у банк. Будзеце атрымліваць іх разам з выплатамі вашага пенсіёну.

Касцюшка ахвотна падпісаў пагадненне... Праз пару дзён абодва выехалі ў Філадэльфію. Касцюшка зноў пасяліўся ў доме Ханса Эванса.

Марцін Эванс сказаў яму ў прыватнай размове:

— Бацька далучыў мяне да сваіх камерцыйных спраў. Вось не думаў, што стану негацыянтам, буду цікавіцца курсам фунта на біржы! Справа мне гэтая не вельмі даспадобы, але ж — не паміраць з голаду!.. Прынамсі, я сустрэў чалавека, у якога закахаўся. Здаецца, гэта ўзаемна... Вы не раўнуеце, сэр?

— Не жартуй! — рассмяяўся Касцюшка. — Я ж казаў: шчасце напаткае цябе. Трэба ўмець чакаць, не адчайвацца...

Праз дзень Касцюшку наведалі экс-генералы Лінкальн і Грын.

— Наш старшыня, містэр Вашынгтон, выказаў пажаданне бачыць вас членам таварыства. Ці згодны вы ўступіць у нашу суполку, якая мае мэтай умацаванне свабоды сярод усіх людзей?

Абодва загадзя ведалі, што адкажа Касцюшка...

5 мая на пасяджэнні «Таварыства Цынцыната» ў гарадской мэрыі Тадэвуш убачыў многіх знаёмых афіцэраў — тут сабралася ў поўным складзе масонская ложа кантынентальнай арміі. Не было, праўда, ні скураных пальчатак, ні фартухоў, ні дывана з мудрагелістай сімволікай. Затое ў тым жа парадку размяшчаліся ў зале крэслы, а ў цэнтры стаяла кафедра з раскрытым Евангеллем.

Касцюшка ўвайшоў у залу ў суправаджэнні Лінкальна і Грына — з такім жа эскортам ён два гады таму ўваходзіў у ложу.

Джордж Вашынгтон з усмешкай сказаў яму:

— Я рады вітаць у вашай асобе, дарагі Тэд, новага члена нашага таварыства. Рады абвясціць, што Кангрэс Злучаных Штатаў зацвердзіў вышэйшую ваенную ўзнагароду — Ордэн Цынцыната. У ліку іншых вартых асоб гэтым ордэнам узнагароджаны і вы...

Ён узяў з аксамітнай падушачкі, якую трымаў экс-генерал Штабен, ордэн на пурпуровай стужцы і павесіў на шыю Тадэвушу. Той пачціва схіліў галаву. Сціплай прамовай Касцюшка падзякаваў за давер:

— Вялікі гонар для мяне атрымаць Ордэн Цынцыната з рук сучаснага Цынцыната!

Прысутныя заўсміхаліся і заківалі галовамі.

Цырымонія ўзнагарод працягвалася. Тадэвуш сеў у крэсла і разгледзеў ордэн — выяву срэбнага арла са складзеным крыллем, з кручкаватай дзюбай і доўгім хвастом. Пасярэдзіне птушынай выявы — кружок з надпісам: «Усім ахвяраваў дзеля абароны Рэспублікі».

Апусціў Касцюшка позірк да пячаткі свайго сыгнета — раўніва стары сябра, срэбны арол з распасцёртым крыллем, пазіраў на саперніка, які раптоўна ўладкаваўся ля сэрца гаспадара.

Ды яшчэ бліжэй да Касцюшкавага сэрца, пад мундзірам і кашуляй, вісеў медальён з партрэтам Людвікі Сасноўскай, а ў кішэні — яе ліст, напісаны ў гэты ж дзень тры гады таму. Засяроджана пазіраючы, як старшыня таварыства вешае ўзнагароды на шыі іншых экс-генералаў, слухаючы іх прамовы, Касцюшка думаў пра яе. Яна адзіная, хто верыла, што ён стане генералам! Як шкада, што не ба-

чыць яго цяпер! Ці ўбачацца яшчэ? А як жа хочацца!.. Чамусьці падумалася Тадэвушу, што кожны крок у ягонай амерыканскай адысеі быў крокам да яе.

Зноў памацаў Тадэвуш ордэнскую выяву арла, паглядзеў на пячатку сыгнета. Узгадаў намаляванага на дошцы-плакаце задзірлівага арла, якога восем гадоў таму бачыў на плошчы перад мэрыяй. Узгадаў жалезнага арла, які праз пяць гадоў на той жа плошчы ўзляцеў на вяршыню мармуровай калоны — велічны і пыхлівы пасля атрыманых перамог. І сам сябе Касцюшка атаясамліваў з арлом — пераляцеў Атлантыку, увязаўся ў бойку з Брытанскай імперыяй, адчуў невядомую дасюль свабоду, спазнаў сваю існасць ваяра. А зараз, відаць, пара скласці крылле. Але ж, калі спатрэбіцца, зноў узляціць, рынецца ў бітву! Якія б выпрабаванні ні чакалі наперадзе — ён усё роўна застанецца арлом сярод іншых птушак!..

А між тым пасля завяршэння цырымоніі сярод членаў таварыства завязалася гарачая дыскусія наконт сітуацыі ў краіне. Як і прадказваў Тадэвуш, на Вашынгтона ціснулі паплечнікі.

— Хіба ваша светласць не заўважае, як паглыбляецца раскол між купкай спекулянтаў і насельніцтвам? — пытаўся Грын. — Спекулянты праз лабістаў у парламенцкіх асамблеях устанавілі такія закупачныя цэны, што фермер ці рамеснік, як ні працуй, усё адно патрапіць у пазыковую пятлю. Не сплацяць своечасова — суды адбіраюць зямлю, жывёлу, майстэрні, а саміх працаўнікоў — у турму…

— Злучаныя Штаты на мяжы раз’яднання, — насядаў Лінкальн. — Нью-Йорк і Масачусетс увялі пошліны на брытанскія тавары. А Канектыкут, каб пазбавіцца канкурэнтаў, пошліны адмяніў. Вірджынія заяўляе аб намеры выйсці з Канфедэрацыі. А Кентукі наогул хоча вярнуцца пад уладу Брытаніі...

— Хіба ваша светласць не бачыць, што ніхто не выконвае пастановы Кангрэса? — настойваў Гамільтан. — І ў грамадзян няма пачцівасці да бяссільнай улады. Няма чалавека, які бараніў бы дэмакратыю. Старшыня Кангрэса Горхэм даслаў ліст прынцу Генрыху Прускаму, якога лічаць лібералам, спытаў — ці пагодзіцца стаць канстытуцыйным манархам у Амерыцы? На шчасце, Генрых адмовіўся, бо хоча быць абсалютным манархам у Прусіі...

— Усё бачу, чую, ведаю і за ўсё баліць сэрца, — пагаджаўся Вашынгтон. — Ды цяпер, калі кантынентальная армія распушчана, ніхто не прыслухаецца да маіх меркаванняў...

— Наша таварыства можа паўплываць на кангрэсменаў! — даводзіў Грын. — Будзе ўтвораны канвент, які складзе новую канстытуцыю. І калі ваша светласць выкажацца за з’яднаную супольнасць штатаў пад кіраўніцтвам федэральнага цэнтра, вас пачуюць...

— Калі ваша светласць выкажацца за адраджэнне адзінага войска, вам зноў прапануюць пасаду галоўнакамандуючага, — настойваў Гамільтан. — Улада атрымае інструмент для таго, каб умацаваць сярод падданых свяшчэнную павагу да ўлады...

— Аднак вам патрэбна і грамадзянская ўлада, — дадаў Лінкальн, — каб перакінуць мост цераз прорву паміж рознымі групоўкамі насельніцтва, каб змусіць штаты да ўзаемных саступак...

— Тое, што вы прапануеце, джэнтльмены, — парушэнне канстытуцыі, — адмаўляўся Вашынгтон.

— Канстытуцыя — не Біблія! — закрычаў Штабен. — Яе трэба мяняць, калі справа тычыцца агульнага дабрабыту...

Касцюшка, моўчкі назіраючы за спрэчкай, думаў: «Даканаюць старога. І зробяць Начальнікам дзяржавы».

І думаў, што калі папраўдзе, то і сам варты пасады Начальніка! Ва ўсялякім выпадку, заслугоўвае яе больш, чым многія з яго землякоў. А калі ведае гэта сам, з цягам часу даведаюцца і суайчыннікі!

* * *

Перад тым, як Вашынгтон выехаў у Маўнт-Вернан, Касцюшка сустрэўся з ім, каб развітацца.

— У жніўні я вяртаюся на Бацькаўшчыну, ваша светласць.

Былы галоўнакамандуючы прэзентаваў яму квадратны футарал — у ім на чорным аксаміце ляжала пара пісталетаў.

— У знак маёй асабістай прыхільнасці, — сказаў Вашынгтон. — Спадзяюся, Тэд, мой сціплы падарунак будзе вам карысны...

Касцюшка горача абняў любімага генерала...

У чэрвені з'ездзіў у Нью-Йорк — да Джоаны Мэрэй. Рашуча спытаў яе:

— Вы падумалі над маёй прапановай? Пагодзіцеся стаць маёй жонкай? Паплывеце са мной у Еўропу?

— Я хачу памерці на радзіме, — запярэчыла кабета.

— Я таксама.

— Хіба я — недастатковая прычына, каб вы пусцілі карані ў Амерыцы, Тэд?

— Я не прыжывуся тут. Мае карані — на Бацькаўшчыне. Рыбіна плыве на нераст праз тысячы водаў у сваё мора, сваё лонвішча. Птушка ляціць праз кантыненты ў сваё гняздо. Гэтаксама і я — не пражыву доўга без свайго мора, без свайго гнязда. Паплыву, палячу. Ніштo мяне не ўтрымае.

— Нават я? — расплакалася Джоана.

Касцюшка вінавата апусціў галаву:

— Даруй. Нешта не шанцуе мне ў жыцці з жанчынамі...

Вяртаючыся ў Філадэльфію, толькі пра гэта і думаў. Чаму ніяк не шанцуе займець сям'ю? Хіба мала маліўся, прасіў у нябёсаў?..

Каб здабыць грошы на дарогу, Тадэвуш пайшоў на біржу і развітаўся з сертыфікатамі, якімі ў час вайны сплачвалі палкоўніцкі заробак. Прадаў за бясцэнак — пяць працэнтаў ад іх сапраўднага кошту, але іншай цаны ніхто не прапаноўваў. Усё ж да Варшавы, па яго разліках, хапала!

Дырэктар банка гарантаваў яму выплачваць генеральскую пенсію з адпаведнымі працэнтамі праз банкі-партнёры ў Парыжы і Варшаве.

З банка Тадэвуш падаўся ў порт — даведацца, які карабель плыве ў Францыю. Аказалася — барк «Гіпапатам», порт прыпіскі — Брэст.

Касцюшка здзіўлена пакруціў галавой — на «Гіпапатаме» з Брэста ён прыплыў у Амерыку! Ну хіба там, у нябеснай канцылярыі, не дзіўнае пачуццё досціпу?..

Марціна Эванса ён папрасіў:

— Прыглядвай за Зюзем. Мне не дазволяць узяць яго на карабель. Ніколі яго не крыўдзі. Абяцай мне!

— Слова гонару! — Марцін прыклаў руку да сэрца.

А Зюзю Касцюшка прылашчыў, сказаў:

— Я ведаю, ты ўсё разумееш. Даруй, што пакідаю. Слухайся Марціна. Цяпер ён твой сябра і гаспадар.

Сабака чулліва глядзеў яму ў вочы, круціў хвастом, лізаў яго далоні. Тадэвуш ажно расплакаўся...

Назаўтра Касцюшка развітаўся з Хансам Эвансам і яго жонкай.

— Мо яшчэ ўбачымся, — чамусьці сказаў домаўладальнік.

Тадэвуш і думкі такой не дапускаў.

Марцін суправаджаў былога камандзіра на прыстань, нёс куфэрак з яго сціплым багажом. Зюзя круціўся ў іх пад нагамі.

— Ведаеш, які сёння дзень? — спытаў Тадэвуш ардынарца. — У гэты дзень восем гадоў таму я ступіў на гэты прычал і ледзь не паслізнуўся перад гэтай во лужынай, — паказаў пад ногі.

Камандаваў «Гіпапатамам» іншы капітан — каржакаваты, з кароткай барадой і шрамам на шчацэ і, у адрозненне ад папярэдніка, добра выхаваны — не сплёўваў пасажырам пад ногі і не пагражаў выкінуць за борт.

— А што здарылася са старым капітанам? — спытаў яго Тадэвуш.

— Патануў, — зарагатаў барадаты пераемнік. — І дзе б вы думалі? Тут, ля прычала...

Перад тым, як Тадэвуш узышоў на борт, Марцін узмаліўся:

— Усяго адзін пацалунак, сэр! Мне здаецца, сямігадовай адданай службай я заслужыў гэта. Мы ж не ўбачымся больш...

Касцюшка не адмовіў. Марцін палка пацалаваў яго ў вусны. У Тадэвуша хапіла далікатнасці ператрываць пацалунак.

Зюзя, махаючы хвастом, наважыўся бегчы за гаспадаром на карабель, але Марцін абхапіў яго за шыю.

Адцягнулі трап ад борта, адкінулі швартовыя.

Зюзя вырваўся з Марцінавых абдымкаў, падбег да краю прычала, але водная прастора паміж ім і караблём імкліва павялічвалася. І сабака жаласліва завыў. Заплакаў і Марцін, гледзячы ўслед караблю...

* * *

У куфэрку Касцюшка вёз няшмат рэчаў — кніжкі, бялізна, грошы, пасведчанне аб чыне генерал-маёра амерыканскай арміі, ордэн Цынцыната і футарал з пісталетамі. А ў душы — надзею, што жыццё пойдзе лепшым ладам, што яго чын прызнаюць у Рэчы Паспалітай, што нарэшце ён ажэніцца, займее нашчадкаў...

Ды нечакана сэрца праняло прадчуванне: а мо здарыцца наадварот, наперадзе чакаюць адзінота і незапатрабаванасць?

Але Тадэвуш не хацеў прыслухоўвацца да благіх прадчуванняў. Нездарма ж лёс выправіў яго ў гэтую адысею! Няўжо, распасцёршы крылле тут, арол не закрыляе зноў пад небам Айчыны?

У памяці ўваскрэслі шум Ніягары і сцюжа Ньюберы, радасць перамогі пад Саратогай, Йорктаўнам, Чарлстанам, гонар будаўніка-стваральніка ў Цікандэрозе, Стэнвіксе, Бенігтане, Вест-Пойнце, жар кахання у ложку Элізабет Варэн і Джоаны Мэрэй. Няўжо ўсё гэта дарма пражыта? Няўжо дарма адрываўся ад роднай глебы?

Спусціўшыся ў сваю каюту, Тадэвуш зняў сурдут, скінуў боты, прылёг на ложак, закінуў рукі за галаву.

«Не дарма, — гаварыў сабе. — Калі не адарвецца зерне ад глебы, дык не прарасце. І калі б я застаўся на Бацькаўшчыне, дык не спазнаў бы сябе. Я вандраваў не толькі па Амерыцы, але і па абсягах сваёй душы. Цяпер я ведаю, што магу зрабіць для Айчыны шмат. І нават болей. А не прыплыў бы сюды — нізавошта не даведаўся б...»

І не заўважыў, як заснуў. Прачнуўся ж увечары ад крыкаў, што даляталі зверху. Падняўся на палубу, дзе сабраліся ўсе пасажыры.

Акіян палымнеў зялёным святлом да самага небасхілу, зацягнутага чырванню заходу. Часцінкі планктону, сабраўшыся ў шчыльны дыван, мігцелі, ззялі, выпраменьвалі зялёны агонь.

— Такі цуд раз у сто гадоў здараецца! — гучна сказаў капітан памочніку. — Мне распавядалі пра яго старыя маракі.

Загледзеўшыся на чародкі лятучых рыбак, якія ўскоквалі над хвалямі, Касцюшка ўзгадаў яшчэ адзін цуд — айсберг у гэтай частцы Атлантыкі — і перасмыкнуў плячыма.

Да цемры Тадэвуш стаяў на палубе. Зачаравана гледзячы то на зялёнае полымя акіяна, то на шызыя хмары, якія зацягвалі чырвоны небасхіл, слухаючы лёскат ветразей над галавой, засяроджана думаў: колькі яшчэ будзе доўжыцца яго адысея? Куды яшчэ яго закіне лёс?

Тадэвуш адчуваў пад кашуляй дотык да грудзей медальёна з партрэтам Людвікі. Абапіраючыся локцем аб парэнчы, час-почас затрымліваў позірк на сыгнеце, звяртаўся да старога сябра — выявы срэбнага арла: «Яшчэ палятаем, паваюем!..»

Арол распасціраў крылы ў чырвоным полі.

Арол вяртаўся ў сваё гняздо.

**2002 — 2004 гг.**

## ЯЎГЕН МІКЛАШЭЎСКІ

* * *

Гэта што за дарога —
Да каленяў пясок, —
Выбягаючы з лога,
Перасекла лясок?

Гэта што за даліна,
Калі ў ёй ручаёк
Не бруёй шумнаплыннай —
Цішай вабіць здалёк?

І з чыёй гэта ласкі
Луг красуецца тут?
Што за дзіўныя краскі
Абжылі гэты кут?

Гэта што за палеткі
Веснавой збажыны
Клічуць памяць у сведкі
З роднай мне даўніны?

Не на суд, не на раду, —
Толькі ў сведкі? Чаго —
Ці свайго заняпаду,
Ці бяссмерця свайго?

* * *

На неба гляджу я ў скрусе:
Прапаў даўно ў тумане
Той шлях, што шэрыя гусі
Праклалі некалі мне.

Выходзячы з верай шчырай
У свой непаўторны лёс,
Натхнёны чароўнай лірай,
Ці мог я думаць пра вырай —
Я Слова Надзеі нёс.

І з ім — найлепшай паходняй —
Не зрокся шляху свайго.
Ад золку свежасці ўсходняй
Да змроку стомы заходняй
Не круг — паўкруга ўсяго.

Другой паловаю круга
Ішла Надзея ўвесь час.
Ступіўшы з просьбаю плуга
На квецень райскую луга,
Я слухаў іншы наказ.

І з радасцю іх выконваў —
Адзін, а пасля другі —
І плуг у тым пераконваў,
Пра што прасілі лугі.

* * *

Вечар. Ветрана. Лес. Я аматар
Слухаць голас лясоў. Я — лясун.
Лес шуміць і, нібы трансфарматар,
Смутак мой трансфармуе — у шум.

А шуміць ён маім неспакоем
За жыццё, за зямлю, за людзей.
Але роспач бяроз-сухастоін
Не ажывіць бяскрылых надзей.

Лес зазвоніць, як сонца дагоніць,
У мільёны зялёных званоў
І на ўсе галасы загамоніць
Пра сваю бессмяротнасць ізноў.

* * *

*Блішчыць у небе зор пасеў:*
*У полі — рунь і ў небе — рунь.*

*М. Багдановіч*

Прырода — мой кумір, і да яе
Я ўсё часцей звяртаюся з петыцыяй
І шлю паклон за навальніцы ёй,
Нібы за радасці мае.

Яна ідзе пад музыку вясны
Ад веснавога квецённага берага
Да заняпаду — змроку шэрага,
Што ахінае кут лясны.

І антысвет і свет мой апусцеў,
Адзелянеў, адцвіў, і ў шызай далечы
Імгла, на неба наплываючы,
Забараніла *з о р  п а с е ў.*

Ёсць ноч, як зоры могуць прадказаць,
Рассыпаўшыся зыркімі сугрэвамі,
Ці будзе нас узлесак сустракаць
Грыбнымі рунными пасевамі.

* * *

Сшытак з вершамі юнацкімі гартаю,
«Дарагая», «любая» чытаю.
Летуценнасць і наіўнасць адна!
Час другі і песенька другая:
Словы «любая» і «дарагая»
Я закрэсліваю і пішу «Яна».

Ды Яна ўстае перад вачыма —
І забыць той вобраз немагчыма!
Я забыць той вобраз не хачу.
Што б я ні сказаў у час журботны —
Толькі воблік Любай бессмяротны:
Ён мігціць і ў сэрцы, і ўваччу.

## БАЛАДА ПРА ВАСІЛЬКІ І ХІМІЮ

Я іду — і хвалюецца поле.
Мне насустрач плыве наваколле
З астраўкамі гаёў і лясоў,
З канюшынкай
ружовай і белай,
Са збажынкай
вясновай, няспелай,
Што шуміць на мільён галасоў.
З неба льецца напеў ціхаструнны,
Нібы рэха мінулых часоў,
І ільсняцца ячменныя руны
Аксамітам жывых каласоў.

Пераходжу са сцежкі на сцежку,
Па духмяным брыду мурагу,
Анідзе
ні валошкі на ўзмежку,
Ні рамонку сустрэць не магу.
Абыходжу навокал пасевы
І ва ўсе заглядаю куткі:
Кветкі родныя, сінія, дзе вы?
Адгукніцеся мне, васількі!
Ці вясковыя вас каралевы
Пазбіралі крадком на вянкі?

І на момант зямля анямела,
Калі ў жыце прыціхлым
здалёк
Раптам нешта, як цень, засінела.
Падыходжу — ажно васілёк.
Ён стаіць,
ні расінкі не выпіў,
Хоць і летняе сонца ўгары.
А ці снег на вас, кветачкі, выпаў?
А ці выбіў
вас град без пары?

Уздыхнуў васілёк,
Кветка поля пахілая:
«Ад расы не прамок,
Дык апырскала хімія.
Мы падумалі — дождж!
Ён увесну не позніцца.
Але ж бачым... Ну, што ж!
Мы загінем ці хвошч —
Невялікая розніца...»

Зашаптала мне штосьці
Электрычная лінія,
І сказаў я са злосці:

«Вось праклятая хімія!
Ці яна ашалела?»
І тады, нездаволенае,
На мяне зашумела
Збожжа, ёю праполенае.
Зашумела і ў спешцы
Па баках расступілася,
І, як прывід, на сцежцы
Незнаёмка з'явілася.
Са сцяблямі валошкі
Выйшла з жыта зялёнага,
Незвычайная трошкі —
У накідцы нейлонавай.
Загарэлае цела,
Як на сонцы, прасвечвалася.
На загон яна села
З сарамлівай паспешлівасцю.

А вакол — збажына!
Сціхнуў пошум удалечы.
І сказала яна,
Васілёк разглядаючы:
«Я — пагібель твая,
Ды пагібель міжвольная.
Варвар-хімія... я ,
І як варвар, — няўмольная.
Я паіла асот
Не вадою — атрутаю.
Ён счарнеў і пасох
З лебядою славутаю.
Малачай і драсён
Я адна павыполвала.
Вунь зацвіў ужо лён —
Сінь палеткі напоўніла.
І вядомая ўсім,
І зусім выпадковая,
Ці не ўсякая сінь
На зямлі — васільковая?
Фосфар, калій, азот
Ды кампосты тарфяныя
Паляпшаюць штогод
Нават глебы пясчаныя.

З ласкі Божае,
думаеш, большалі б
Ураджаі і бульбы, і збожжавых?
Хлебароб — ён стаіць за ўраджаі —
Павялічыць іх можа ўтрая,
І мяне абражае
Безразважнасць такая твая...»

З крыўдай, жалем — зусім па-дзявочы
(Я падумаў, што плакаць пачне)

Фея Хімія ў вочы
Паглядзела, усхліпнуўшы, мне.

Я сказаў: «Не крыўдуй, чараўніца!
Я пакрыўдзіў цябе незнарок.
Я прыйшоў пакланіцца
Тым, хто носіць імя хлебароб!»

Што валошка загінула ў жыце —
Не бяда, калі шчырымі быць,
Але, што ні кажыце,
Васількоў у жытах не забыць!

## КАСІЎ ЯСЬ КАНЮШЫНУ

*Імправізацыя*
*на тэму мінулага*

На палосцы косіць Ясь
Канюшыну зрання.
Ён касою шась ды шась —
Па баках не гляне.

А на поле ўжо ідзе
Жыта жаць дзяўчына.
Ставіць збан і серп кладзе
Побач з канюшынай.

Ясь раз-пораз позірк свой
На дзяўчыну косіць:
Ці ж яна сабе адной
Збан з крынічнаю вадой
Кожны дзень прыносіць?
І ў суседкі маладой
Ён напіцца просіць.

Поле — побач... Вось пасаг!
Ясь стаіць — не косіць.
Сонца жнівеньскі абсяг
Парнасцю абросіць.

Лезуць думкі — не прагнаць!
Сумныя дакоскі...
Вось бы разам аб'яднаць
Гэтыя палоскі!

А з-за лесу, з-за гары
Выглядае вёска.
У дзяўчыны тры сястры
І... адна палоска.

Ну а ў Яся — тры браты.
Змена падрастае!

Ён бы мог пайсці ў сваты,
Ды карысць якая?

*

Канюшыну Ясь касіў,
Як і сёння косіць.
Позірк на жняю касіў,
А цяпер не косіць.

Шляхціч высватаў яе!
Бедаваць? Па часе!
І яна не пазнае,
Як праходзіць, Яся.

Разам з ім і два браты
Косяць канюшыну.
Ясь збіраецца ў сваты —
Ён знайшоў... жанчыну.

Удавіца ёсць, яна —
З дзецьмі, зразумела.
Ды ў бацькоў адным-адна —
Можна ехаць смела.

Ну а побач дзве сястры
Жыта жнуць ад ранку.
Бляск і грукат угары —
Гоніць гром маланку.

І глядзіць, заўважыў Ясь,
З іх адна на брата.
Пасылаць ім самы час
Да дзяўчыны свата.

— Бачыш ты, мой брат, ці не?
— Бачу...
— Ды спыніся!
Паглядзі, як спрытна жне.
Любата! Жаніся!
Шлі сватоў! І не марудзь,
Не шукай багацце.
Калі іншыя пашлюць,
Будзе позна, браце.

ПАВЕЛ ГАСПАДЫНІЧ

# ПОДЫХ, ці ПА СЦЕЖКАХ МІСТЫЧНЫХ КАХАННЯ

*Апавяданне*

## 1

...**Б**ез цябе подых набывае якасць гумы: паволі расцягваецца, амаль бясконца, ліпуча і туга вярэдзіць душу ды чапляецца да ўсяго, што мае хоць якую прыцягальнасць — ад паперы да лямпы. Гэта подых адзіны і бязмежны, які бярэ пачатак з вышыняў майго суму, прамінаючы лёгкія, горла, рот... Незаўважны, але цяжкі, пазбаўлены часу, але хуткі і моцны — ён напаўняе пакой самім сабой датуль, пакуль свядомасць яшчэ нешта ўспрымае...

Я гартаю рукапіс сябравых вершаў. Але і там безвыходнасць. Незапамінальнасць безвыходнасці — няма за што воку зачапіцца... хіба акрамя як подыху... майго подыху, што й тут знойдзе ўласную прастору, сваё поле — распрастае крылы і адразу ж спаліць іх... У вершах нешчасліваё каханне, туман, слота, слёзы лірычнага героя і кпіны каханкі...

— Зміцер, — кажу я, — не варта зашмат пра такое... Забіваеш сам сябе.

Высокі шэравокі Зміцер самотна ўсміхаецца ў адказ:

— Гэта — адзінае выйсце...

— Ну, ужо сказаў... — нават і не раблю спробы выціснуць усмешку з сябе, — тады наступная скрайнасць, прыкладам — з'ехаць на вайну, наглытацца таблетак ці яшчэ што...

«Божа, ці гэта я сказаў такое?! А мо подых мой?»

— Гэта ты мне па-сяброўску раіш?

— Парада — у першую чаргу дапамога самому ж дарадцу. Эгаісты, вядома, людзі. Нічога тут не паробіш.

— Тым не менш...

Незразумелая злосць ахоплівае мяне, падымае да святла лямпы, штурхае ў бакі, правакуе на бойку... Подых. Гэта толькі подых.

— Не можа быць менш, як і больш таксама. Што зробіш, тое і будзе... Можа, табе для поўнага шчасця каго-небудзь з вядомых цыта-

нуць? — з'едлівы сарказм і неабгрунтаваная злосць у самы непатрэбны момант нарабілі шуму ва ўласнай галаве, бы моцны алкагольны напой... А мо якраз усё і да месца?

— Дык вось я і зрабіў... рукапіс... — сарамліва ўсміхаецца сябра, не заўважыўшы, — ці зрабіўшы толькі выгляд? — майго нападу.

«Цьфу! Няўжо ўсё так прымітыўна і безвынікова? Як доўга шчэ будзе цягнуцца гэты абсурд?»

— Ты, канечне, зрабіў, Зміцер... Але не напісаў. Разумееш? Штукар, штучна, ненатуральна...

— Сам ты ненатуральны! — крыўдуе высокі шэравокі чалавек і падымаецца з крэсла.

Насамрэч, так яно і ёсць — ненатуральна. Без цябе. І подых — ненатуральны, гумовы, цяжкі, ліпучы... Чаму, Зміцер, чаму ты не здольны адчуць яго і зразумець? Бо ўся гэтая валакіта — рукапісы, кнігі, літаратурныя пасядзелкі і амбіцыйныя выступы, дзе, куды ні кінь вокам, — сама геніяльнасць так і прэ праз кожнага другога графамана, дзе перастаюць паважаць Асобу і ўзвялічваюць Нахабнасць Бяздараў, дзе рэкламуюцца антыгуманнасць і антычалавечнасць як сродкі для выратавання душы, — не вартая таго спакою, які я згубіў... Без яе. Палонны. Абязброены ваяр. Бойка, скончаная кропляй крыві... Ты, Зміцер, — рэха гэтага подыху, і таму, магчыма, ён да цябе яшчэ не дабраўся. А сам дыхаеш спакойна, упэўнена, з аднолькавымі кароткімі інтэрваламі, як бы смакуючы кожны глыток паветра... Я заўважаю ўсё. Я памятаю ўсё: твае вершы, тваё каханне, самагубства тваёй сястры, смерць маці, бацьку, які апошнімі часамі не адрываецца ад чаркі... Я ведаю... я ведаў гэта яшчэ да таго, як мы пасябравалі за універсітэцкай партай (а ці не з гэтай прычыны і завязалася сяброўства?), калі, шмат раздумваючы, сумняваючыся і набіраючыся моцы, зноў сумняваючыся, з-за гэтага аніяк не мог засяродзіцца на лекцыі, увесь унутрана сцяўшыся, як перад самым галоўным іспытам у тваім жыцці — нарэшце ты наважыўся: нясмела, шмат перапыняючыся і чырванеючы, ты паведаміў мне... Памятаеш той дзень? Верасень. Яснае цёплае надвор'е. Апошняя лекцыя. Здаецца, мовазнаўства? Хаця, якая розніца... Увесь твой аповед умясціўся ў адзін пятнаццаціхвілінны перапынак якраз перад гэтай лекцыяй. Але я ведаў раней... Потым мы пілі піва. Шкадаваў ты, Зміцер, сябе, як бы тое ні намагаўся схаваць за знешняй, здавалася б, абыякавасцю і іроніяй. І калі да нас далучыліся дзве вабныя студэнтачкі-аднакурсніцы, ты іх проста паслаў... А мне прапанаваў узяць пляшку «белай».

Дык чаму **цяпер** ты не разумееш мяне? Між іншым — і тады ты дыхаў роўна, годна, «самасційна». А я? Усхваляваны, расчулены — пагадзіўся з прапановай, і мы пайшлі разам у скверык... Цяпер і ты мяне зразумей — мой подых цяжкі, ён вымушае засяроджвацца толькі на ім. Больш нічога няма. Цяпер не я — ты павінен пайсці са мной і зразумець...

— Добра, Зміцер, сядай... не крыўдуй, — прымірэнча варушацца мае вусны, але ці **я** тое кажу? Толькі што стомленым позіркам праводжу ўяўны, непрыкметны, але з гэтага не меней цяжкі, гумовы, ліпучы подых.

## 2

...Я без цябе. Гэта факт. Неаспрэчны. Аксіёма. Божа, вось каб зусім не дыхаць! Вочы расплюшчваюцца... нямое здзіўленне: на стале перакуленая пляшка гарэлкі, некалькі чарак з мутнаватай вадкасцю на дне, недаедзеныя гуркі, сала, хлебныя крошкі, скамечаныя запэцканыя сурвэткі, недапалкі... Зноў заплюшчваю вочы і бачу цябе. Ніякавата. Гэта накшталт таго, як усё роўна роднаму табе чалавеку, што нядаўна памёр, узяць і вярнуцца з таго свету, маўляў, паспяшаўся, аднак не ўсё паспеў скончыць на зямлі... А ты... у ядвабнай сукенцы, цёмныя доўгія валасы... і свечка ў руках. Навошта? А... мабыць, подых мой, надакучлівы і бясконца-цягучы, спрабуе ахапіць сабой нават мрою. Свечка вызваляе ад духаў і прывідаў... Няўжо я для цябе цяпер усяго толькі здань? Няўжо!? Зноў, пэўна, ад немагчымасці вырвацца, подых напаўняе пакой, распальваючы новай моцай амаль згаслы агеньчык свядомасці...

— Э...э...э... — слых улоўлівае нейкі вэрхал з боку канапы. Расплюшчваю вочы — Змітрок! «Ага, учора я зноў пайшоў насустрач яму? Яшчэ адна бедная спакутаваная душа, акрамя цябе? Але ці можна так, калі нават у яговых вершах адсутнічае твая бадзёрасць і краса, твая зніклая дзяўчына-мара?»

Мне прыкра. Усё-ткі Зміцер дасягнуў сваёй мэты. Не як паэт. Як сябра. Прымусіў, няхай і сам таго не падазраючы, згадаць усе ягоныя беды, пачынаючы з сям'і і ажно да нешчаслівага кахання, дакладней, нерэалізаванай закаханасці, тайны, пра якую так і не даведалася яго абранніца... А ўвогуле — ці не фарс усё гэта? Ці не карыстаецца Зміцер абставінамі дзеля сваіх жа выгод? Можа, яно і павінна так: смерць — жыццю, няшчасце — забыццю... Але навошта? Не можа ж бясконца доўжыцца шкадаванне самога сябе ды цярпенне іншых людзей...

Прыбралі пакой разам. Моўчкі. Сядзім.

— Ну... я, напэўна, пайду?... — з неахвотай выціскае з сябе Зміцер.

Цішыня. Трэба нешта адказаць.

— Як хочаш...

Цішыня.

«А... што мне да ўсяго?!»

Ад подыху няма ратунку. Дзіўна. Як жа без яго жыць? Але гэта не дыханне, гэта не праца лёгкіх, горла, рота, носа... Гэта нешта з глыбінь тваіх прыхаваных жаданняў, аднойчы згубленых у пастарунку элементарных непаразуменняў. Гэта — ілюзія. Ды яна, аднак, мацней за цябе. І хочаш таго ці не — ты вымушаны дыхаць...

Рукапісу няма. Зміцера таксама. Найперш адчуваю палёгку, але з цягам кожнай секунды бясконца цягучы подых засцілае сабой усю прастору, і палёгка трашчыць, папісквае на вогнішчы разгубленасці і бездапаможнасці...

Зграя чорных крумкачоў за акном, здаецца, пільна сочыць, цікуе за табой, каб у зручны момант атакаваць, чорнымі, як смала, крыламі, раструшчыць подых твой, а разам з ім — раздзяўбці і цябе самога... Ведаеш жа, гэта — усяго толькі звычайны страх, народжаны сёння адсутнасцю рукапісу сябра, як і яго самога... Дзіўна, ніколі не заўважаеш сваіх абаронцаў, калі яны побач, а калі і прыкмеціш незнарок — нервуешся, злуешся, ненавідзіш іх. Ды калі раптам нечага не стае і навакольны свет персаніфікуецца ў канкрэтнага рэальнага вора-

га, як бы ў гэтых крумкачоў, і ўяўляе сапраўдную небяспеку — тады ты разумееш памылку. Розум, на жаль, з'ява спозненых рухаў. А жаданні твае, мілы чалавек, няздзейсненая будучыня... І вось паміж імі цяпер ты — бездапаможны, маленькі, кволы прадстаўнік чалавецтва, у якога нават не хапае моцы паклікаць па дапамогу...

«Не, я не такі, як Зміцер, мне не трэба шкадавання...» — такая выснова чамусьці амаль заўжды з'яўляецца ў самых небяспечных абставінах. Ну і што, калі не такі? Адметны? Арыгінальны? Палічыў сваю творчасць, прысвечаную толькі ёй, больш удалай, больш дасканалай, чым у сябра? Такі варыянт, зусім верагодна, куды горшы... А як знайсці патрэбную сцежку ў лабірынце жыцця? Дзе мой, Богам наканаваны шлях? Але праўду кажаш ты, дарагі француз, праўду: *«Ніякія развагі не пакажуць чалавеку шлях, які ён не хоча бачыць»*[1]. А **мой** шлях, відаць, згублены назаўсёды… Без цябе.

…За акном адбылася перамена: ластаўкі ды вераб'і шумнай гаманлівай кампаніяй лётаюць-весяляцца, шчабечуць-спяваюць, усхваляючы, мабыць, сваё бесклапотнае птушынае жыццё…

## 3

— Ты, калі так ужо гэтага хочаш, чакай. Усё можа быць… — сказала яна на развітанне. І знікла. Ніякіх звестак пра яе. Нічога. Ні на працы (звольнілася), ні дома (з'ехала — здымала аднапакаёўку). Гэта было тады. Тады, калі сонца сустракалася з маладзікам, і яны, зачараваныя незвычайным відовішчам, яшчэ бліжэй сунуліся адно да аднаго, не зводзячы вачэй з неба… Тады, калі ў яго нараджалія радкі:

Аксамітаў-агеньчыкаў вальс
У вачах матылямі лунае…
Назбіраю рамонкаў для Вас,
Маладзік калі сонца спаткае…

Тады, калі свет існаваў толькі для іх… А цяпер… што цяпер? Дажджы, туманы дый вершы накшталт «Развітання»:

Расталых гукаў цішыня,
Аскепкі мараў зжоўклых…
Блакіту неба глыбіня —
Прыйдзі на час і…змоўкні.

Ружовых поўняў карагод,
Рачулкі сіняй вусны…
Прыйдзі са мной у гэты год,
Пагрозны і спакусны…

Маланкі белае святло,
Ручай сцюдзёны ў лесе…
І створым разам мы жытло,
Як бусел на Палессі.

Зззяй усмешкаю ўначы,
Вялікай тайнай свету…
Расталым гукам прасачы
І…выбачай паэту…

[1] Рамэн Ралан.

«Ты, калі так ужо гэтага хочаш, чакай...» І ўсё. Як абрэзала. З проста так, з нічога, з ніштo. Ды, вядома, якраз з нічога і з ніштo нараджаецца ўсё. Толькі хіба гэта зараз важна? — Пульс слязы невымерны і шматгранны, разгадка ягоная хаваецца ва ўспамінах... Шэпат крыві ціхі, як у самай глухой пячоры гукі падаючых долу кропель вады... — Трапяткое цельца душы, якую ён аднойчы, можа, і пабачыць.

Пасля я дабіраўся дадому пехатою. Не ўсведамляючы сучаснасць, плюючы на мінулае ды рыхтуючыся да будучыні. Вакол — людзі, машыны, будынкі, шум і мітусня... Вакол — звычайны свет са сваімі звычайнымі турботамі... Дабіраўся дадому, згадваючы Змітрака, і ніяк не мог уцяміць, як хлопец дасюль не зламаўся? Сястра... Маці... Бацька... Дзяўчына, якая так ні пра што і не даведалася... Тады разумеў, што **«маё»** — не самае горкае, гэта не тая пакута, што нясе ў сабе **«канец усяму»**, нават калі напісанае з **«жывога»** вяртаюць назад рэдакцыі часопісаў і газет, а знаёмыя паблажліва, з адценнем фанабэрыстасці й пагарды, усміхаюцца — нягледзячы ні на што, цябе не спыніць аніякі вір і залішняя мітусня гарадскіх багоў і багінь: бо ёсць яшчэ палічкі ў стале, бо ёсць ейны вобраз, які хоць і ўяўна, але павінен, павінен адгукнуцца, зразумець, усцешыць... А Зміцер? Каму ён давярае? Мне? Малаверагодна, хоць і горнецца да мяне, адчуваючы родную душу, загартаваную (ці загорнутую) пакутамі і адзінотай... Але стрымлівае яго тое, што неяк я прамовіўся, паведаміўшы, маўляў, і да знаёмства з табой, сябра, ужо ведаў трагедыю тваю... Звычайна, хто так кажа, няхай і жартам, адразу губляе давер у людзей. Мабыць, лічаць за прарокаў? Ці за вар'ятаў? Якая розніца — і тое, і тое амаль тоеснае, непарыўнае, пабудаванае заўсёды на разбурэннях, няшчасцях, правакацыях да спачування — за тое людзі і ненавідзяць такіх... А Зміцер? Зміцер, хутчэй, проста не давярае. І справа тут зусім не ў ім — проста я стаміўся, вельмі стаміўся, дабіраючыся **тады** дадому...

## 4

...Моцны вецер. Дождж. Хмары. Доўга я тады дабіраўся дадому, і ўсё дзеля таго, каб цяпер захлынуцца ўласным подыхам? Каб чарговы раз паспачуваць Зміцеру?

...Рэзкі боль. Асляпляльнае святло. Адчуваю, як губляю прытомнасць. Апошняе, што паспела выхапіць са знадворкавага свету свядомасць — буйныя, халодна-вострыя, як лязо нажа, кроплі дажджу, якія прабіралі да дрыжыкаў, ледзь паспеўшы даткнуцца цела, і гэтым сваім холадам неслі ўдалеч, туды, дзе таемная будучыня і верагоднае сучаснае скрыжоўвалі свае мячы...

*«Дачакаўся... прыйшоў... Але ты зусім не бездапаможны, маленькі і кволы чалавечак... Ты ж усё-такі паклікаў — і вось я адгукнулася... Дачакаўся!»*

Дзіўны голас. Струменьчык салодкіх гукаў у цемры і нерухомасці. Голас, безумоўна, належыць табе. Але чаму тады ён так адрозніваецца? Нібы ў знаёмы табе з маленства водар радзімы нехта дадаў краскі і колеры экзатычных, дасюль нязведаных табой краінаў... Гэта, як усё жыццё піць гарбату без цукру, а цяпер... — і, як ні намагайся, нізавошта табе не вызначыць колькасць насыпаных у твой кубак лыжачак цукру... Ды і хто паклаў?

*«Гэта... — ты? Як — ты? Калі паўсюль цемра, калі ўсё нерухома, калі няма ні прасторы, ні часу...»*

*«Ха-ха-ха!!! Паверыў? Гэта ж я, Зміцер...»*

*«Які Зміцер?»* — я дакладна ведаю, што голас належыць дзяўчыне: тонкі галасок, прыемны, нібы ластаўчын спеў-палёт па-над барвовым сонцам, празрысты, як крыніца, ён можа належаць толькі дзяўчыне! — *«Ці не жарт гэта?»*

*«Ха-ха-ха!!!»* — рэзкім, грубаметалёвым рэхам сягнула да мяне, увайшло, крыху затрымалася, скалануўшы хваляй-цунамі нутро, паляцела далей, пакідаючы з нязведаных вышыняў па частцы бязлітаснага «*ха*», што так нагадвалі буйныя, халодныя кроплі дажджу...

*«Ты не Зміцер!»* Рэзкі, невыносна-пякучы боль не даў дагаварыць. Праваруч маланка падпаліла дасюль нерухомае паветра: на тым месцы ўтварыліся невялічкія жоўта-блакітныя шарыкі-кругляччкі, мноства якіх пачало складвацца ў нешта... Ад святла страшэнна паколвала ў вачах, ныла-свярбела ў баку, сэрца злоўленым птахам кідалася з кутка ў куток клеткі-цела, што паволі напаўнялася салёнай крывёй сцюдзёнасці... І я ўжо не адчуваю гэтае цела, як не адчуваю і ўласныя рухі і памкненні... Яшчэ праз імгненне здаецца, што гэта зусім і не я — нехта, лялькападобны, не жывы, ды некім ці нечым ажыўлены, каб імітаваць сапраўднае жыццё, каб быць простай забаўкай, штучнай істотай, прыдуманай без дай прычыны... мабыць дзеля жыцця, якое распачало свой рух у жоўта-блакітных шарыках... А колькі таго часу — і шарыкі амаль цалкам склаліся ў чалавечае аблічча: тонкая, худзенькая постаць, бледны стомлены твар, выцвілая зялёнасць вачэй. А вакол чалавекападобнай істоты — туман, які месцамі дзе-нідзе перарываецца пустэчай, якая такім чынам абмалёўвае белае палатно туману, што ў прарэхах узнікаюць маленькія цёмныя крыжы.

*«Божа! Я знаю... Не можа быць, каб гэта...ты...» — «так і ёсць... сястра Зміцера...»*

Раптоўна хцівая ненажэрная цемра ўвобміг усё праглынула. Цяпер сапраўдным сябравым голасам нешта прамовіла:

*«Яна скончыла жыццё самагубствам. Яе звалі Ліля...»*

*«Я не разумею. Навошта трэба мне гэта казаць?»*

Голас заплакаў. Ці прымроілася? Як быццам звонкія кроплі вады ў глухой пячоры... А дзе ж я?..

Тым часам, як снег улетку, прад вачамі маімі, амаль што дакранаючыся да вуснаў, паўстала Ліля. Пякельны подых... Бляск зялёных кашачых вачэй... Працягнутыя рукі... І мы... Не!!! Я памыляюся!!! Я вельмі хачу памыляцца!!! Мы ў адным з тых жоўта-блакітных шарыкаў, што імгненне таму былі праваруч ад мяне. Разам... куляемся...бы атамы, рашчэпліваемся...зноў злучаемся... а над намі бясконцае люстра-малекула нашых ценяў...

Цемра. Голас пакрыўджана, з роспаччу пытае:

*«А цяпер? Хіба і сапраўды чалавечая памяць настолькі кароткая, настолькі нетрывалая, што выкрэсліваецца з жыцця ўсё — успаміны, падзеі, само жыццё, якія чалавек, як непатрэбнае смецце, як спрацаваны матэрыял, як выкарыстаныя зношаныя рэчы, без аніякіх згрызот сумлення, без сумненняў і ваганняў, проста так, лёгка, не думаючы, ужо дагэтуль паспеўшы забыць — выкідвае з сябе, топча, плюе? Калі жыццё толькі кароценькі выбух святла маланкі, як той звышновай зоркі, у веч-*

*най цемрадзі начы, то няўжо нават самая непрыкметная, нязначная дробязь не мае аніякага сэнсу? Павінна быць наадварот...*

*А цяпер? Ты маеш магчымасць бачыць сябе іншымі вачыма, максімальна набліжанымі да абсалютнай аб'ектыўнай сузіральнасці і неўмяшальніцтва ў што б там ні было... Што ты цяпер ведаеш, што ўспомніш?* — перуновыя стрэлы абуранага Змітраковага голаса, як іголкі, працінялі кожны кавалачак цела, кожную частачку душы...

*«Дзе я, Зміцер? Што са мной?* — які ўжо раз за найдрабнейшую палосачку імгнення (ці за неабсяжны неруш вечнасці?) адчуваю сябе маленечкім, кволым, зусім бездапаможным чалавечкам, які, аднак, быццам бы і дачакаўся дапамогі, пачаў ужо верыць у некаторыя свае магчымасці, як вокамгненна, нібы апечаны кіпнем, зразумеў: яго завабілі ў пастку. І выйсця няма. І ніхто не дапаможа...

*«Увесь час, сябра, ты сцвярджаў,* — ужо больш спакойна звярнуўся да мяне голас Зміцера, — *што я вымагаю ад усіх шкадавання да сябе, што кожны раз ты ідзеш мне насустрач, што паэзія мая, боль душы маёй — не варта ўсяго мной перажытага і недажытага... Зараз зірні на сябе. Хіба табе не трэба спачуванне? Хіба адкінуў працягнутую табе сяброву руку ў цяжкім становішчы? Няўжо і цяпер лічыш, што толькі ў цябе аднаго паэзія болю і пакутаў (страціў каханку? а ці ж адзін ты такі на свеце?) мае права быць вышэй за ўсё, нават за чалавека? І ці не з-за цябе мая сястра...»*

*«Хопіць!!! Спыніся!!! Я сапраўды не памятаю...»*

*«Дазволь, я тады зачытаю адзін свой верш...»:*

> *Я не веру ў дождж, што падманам*
> *Намагаецца сэрца згубіць.*
> *Я не веру, што ясным світаннем*
> *Хтосьці думае болей не жыць.*
>
> *Я не веру ў мяккасць кінжала,*
> *Хоць на сонцы лязо зіхаціць.*
> *Я не веру старонкам рамана,*
> *Ад якіх так і цягне узвыць.*
>
> *Я не веру ў сяброў «на халяву»,*
> *Што імкнуцца за грошы «дружыць».*
> *І хоць ведаю: свет нетрывалы,*
> *Ды не веру, што нельга любіць...*

*«Так, Зіцер, та́к...»*

*«Не, Вадзім, не так. Я не Бог, не суддзя, але ці адчуваеш ты зараз і маё небыццё, маё непрыкаяннае існаванне?»*

*«Гэта цяжка.»*

І...цемра.

...Я расплюшчваю вочы. Слёзы. Ад невымернага раптоўнага шкадавання сябе ж. Ад расчаравання. Ад загнанасці. Вось, думаецца, гэта сапраўдны Зміцер. А я што? Не дапусціў, не дазволіў ён мне дакрануцца да самага набалелага, глыбіннага, аб якім не падазраваў нават я, свайго свету...

Цёплая мяккая рука ледзь-ледзь, асцярожна, нібы палохаючыся, дакранаецца да маіх вуснаў, ціхутка-лагодна спаўзае на шыю, на грудзі... Я расплюшчваю вочы — Ліля!

*«Што, урэшце, адбываецца?»* — адскокваю-адлятаю ў супрацьлеглы бок.

*«Нічога, Вадзя, нічога...»* — пяшчотным ледзь улоўным рухам вытанчана-шляхетных вуснаў супакойвае дзяўчына. Вакол нас мноства рознакаляровых шарыкаў: тыя, што паболей — пераважна жоўта-блакітнага колеру; меншыя за іх — сінія, зялёныя, белыя... Між імі няма пустэчы. Тое, што было паветрам, ператварылася ў бясформенныя дзівосныя кветкі, водар якіх настолькі адурманьвае-зачароўвае, што на секунду прыходзіць думка — ці не ў раі ты? Усё ў гэтым. І гэта ва ўсім. А яшчэ — Ліля: усмешлівая, вясёлая, пазбаўленая бледнай прывіднасці, вось яна нахіляецца да мяне і шэпча на вуха:

*«Загарну ў тваё моцнае цела стогн душы сваёй захварэлай...»*[1] — *ці не адзін з вашых паэтаў, Вадзім?*

Збянтэжаны, здзіўлены, я моўчкі ківаю ў знак згоды. А Ліля працягвае:

*«А ведаеш, мой брат таксама піша...вершы. Толькі ён саромеецца іх паказваць нават мне, не кажучы ўжо пра тое, калі нясе іх у друк... Аднойчы, употайкі ад яго, я зірнула... і ведаеш, Вадзя. Мне вельмі спадабаліся...»*

Няўжо гэта намёк? Просьба аб дапамозе? Ды я сам, толькі некалькі разоў паспеў надрукавацца — усё, чорныя часы далей... Але як так, дапамагаць паводле рэкамендацыі амаль незнаёмага чалавека? І тут адбылося нешта зусім неверагоднае. Далібог, я не хацеў нічога адказваць, але вусны самі па сабе, незалежна ад маёй волі, варушацца, нараджаюцы словы:

*«Так, мая Лілея, так... я абавязкова прачытаю. Але не думаю, выбачай ужо за нясціпласць, тое, што прысвяціў я табе, саступае гэтым вершам...»*

Божа! Яна ў парыве бязмежнай адданасці і ўдзячнасці накідваецца на мяне, нібы смяротна паранены звер у апошнім сваім намаганні на крыўдзіцеля, літаральна валячы мяне з ног, і мы разам коцімся па кветках, па жоўта-блакітных шарыках адзіным клубочкам моцна звязаных пачуццяў і душэўных хваляванняў... Ейныя пяшчотныя вусначкі-лодачкі, здаецца, працінаюць перуновым агнём усю істоту маю, я ажно ўздрыгваю... І тут яна спалохана крычыць:

*«Не падманвай, Вадзя, ніколі не падманвай! Чуеш! Не падманвай...»*

Тады ўсё акаляючае рознакаляроўе, уся стракатасць, квяцістасць, хмельнасць увобміг драбнеюць, мізарнеюць, пакуль шчыльная, усепранікаючая цемра не пакідае адну маленечкую кропачку расплывістага тумановага святла недзе за недасягальнымі даляглядамі... Кропачка, падобная на жоўта-блакітны шарык ці на буйную халодную кроплю дажджу, застаецца як напамін, як горкі смак «нетрывалай чалавечай памяці».

## 5

«Змітрок, ты мяне чуеш?» — шапчу ў бязважкай цішыні. «Змітрок, калі чуеш — адгукніся...» Нічога. Цемра. Спакойная глыбінная цішыня. Нерухомасць. «Змітрок, а як жа мая дзяўчына... Дзе яна цяпер? Божа! А Ліля? Няўжо? Змітрок!!!»

---

[1] Адам Глобус.

...Рэзкае, калючае святло. Галава расколваецца, здаецца, яшчэ секунда-другая, і не пазбегнуць выбуху. Млосна і... мяккі, лагодны голас:

— Як вы сябе адчуваеце?

Медсястра. Бальніца. Ложак. Белыя сцены. За акном — белы дзень. Разумею, што я ў рэальнасці, у паўсядзённым чалавечым жыцці, няхай і ў бальніцы, не выключаны з гульні — увесь цяжар апошніх пражытых імгненняў — долу, яшчэ ніжэй, у падзямелле маёй свядомасці, каб ужо ніколі аніяк не дакапацца. Але нешта ўсё ж трывожыць. Нешта няўяўнае, неўсвядомленае, пазачасавае і пазапрасторавае — адчуванне, што калісьці ўсё гэта было. Дэжавю? Намагаюся прыпомніць, варочаюся з боку на бок... Супакойваюся — стараюся засяродзіць погляд на нечым адным... Заплюшчваю вочы — бессэнсоўна. Адчуванне няўтульнасці, усё большай варожай халоднасці, трывогі, якая вострымі кіпцямі шкрабецца па сэрцы, не пакідае. І нават добрая, светлая ўсмешка маладой прыгожай медсястры падаецца своеасаблівым папярэджаннем, засцярогай. Па целе прабягаюць адна за адной ліпкія хвалі спякоты й задухі, спрабую выплысці-выкараскацца, але багна зацягвае глыбей і глыбей. І цяпер вакол не белае, зіхоткае, радаснае асяроддзе — цёмная, страшэнная, непралазная прастора мёртвай зямлі з пасткамі хісткіх пяскоў і расколін, з безліччу неверагодна глыбокіх ямаў і гразкіх месцаў... Ніводнага гуку, ніводнага руху...

— Да вас наведвальнік, — па-ранейшаму прыязна ўсміхаецца медсястра. Адразу паварочваецца ў той бок, адкуль павінен нехта зайсці, і звяртаецца да нябачнага мне наведвальніка — Калі ласка, уваходзьце...

Маладая ўвішная фігурка красуні знікае за дзвярыма, і перада мной паўстае... Зміцер. І вокамгненна ў галаве страляе ліхаманкавая птушка-вобраз думка, што ўвесь час так непакоіла мяне — «чалавечая памяць нетрывалая».

— Зм... — з апошніх сіл спрабую звярнуцца да сябра, але высокая шэравокая постаць нядбайна адмахваецца доўгай рукой:

— Не хвалюйся, Вадзік. Гэта небяспечна ў такім стане. І не пярэч.

Ён паволі падыходзіць да майго ложка, апускаецца на зэдлік. У чорным касцюме, пры гальштуку. Зміцер цяпер зусім не падобны на студэнта — якое там! — хутчэй, гэта малады заможны шляхціч з пазамінулага стагоддзя... А ён, як усё роўна пачуўшы мае думкі, неяк ціха, па-дзіцячы сарамліва, апусціўшы вочы, кажа:

— Вось... думаў не ісці ж да цябе ў невядома чым... — на момант змаўкае, задумваецца пра нешта сваё (ці толькі робіць выгляд?), пасля, здрыгануўшыся, быццам апёкшыся, працягвае — гэта бацькава... яму ўжо, пэўна, не патрэбна... Не вылазіць з хаты апошнімі днямі: п'е, спіць, зноў п'е... Ведаеш, як на якую рэдзенькую хвілінку працверазее, адразу папрокі: маўляў, каб не ты, дык і дачка жывая была б. Я ўжо малюся да Бога, каб найхутчэй ён «насмактаўся», бо хоць нейкая палёгка для мяне... Гэта так невыносна! І самае дзіўнае, што пасля такіх слоў я і сапраўды адчуваю нейкую віну... Я ж сам нічога толкам не ведаю, я знаю, што толькі яна сама... Але ж я брат... І гэта настолькі выматвае, б'е ў самыя балючыя кропкі, што міжволі апошнім часам я сам купляю яму гарэлку... накшталт адкупнога...

Як ні дзіўна, мне падаецца, што Зміцер даволі ўдала выкарыстаў для сябе зручны момант «паенчыць-пабедаваць». Але адразу зніякавеў, прысаромлены абсурднасцю маіх здагадак. І проста містыка нейкая! Нібы зноўку пачуўшы мае думкі, Зміцер перайшоў да другога:

— Чорт! Як жа я запамятаваў?! І ты, Вадзім, бессаромны маўчун, ніяк не спыніш мяне! Вось, зараз... тут яно... — чамусьці вельмі захваляваўся Зміцер, вельмі паспешліва, хоць і даволі зграбна, без лішняй мітусні, дастаючы з прынесенага з сабой пакета сокі, фрукты, цукеркі... — ласуйся, паэце, папраўляйся! А тут, ведаеш, учора тэлефанавала Аліна, пыталася пра цябе...

Ад нечаканасці я ледзь не падскочыў.

— Ты гэта... сур'ёзна? Калі? Што яна казала?

Зміцер сумна ўсміхнуўся:

— Сказала, каб ты чакаў, калі хочаш. І развіталася.

## 6

... А без яе няма і паэзіі. Правальваюся ў чорнае гняздо нябыту. Перад гэтым паспяваю заўважыць напалоханыя вочы медсястры на фоне сумнай усмешкі сябра.

*«Вадзік, яна не вернецца — не падманвай мяне! Сябе не падманвай... Зміцер жа хвалюецца за цябе таксама. Нават больш, чым за мяне...»*

Жоўта-блакітны шар. Квяцістае паветра.

*«Ліля, калі ты насамрэч Ліля, то як жа ты казала? — «Дачакаўся...прыйшоў...але зусім не бездапаможны, маленькі, кволы чалавек...— я прыйшла...»*

*«Але голас! Ты заўважыў, голас — не яе! І не яна цябе чакала. Усё жыццё я...»*

*«Ліля, але ж я не ведаў...»*

*«Цяпер гэта неістотна. На радзіме тваёй новыя краскі, і з гэтага яна шчэ больш мілейшая і прыемнейшая табе; ты павінен прызвычаіцца да гарбаты з цукрам...»*

*«Як? Ці магчыма... Ты ж не тут...»*

Знянацку маланкавы пацалунак дзяўчыны ўзняў мяне ў квяцістае паветра, закружыў, бы лісточак з дрэва, і пагнаў, як паўднёвы вецер, абдымаючы і лашчачы, да бязмежжа сонцаў і зорак, да бязмежжа Млечных Шляхоў, за далягляды, за ўсе існуючыя і неіснуючыя межы...

...Жоўта-блакітныя шарыкі. У кожным з іх — нашы аблічча, што плывуць па сферах за празрыстымі сценкамі; у кожным з іх — твары нашы; у кожным з іх — моцна сашчэпленыя пачуцці... Ласкавы шэпт:

*«Не падманвай, Вадзя, не падманвай...»*

Урэшце я не вытрымліваю і адпускаю цябе. Разлятаемся. І шарыкі разлятаюцца. Ты — уверх разам з усімі markdown рознакаляровымі пухірамі і кветкамі, я — уніз разам з цемрай, якая паволі набывае форму кроплі дажджу. Роспачны, дзікі, балючы крык...

*«Ты падмануў, Вадзя, ты падмануў!..»*

## 7

Праз колькі дзён выпісаўся з бальніцы. За той час, што мусіў быць «прыкаваны» да белых пакояў і клопатаў медсясцёр і дактароў, некалькі разоў наведваў Зміцер са сваёй заўсёднай сумнай усмешкай і спачу-

вальным позіркам, скіраваным перш за ўсё, мабыць, да самога сябе. І штораз спадзяванні мае не спраўджваліся, кожны раз Зміцер толькі адмоўна хістаў галавой: «Не, больш не тэлефанавала...»

Аднойчы, за дні два-тры да выпіскі, не стрываў, запытаў у яго:

— Зміцер, а Ліля? Чаму... так атрымалася?

Ён толькі ўважлівей зірнуў на мяне і нічога не адказаў.

...Цяпер няма нічога. Ні рукапісаў, ні абаронцаў-сяброў, нават крумкачы і тыя некуды зніклі. Адзінота — сухая пачвара-старая, якая штодня грэецца ля цяпельца майго сэрца. Ды і подых — цяжкі, ліпучы, «прыстасавальніцкі»... Яны. І больш нікога і нічога. Свет мрояў пераўвасобіўся ў подых, адбіўся ў імгненні маёй «нетрывалай памяці» фантасмагарычным полымем уяўнай свабоды... Ад каго? Толькі ад сябе... Аліна, Ліля — тое, што магло быць і **МАІМ, АСАБІСТЫМ МАІМ,** некранутым нікім і нічым звонку... Зміцер, які, нібы злыдух, з'яўляецца і знікае, калі найбольш цяжка і невыносна... Адчуванне страчанасці ва ўсім, што ёсць і чаго цяпер ужо няма...

Некалі Зміцер проста так, як між іншым, паведаміў: «А ты падабаешся сястры...» Я ж, дурань, узяў ды прысвяціў ёй верш... цяпер і не памятаю яго... так смутнавата, як у смузе ўсплываюць вобразы-параўнанні, вобразы красы дзявочай, цнатлівай, старажытна-грэцкія рэмінісцэнцыі і алюзіі, зварот да славянскага паганства і яшчэ нешта... яшчэ... — мабыць, сапраўды, «нетрывалая памяць» дасюль здзекуецца, як сабака з коткі, а котка з мышкі... Ды справа не ў гэтым... Прысвяціў верш без дай прычыны. Лічы, абстрактнаму амаль вобразу... не разлічваючы ні на што... І запамятаваў. Хутка, як і не пісаў усё адно. Але Яна не забылася. І Зміцер, маўклівы і сумны... І Аліна, страчаная мара, расталы снег, масток да выраю...

...Цяпер няма нічога. Я без цябе. Адзін. Раствараюся ў подыху гумовым... да наступнага разу... Да адраджэння Памяці. Маёй. Змітрака. Лілі. Аліны.

*Па сцежках містычных кахання*
*Блукаю ў тумане уранні...*
*Шукаю-чакаю адхлання,*
*Як сонца і кветка спаткання...*
..............................
*Чароўнай любові убранні*
*Зіхцяць, як віно на змяркanні..*
*Містычныя сцежкі кахання,*
*Святла незямнога хістанні...*

А праз подых у пакоі плыве невялічкі жоўта-блакітны шарык...

**▸ НІНА РЫБІК**

# ДВА АПАВЯДАННІ

## КУЛІНІНА КАХАННЕ

— Мама, а кім Федзя даводзіцца бабе Куліне? — неяк спытала я ў маці.

Федзя — гэта суседскі хлопец, старэйшы за мяне, вельмі сімпатычны і вельмі задавасты, заўсёды лепш за іншых апрануты і мае ў кішэні якую-небудзь «штучку», з-за якой за ім заўсёды чарадой ходзяць усе хлапчукі. А баба Куліна — адзінокая старая, якая жыве непадалёк ад нас ва ўрослай у зямлю хацінцы з двума малюсенькімі акенцамі. У хаце ў яе заўсёды цемнавата, але вельмі чысценька і пахне высушанымі зёлкамі, што вісяць у куце над прыпечкам. Калі-нікалі маці загадвае мне занесці бабе Куліне гарлачык малака. Я люблю гэтую работу, бо, апаражніўшы гладышку, старая заўсёды кладзе на дно што-небудзь смачненькае: спечаны ў печы коржык, ці сухі, як камень, пернік, які затым можна грызці цэлы дзень на зайздрасць усім сяброўкам, ці пару цукерак-падушачак.

Аднойчы, чакаючы, пакуль бабуля спарадкуе малако, я згледзела ў вечным прыцемку яе малюсенькай хаткі ў рамцы над акном фотакартку суседскага Федзькі — і здзівілася. Якой раднёй гэты задавака даводзіцца бабе Куліне, што яна трымае яго здымак на самым відным месцы? Пра гэта і спытала маці, як прыбегла дахаты.

— Нікім, — недаўменна паціснула плячамі мама. — А чаму ты пытаеш?

— Можа, ён ёй унук? Ці пляменнік? Ці сын хрышчоны? — не здавалася мая дзіцячая цікаўнасць.

— Ды кажу ж табе: не.

— Тады чаму яна яго так любіць? — пайшла я ў наступ. — Заўсёды, як убачыць, пакліча і ў кішэньку гасцінчык суне, а калі нават і рубля. А яшчэ ў яе вісіць у рамцы Федзева фотакартка, — прывяла я свой галоўны аргумент...

— Хіба ж любяць толькі родных ды хрышчоных? — усміхнулася на мае «выкрыцці» мама. — Ну даспадобы ёй Федзя, дык што ж тут благога? Хлопец харошы, прыгожы, разумны.

— Ай, нічым ён не лепшы за ўсіх іншых! Але ж нікога больш баба Куліна не частуе проста так, пасярод вуліцы, нават мяне, хоць я ёй і малако нашу. А Федзя, між іншым, ніколі!

— Ой, адчапіся, — немаведама чаго раптам узлавалася маці. Табе што за справа да таго, каго баба Куліна любіць? Ідзі лепш свінням травы нарві.

Тым і скончылася мая першая спроба разгадаць таямніцу незразумелай мне пяшчотнай прывязанасці старой жанчыны да суседскага хлопчыка. Шмат пазней, калі я зведала, што любяць не толькі родных і хрышчоных, я даведалася і пра гісторыю кахання бабы Куліны.

* * *

— Не радзіся краснай, а радзіся шчаснай, — любіла паўтараць Куліне маці, калі бачыла, як тая зайздрослівым позіркам праводзіць вабных сяброўак ды цяжка ўздыхае. «Станеш тут шчаснай!» — са скрухай глядзела Куліна ў люстэрка на свой круглы і плоскі, як блін, твар, рэдкія рудаватыя валасы, з якіх толькі і можна сплесці што «мышыны хвост» — а ў дзяўчат жа вунь якія косы, ніжэй спіны! І нос, як бульбіна, расплыўся на паўтвару, і бровы растуць калматыя, як зараснікі асоту... Ды яшчэ і імечкам бацькі надзялілі — хоць ты ўтапіся!

— Не ўглядайся, не ўглядайся, — забірала люстэрка маці. — Не сюды трэба глядзець, а ў вочы хлапцовыя. Ды не ў Міколавы — не па Сеньку шапка, у яго і без цябе прысушак хапае. Вунь Васільку Ігнатаваму ты ўсялякая харошая, з маленства ходзіць за табой, што той бычок прывязаны, вачэй не зводзіць.

Што праўда, то праўда — Васілёк ад яе не адыходзіўся. Але які ж ён кавалер? Яны ж яшчэ смаркачамі ў адным пяску аладкі пяклі. Колькі разоў яна яму юшку з носа спускала, а ён яе за валасы цягаў. А тут раптам — жаніх! Прыдумае ж маці... Малы, нават за яе ніжэйшы, вечна ўскудлачаны, счырванееецца, як яе ўбачыць, трох слоў звязаць не можа.

Вось Мікола — гэта хлопец! Высокі, шыракаплечы, як дуб, валасы чорныя, кучаравыя, і вочы такія ж чарнюткія, як ноч пераднавальнічная — каб, здаецца, хоць разок зірнуў ён тымі вачамі на Куліну, угледзеў, як яна на вячорках ловіць кожны яго рух, кожнае слова. Ды дзе там, ён нават у той бок, дзе таўкуцца яны, малалеткі, не глядзіць, за ім вунь якія прыгажуні ўвіваюцца!

Неяк Мікола ўгледзеў-такі Кулінін гарачы закаханы позірк. І запрасіў яе на танец. Ды дзяўчына так расхвалявалася, так збянтэжылася ад той нечаканай увагі, што, заліўшыся чырванню, не могучы ні слова вымавіць, ні кроку ступіць, толькі заматала адмоўна галавой. Мікола, не прывыклы да такога абыходжання, недаўменна цепануў плечуком і тут жа пусціўся ў скокі з сінявокай бялявай Марысяй, пакінуўшы Куліну ля сцяны пакутаваць ад крыўды на самую сябе.

Можа, і збылося б тое матчына прароцтва, скарылася б Куліна лёсу ды пайшла за Васіля, можа б, і сцярпелася-злюбілася ў іх калі. На Міколу заглядвацца ўжо не выпадала — неўзабаве заслаў ён сватоў да той самай белабрысай дробненькай Марыські ды і прывёў яе ў бацькаву дыхтоўную хату. А Марыська і рада старацца — аднаго за другім двух сыноў яму нарадзіла. Яно і раней Куліне не было на што

спадзявацца, а цяпер дык і тым больш. Адна была ёй дарога — ісці за нялюбага, непрыгожага Васіля ды віць пацiху сваё гняздо.

Ды, відаць, і тое ёй было не суджана — вайна пачалася. І ўсіх мужчын і хлопцаў з іх сяла — і прыгожых, і няўдалых, і старых, і маладых — у тую мясарубку закруціла. Забралі на фронт і Міколу, і Васіля, і бацьку яе. Усе пайшлі, ды не ўсе вярнуліся. Старой Ігнацісе неўзабаве прыйшла пахаванка: сын яе, Васіль, загінуў смерцю храбрых у Польшчы. Кулінін бацька без вестак прапаў — доўга яшчэ маці хадзіла за грэблю, углядалася на дарогу — ці не ідзе яе Алесь? Ніхто ж не бачыў яго мёртвым... Так і змарнела без пары ад тугі.

Так і ў іншых хатах — дзе галасілі горка над пахаванкамі, дзе чакалі цуду.

Толькі ў Міколавай хаце было весела, бо гаспадар не проста вярнуўся, хай сабе і без рукі, а яшчэ і дабра з сабой усялякага навёз з Нямеччыны. І стаў, як падалося Куліне, яшчэ прыгажэйшы — вышэйшы, дужэйшы — ну проста вачэй не адвесці, а што левы рукаў пусты за рэмень заткнуты, дык што ж тут такога? І не такія калекі з вайны вярталіся...

Камандаваў калгасам тады стары дзед Яўхім, а Міколу ён паставіў брыгадзірстваваць. І ў яго, нягледзячы на калецтва, адбою «не было ад разбітных салдатак, якія пацiху гора гаравалі з малымі дзецьмі ды праглі хоць якой, хоць мімалётнай уцехі. Не вельмі асуджалі Міколу, што падгульваў ён то з адной, то з другой, яшчэ менш спачувалі Марысьцы: «А што ж яна хацела: гэтулькі багацця — і ўсё ёй? Дзяліцца трэба». Ціхмяная ж Марыська, здаецца, ні на позні мужавы вяртанні, ні на плёткі ўвагі не звяртала, была такая ж, як заўсёды, прыветная з усімі, нават з Міколавымі каханкамі, якія адкрыта пасміхаліся ёй у твар. А хутка ў вачах яе, акрамя ціхай радасці, засвяцілася яшчэ і стоеная пяшчота, а стан пачаў паўнець, жывот акругляцца...

Ды нехта там, вышэй, напэўна, пільна сочыць, каб не было чалавеку зашмат шчасця. Вось гора многа не бывае — выбраўшы каго аднаго, усё падбаўляе ды падбаўляе яму, нібы правярае: а калі яшчэ і гэта — ці вытрымаеш? А як радасці многа, то так і чакай бяды...

Не разрадзілася Марыська сваім трэцім, памерла, знясіленая пасля трохдзённых бясконцых пакут. Пахаваў Мікола жонку — і зноў стаў першым жаніхом на вёсцы. Ды не такім ужо зайздросным — усё ж двое малых на руках, і пусты рукаў неяк адразу пачаў у вочы кідацца.

Але Куліна пра гэта не думала. Яна была б рада абмываць, карміць, шкадаваць, любіць яго хлопчыкаў, і нават здраду загадзя гатова была дараваць — абы толькі ўзяў яе, абы толькі быць побач з ім, любым, адзіным, класціся з ім у ложак, мыць яго бялізну, дакранацца да яго... Але ж як даць яму адчуць, што яна адна-адзіная кахае яго так, як ніхто палюбіць не зможа?

...У той дзень яны з жанчынамі да прыцемкаў жалі жыта — дабівалі загон. Завяршаючы апошнім снапом бабку, Куліна ўгледзела здалёк, як Мікола павёў на рэчку паіць каня. І, памкнуўшыся спачатку ўслед за іншымі жнеямі, што спяшаліся дамоў, раптам вярнулася, кінуўшы ім:

— Ідзіце, я зараз дaганю. Серп забылася.

Ніхто і не думаў яе чакаць — кожнай рупілі хатнія клопаты. А Куліна, зрабіўшы выгляд, што шукае серп, цікавала, калі ж падымецца

ад ракі Мікола. І як толькі ўбачыла яго шыракаплечую постаць, пашыбавала да дарогі. Сонца зусім заблыталася ў доўгіх косах бярозавага гаю, высвечваючы палоску неба вакол сябе, падфарбоўваючы ружовым рэдкія хмаркі, што лена цягнуліся па краі малінавай зары. Важкія мужчынскія крокі ды дробны пераступ капытоў прымушалі дзявочае сэрца біцца ўсё мацней — здавалася, яно вось-вось выскачыць з грудзей.

— Прыпазніліся вы нешта сёння? — нарэшце дагнаў яе Мікола. — Ці дажалі?

— Ага, дажалі. Таму і запазніліся — канчалі.

— А ты чаму адна засталася?

— Ды так атрымалася, — не хацелася маніць яму пра серп.

Памаўчалі колькі часу. Ды дарога, заўжды доўгая, цяпер, здавалася, імклівай стужкай кідалася пад ногі, і вось ужо за той павароткай пакажуцца вясковыя прысады...

— А ты чаму затрымаўся? — на гэты раз парушыла цішыню Куліна.

— Ды куды мне спяшацца? — цяжка ўздыхнуў Мікола. — У хаце дзеці галодныя, мурзатыя, работы процьма, пасцель халодная... Не хочацца і ісці — за любую справу чапляешся, абы забавіцца.

— Жаніцца табе трэба, Мікола, — скоса глянуўшы на яго задуменны, учарнелы за час удаўства твар, прамовіла Куліна.

— Жаніцца-то трэба, — згодна кіўнуў ён галавой. — Ды на кім? Думаеш, багата ахвотніц за ўдаўца з двума дзецьмі ісці, ды яшчэ калеку? Ты б вось пайшла? — нечакана ўзяў яе за плячо і зазірнуў у вочы Мікола.

—Я? — густая чырвань заліла ёй твар. І не прамовіла — выдыхнула ледзь чутна: — Я б пайшла...

Збянтэжаны яе нечаканай згодай, зніякавелы Мікола стаяў і глядзеў на яе, прысаромленую ад сваёй нечаканай смеласці, запунсавелую і стаўшую раптам такой прывабнай. Глядзеў і не так разумеў, як адчуваў, як рвецца з яе грудзей стоенае, схаванае ад людзей каханне, прага жаночага шчасця, жаданне належаць мужчыну — дужаму, моцнаму, свайму гаспадару. Яе плячо пад яго рукой затрымцела, як ліст пад парывам ветру, з грудзей вырваўся важкі ўздых, амаль стогн... Яго захліснула хваля пяшчоты і мужчынскага жадання:

— Пайшлі! — узяў ён Куліну за руку.

Яна, патанаючы ў радаснай знямозе, што пяшчотнымі хвалямі расцякалася па ўсім целе, пайшла за ім да стога, што стаяў узбоч дарогі.

Мо з месяц доўжыліся іх вечаровыя спатканні. А калі Куліна неяк, асмялеўшы, паверыўшы, што ўжо мае на гэта права, спытала, чаму ж ён не засылае да яе сватоў, Мікола хмыкнуў:

— Мне не палюбоўніца трэба, а гаспадыня ў хаце, ды каб маім хлопцам маці была. Ты яшчэ занадта маладая такі клопат сабе на плечы ўзвальваць.

«Няпраўда! — хацелася крыкнуць Куліне. — Ніхто не будзе шкадаваць тваіх сыноў так, як я, ніхто не будзе табе лепшай жонкай. Бо я цябе люблю!» Хацела, ды не змагла: горкі камяк крыўды, што ён гэтага не разумее, роспачы, што не быць ёй з Міколам, як марылася, як ужо амаль верылася, сціснуў горла...

Неўзабаве Мікола ажаніўся — узяў нашмат старэйшую за сябе ўдавіцу з трыма дзецьмі з суседняга сяла, белабрысую і ціхмяную, як няшчасная Марыська. Яна і звалася таксама Маняю. Але не ў прыклад нябожчыцы, была гультаяватай. І не тое, каб не ўмела ці не хацела рабіць, а было ёй усё абыякава. Улезуць суседскія куры, выпалашчуць ёй грады, а яна блазнавата ўсміхаецца. Прыйдуць людзі скардзіцца, што хлопцы ў садзе яблыкі абтрэслі без пары — пацісне плячыма: ну дык што? Гарод лебядой зарастае, а яна сядзіць у акне, рукой шчаку падпёршы, а на кпіны адказвае:

«Дасць Бог дзень, дасць і хлеб».

Спачатку Куліна нават радавалася ў душы, што ў Міколы жонка такая недалэнга, зласлівіла: «Так табе і трэба! Мяне браць не схацеў, то пажыві цяпер з прыгажуняй-гаспадыняй, пахадзі ў каравых портках. Ды і ў яе спадніца не лепшая!» А потым ёй стала шкада і Міколу — пабляклага, схуднелага, з патухлымі вачыма, і дзяцей яго смаркатых, вечна паўгалодных, што ўвесь час цікуюць, у каго б які гурок ці морквіну з грады ўхапіць.

А Мікалаіха ў свае сорак гадоў на дзіва ўсім неўзабаве нарадзіла хлопца. Ды як нарадзіла!

Была пара сенакосу, у сяле ні душы, а Куліне нешта нездаровілася, і яна засталася ў хаце. Тут і прыбегла да яе перапалоханая Манiна дзяўчынка:

— Цётка Куліна, хадзіце да нас, мамцы дрэнна!

Калі Куліна прыбегла, Маня курчылася ў ложку за печчу:

— Ох, родненькая, памажы! Раджаю я...

— Дык я ж не ўмею! — спалохалася тая.

— Няма каму больш. Не бойся, справішся. Што Бог дасць, тое і будзе, — дабавіла Маня сваё ўлюбёнае.

...Бог даў — і неўзабаве Куліна прыняла на рукі маленькага крыклівага хлопчыка. Загарнула яго ў матчыну старую сарочку, прытуліла да грудзей, і такая пяшчота да гэтага немаўляці агарнула яе — нібы не Маня нарадзіла гэтае дзіцятка, а яна, Куліна, панесла тады, у прыдарожным стозе ў сабе часцінку Міколы, яго кахання. «...Бог памыліўся — думала яна, разглядваючы чорненькія броўкі хлопчыка, шыракаваты носік, поўненькія вусны. Гэта павінна было быць маё дзіця! Навошта ім? У іх ужо ёсць. А я адна... Чаму ты памыліўся, Бог, не даў мне гэтае дзіцятка? Хай бы нават забраў Міколу, а сына пакінуў!..»

...З таго часу Куліна стала частай госцяй ў Міколавай хаце. Ды што там госцяй — другой гаспадыняй. Яна дапамагала Мані палоць грады, капаць бульбу. А калі ўжо прасілі пагуляць з Федзькам — так назвалі малога — то больш шчаслівага дня ў яе не было. Мані нашэптвалі, пасмейваючыся, з-за чаго Куліна прывязалася да іх хаты, але тая толькі ўсміхалася, як заўсёды. А Куліна на кпіны і насмешкі не звяртала ўвагі — што яны значылі ў параўнанні з тым, што яна магла бачыць Федзьку, трымаць яго на руках, карміць з лыжачкі і слухаць яго дзіцячае шчабятанне? Усю сваю незапатрабаваную, нерастрачаную пяшчоту аддавала яна хлопчыку. І баялася, што, калі ён падрасце, то стане цурацца яе, чужой старой бабы.

Але Федзя, надзіва, таксама прывязаўся да Куліны. Ідучы са школы, ён часта забягаў у яе маленькую хацінку — там яго заўсёды чака-

ла што-небудзь смачненькае, чаго Куліна сама ніколі не ела, казала: «На мне ўжо прапашчае» — і пакідала Федзьку. А калі Федзя скончыў школу і паехаў з вёскі вучыцца, ды так і не вярнуўся, застаўся ў горадзе, то нават зрэдку слаў ёй кароткія лісты і, як прыязджаў, прывозіў у падарунак якую-небудзь драбязу. Усе яго пісьмы і падарункі старая складвала ў асобную скрынку, часта даставала і разглядвала, шчасліва ўсміхаючыся — гэта быў яе найвялікшы скарб.

Так і пражыла Куліна ўсё жыццё на краі чужога гнязда. Памерла яна рана — у пяцьдзесят гадоў. Да таго часу не было ўжо ні згарэўшага ад раку Міколы, ні Мані, якая не нашмат перажыла мужа, сканала з той жа сваёй ціхмянай усмешкай — «што Бог дасць...» Дагледзелі адзінокую жанчыну да смерці і пахавалі дзве добрасардэчныя адзінокія суседкі. Вось толькі апошнюю просьбу Куліны не выканалі, не адбілі тэлеграму Федзю: палічылі, што дзе там ён паедзе з Масквы хаваць чужую бабу...

# ДАРАВАННЕ

Уваходныя дзверы гучна ляснулі за спінай, нібы паставілі кропку ў цяжкай размове з доктарам.

— Зразумейце мяне правільна: мы не чараўнікі, — крыху раздражнёна гаварыў гэты немалады ўжо, крыху грузнаваты стомлены чалавек, адводзячы позірк, каб не глядзець на яе заплаканы твар. — Я нічога не магу абяцаць, не магу даваць ніякіх гарантый. Аперацыя прайшла ўдала, мы зрабілі ўсё, што маглі, але з гэтай хваробай, самі разумееце, ніколі нельга быць упэўненым да канца. Будзем лячыць, глядзець, але вы ж ведаеце, якія сёння ў нашай медыцыны магчымасці... Вось каб вы змаглі дастаць лякарства, — доктар прамовіў нейкае мудрагелістае слова, якое тут жа вылецела з галавы, — гэта б дапамагло паскорыць выздараўленне. — Але, — ён ацэньваючы глянуў на яе старэнькі, даўно выйшаўшы з моды палітончык, вязаны берэцік, — гэта вельмі дорага каштуе.

І ўсё ж, убачыўшы, як сполахі спадзявання ў яе вачах прабіліся скрозь заслону тугі і адчаю, напісаў на маленькім аркушыку назву лякарства і нумар аптэкі, дзе яго найверагодней знайсці.

Заціснуўшы ў кулачку гэтую паперку, як надзею на выратаванне, яна кінулася да аўтобуснага прыпынку: хутчэй! Хутчэй у тую аптэку!

Дайшла да розуму толькі тады, калі раскрыла кашалёк, каб купіць талончык. У ім сіратліва ляжала некалькі дробных купюр. «Гэтае лякарства вельмі дорага каштуе», — успомніла яна спачувальны і недаверлівы позірк доктара. І адначасова — тое, што дома пусты халадзільнік, а Наташка ўжо, пэўна, прыйшла са школы.

Яна не стала перасаджвацца на тралейбус, каб ехаць у другі канец горада да ўказанай аптэкі, а сышла на сваім прыпынку, забегла ў гастраном, купіла хлеб, батон, дзвесце грамаў масла, дзве бутэлькі малака... Кашалёк амаль апусцеў. «Дорага — гэта колькі?» — не пакідала думка, пакуль ішла дамоў, падымалася па лесвіцы, адмыкала кватэру.

— Мама, на мяне сёння вячэру не гатуй, мы ідзём да Светкі на дзень нараджэння. Грошы за мяне Макс залажыў, заўтра трэба аддаць, — як парыў ветру, абдала яе ў прыхожцы сваёй маладой свежасцю На-

ташка. Затрымалася на хвілінку каля люстэрка, звыклым рухам, зноў апёкшы яе сэрца болем, наставіла каўнерык у куртачцы, напусціла на твар валасы — старалася такім чынам прыхаваць непрыгожы чырвоны рубец, што цягнуўся ўпоперак цераз усю шчаку, і, цмокнуўшы маці на хаду ў шчаку, імкліва знікла за дзвярыма.

Яна нават крыху ўзрадавалася, бо гатаваць вячэру не было з чаго, а сама і чаю пап'е, малако на заўтра застанецца. Стала распранацца, і тут «маланка» на старэнькім боціку, якая і раней заядала, раптам саскочыла і разышлася. Другі бот даўно «прасіў кашы», і як яна ні старалася абмінаць лужыны, усё ж заўсёды хадзіла з мокрымі нагамі. І набойкі ўшчэнт сцерліся... На добры толк, то даўно трэба было купляць новыя, але за што? Цяпер вось думай, у чым заўтра пайсці на работу і дзе ўзяць грошы на рамонт гэтых старэнькіх, даўно адслужыўшых сваё ботаў.

«Халера, — ледзь не расплакалася Надзя. — Усё адно да аднаго!» І лякарства — за што купіць лякарства? Урач казаў — яно можа дапамагчы Лідзе. А змірыцца, што раптам не стане сястры — адзінага роднага чалавека ў свеце, якому можна, як некалі матулі, пакласці галаву на калені і шчыра, да канца, да самаачышчэння і ўваскрасаючай надзеі, выплакацца, ведаючы, што цябе зразумеюць і дапамогуць — змірыцца з гэтым было немагчыма, як з канцом свету, ад адной думкі рабілася непамысна холадна і адзінока, як у снежнай пустэльні. Не, лякарства трэба дастаць, Ліду трэба ратаваць, колькі б гэта ні каштавала. Але ўсё ж такі, колькі гэта — дорага?

Усцягнуўшы цёплыя ваўняныя шкарпэткі і ўзлезшы з нагамі на канапу, яна захуталася ў коўдру і падсунула бліжэй тэлефон. Знайшла ў даведніку нумар патрэбнай аптэкі — і неўзабаве прыемны голас спытаў, чаго яна хоча. Надзея прачытала з паперкі мудрагелістую назву.

— Ёсць. Адна ўпакоўка каштуе... — і голас назваў суму, роўную месячнай Надзінай зарплаце. А на курс лячэння трэба хоць бы пяць такіх.

— Дзякуй, — машынальна прамовіла яна і паклала трубку. Хвілін колькі сядзела ў нерухомасці, усведамляючы пачутае, прыкідваючы, колькі ж ёй трэба працаваць, не піўшы, не еўшы, каб купіць тое лякарства. А затым пачала ціхенька смяяцца. «Дажылася! Інтэлігентка ў трэцім пакаленні — у дзіравых ботах і самавязаным берэціку! Філалагінячырвонадыпломніца — няма за што купіць лякарства для паміраючай сястры. Гонар і сумленне нацыі — п'е чай без цукру! Ха-ха-ха!» Яна ўжо не смяялася — рагатала, гучна, узахлёб, аж пакуль з вачэй не пырснулі выратавальныя слёзы. А затым, амаль без пераходу, гэтак жа ўзахлёб стала плакаць, па-дзіцячы хліпаючы, размазваючы слёзы на шчоках.

Істэрыка прайшла не хутка. «Добра, што Наташы не было дома, — падумала, дастаючы дрыжачымі пальцамі валідол. — Падумала б, што звар'яцела маці. Яшчэ б напалохалася».

«Дзе ж узяць грошы? — крыху супакоіўшыся, зноў вярнулася да таго ж пытання. — Што там у кніжках героі робяць у такіх выпадках? Прадаюць душу д'яблу? Дык вось жа бяда — пакупнік не знаходзіцца... Абрабаваць банк? Не ўмею. Нават сцягнуць тое, што дрэнна ляжыць, не змагу — выхавалі ж бацькі, зямля ім пухам, такую да непрыстойнасці сумленную. Нырку прадаць? А каму патрэбны мае хворыя

ныркі? Кватэру? А потым самім з Наташкай у бадзяжкі ісці? І з хаты прадаць няма чаго, за што тут дадуць патрэбныя грошы, за абшарпаную сценку — вясельны пасаг? Хіба што магнітафон... Але не, магнітафон яна не прадасць — не зможа. Раз ужо ўзяла яго тады...

Што ж, давядзецца зноў лезці ў пазыку. Але ў каго? Пятру Якаўлевічу два месяцы вінная, ужо сорамна ў вочы глядзець. І з гэтай палучкі, падобна, зноў не аддам. Галка сама цікуе, каб у каго «стрэліць» якую сотню да зарплаты. Ганна мае грошы, але не дасць, сыты галоднаму не спагадае. Марыя Іванаўна дала б, але сына жэніць, кожны рубель лічыць. Дык дзе ж, у каго папрасіць?»

Раскрыла кашалёк, стала лазіць па патаемных куточках і кішэньках — а раптам? І сама не зразумела, адкуль у руках узялася гэтая візітоўка — шыкоўная, з мудрагелістай вяззю літар, якія сваім золатам пяклі пальцы і нібыта пасмейваліся: «І што гэта за грошы?! Ты толькі набяры нумар...» Упомніла, як раскрывала год назад каробку з магнітафонам, і гэтая візітоўка тады, як і цяпер, невядома адкуль слізганула ў руку, выхваляючыся сваёй найдаражэйшай паперай, шыкоўна выгравіраваным прозвішчам уладальніка. Хацела выкінуць адразу — было адчуванне, што трымае ў руках гадзюку, ды пабаялася, што Наташа ўбачыць, зацікавіцца. Схавала — сама потым не магла ўспомніць, куды. І вось на табе — зноў пячэ рукі.

Раззлаваная, Надзя хацела парваць гэты бліскучы кавалачак паперы, але візітоўка не далася: выслізнуўшы з рук, упала на столік побач з тэлефонам, нахабна пабліскваючы залатымі літарамі.

...Тады, год назад, за тыдзень да Наташынага шаснаццацігоддзя, ён паўстаў у аддзеле перад яе сталом вось гэтак жа нечакана, зніадкуль — дорага і прыгожа апрануты, з масіўным залатым пярсцёнкам на адной руцэ і прыгожым заручальным — міжволі яна згледзела перш за ўсё гэты! — на другой, распаўсюджваючы вакол сябе водар дарагой парфумы. — Толькі твар нейкі хваравіта-бледны і чорныя кругі пад вачамі псавалі агульны выгляд удачлівага бізнесмена, — гэта яна таксама адзначыла амаль падсвядома.

У першы момант Надзя нават не пазнала яго, а калі пазнала — спалохалася. Яна ведала ад агульных знаёмых, аднакурснікаў, што ён даўно выйшаў з турмы, ажаніўся з немаладой непрыгожай, але самавітай дачкой аднаго перыферыйнага партыйнага функцыянера, толькі вось дзяцей у іх не было. Змяніў некалькі работ, а затым, калі гэта дазволілі, кінуўся ў бізнес, стаў «крутым» і «новым». Тым самым знаёмым Надзя старалася як мага менш расказваць пра сябе, хаваючыся за агульныя словы: «Жыву... Працую... Як усе», — не хацела, каб хто-небудзь расказаў яму, дзе яна жыве і працуе. Яна баялася з ім сустрэцца нават выпадкова — і радавалася, што «новыя» ў метро і тралейбусах не ездзяць. Баялася паглядзець яму ў вочы — страшылася сустрэць той самы бегаючы позірк. Баялася пачуць яго голас — той голас, які некалі так любіла, будзіла сярод ночы і прасіла: «Скажы што-небудзь...» Ён ціхенька смяяўся, мацней абдымаў яе і шаптаў на вуха: «Я кахаю цябе, мая чароўная дурнічка, больш за ўсіх на свеце...»

І вось ён, нібы галівудская зорка, стаіць перад яе аблупленым, залітым чарнілам сталом, пад невыразнымі, але цікаўнымі позіркамі жанчын-супрацоўніц і збянтэжана просіць:

— Калі ласка, давай выйдзем на хвілінку. Нам трэба пагаварыць.

...У калідоры яна прысела на падаконнік — ватныя ногі не трымалі.

— У Наташы хутка дзень нараджэння, — першым парушыў ён завіслую напружаную паўзу. — Я б хацеў зрабіць ёй падарунак...

— Дзіўна, што ты помніш пра яе дзень нараджэння. Але ты ўжо зрабіў ёй падарунак, забыўся? Застанецца на ўсё жыццё.

— Дарэмна ты так... Яна — мая дачка...

— Але ж ты зрабіў усё, каб яе не было!

— Не трэба, Надзя, не старайся быць жорсткай...

— У цябе язык паварочваецца гаварыць пра жорсткасць?!

— Надзя, за маю віну мяне ўжо пакаралі — і Бог, і людзі.

— Няўжо? — хмыкнула яна недаверліва, паглядзеўшы на яго супердарагі плашч.

— Ды не глядзі ты так. Ты нічога не ведаеш — усё гэта толькі прыгожая ўпакоўка. Не ў грашах шчасце...

— Не здагадвалася, што ты гэта ведаеш. І чаго ж табе не хапае для шчасця? Клапатлівай дачкі?

— Надзя, я проста хачу зрабіць ёй падарунак — няўжо я і на гэта не маю права? Няўжо вы ніколі не даруеце мне? Прашу, дазволь мне зрабіць што-небудзь для вас, дапамагчы — табе ж цяжка...

— Нічога, не турбуйся, свая ноша не цягне. Пражылі ж мы неяк шаснаццаць гадоў без тваёй дапамогі, абыдземся і цяпер. І не смей гаварыць пра нейкія свае правы — ты пазбавіў сябе ўсіх правоў у адносінах да дачкі ў тую навагоднюю ноч! — амаль выкрыкнула яна.

Памаўчаўшы, дадала ўжо спакайней:

— Я не прагну помсты, не хачу тваёй крыві. Адзінае, чаго я хачу, — гэта ніколі не бачыць і не чуць цябе, забыцца, што ты ёсць, што ты быў у маім жыцці. Наташа пра цябе нічога не ведае і, думаю, ёй не трэба ведаць — з гэтым грузам ёй цяжка будзе жыць на свеце, яна не зможа верыць людзям. Хай табе даруе Бог, але я, ты прабач, дараваць не магу...

Адчуваючы, што даўкі камяк падступае да горла, кінула на хаду:

— Выбачай, у мяне шмат работы, — і знікла за дзвярыма.

...А праз пару дзён шыракаплечы дзяцюк, адчыніўшы нагой дзверы, унёс у кабінет і паставіў ёй на стол вялізную каробку. Пакуль яна ўцяміла, што да чаго, дзяцюк знік, як прывід, — засталіся толькі мокрыя сляды на падлозе.

У каробцы быў магнітафон — самы сучасны, вельмі прыгожы і дарагі. Можа, калі б гэта было нешта іншае, у яе б хапіла сілы адмовіцца — выкінуць, аддаць каму-небудзь. А магнітафон быў Наташынай марай — яна даўно прасіла купіць хоць які-небудзь задрыпаны плэер, бо з усіх аднакласнікаў і сяброў толькі яна не магла слухаць музыку. Надзя нават паабяцала ёй што-небудзь прыдумаць да дня нараджэння — спадзявалася, што неяк выкруціцца. Ды ў Наташкі парваліся красоўкі, у класе збіраліся на падарунак настаўніцы, у супрацоўніцы з іх аддзела раптоўна памёр бацька — і яна зразумела, што магнітафон, нават самы просценькі, зноў «пралятае». Не ведала толькі, як сказаць пра гэта Наташы — тая так спадзявалася.

А тут прадмет яе мары стаяў на стале ва ўсёй красе і спакусліва блішчаў сваімі клавішамі і рычажкамі. Надзя ўявіла, як узрадуецца

падарунку Наташа, успомніла яго збянтэжаны, умольны голас — і расплакалася — ад роспачы, што не зможа стрымаць некалі дадзенае сабе слова, ад бяссілля перад сваёй беднасцю, усведамлення, што гэты магнітафон — дробязь, цацка — яе перамог.

І цяпер вось — чарговы выклік, гэтая нахабная візітоўка, ляжыць на століку, блішчыць сваімі літарамі... Якраз сёння, як ёй пазарэз трэба грошы і, хоць загаласі, няма дзе ўзяць.

«А што, і пазвані, — спакушала візітоўка. — Узяла ж магнітафон — парушыла слова. А, як казалі старажытныя мудрацы, дзяжа аднолькава запэцкаецца, замесіш адзін хлеб ці дзесяць. Зрэшты, не для сябе ж будзеш прасіць, не на ўборы, не на прысмакі — на лякарства для хворай сястры», — рука міжволі пацягнулася да слухаўкі...

«Не смей! — загадала сама сабе і заціснула рукі-здрадніцы між каленяў. — Адна справа магнітафон — ён сам яго прынёс, яго нават вярнуць не было каму. А тут ты збіраешся званіць яму, прасіць грошай, нібы міласціну, хай сабе і для выратавання роднага чалавека. З такой просьбай можна звярнуцца да сябра, а не да ворага. Ты што, усё забылася? Ты забылася тую навагоднюю ноч?»

...Не, яна нічога не забылася. Яна нават помніць, што вусны ў яго, як яны пацалаваліся ў першы раз, пахлі дажджом. Памятае, як у восеньскім скверы ён абсыпаў яе апалым кляновым лісцем і называў «мая залатая прынцэса». Помніць, што ў той дзень, як яны пайшлі ў ЗАГС, быў вялікі мароз, а яна недзе згубіла рукавічкі і ніяк не магла змерзлымі непаслухмянымі пальцамі паставіць подпіс. Помніць, як ён прывёў яе дахаты, і ягоная маці, акінуўшы маладую нявестку крытычным позіркам, незадаволена падціснула вусны. Вядома, не пра такую партыю для адзінага сына, прыгажуна ды разумніка, яна марыла. Ён быў дастойны самага лепшага — а тут нейкая студэнтка-трэццякурсніца без роду, без племені, без капейкі за душой — пра гэта неяк свякроўка сказала Надзі ў вочы. Цяпер яна разумее гэтую жанчыну — яна, маці, больш за ўсё на свеце любіла сына і жадала яму лепшай долі. А тады пакрыўдзілася. І хоць у ёй ужо трапяталася маленькае цяпельца, плод іх першай шлюбнай ночы — о, гэтую ноч яна таксама памятае да драбніц! — Надзя сабрала свой няхітры скарб і вярнулася да цёткі, у якой жыла раней. Думала: ён прыйдзе следам, яны нешта прыдумаюць, здымуць пакой і будуць жыць разам — яны ж кахаюць адзін аднаго, і ў іх будзе дзіця. Але ён не прыйшоў — з двух жанчын, якія любілі яго, ён выбраў маці.

Часам яны сустракаліся — і ён быў гэткі ж пяшчотны, ласкавы, уважлівы. А затым развітваўся і ішоў дамоў, а яна доўга плакала, зачыніўшыся ў сваім пакоі. Аднойчы ў яго вырвалася: «Калі б не гэтае дзіця, у нас усё магло б быць па-другому». Надзя яго тады не зразумела. Ёй здавалася: адзінае, што надае сэнс іх узаемаадносінам, іх каханню, дазваляе спадзявацца на будучыню — гэта тое кволенькае новае жыццё, што спее ў ёй і рыхтуецца з'явіцца на свет...

У раддом ён не прыйшоў. Забірала яе Ліда — яна спецыяльна ўзяла адпачынак, каб дапамагчы Надзі ў першы, самы цяжкі месяц, упраўіцца з малой. А ў снежні ён патэлефанаваў: маўляў, хачу прыйсці да вас Новы год сустракаць... Цётка якраз паехала ў госці да радні, і Надзя ўзрадавалася: гэтая навагодняя ноч павінна ўсё паставіць на месца. Ён патрымае на руках трохмесячную Наташку, адчуе, што гэ-

та — яго крывіначка і не зможа іх пакінуць. А потым і бабуля прызнае ўнучку — як убачыць, што носік у малой якраз, як у яе, а броў-кі татавы, прыгожыя, выгнутыя, бы маладзічковыя серпікі.

...Усё было цудоўна ў той Новы год — свечкі, шампанскае, ёлка, яго дыханне побач, смешнае пакрэктванне Наташкі ў калясцы... Ноччу малая прачнулася, заплакала.

— Ты патрымай яе, — паклала Надзя спавітую дачушку бацьку на рукі, — я зараз падагрэю малако...

Яна яшчэ не паспела запаліць газ, як пачула яго крокі — і прадчуванне нечага жудаснага, няўмольнага, незваротнага запаланіла душу дзікім холадам. Усё яшчэ трымаючы ў руках запалкі, яна шырока раскрытымі вачамі глядзела на яго рукі: ён паціраў іх, нібы адціраў ад нечага агіднага — колькі разоў потым ёй сніліся гэтыя рукі, прымушаючы прахопліваца ноччу ад невыказнага жаху...

— З ёй нешта здарылася... — позірк яго перабягаў з адной рэчы на другую, ні на чым не затрымліваючыся.

Надзя кінулася ў спальню. Наташка ляжала на падлозе. На шчацэ ў яе нешта пенілася, пузырылася і бралася белым інеем. Ухапіўшы коўдру і накінуўшы яе на малую, сама, як была, у тонкай блузцы і лёгкіх туфлях, кінулася з дзіцем на заснежаную вуліцу да бальніцы, якая, на шчасце, была побач з домам.

Потым ёй расказалі: у рот дзіцяці была ўліта кіслата. Малую выратавала толькі тое, што яна адразу рэфлекторна зрыгнула. Моцна пашкоджанай аказалася толькі слізістая абалонка роціка і скура на шчацэ — след выратавальнай адрыжкі.

Яна слухала — і не разумела, чытала абвінавачае заключэнне — і не верыла. Гэта зрабіў чалавек, якога яна кахала? Наташын бацька? Ён хацеў забіць гэтае бездапаможнае немаўлятка — плод іх кахання, іх агульных шчаслівых імгненняў? Чаму? Навошта? У чым вінавата дзіця?

Калі яна спытала пра гэта ў следчага, які вёў крымінальную справу, пажылы маёр, апусціўшы галаву, цяжка ўздыхнуў:

— Вы не ўяўляеце, на што часам ідуць людзі, каб не плаціць аліменты...

Вось тады яна і дала сабе слова — ніколі, ні пры якіх абставінах не браць ні ў яго самога, ні ў яго родных ні капейкі — нават калі будзе паміраць з голаду.

І вось, выходзіць, яна парушыла гэтае слова — узяла магнітафон. А цяпер думае аб тым, каб папрасіць грошай на лякарства для Ліды.

«Ці даўно ты збіралася прадаць душу д'яблу? — з'едліва пасміхнулася візітоўка. — Вось і лічы, што пакупнік знайшоўся. На кану жыццё тваёй сястры — выбірай...»

«Але ж... Але ж, калі я пазваню, то гэта будзе азначаць, што я яму даравала?..»

«А хіба не? Ці не гэта ты адчула, калі плакала над распакаваным падарункам? Тыя слёзы змывалі з тваёй душы — ты ўспомні, успомні! — цяжар недараванай здрады, прагу помсты. І візітоўку ў кашалёк ты не проста так, не ад Наташыных вачэй паклала. Не падманвай сябе — ты яму даравала. І пазвоніш ты яму ці не, гэта ўжо нічога не зменіць. Ад сябе не ўцячэш».

«Не падманвай сябе. Ты яму даравала», — пульсавала ў вісках, пакуль яна набірала нумар.

Трубку зняла жанчына:

— Алё.

— Запрасіце, калі ласка, Сяргея... Вось ліха — яна забылася яго імя па бацьку! На тым баку завісла нейкая ненатуральная, трывожная цішыня. А потым той жа голас, перарываючыся, як цераз сілу, спытаў:

— А хто яго просіць?

Цяпер ужо замоўкла Надзя. Сапраўды, хто яна? Былая жонка? Маці яго дачкі? Сяброўка? Знаёмая?

— Аднакурсніца, — знайшлася нарэшце . Слухаўка зноў на нейкі момант замоўкла, а потым коратка ўсхліпнула:

— Няма Сяргея...

— Што значыць — няма? — не зразумела Надзя.

— А тое і значыць. Памёр Сяргей. Тры дні назад. Яго пахавалі на Маскоўскіх могілках, калі вас гэта цікавіць.

Яна не магла апрытомнець ад гэтай навіны, хапала ротам паветра, як выкінутая на бераг рыбіна.

— Пачакайце. Вы... Вы — маці яго дачкі? — пасля паўзы жанчына азвалася ўзбуджана, як здагадалася пра нешта, загаварыла хутка, нібы баялася, што яе не даслухаюць да канца. — Можаце не адказваць, я ведаю, гэта вы. Сяргей чакаў вашага званка. Ён адчуваў, што яму нямнога засталося. Загадаў: калі вы пазвоніце, то з ім нічога не здарыцца... Вельмі пакутаваў ад таго, што вы не званілі, гаварыў, што вельмі вінаваты перад вамі і дачкой, баяўся, што вы яму не даруеце... Ён пакінуў вам пакет — пісьмо і нешта яшчэ. Прыйдзіце, калі ласка, забярыце...

Жанчына нешта гаварыла яшчэ, але Надзя ўжо не чула яе. Яна слухала сябе — у грудзях раптам утварылася пустэча, якая пранізліва шчымела... «Няўжо мне можа так балець з-за яго? Няўжо ён займаў у маёй душы столькі месца? Ён, якому я, думала, не змагу дараваць ніколі...»

— Мама, ты яшчэ не спіш? — гукнула з прыхожкі Наташка. — Ох, і здорава ж было сёння ў Светкі! Макс мяне, між іншым, два разы запрашаў, і Сашка, і Жэнька. Мама, ты што, плачаш? Што здарылася? — згледзела яна чырвоныя матчыны вочы.

— Дачушка, заўтра мы сходзім з табой на могілкі.

— На могілкі? Да каго?

— Да аднаго не вельмі добрага, але, як аказалася, вельмі дарагога мне чалавека, які нядаўна памёр. Я потым табе ўсё раскажу пра яго. Ты ўжо зусім дарослая і павінна ўсё ведаць, ва ўсім разабрацца сама...

# НА ПАВЕРЦЫ — ІМЁНЫ

## РЫГОР ЖАЛЯЗНЯК

Ён нарадзіўся ў Віцебску ў сям'і рабочага (1914). Рыхтаваў і сябе да рабочай прафесіі, вучыўся ў Віцебскім фабрычна-заводскім вучылішчы, нават працаваў у дэпо. Але перамагла творчасць. Юнак адчуў патрэбу пісаць. Пачаў з вершаў, адначасова пісаў апавяданні, нарысы. Яго творы ўсё часцей і часцей пачалі з'яўляцца на старонках газеты «Віцебскі пралетарый». Рыгор Жалязняк і сам неўзабаве стане яе супрацоўнікам. У Віцебску малады аўтар выдае некалькі кніг паэзіі. Адна мае назву «Першы вытап» (у сааўтарстве з Б. Люгоўскім), другая — «Вясновыя будні». Зборнік датаваны 1933—1934 гадамі. Кнігі вельмі сугучныя свайму часу, з характэрным для яго апевам стваральнай працы, гарачых поступных будняў, з услаўленнем «светлай будучыні» краіны. Малады аўтар адразу звяртае на сябе ўвагу.

Пачаткоўцамі вельмі часта авалодвае прага ўсеахопнасці. Не абышла яна і Рыгора Жалезняка. Паэт захапляецца і кіно. Ён займаецца ў Віцебскім кінатэхнікуме на сцэнарным аддзяленні. Прага да вучобы ў юнака вялікая. Неўзабаве ён паступае ў Ленінградскі інстытут гісторыі, філасофіі, літаратуры і лінгвістыкі, а пазней пераводзіцца на філалагічны факультэт Ленінградскага універсітэта, які скончыў у 1938 годзе.

Шмат можна гаварыць і пра літаратуразнаўчую дзейнасць Р. Жалезняка. Яшчэ ў канцы 1930 года ён распачаў даследаванне творчасці Максіма Багдановіча, паэзіяй якога захапляўся і высока цаніў яе.

У 1940 годзе Рыгор Жалязняк абараніў кандыдацкую дысертацыю «Паэзія Максіма Багдановіча». Абараніўся там жа, у Ленінградскім універсітэце. Сваю працу рыхтаваў да друку, але перашкодзіла вайна. Як сцвярджае крытыка, «даследчык здолеў глыбока пранікнуць у мастацкі свет М. Багдановіча. Шырокая дасведчанасць дала яму магчымасць разгледзець творчасць паэта ў кантэксце рускай і еўрапейскай паэзіі. Па сваім узроўні даследаванне Р. Жалезняка стаіць побач з апошнімі дасягненнямі багдановічазнаўства» (І. Багдановіч).

Паэзія Рыгора Жалезняка заслугоўвае асобнай гаворкі. Здавалася б, тэматыка яго вершаў са стваральна-публіцыстычным ухілам патрабавала ад паэта пэўнай лозунгавасці, палымянай рыторыкі. Аднак нават у праграмным вершы «Будуем дарогу», дзе ёсць і «гуд камнедрабілак», і «напорысты ўзмах рыдлёвак», бачым свежае лірычнае напаўненне, адчуванне характва спрадвечнага, што тоіцца ў характве самой прыроды.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Рыгор Жалязняк адразу ж адпраўляецца на фронт, хоць мае права на адтэрміноўку па стане здароўя. Ён загінуў у баі ў 1942 годзе, абараняючы Ленінград. І жыццё, і радкі паэта раптоўна абарвала варожая куля.

*Падрыхтоўка тэксту*
*і ўступнае слова Казіміра Камейшы.*

## БУДУЕМ ДАРОГУ

Суровыя ветры
Ў краях балацвяных
Гудуць і сваволяць
Уздыхам глухім.
Бязмежную шыр
Апавілі туманы,
Схавалі дарогу
У змроку нямым.
Не едзь, спадарожнік,
Цьмяным адвячоркам
Схаваюць ў абдымках
Сваіх балаты.
Тут людзі і коні
Вязлі учора,
Тут шэры туман
Узняўся й застыў.
А сёння —
Напорыстым ўзмахам
 рыдлёвак
Ўзрываецца багны
Спрадвечны прастор,
Густыя чароты
Шэпчуць аб новым,
Гуд камнедрабілак
Разнёсся між гор.

Праз шэрую гаць
І нетры лясныя
Мы мосцім дарогу
У даль, гарады.
Не марылі людзі
І далі не снілі
Запал будаўнічы
І творчы уздым.

Будуем дарогу —
Растуць кіламетры!
Гартуем краіну
Ў бетон і у сталь.
Праз шэрую замець
І чорныя нетры
Мы выйшлі у светлую,
Зорную даль.

*1932 г.*

## ВАЕНМОРАЎСКАЯ

Сіняй пенай,
Мора, пенься,
За кармою,
Вал, цячы;
Разлівайся,
Наша песня,
Па прасторах
 Балтыкі.
Узвядзём
 затвор на ўзвод.
Ўзвеем
 вымпел вышай.
Бачым:
 ў сінь савецкіх вод
Вораг
 з мінай выйшаў.
Грэбні скалаў
 хвалі ўзмылі,
Ўніз святло
 маяк схіліў.
Убягаюць змейкай мілі
 за далёкі небасхіл.
Мы былі
 ў глыбі Гальштрому,
Ў Гамбурзе і Любеку.
А цяпер —
 імчым праз стромы
Да свае рэспублікі.

Завірухі і навалы
Бачны
праз пацёмкі нам,
Ў Гамбургскім парту
паўстала
Грозна здань
Пацёмкіна.
Узнялася гладзь марэй,
час разліку
блізак.
Будзе час —
дамо мы рэйс
Праз сусвет
без візы.

А пакуль
пільней за вахту,
Узрастай, наш творчы ўздым.
Хай цячэ
краіне з шахтаў
Мора вуглю
і руды.
Узвядзём
затвор на ўзвод,
Ўзвеем
вымпел вышай,
Каб у сінь
савецкіх вод
Вораг зноў
не выйшаў.

*1932 г.*

## *Ад рэдакцыі*

*Напрыканцы 2002 года часопіс «Полымя» вынес на суд чытачоў заключны раман трылогіі Міколы Кусянкова — «Хмель каля вольхі». Раманы «Явар з калінай» і «Арляк і зязюля» друкаваліся на палымянскіх старонках у папярэднія гады, выйшлі асобнымі кнігамі і займелі шырокі грамадскі рэзананс. У 2000 годзе яны былі ўдастоены Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Якуба Коласа.*

*Мы зычылі аўтару новага творчага плёну. Заходзячы час ад часу ў рэдакцыю, Мікола Сяргеевіч усмешліва-хітравата мружыў павекі: «Нешта новае пішацца...» Потым яго непрыходы змушалі думаць: аўтар натхнёна працуе.*

*Якім жа болем адгукнулася ў сэрцах прыхільнікаў яго таленту адкрытая горкая праўда! У апошні час пісьменнік невылечна цяжка хварэў. У змаганні з наступам хваробы, як духоўнае супрацьстаянне ёй, спачатку пісаліся, а потым дыктаваліся апошнія старонкі...*

*Мы прапануем увазе чытачоў незавершаную аповесць пісьменніка — астатні жыццёвы роздум прызнанага Майстра Слова.*

**МІКОЛА КУСЯНКОЎ**

# ВЫПІЦЬ НА БРУДЭРШАФТ

### *Незакончаная аповесць*

## 1. Душа прагне спачыну

Апошні перад «заслужаным адпачынкам» год я жыў адной думкаю: там, на Лысай Гары, адпачну нарэшце ад гэтага эпахальнага бедламу, што няйнакш самім д'яблам пасланы быў на маю сівую галаву; не буду ўвязвацца ні ў якія «бітвы веку», не палезу ні ў якія перабудовы, крый мяне Бог, каб я, па прыкладзе колішніх апантаных утапічнай класавай ідэяй бунтароў, стаў нешта разбураць «дашчэнту», бо нічога новага, чым мог бы я здзівіць свет, на тым месцы я ўжо не паспею ўзвесці. Хай яны самі — усе, каму гэта так нясцерпна рупіць, — паскручваюць свае галовы, пераварочваючы ўсё дагары нагамі. Зрэшты,

сёння яны пераканаўча даводзяць, што, наадварот, яны ставяць цяпер усё з галавы на ногі. Але ўсё роўна з мяне досыць.

Каб там, на Лысай гары, забяспечыць сабе сапраўдны пенсійны кайф, за гэты апошні год я мусіў зрабіць яшчэ дзве вельмі важныя справы. Першая: любым спосабам мне трэба было збавіцца нарэшце ад свайго прэтэнцыёзнага **шпіля**, і другая: тое месца, дзе я збіраўся бестурботна дажываць свой век, мне трэба было прывязаць, як кажуць геадэзісты, да цвёрда апазнанага на зямной паверхні арыенціра. Прашу чытача не спяшацца нешта зразумець з таго, што я зараз сказаў, бо я адразу ж усё растлумачу.

Спачатку пра шпіль. Некалі я напісаў смелы, адпаведны маім тагачасным ідэалам верш:

Маіх турбот заўсёдны верх —
Каб не кранула небяспека
Ніводны ўзведзены паверх
Высокага здзяйснення веку.

Дык і не скора, мабыць, я
Скажу сабе — стамі̇ўся, годзе.
Бо недзе пенсія мая,
Лічы, на купале стагоддзя.

І, мабыць, на пенсійны штыль
Я там сваё прызнаю права,
Калі ўсталюю самы шпіль
Непераможнай нашай справы.

На што замахнуўся!..

Чытачу няцяжка ўявіць, як моцна быў я збянтэжаны, рухнула апетае мною «высокае здзяйсненне веку». Адбылася глабальная катастрофа, і, канечне, вінаваты ў ёй быў вядомы палітычны дзеяч з карычневай плямай над ілбом — так я меркаваў, бо яшчэ раней ён і вялікую Берлінскую сцяну пусціў па свеце на сувеніры... Цяпер жа на месцы былога недабудаванага гмаху хаатычна грувасціліся шэрыя, як пасля землятрусу, руіны, і, такім чынам, уцалеў толькі той шпіль, якім я не паспеў трыумфальна ўвянчаць купал велічнага збудавання. Так я і трапіў у вельмі незайздросную драматычную сітуацыю.

Маё становішча не было б такім, можа, нават трохі камічным, калі б не аказалася, што, па-першае, «высокае здзяйсненне веку» і трэба было разбурыць, бо «здзяйсненне» гэтае было таталітарным, а падругое, разбураў яго не толькі памянёны вышэй палітычны дзеяч.

Існуе такая версія, яна не мая, я толькі перадаю яе сваімі словамі. Таталітарны рэжым разбуралі і нашы, розных калібраў, дзеячы, многіх з якіх я і сам ведаў у твар. Гэта былі тыя нашы людзі, што, на першы погляд, служылі верай і праўдай у розных таталітарных штабах, у тым ліку і ў самым галоўным — у нас, у Мінску. Усе мы думалі, што яны — апантаныя марксісты-ленінцы, а пра тое і не здагадваліся, што гэта было глыбока заканспіраванае антыпартыйнае падполле. Кожнай раніцы гэтыя адважныя людзі неслі ў патаемных кішэнях па жменьцы бяскрыўднага з выгляду мылападобнага рэчыва, а на службе, улучыўшы бяспечны момант, спускаліся ў падвальны схоў і там, у патаемным цёмным кутку, ссыпалі яго жменьку да жменькі — канеч-

не, гэта быў дынаміт, і з кожнай жменькай яго набіралася ўсё болей і болей... Дзеля такой канспірацыі гэтым людзям давялося зведаць неймаверныя маральныя пакуты. Ім не трэба было, як простаму люду, стаяць у чэргах на жыллё: як толькі іх бралі ў які-небудзь камітэт, то сялілі ў лепшых, элітных кватэрах; кожны год яны мусілі ехаць задарма на цёплае мора — набірацца сіл для далейшага служэння народу. А калі грымнула ў Чарнобылі, іх забяспечвалі і «чыстым» малаком — берaглі каштоўны партыйны генафонд ад згубнага ўздзеяння радыяцыі. Дзеля маскіроўкі гэтыя людзі мусілі прымаць тыя жыццёвыя даброты, што належалі элітарнаму класу, і цярпець нелюбоў, нават непрытоеную нянавісць простага люду. Асабліва ж цяжка было законспіраваным дысідэнтам-пісьменнікам. Каб ніхто не западозрыў, што яны таксама ў свой высокі дом нясуць кожнай раніцай жменьку дынаміту, яны мусілі заклікаць шараговых пісьменнікаў пісаць творы, вартыя гераічных здзяйсненняў савецкіх людзей, а разам з тым дзеля той жа маскіроўкі яны і піснуць не смелі ў абарону Васіля Быкава — з яго акопнай праўдай ці заступіцца за Уладзіміра Караткевіча з яго Вялікім княствам Літоўскім; за сто кіламетраў яны аб'язджалі мястэчка Зэльву, дзе жыла бескампрамісная нязломная дысідэнтка паэтэса Ларыса Геніюш... Толькі пасля таго, як «непераможная наша справа» загадала доўга жыць і гэтыя людзі выйшлі з падполля, мы даведаліся, як у глыбіні душы перажывалі за Быкава, невыпадкова, калі гэта перастала быць небяспечным, яны навыперадкі кінуліся бегчы паперадзе самога Быкава з яго лістамі і адозвамі. Такім чынам, не ад нейкага эпіцэнтра прыбег да нас эпахальны землятрус, гэты выбух, які падрыхтавалі нашы патрыёты, скалануў ненавісны ўсім таталітарны рэжым, і, такім чынам, гэтым людзям мы абавязаны сёння сваёй свабодай і незалежнасцю. Таму зусім не дзівіць, што не толькі цывілізаваная Еўропа, а нават і сама ўзорна-дэмакратычная Амерыка сёння на руках носіць нашых герояў. І яшчэ. Вялікая частка нашай моладзі бачыць у іх сваіх духоўных лідэраў, і гэта тая акалічнасць, чаму я завёў гэтую доўгую гаворку, што, нібыта зусім не датычыць маёй асобы. Датычыць! Бо чытач жа памятае — мой шпіль!..

Захацеў спакойнага жыцця на Лысай гары! Але прагрэсіўнага кшталту людзі знайшлі б мяне і там, і можна ўявіць, як павыпорвалі б яны мне маім жа шпілем вочы: «Ага, вось дзе ты затаўся, стары выкапень!.. Адны рыхтавалі, рызыкуючы сваім жыццём, падрыў самых асноў аджылай сістэмы, а ты караскаўся на купал свайго вар'яцкага «здзяйснення веку», каб увянчаць яго сваім бязглуздым шпілем?..» Так, не было б у мяне на Лысай гары спакойнага пенсійнага дажывання, і таму такі быў цяпер мой першы клопат, пра які я сказаў вышэй: перад тым, як пасяліцца на Лысай гары з надзеяй на нейкі пенсійны «штыль», трэба было збавіцца ад гэтага небяспечнага кампрамату — ад шпіля, які мазоліў бы цяпер усім вочы.

Насупраць майго дома на плошчы з добры гектар раскінулася хаатычна загрувашчаная рознымі будаўнічымі матэрыяламі пакуль што незразумелая нейкая будоўля, і ў глыбіні душы ў мяне заставалася яшчэ надзея, што і ў наш час мой шпіль яшчэ некаму прыдасца. Будоўля была абнесена высокім бетонным плотам, але, канечне ж, у адным месцы зеўралі шырокія металічныя вароты. Будаўнікі працавалі ў дзве змены, і другая змена пасля кароткага асенняга дня была, бадай што,

начная — пры электрычным асвятленні. І ў гэты час, хаця і радзей, чым удзень, машыны везлі на будоўлю бясконцыя матэрыялы — цэглу, бетонныя апоры, дошкі і іншае, таму і вароты да поўначы былі адчыненыя... Калі хто здагадаўся, дык якраз гэта мне і трэба было. Гэта і яшчэ адно. Каб напроці майго акна перагарэла ў ліхтары лямпачка. І яна перагарэла. Паспрыяў мне і халодны дождж са снегам — толькі адзін сабакар вывеў з суседняга пад'езда свайго ваўкадава на шпацыр, з якім і знік у цемры... Аперацыя «Шпіль» пачалася.

У мяне бясконцая, уздоўж немалой маёй кватэры, лоджыя, і падсунуты пад яе парэнчу пафарбаваны ў срэбны колер пяціграннны, з пяцікутнай зоркаю на яго вастрыі шпіль, прыкіданы рознай хатняй непатрэбшчынай, дачакаўся свайго часу.

Стоячы на лоджыі, я спусціў шпіль яго ніжнім канцом з другога паверха, прысланіў яго самы верх да лоджыі звонку. Хай трохі пачакае, бо сам я ўжо збягаю ўніз па прыступках. Вынырнуў з пад'езда, нахіляю шпіль, узвальваю сабе на плячо — хапіла б толькі сілы панесці. Папёр!.. Толькі б не пакаўзнуцца на мокрым асфальце... Перабрыў на другі бок вуліцы, падгінаюцца ногі, яшчэ метраў трыццаць да брамы ўздоўж бетоннага плота — пратрымацца б, не ўпасці! Моцна забалела плячо, а яшчэ ж ля адчыненай брамы трэба павярнуцца з цяжкім шпілем на ім, каб пацэліць у пройму брамы (брама шырокая, але ж і мяне ўжо водзіць у бакі), а потым і яшчэ раз трэба скіраваць шпіль уздоўж бетоннай сцяны з яе другога боку. Звычайна з будоўлі ўсё выносяць, а тут я нешта ўнёс — гэта можа некага засцярожыць — як жа марудна я выконваю свой манеўр!.. Пот залівае вочы і цяжкі шпіль з пляча скідаю наўгад — чмякнуўся пад сцяною... Выцер з твару пот, трохі аддыхаўся — хутчэй на вуліцу!

Як бяздарна ўсё скончылася!.. Якім верхалазам, якім героем уяўляў сябе: умацаваў на купале небывалага ў гісторыі гмаху трыумфальны шпіль, адной рукой трымаюся за яго, а другой прыветна махаю тым, хто ўнізе, — хто давэрыў мне гэтую ганаровую эпахальную місію. Але не суджана мне было ўвайсці ў гісторыю — ні фотаздымкаў, ні кінастужак, якія б адлюстравалі мой трыумф, — бывай, мая няспраўджаная мара!..

Ну што ж, не адбылося, дык не адбылося. Галоўнае, што цяпер на Лысай гары я мог назаўсёды забыць пра свой злашчасны шпіль, і ніхто пра яго больш не будзе зларадна мне напамінаць... Спакойнае жыццё на Лысай гары я сабе такім чынам напалову забяспечыў.

Аднак — напалову. Для поўнага камфорту на апошнім сваім жыццёвым прыстанішчы я мусіў збавіцца яшчэ і ад прыкрага пачуцця геаграфічнай — якім дзіўным гэта некаму ні здасца — непрыкаянасці. Разумею, што сказанае трэба тлумачыць.

Гэткая прыхамаць, а можа, нават і нейкая фобія дасталася мне ад маёй даўняй першай прафесіі. Улетку гэта была, як пра тое кажуць, «работа на мясцовасці», або «работа ў натуры». Маёй «натурай» быў лес — наш, беларускі, або сібірскі. У любой «натуры» кожную хвіліну я ведаў, у якім яе пункце знаходзіўся. У сумцы ў мяне магла быць тапаграфічная карта, на руках — аэраздымак або абрыс, і кожны свой крок я пазначаў «на паперы», трымаючы ў памяці той арыенцір, да якога кожную хвіліну адчуваў сябе «прывязаным». Гэтае пачуццё «прывязанасці» з'яўляецца тады, калі да месца, дзе ў гэтую хвіліну

знаходзішся, ты праклаў «у натуры» свой «ход» і пазначыў яго на абрысе ці здымку. Праклаў «у натуры»!.. Вось гэтая патрэба яснага ўяўлення, што твой «ход» лучыць цябе з усім астатнім светам, і засталася ў мяне на ўсё жыццё ад першай прафесіі. Напрыклад, калі ў незнаёмым горадзе ў напханым людзьмі аўтобусе або ў таксі, ноччу, я дабраўся ўрэшце ад вакзала (цвёрда апазнанага арыенціра) да свайго начлегу, у гасцях ці ў нейкім гатэлі я адчуваю сябе згубленым як не ў цэлым свеце — гэта вельмі трывожнае пачуццё, амаль панічнае, можа, падобнае на тое, якім яно бывае ў людзей, што баяцца адкрытай або закрытай прасторы. Таксі блукала па бедна асветленых вуліцах, ныралa ў зусім цёмныя завулкі, і я не мог прыкінуць адлегласць ад павароту да павароту, зафіксаваць у памяці гэтыя павароты адносна напрамку поўнач — поўдзень. Уначы я не мог зрабіць такую «здымку» свайго маршрута, бо таксі яшчэ разоў колькі круцілася і на нейкіх мудрагелістых развязках. У выніку — такі неспакойны мой начлег. Паўтараю, гэткая ў мяне, мякка кажучы, прыхамаць, і цяпер, напэўна, нехта мяне спытае: а якая сувязь паміж гэтай тваёй прыхамаццю і Лысай гарою?..

Мінула семнаццаць гадоў, як займеў я на гэтай гары свае крэўныя чатыры соткі, але, як ні дзіўна, увесь гэты час адчуваў сябе тут адно «супраць неба на зямлі», гэтага мне і хапала, бо прыязджаў сюды толькі ўлетку на адпачынак. Цяпер жа, калі я збіраўся тут стала атабарыцца, я мусіў пракласці сюды свой «ход», бо на тым маршруце, па якім я безліч разоў дабіраўся на Лысую гару (электрычкай, а потым пешкі), у мяне заставаліся дакладна не зафіксаваныя маёй свядомасцю адрэзкі шляху. Але як жа пракласці больш-менш неабходны мне «ход»?.. Паспрабаваў сесці ў электрычку з компасам і з яго дапамогай вызначыць напрамак асобных адрэзкаў дарогі. Нічога з гэтага не выйшла — стрэлка компаса разгублена мітусілася, бо з усіх бакоў жалеза. Што ж рабіць? І тады я прыдумаў. Саджуся на электрычку, што адыходзіць ад прыпынку «Радыятарны» ў адзінаццаць гадзін пяцьдзесят хвілін. Дзень вясновы, сонечны, сонца стаіць строга на поўдні, і цень, які кідаюць ад яго яркага святла слупы і дрэвы абапал дарогі, паказвае дакладны напрамак поўдзень — поўнач. А далей, як кажуць, справа тэхнікі. Пазіраю на гадзіннік — вызначаю, за які праязджаю час той або іншы адрэзак чыгункі, і застаецца толькі вызначыць, пад якім вуглом цені ад дрэў ці слупоў перасякаюцца з напрамкам руху поезда. Так еду і пракладаю свой «ход», вяду журнал «прывязкі». Вось ён, гэты журнал. Еду: 3 хвіліны на паўночны захад — 35°; 5 хвілін на паўночны захад — 70°; 5 хвілін на паўночны захад — 40°; 10 хвілін на паўднёвы захад — 50°; 10 хвілін на паўночны захад — 35°... А потым ад паўстанка «Зялёнае» я ўжо не еду, а іду і зноў здымаю свой маршрут: 3 хвіліны на паўднёвы захад — 85°; 5 хвілін на паўднёвы захад — 5°; 10 хвілін на паўднёвы захад — 85°; 1 хвіліна на паўднёвы захад — 5°; 5 хвілін на паўночны захад — 80°; 1 хвіліна на паўднёвы захад — 75°; 15 хвілін на паўночны захад — 80°; 3 хвіліны на паўночны захад — 70°; 2 хвіліны на паўночны захад — 50° і нарэшце апошні адрэзак дарогі — 2 хвіліны на паўднёвы захад — 65°. Гэтак я ўвайшоў ужо праз жалезную брамку на тэрыторыю таварыства. Падымаюся па дарозе на 20 метраў управа, і вось яно, вось тая кропка на зямлі, якую сваім «ходам» я

прывязаў нарэшце «ў натуры» з вялікім светам, дзе, такім чынам, я і знайду на схіле свайго жыцця жаданае супакаенне.

Лысая гара — месца знакамітае, накшталт нашага беларускага Парнаса. Беларускія пісьменнікі, за выключэннем двух-трох адшчапенцаў, вернападдана служылі былой партыйнай бюракратыі, і яна не засталася перад пісьменнікамі ў даўгу: дагістарычнае нагрувашчванне замшэлых валуноў і люта ўдзірванелага драбнейшага каменяя аддала сваім таленавітым творцам пад іх загарадныя лецішчы. Адразу ж на хаатычна ўзгорыстай, ні для якога іншага ўжытку не прыдатнай мясцовасці, ударнымі тэмпамі пачалося эпахальна-ліхаманкавае ўзвядзенне ўсялякіх хатак і «храмчыкаў», пра што геніяльна расказаў у сваім неўміручым творы «Сказ пра Лысую гару» нейкі Вядзьмак Лысагорскі. Да Узвышша першага — так цяпер афіцыйна завецца садова-агародніцкае таварыства пісьменнікаў — неўзабаве прырэзалі яшчэ і Узвышша другое, месца і зусім ужо настолькі дзікае, што яго і ваўкі ў Піліпаўку аббягалі. На гэтым, другім Узвышшы, доўга пуставаў адзін нікім не заняты лапік, але ўрэшце ён дастаўся нам з жонкаю.

А далей — не магу зразумець, чаму такое магло адбыцца. Два выдатныя дзіцячыя пісьменнікі выхоўвалі ў духу не якога-небудзь абстрактнага, а самага сапраўднага пралетарскага гуманізму не адно пакаленне савецкіх людзей, а галавасценькі ўнучак як быццам і не прачытаў аніводнай іхняй кнігі — вырас горшым за разбойніка з вялікай дарогі, бо разбойнік хоць і рабуе, але аднаго якога-небудзь праезджага багацея, а гэты, акурат, ненавісны нам усім Буржуін, з якім па-геройску змагаўся ўзорны савецкі хлапчыш-кібальчыш, абрабаваў адразу мільёны простых людзей, а ў тым ліку і нас з жонкаю. Усіх нас палохалі, што прыйдуць амерыканцы з іхняй эксплуатацыяй і галечай, але і без іх адзін дамарослы «чыкагскі хлопчык» сваёй «шокавай тэрапіяй» за нейкі тыдзень зрабіў усіх жабракамі — так і мы з жонкаю за грошы, за якія збіраліся ўзвесці раскошны загарадны палац з каланамі, змаглі паставіць толькі цагляны, два на тры метры «катэдж», для лапаты з віламі, ды каб яшчэ паставіць у ім ложак, каб іншы раз можна было тут і пераначаваць.

«Тут» — так некаторыя сённяшнія паэты называюць свае кнігі, прынамсі, дзве я ведаю сам — адну расейскую і адну нашу. Гэтак іх аўтары хочуць сказаць, што сябе яны ўяўляюць толькі на роднай зямлі, толькі «тут» і нідзе больш. Але, як ні дзіўна, калі ўчытацца, дык іхняе «тут» больш «там», чым «тут». Напэўна, сёння так і павінна быць, што свае творы мае маладыя калегі часцей у сваіх творчых лабараторыях вырошчваюць у прабірках з еўрапейскага эмбрыёна. Цяпер большы патрыёт той, хто далей ад'ехаў ад роднага дому і адтуль пасылае на Радзіму «плач свой аб старонцы». Маё ж «тут» — толькі тут, на Лысай гары. Толькі тут я і змагу праспяваць сваю апошнюю песню. Акурат песню, бо да таго верша, які складваецца сам сабою доўгім асеннім вечарам, гэтак жа сама сабою дадаецца яшчэ хай сабе і не дасканалая, але ўласная душэўная мелодыя. Такое маё «тут».

Водарам мяты шыр лугавая
Льецца ў маю душу.
А павіецца сцежка ля гаю —
Ціха папрашу:

Светла шумі, сасонка,
Ветрык, лагодна вей, вей, вей.
І праспявай мне звонка,
Салавей.

А сумны ветрык павеяў ціха —
І шэпча хвойка мне:
«Зазнаў ты многа рознага ліха
У роднай старане.

Мог бы да лепшай долі
З'ехаць у белы свет, свет, свет.
Каб там не ведаць болей
Горкіх бед».

Ды я ад горкай не адракуся
Старонкі той, дзе рос.
Тут быў я ў шчасці, а быў і ў скрусе,
Родны край — мой лёс.

Стаў бы мне горш ад згубы
Недзе зямны той рай, рай, рай,
Бо мне навекі любы
Родны край.

## 2. З Пятровічам на Лысую гару

Напэўна — гэта і ёсць марш энтузіястаў — калі на прыпынку «Зялёнае» адлучаны перад гэтым ад зямлі народ сінхронна вываліць з тамбура электрычкі і на пачатку шашы шчыльнай калонай скіруе свой імпэтны, імклівы рух у той бок, дзе неўзабаве пачнуцца шматлікія лецішчы, падараваныя слаўным гараджанам яшчэ нядаўняй савецкай уладаю. Дачнымі лапікамі дзяржава надзяліла гараджан на выпадак агрэсіўных дзеянняў амерыканскага імперыялізму, каб па атамнай трывозе яны маглі на электрычках і аўтобусах арганізавана перамясціцца далей ад горада — у свае дачныя хаткі, да якіх не дакацілася б выбуховая хваля. Пры гэтым улада спадзявалася, што людзей не ахопіць нездаровы ажыятаж, што народ, якому па канстытуцыі належалі ўсе ворныя землі, лугі, лясы і воды, не дапусціць рэстаўрацыі дарэвалюцыйных прыватнаўласніцкіх інстынктаў, што ў будаўніка камунізму — грамадскія інтарэсы на першым плане, ягонае захапленне ўласнымі шасцю ці чатырма соткамі не будзе празмерным. А каб усё-такі нехта не паддаўся такой спакусе, выйшла пастанова: дачная хатка павінна быць зусім маленькая, печаў не класці — увогуле не ўзводзіць на сотках нічога дыхтоўнага, капітальнага. Але народ не апраўдаў спадзяванняў начальства. Дый ці вінаваты народ? Мабыць, у самой глебе з дарэвалюцыйных часоў захаваліся шкодныя бацылы, і сваім дазволам будаваць дачы ўлада сама справакавала гэтую эпідэмію індывідуалізму, які пазней, калі выйшаў дазвол будаваць на ўчастках і нешта больш грунтоўнае, выліўся ў сапраўдны архітэктурны разгул. Праўда, катэджы з купецкім размахам будавала большае і меншае начальства ды загадчыкі розных складаў. Яны і ездзіць пачалі на замежных машынах, але ж і гэты просты люд, што валіў

з электрычкі, ахоплены не ўласцівай для нядаўняга савецкага чалавека прагай уласніцтва — такі ён гэты імклівы марш энтузіястаў садова-агародніцкіх таварыстваў.

Аднак жа, калі пільней прыгледзецца, маршам энтузіястаў гэта можна назваць з вялікай нацяжкай, не такі ўжо ён урачысты гэты «марш». Не зусім святочнае гэтае шэсце, трохі яно змрачнаватае, на тварах людзей не заўважаеш вялікага натхнення, ім, канечне ж, хочацца эканамічнай свабоды на ўласным лапіку зямлі, але ў Еўропе, напрыклад, дзе зямля даўно ўжо свабодна прадаецца і купляецца, не разумеюць, як можна быць эканамічна свабодным на чатырох сотках. Там на такія ўласныя лапікі зямлі выязджаюць, каб у закураныя гарадскім гарам лёгкія ўдыхнуць свежае паветра, пабыць сам-насам з прыродай, а тут — нешта іншае. Не маршыруюць гэтыя свабодныя людзі — з рэчмяшкамі, сумкамі, каляскамі, а хутчэй, брыдуць, упрэжаныя кожны ў сваю сямейную харчовую праграму: раней, пры развітым сацыялізме, хранічна не хапала ў продажы сельгаспрадуктаў, цяпер жа душыць безграшоўе — дык хоць якую бульбіну, якога бурачка займець бы на гаротных сотках. Брыдуць — у кожнага ззаду цяжкае мінулае, уперадзе нічога пэўнага, светлага. Паступова калона даўжэе, месцамі рэдзенька прасвечваецца, як ільняная нітка, што расцягваецца перад тым, як парвацца, і вось ўжо ўперадзе выступаюць маладзейшыя (зусім маладых няма), а ззаду сунуцца купкамі, часта па двое, па адным, старыя — ветэраны нядаўняй камуністычнай эпохі. Гэтыя — пагорбленыя, нахіленыя ўперад, з цяжкімі павіслымі рукамі (калі за спінаю кайстра), або, коцячы каляску, нагадваюць мне рэпінскіх бурлакоў, толькі за спінаю ў іх не баржа, а цяжкае жыццё. Сябе да такіх не адношу, хаця і стары ўжо чалавек і ў пэўным сэнсе ветэран, сапраўдныя ветэраны ўсё ж тыя, што ваявалі з немцамі — вось яны цяпер усё больш і больш адстаюць ад тых дачнікаў, што вырваліся ўперад. Адстаў і я — падводзяць ногі, так раптам і аказваецца, што мая каляска гаваркімі колцамі быццам павіталася ўжо, коцячыся побач, з каляскай майго суседа на Лысай гары — Пятровіча. Каляска ў Пятровіча адметная, яе колцы падвойныя, на падшыпніках, і, канечне, змазаныя, таму коцяцца нячутна і не дзіва, што яны — ні гуку ў адказ маёй гаваркой калясцы, затое не змоўчаў Пятровіч — не адказаўшы на маё вітанне, буркліва зрабіў мне вымову: «Атрымаў прэмію, дык мог бы і на людскую каляску ўзбіцца. Грукоча, як «трыццацьчацвёрка».

Канечне, мы з Пятровічам людзі розныя, але шмат у нас і агульнага. Ручку каляскі Пятровіч, мабыць, ужо не трымае, а нібыта заграбае паўсагнутымі пальцамі, яны ў яго ненатуральна тоўстыя, успухлыя, пакрыўленыя — артрыт, ці як гэта завецца, а ў мяне, на дваццаць год маладзейшага, гэтая сволач таксама пачынае ўжо выкручваць пальцы, яны ў мяне ўжо не сціскаюцца ў кулак. Абодвум нам лысіны не былі запраграмаваныя, абодва сівыя, толькі я валасы свае зачэсваю набок, а Пятровіч падстрыжаны пад бокс і над ілбом у яго кароткая жорсткая стрэшка. І пазірае Пятровіч з-пад сваёй стрэшкі строга, замест шчок у яго два грубыя вертыкальныя рубцы, пад якімі аплылі ўніз куткі вуснаў — гэта надае яго твару бульдожы выгляд.

Пятровіч — жывая гісторыя дваццатага стагоддзя, наша гісторыя, суровая хада якой і на пачатку новага веку яшчэ мне чуецца зараз, по-

бач, у глухім шорханні дашчэнту сцёртых у мінулым стагоддзі Пятровічавых падэшваў. Прайшоў Пятровіч праз дзве вайны. Першую — ад Брэста да Сталінграда і ад Сталінграда да Прагі. У Пятровіча два ордэны і безліч медалёў — ягоныя «калодкі» збоку ад левага штрыфеля пінжака ззялі б усімі колерамі вясёлкі, калі б не былі ўжо такія зашмальцаваныя. Такі Пятровіч, і такога яго паважаю, а галоўнае — прымаю.

Кажуць, што ўсе ветэраны — сталіністы. Пра Пятровіча можна сказаць тое ж, і нават больш.

Калі пачалася вайна, мне было шэсць гадоў, і я добра памятаю, як мой дзед хадзіў на праводзіны тых мужчын, якія выпраўляліся на вайну. Іх праводзілі ад вёскі да Пяскоў — так зваўся невялікі наш лясок. Тут і адбылося развітанне. Везлі мужчын на падводах, і, перад тым як рушыць, адзін мужчына ўстаў на возе і сказаў развітальнае слова. Вось як расказваў пра тое дзед, калі вярнуўся дадому. «Людзі, бацькі нашы і маткі, браты і сёстры, жонкі нашы і дзеці! Такая нам выпала доля — ваяваць за нашу зямельку, што ж, ваяваць дык ваяваць, будзем бараніць вас ад прышлага ворага. Дзеля гэтага галоў сваіх не пашкадуем. Бывайце здаровы і жывіце, як той казаў, багата, а яшчэ пажадаю вам, каб найхутчэй прыйшло да вас вызваленне ад сталінскага «іга». Гэтае рускае слова «іга» я запомніў на ўсё жыццё, хоць і вымаўляў яго мой дзед амаль шэптам — нечага вельмі баяўся.

Ах, як цудоўна было б, каб тым дзёрзкім прамоўцам аказаўся калісьці Пятровіч. Тады я мог бы нават палюбіць яго. Аднак жа не, гэты Пятровіч якраз і ўвасабляў сабою тое «іга». Пасля перамогі над немцам Пятровіча перакінулі на далёкі ўсход — на разгром мілітарысцкай Японіі. Вайна была кароткая, і Пятровіч ужо напхаў у паходную кайстру таго-сяго з дробных трафеяў, каб павезці іх дадому ў Мінск, але, як у такіх выпадках пішуць у кнігах, лёс распарадзіўся іначай. Слаўны пяхотны полк, у якім служыў Пятровіч, перадалі ў склад канвойных войск Народнага камісарыята ўнутраных спраў. Так учарашні салдат і стаў ахоўваць загнаных за калючы дрот ворагаў народа. Службу сваю Пятровіч лічыў ганаровай (ворагі яны і ёсць ворагі), і таму, калі настаў час звальнення, ён застаўся на звыштэрміновую. Так і ахоўваў ён усялякіх зэкаў да сваіх гадоў пяцідзесяці. Не ведаю, ці быў ён жанаты, вярнуўся ён у Мінск бабылём, прызывалі яго калісьці адсюль, дык тут яго і прапісалі. Далі яму пакойчык у інтэрнаце, а паколькі лагер, які ахоўваў Пятровіч, размяшчаўся сярод маляўнічых далёкаўсходніх сопак і ён прывык да жывой прыроды, дык і дома пацягнула чалавека за горад. Начальнік, да якога ён прыйшоў з заявай, доўга чухаў патыліцу — у якое садова-агародніцкае таварыства яго ўсунуць. Рабацягі з прадпрыемстваў свае соткі адразу расхапалі, марудней іх займалі на пісьменніцкай Лысай гары, але які ж Пятровіч пісьменнік. Так начальнік і сказаў: «Вось калі б вы былі пісьменнікам... А то ж ніякіх адносін вы да іх не маеце...» Тады Пятровіч і кажа: «Ну як жа — не маю... Ведаў я аднаго пісьменніка... Ахоўваў у лагеры... Прыпеўкі складаў, лайдакоў усялякіх высмейваў — каторыя норму не выконвалі...» Начальнік зацікаўлена зірнуў на Пятровіча: «Так бы вы адразу і сказалі... І то праўда, куды ж вас, як не ў пісьменніцкае таварыства...» На такой законнай падставе Пятровіч атрымаў чатыры соткі на другім Узвышшы, куды цяпер мы з ім

разам і кацілі свае каляскі — мая грукацела, як «трыццацьчацвёрка», і бясшумна кацілася Пятровічава.

Чую голас чытача: «І з такім берыеўскім падручным табе не брыдка ісці побач? Можа, ты і за руку з ім здароўкаешся? Цябе цешыць ягоны чорны гумар пра тое, як трапіў ён у сваё садова-агародніцкае таварыства? Ганьба табе, пісьменнік, ганьба!» Ну так, няма мне апраўдання. Але ўсё ж нешта скажу ў сваю абарону. Адкуль яны ўзяліся за калючым дротам тыя, каго пільнаваў са сваёй вартавой вышкі Пятровіч? Хто яшчэ ў саракавым годзе пасля вызвалення Заходняй Беларусі выкідаў з хат на люты мароз цэлыя сем'і, з груднымі дзецьмі і на санях гнаў пад канвоем да бліжэйшага паўстанка? Хто заганяў іх, як жывёлу, у хлеў, у настылыя вагоны-цялятнікі і доўгія месяцы марыў іх холадам і голадам на бясконцай Транссібірскай магістралі, каб урэшце дапяць на самы Далёкі Усход неабсяжны, як спявалася ў песнях шчаслівай савецкай краіны? Шчасце выпала не ўсім, палова вымерла ў дарозе, астатнія ж пешым парадкам па глыбокім снезе дабрылі ў той лагер, які пазней, пасля вайны, будзе вартаваць Пятровіч. Дык і выходзіць, што не з Пятровіча пачалася гэтая д'ябальская гулагаўшчына. Бо нават яшчэ раней адзін савецкі маршал, які не выйграў ніводнага змагання са знешнім ворагам, труціў газам, расстрэльваў і вешаў тамбоўскіх сялян, што паўсталі супраць бесчалавечнага рэжыму. І ўжо тады, напэўна, трупамі сярмяжных паўстанцаў, выкінутых на прыдарожную паласу з заінелых закратаваных вагонаў, пазначаны быў іх пакутніцкі шлях на ўсход па Сібіры. А што ж было пасля вайны? Незлічоныя эшалоны павезлі на ўсход абжываць усё новыя і новыя ГУЛАГі тых, хто другі раз быў вызвалены на былых «Усходніх крэсах», і антысаветчыкаў-прыбалтаў, і розных нацыяналістаў-гуцулаў. Дык, можа, за гэта адказны Пятровіч? А калі ў шэсцьдзесят другім годзе рэгулярная воінская часць расстраляла ў Новачаркаску галоднае выступленне рабочых, дык, можа, і там быў Пятровіч? Не было яго там! Там былі іншыя стралкі. Напэўна, нехта падумае, што я хачу сказаць: не адзін Пятровіч, усе мы вінаватыя. Яшчэ ў трыццаць чацвёртым годзе адбыўся семнаццаты «расстрэльны» з'езд бальшавіцкай партыі, неўзабаве было расстраляна семдзесят працэнтаў яго ўдзельнікаў. Невядома, хто каго расстраляў. Вельмі падобна на тое, што яго дэлегаты расстралялі самі сябе, калі бурнымі воплескамі віталі жудасны пасаж галоўнага стралка, які падараванаю вінтоўкай з аптычным прыцэлам паказаў усім дэлегатам прыклад, як трэба знішчаць адзін аднаго: усе памятаюць той кінакадр, калі галоўны стралок цэліцца ў залу. Аднак, апрача вінтоўкі з аптычным прыцэлам, яму спатрэбілася яшчэ такая архаічная музейная зброя, як сярэдневяковы меч. Музейная, але па-д'ябальску дзейсная — «ордэн Мечаносцаў» — так сам ён назваў армію сваіх бязлітасных карнікаў. Над цэлай краінаю, над вінаватымі і невінаватымі павіс гэты крывавы карны меч. І гэта было ўжо сапраўднае сталінскае «іга». Некалі расейскі цар Аляксандр II вызваліў ад прыгону сялян, якія бунтавалі супраць таго, што не захацелі далей тры дні ў тыдзень працаваць на пана. «Іга» ж — гэта нешта страшнейшае: гэта загнаныя ў бяспашпартнае гета мільёны сельскагаспадарчых рабоў, якім на сябе не дазвалялася рабіць ніводнага дня ў тыдзень. А ў чыіх руках усё-ткі быў той меч, на якім трымалася «іга»? Не ў Пятровічавых жа руках,

а ў руках многіх такіх, як ён, з яго трагічнага пакалення — пакалення, якое, калі прагучаў сігнал баявой трывогі, пайшло бараніць... што бараніць? Сваё «іга»? Гэта жахлівы парадокс гісторыі: ніводзін гісторык, ні філосаф, можа, толькі нейкі не вядомы нам будучы звышрозум здолее спасцігнуць яго глыбінную сутнасць: як так адбылося, што ў ззянні баявых рэгалій Пятровічавага пакалення быццам і слушна пракідаюцца змрочныя пробліскі навіслага над імі і ў паваенны час карнага мяча? Бо, і пераможцы, яны прынялі гэты меч. У нас не было сваёй Сенацкай плошчы, за што многія з іх паплаціліся ГУЛАГам, дзе, вельмі магчыма, іх вартаваў за калючым дротам Пятровіч. Трагічнае, у дзвюх іпастасях пакаленне! І гэтыя іпастасі неаддзельныя адна ад адной. Чытачу, які папракнуў мяне, што я такі лагодны і таварыскі з Пятровічам, нарэшце параю: дачакайцеся першага святочнага шэсця ветэранаў і не пагрэбуйце кінуць пад ногі ім кветкі. Бо кінуць у іх бок камень вам не ўдасца. У такім выпадку вы адмаўляеце іх, але перш за ўсё вы адмаўляеце саміх сябе. У гэтым выпадку вас няма на свеце: гітлераўскі план «Барбароса» не прадугледжваў вашага нараджэння, а прадугледжваў знішчэнне вашых бацькоў альбо дзядоў. І мяне таксама не было б на свеце, хоць нарадзіўся я яшчэ да вайны. А ўрэшце рэшт, калі б не было Пятровіча, не было б і мяне. Таму і не сорамна мне ісці зараз з ім побач на Лысую гару, слухаць яго старэчую буркоту, нават больш таго, недзе там, на Лысай гары, давядзецца мне стрымаць і нейкі ягоны ідэалагічны наступ, бо што праўда — тое праўда: чалавек ён учарашняй мінулай эпохі.

Нялёгка і чытачу будзе спрачацца з Пятровічам. Бо вялікая праўда ягоная — сёння як быццам ужо для ўсіх відавочная. Вось коцім мы свае каляскі строга на захад — той напрамак, які адольваў Пятровіч, гонячы ворага ад Сталінграда да Прагі (ваяваў на паўднёвых франтах), калі ці не палову шляху давялося прапаўзці па-пластунску перад тым, як падняцца ў атаку і па мінным полі праз драцяныя загароды ўварвацца ў варожую траншэю. Ступіў на варожую зямлю, і па ўсім перыметры заходняй дзяржаўнай мяжы ад Чорнага да Белага мора сталі на свае ранейшыя месцы памежныя слупы. І вось цяпер за спінай у Пятровіча распасцёрлася велізарная геаграфічная прастора з яе гарадамі і вёскамі, рэкамі і азёрамі, з яе нетрамі, з яе найбагацейшай фаунай і флорай. Гэта належыць усё вам, тым, каго ўратаваў Пятровіч (мільёны такіх Пятровічаў) ад чалавеканенавіснага плана «Барбароса». Ну дык і спраўляйце свой сумнеўна жыццесцвярджальны баль на адной шостай зямной сушы! Раскройвайце яе на асобныя дзяржавы, адколвайце ад яе велізарныя нафтаносныя крыгі, выграбайце з нетраў усю яе табліцу Мендзялеева, «сячыце лес і прадавайце яго англічанам...» Рэкламуйце на ўвесь свет сваё свінячае абжорства, выстаўляйце на ўвесь белы свет сваю жывёльную распусту, забівайце адзін аднаго ў пад'ездах дамоў, падрывайце ў раскошных лімузінах! Калі такое жыццё вам любае, дык не плюйце ўслед Пятровічу, падзякуйце яму ды і падкіньце ветэрану колькі баксаў на выжыванне.

Напэўна, я ўсё сказаў, каб чытач зразумеў, чаму сам я не цураюся Пятровіча.

...Справа ў нас — круты схіл падобнай на забайкальскую сопку высокай гары, на яе па камяністых приступках шчыльнымі купкамі падымаюцца гонкія сосны. Адна купка быццам падсаджвае вышэй дру-

гую, другая — трэцюю, аж пакуль на вяршыні гары апошняя хвоя не кране макаўкай шызую вясновую аблачынку... Злева ж, у рэдкім альшэўніку, жаўтлява-шэры дол то запаў неглыбокай ямінай, то пакатa выгнуўся ўгору — гэтак яго заслала тоўстым рыхлым пластам зляжалае пад снегам леташняе збуцвелае бадылле, сныткі вятроўніку, папараці... Заўважыў, як ля камля адной вольхі з-пад леташняга посцілу прабіўся кволы парастак хмелю, неўзабаве ён абаўе, карункава аздобіць ствол вольхі... Потым справа, з глыбіні рэдкага лесу, самотнымі вокнамі вызіраюць катэджы былых піянерскіх лагераў, а злева паўз самую дарогу цягнецца густы стары ельнік з чэзлымі ялінкамі пад яго непранікальным полагам... Яшчэ адзін паварот шашы, і мы спускаемся ў тарфяністую лагчыну, брыдзём паўз канаву, у якой мелкая светлая вада бяжыць па жоўтым пясочку, пераходзім бетонны масток і падымаемся на ўзлобак, дзе злева зноў вырастае высокі яловы лес. Там-сям па ўсёй дарозе трапляліся і бярозы, між тым стаяла першая майская цяплынь і пупышкі на бярозах, здавалася, па меры таго, як мы набліжаліся да Лысай гары, проста большалі ў нас на вачах, а на дарозе за бетонным мастком, дзе найбольш прагрэлася глеба, з іх ужо дзе-нідзе праклюнуліся першыя лісточкі.

Між тым уперадзе ў нас быў яшчэ адзін ельнік — у нізкай круглай сырой лагчыне. У ім я заўсёды зведваю гэтае гнятлівае пачуццё, з якім уваходжу сюды з Пятровічам і цяпер. Тут пануе нейкі падземны, тагасветны змрок, і мы з Пятровічам, нячутныя на сырой дарозе (нават мая каляска ні разу не бразнула), праплываем у ім, як нежывыя цені.

Ніколі не думаў, што на выхадзе з гэтага ельніку так узбунтуецца Пятровіч, а справакую гэты ягоны бунт я. «Па гэтым лесе пройдзеш, — сказаў я, — быццам на тым свеце пабываеш». І раптам у адказ мне гэтае абурэнне, гэты нежартоўны пратэст: «Ты мне, хлопец, гэту песню не запявай — пра той свет. У мяне яшчэ на гэтым свеце спраў багата. Мне яшчэ са сваёй зямлі розную нечысць трэба вынесці! Мы яшчэ паваюем!..»

Я ведаў, што ў Пятровіча «нечысць» на нашай зямлі — гэта ўсе тыя, хто «прадаўся амерыканцам». Любы грэх ён табе даруе, абы толькі ты быў супраць Амерыкі. Вось прыклад. Вядома, што ўсе былыя франтавікі абагаўляюць маршала Жукава. І мяне вельмі здзіўляла, што для Пятровіча Жукаў ніякі не бог. Для яго першым маршалам быў Конеў. Вайну Пятровіч канчаў у складзе Першага Украінскага фронту, а Конеў якраз ім і камандаваў. «Вось гэта маршал, — захапляўся Пятровіч, — высокі, статны, падцягнуты, зірнеш на яго — арол, а не камандуючы. А ваш хвалёны Жукаў? Толькі ведаў, што гнаў нашага брата пехацінца на ўбой. Пад Берлінам паклаў дзвесце дваццаць тысяч — браў Берлін «у лоб», таму што захацеў прысвоіць сабе ўсю славу. А Коневу ўзяць Берлін з тылу не дазволіў, хоць мы і абхапілі яго з захаду...» І раптам не так даўно, летась, загарэўся любоўю да Жукава. А што здарылася? У нейкай газеце ён прачытаў, як маршал Жукаў «зрэзаў» аднаго амерыканскага генерала. Той спытаў у Жукава, чаму гэта ён пускаў па замініраваным полі пяхоту паперадзе танкаў. І што адказаў Жукаў? Няўжо яму не шкада сваіх людзей? «Не шкада, нашы бабы яшчэ нараджаюць». Так Пятровіч і забыў, колькі тысяч «нашага брата» паклаў Жукаў пад Берлінам. Для яго ў сто разоў важней цяпер было, як ён «зрэзаў» амерыканца. «Ну і малайчына

Георгій Канстанцінавіч, сапраўдны герой», — так цяпер запаважаў Жукава Пятровіч.

За цёмным ельнікам, злева ад дарогі паслаўся чысты мурожны лапік, а ўперадзе на ледзь прыкметным узвышку раскідзісты арэшнік ахінае з двух бакоў ужо не дарогу, а звілістую сцежку, і я прапускаю ўперад Пятровіча, ступаю ўслед за яго мадэрновай каляскай. Раптам Пятровіч спыніўся, паставіў старчма каляску, шмаргануў за язычок «маланкі» і кручкаватымі пальцамі спрабуе нешта намацаць у сумцы. А потым і выцягвае — звычайны кухонны нож, толькі мне добра відаць, што ён свежанавостраны. Мабыць, даўно Пятровіч нагледзеў гэты раўнюткі і доўгі арэхавы пруток, бо ў яго на сотках пад плёнкаю зламалася дужка, дык цяпер у горадзе ён навастрыў нож і зараз зрэжа гэты пруток. Зразае, а сам, як мне здаецца, не зусім дарэчы згадвае свайго суседа, паэта-авангардыста Грыву. Грыва, як цяпер кажуць, дастаў Пятровіча, але якім чынам — я вушам сваім не даў веры: «Якая ж ён сволач, гэты ваш Грыва, што, гад, прыдумаў: каларадаў на сваёй бульбе збярэ, а па маёй уначы во так жменямі, жменямі — рассявае! Ух, няма ў мяне пісталета!» Спрабую нясмела пярэчыць Пятровічу — не можа быць, каб вядомы паэт-авангардыст быў здольны на такі нізкі ўчынак, да таго ж у яго і бульбы той кот наплакаў, і каларадскіх жукоў на ёй збірае яго старэнькая бабулька. «Хе, бабулька! — не можа стрымаць глухой злосці Пятровіч. — Не ведаеш ты гэтай бабулькі. Ведзьма! Але гэта ён, Грыва! Прадаўся, сволач, амерыканцам! Ды і ўсе вы ім прадаліся, эксплуатацыі іхняй, ярма іхняга захацелі. Пачакайце, прыйдуць яшчэ. А як не прыйдуць самі, дык яна ўжо тут, пошасць іхняя, каларады!»

Ну і загнуў Пятровіч! Я і сам калісьці паддаўся гэтай выдумцы — напісаў верш, які так і называўся «Каларадскі жук», і, канечне, я выступаў у ім супраць агрэсіўнага курсу амерыканскага імперыялізму. Помню першую страфу:

> Сама зямля, відаць, не рада
> Што ёсць на ёй такое зло:
> Ва ўсе староны з Каларада
> Яно ляцела і паўзло.

Затым у вершы мы бяжым па зялёным бульбоўніку, а ў кожнага ў руцэ карабок ад запалак, бо ведаем — амерыканцы скінулі з самалёта на нашу бульбу такога шкодніка, што ўсе мы памром з голаду, дык хай толькі трапіцца жук — у карабок яго, і бягом у сельсавет. А канчаўся верш так: вось я ўжо, дарослы, прыкурваю ад запалкі і «сціскаю карабок, бо недзе зло большае на свеце ёсць». Пад большым злом, канечне ж, падразумяваўся агрэсіўны курс Амерыкі. Калі вырас, я ўжо дапускаў, што сапраўды жук амерыканскі, але ўпусціла яго ў краіну памежная служба сельскагаспадарчага каранціну. Таму я не мог цяпер пагадзіцца з Пятровічам, што каларадскі жук на ягонай бульбе — гэта свядомая акцыя амерыканцаў, а каб шкоднага жука яму падкідваў яшчэ паэт-авангардыст Грыва — у гэта я ўжо і зусім не мог паверыць. Але ўсё-такі ў нечым я быў і згодны з Пятровічам: нічога добрага я ніколі не чакаў ад Амерыкі, яна сваімі Макдональдсамі хоча толькі прыкарміць нас — гэта тое, пра што мы кажам — кось, кось дый за грыву... І таму нават з маўклівым паразуменнем успрымаў я

бадай што лямант Пятровіча — гэтак ён, аж неяк апантана ломячыся з каляскай па вузкай дарожцы, раз-пораз не то мне, не то амерыканскаму агенту паэту-авангардысту Грыве гучна даводзіў: «Там чалавек чалавеку воўк, там лютая эксплуатацыя, а ў Савецкім Саюзе ўсе людзі былі братамі, цяпер жа каго яны з нас робяць — такіх жа, як самі, ваўкоў... Пачакайце, яшчэ завыеце па-воўчы!»

Шчыра кажучы, Пятровіч не вельмі напалохаў мяне, але што такое эксплуатацыя чалавека чалавекам аднаго разу я зведаў яшчэ ў савецкі час. Пасля тэхнікума я прыехаў у сваё лясніцтва, а ляснічы мне, цяпер ужо ягонаму памочніку, і кажа: «Ну, сёння агледзься ў нас, а заўтра ў канторы ўжо і пачнём разам працаваць». А я сам сабе і падумаў — да вечара далёка, дык вазьму і прайдуся па лесе, куды павядзе дарога. Прайшоў кіламетры з тры і бачу — перада мною леснічоўка. А ў гэты момант мяне абганяе бартавая машына, спыняецца каля стражы, а ўслед падыходжу і я. Хацеў прайсці міма, але затрымаўся, бо з двара паказаўся невысокі каржакаваты мужчына і з невялікай сівой бародкаю — ляснік. Чалавек, што вылез з кабіны, паказвае старому паперу — прыехаў па лес. Але паперчына мала зацікавіла старога, нешта ён сам сабе прыкідваў, а потым і кажа прыезджаму: «Усё будзе чэсць па чэсці, што кантора выпісала, тое і атрымаеце. Але спачатку мне трэба прывезці дровы, бо ў лесе жыву, а ў дрывотні вецер гуляе». Мужчына няўцямна пазірае на старога, а ён ужо загадвае: «Палязай у кузаў. Прывязём дроў, а потым і тваё табе будзе». Стары пільна, пранікліва зірнуў на мяне: «Таксама з дакументам? У разведку? Палязай у кузаў!» Мужчына, што прыехаў па лес, неахвотна выканаў дзедаў загад, а мне было цікава, што будзе далей, так і я апынуўся ў кузаве. Стары сеў у кабіну, і машына рушыла. А потым мы грузілі дровы. Стары стаяў збоку за наглядчыка, мы з мужчынам кідалі ў кузаў палена за паленам, а шафёр, малады хлопец, лавіў іх на ляту і ўкладваў, пачаўшы ад кабіны. Хвілін праз пяць я быў ужо мокры ад поту, між тым стары пільна сачыў за якасцю нашай працы. Пры тым шалёным тэмпе, які мы самі сабе задалі, не дзіва было і схібіць — адзін і другі раз стары ўпільнаваў шкоду: «Ты што кінуў? Не бачыў — парахня ўсярэдзіне!» Потым машына выехала на дарогу, а я застаўся ў лесе, глядзеў услед машыне і думаў: «Добра, што нарадзіўся я пасля Кастрычніка, калі няма ўжо ў нас эксплуатацыі чалавека чалавекам». І вось таго старога лесніка з яго прыдзірлівым драпежным позіркам я ўспомніў цяпер, ідучы ўслед за Пятровічам, і не мог з ім не пагадзіцца: праўда, што нешта воўчае, драпежнае прыходзіць сёння ў наша жыццё; усё менш у дзікай прыродзе застаецца розных звяроў, затое проста на нашых вачах звярэюць людзі. Таму, паўтараю, напалову я быў згодны з Пятровічам, напалову я быў з ім заадно. Стары служака здагадваўся аб маіх інтэлігенцкіх ваганнях і не раз ужо ўшчуваў мяне «пасуседску»: «Бачу, вы ўжо з гэтым Грывам лычамі пацёрліся. Абнюхаліся. Такога друга ты сабе знайшоў! А граматны ж!..» Не надта манеўруючы, ён пад'язджаў да мяне ўжо з больш пэўнай бясхітраснай прапановай — далучыцца да ягонага змагання з «нечысцю»... Вось і цяпер некаторы час Пятровіч ішоў моўчкі і раптам зноў пайшоў у наступ на маё сумленне: «Гэй, ты чуеш там, лаўрэат? Кажу, з Грывам знюхаўся! З амерыканскім шпіёнам! А ты ж парты-

ец! Што, білет ужо не корміць, дык выкінуў? Мяне трымаўся б, са мной не прападзеш!..»

Злева пачаліся першыя перад Лысаю гарою дачы, потым, злева ж, зноў паўстаў густы сасоннік, справа — дачы сувязістаў, узыдзем на апошні пагорак, а за ім і сама Лысая гара.

## 3. Тэатр ваенных дзеянняў

З Пятровічам, аднак, на Лысай гары ў мяне яшчэ будзе няпростая праблема.

Можа, я на старасці пачаў гаварыць ува сне, а жонка ўсё чуе — у тым ліку і тое, што я мармычу пра Пятровіча. І, здзіўленая, яна пачала дапытвацца: «І адкуль ты ўзяў гэтага старога свайго Пятровіча? На ўсёй Лысай гары няма такога. Ды яшчэ ён у цябе і сусед. А суседзі ж нашы — два Антонавічы, адзін злева, другі справа. А ў цябе Пятровіч, ды яшчэ і соткі ягоныя цераз дарогу. А ты ж зірні, што ў нас напроці — Вадзімавы бярозы, і сам Вадзім летуе напроці, а ніякі не Пятровіч...» Жонка не здагадвалася, што гэты стары — плён маёй творчай фантазіі, яго ў маім паралельным свеце завуць Пятровічам і што ён для мяне такі ж рэальны, як і двое нашых суседзяў. Да таго ж, паводле міфалогіі, на Лысых гарах адбываюцца ўсякія звышнатуральныя з'явы, і таму для мяне гэта ніякая не фантазія, што за дарогаю перад намі раскінуўся на трох сотках бульбяны Пятровічаў палетак. Справа ад яго, як зірнуць з нашага боку, — паставіў некалі перавезеную з вёскі, можа, сваю родную хату жывы беларускі класік, пафарбаваў яе ў зялёны колер, але гадоў дзесяць ужо як не прыехаў і зірнуць на сваю «фазэнду». Па маёй версіі, хату ў класіка купіў малады паэт-авангардыст Грыва, бо кожны уікэнд ён прыязджае сюды са сваёй сям'ёй, а часам сюды робіць налёты і вялікая шумная кампанія нейкіх, мабыць, аднадумцаў на чарговы свой збор. А другім суседам Пятровіча мог быць вядомы рускі паэт, але няўжо ж мне гэта толькі памроілася, што на месцы шчытавога фінскага доміка, у якім складаў вершы вядомы паэт, вырас прыгожы мураваны катэдж, а каля яго ў гэтыя першыя цёплыя веснавыя дні завіхалася на градах не паэтава жонка, а зусім іншая жанчына. Гэтая жанчына зацікавіла мяне, а што з гэтага выйдзе — пра тое далей.

Калі пачалася перабудова, у нашых газетах пышным цветам расцвілі розныя аўтарскія стылі і мне запомніўся адзін артыкул нейкага студэнта-практыканта, які напісаў артыкул пра Лысую гару, на мой погляд, даволі парадыйны. Вось гэты тэкст: «Цяпер тут, на месцы былых камяністых узгоркаў, шчодра пладаносяць сады і родзяць агароды. Куды ні глянь, у раскошнай лістве ад узаемадзеяння сонечных промняў і атамаў хларафілу, з розных мінеральных элементаў і вады сінтэзуюцца арганічныя рэчывы, і, як на дрэвах, яны ўрэшце набываюць форму яблыкаў, груш і іншай садавіны, а ў зямлі ўтвараюць, бульбяныя клубні і розныя караняплоды, так на гэтай славутай Лысай гары і ў галовах пісьменнікаў працякаюць прыкладна такія ж біяхімічныя працэсы, у выніку якіх зараджаюцца і выспяваюць іх творчыя задумы, што выліваюцца на паперу ў выглядзе важкіх, як элітны бурак на шчодра ўгноенай глебе, мастацкіх здабыткаў — таленавітых вершаў, апавяданняў, паэм і раманаў».

Шчыра кажучы, каб напісаць твор такі ж важкі, як «элітны бурак на добра ўгноенай глебе», у мяне ўжо не ставала сіл, але жонцы здалося, што, як яна сказала, «нешта я ўзяў у галаву» і строга мяне паўшчувала: «Кідай, прашу цябе, сваё пісанне, лепш пашукай у бочцы дзірку, летась вада ўцякала і сёлета тое ж будзе. Хоць трохі пабудзь гаспадаром!» Яна такі слушна заўважыла, што «нешта найшло на мяне», але не магла здагадацца, што прычынай была тая жанчына, якая шчыравала то з рыдлёўкаю, то з віламі каля свайго катэджа. Нейкую «тайну» яшчэ летась западозрыў я ў гэтай жанчыне. Паявілася яна ў мадэрновым катэджы адна-адненькая, так і пражыла ў ім да глыбокай восені. Казалі, нібыта гаспадары катэджа — цяперашнія багацеі, з'ехалі за мяжу, дык яна і была нібыта за вартаўніка іхняй маёмасці. Але не падобна яна была толькі на вартаўніка, бо надта шчыравала на сотках. Гаспадары, відаць, не мелі патрэбы, каб нешта яна сеяла ці саджала, дзіўна было б, каб яны прыехалі ў свой катэдж і ўбачылі з акна зрашэчанае каларадскімі жукамі бульбянае націнне, пасля таго, як нядаўна яны любаваліся раскошнымі заморскімі пейзажамі. Таму гэтая жанчына з цёмнага да цёмнага ўспорвала першабытны дзірван, вытрушвала яго і ўскопвала цаліну — рыхтавала глебу толькі каб пасадзіць розныя кветкі. Толькі адзін раз, летась, да яе прыехала на машыне нейкая жанчына, можа, сястра. Узышла на высокі ганак, тузанула дзверы — зачыненыя, тады яна абгінае катэдж і гукае — пад адным акном, пад другім: «Алінка! Алачка!» Так я і даведаўся, як завуць маю суседку «па дыяганалі» — Алінка, Алачка. Мне спадабаўся другі варыянт. Ні летась, ні сёлета (скончылася вясна, наступіла лета) я, можа, толькі некалькі разоў перакінуўся з ёю словам-другім, тым болей, што мяне ўсё больш уцягваў у свае палітычныя разборкі з паэтам-авангардыстам Грывам мой сусед-візаві Пятровіч.

Сваю суверэнную тэрыторыю Пятровіч надзейна абгарадзіў, хаця па статуце садова-агародніцкага таварыства гэта і не дазваляецца. Праўда, цяпер ужо многія на Лысай гары абгарадзіліся, але Пятровіч гадоў дзесяць назад паклаў гэтаму пачатак. Некаторы час мне здавалася, што дэманстратыўны Пятровічаў выклік статуту таварыства — гэта ўсяго толькі ягоная настальгія па любай яго сэрцу лагернай эстэтыцы, бо свае соткі ён не проста абгарадзіў, а абнёс калючым дротам. Але пазней Пятровіч прагаварыўся, што драцяная загарода, якою ён адмежаваў сябе, у прыватнасці, ад ненавіснага паэта-авангардыста Грывы, мае глыбокі сімвалічны сэнс. Ён становіцца зразумелым, калі згадаць, што драцяны бар'ер у Пятровіча з'явіўся вясной дзевяностага года, гэта быў ягоны пратэст супраць здрадніцкай палітыкі Гарбачова, у выніку якой у канцы восемдзесят дзевятага года быў разбураны Берлінскі мур, што адгароджваў лагер сацыялізму ад лагера капіталізму. Капіталізм пайшоў у наступ, але на яго шляху паўстаў гэты драцяны Пятровічаў бар'ер — тут яго чакае но пасаран!

Такім жа сімвалічным было Пятровічава жытло. Пасля таго, як вярнуўся ён у Мінск з далёкіх краёў, Пятровіч мог рабіць толькі адно — вартаваць, яшчэ гадоў дваццаць ахвяраваў ён будоўлям, аберагаў іх ад раскрадальнікаў сацыялістычнай уласнасці, пераязджаў са сваім вагончыкам з аднаго аб'екта на другі. А калі праводзілі Пятровіча на заслужаны адпачынак, у падарунак надзейнаму вартаўніку ўдзячны калектыў перадаў абжыты ім вагончык. Так Пятровічава

вартоўня і пераехала на ягонае лецішча, дзе і набыла свой выразны сімвалічны сэнс — тым, што ў ёй жыў чалавек, верны ідэалам роўнасці ўсіх людзей, бо роўнымі людзі могуць быць толькі тады, калі сярод іх няма багацеяў, калі ўсе яны жывуць у такіх сціплых, як гэты вагончык, хацінках, а не ў палацах. Пятровічаў вагончык уяўляў сабою тут маўклівую апазіцыйнасць цяперашніх бедных, якая бурна прарывалася ў выкрывальных маналогах Пятровіча, сэнс якіх зводзіўся да аднаго: «Вайна палацам!» Палацам, якія выраслі навокал па ўсёй Лысай гары. Праўда, гэта былі не зусім палацы, проста не надта раскошныя катэджы, але, гледзячы на іх, Пятровіч усё больш пераконваўся: правільна калісьці рабіла савецкая ўлада, калі тых, у каго хаты былі пад жалезным дахам, раскулачвалі і ссылалі ў Сібір. І гэтых бы туды, — каторыя ў катэджах... Такім верным сталіністам дажыў да нашых дзён Пятровіч. Таму не было нічога дзіўнага ў тым, што над яго вагончыкам вецер шкуматаў даволі патрапаны, выцвілы, але ўсё-такі чырвоны сцяг... Свой сцяг, бел-чырвона-белы, вывесіў быў у сябе над ганкам і паэт-авангардыст Грыва, але Пятровіч далажыў куды трэба, прыехаў міліцыянер, і Грыва мусіў зняць свой крамольны сцяг, а чырвоны Пятровічаў застаўся і сімвалізаваў сабою, як некаму магло здацца, не наша нядаўняе мінулае, а тое светлае будучае, за якое Пятровіч пад гэтым сцягам працягваў змагацца.

А дапаўняў і завяршаў усю гэту лагерную сімволіку Пятровічаў сабака Марат, невыпадковая была яго мянушка, бо, як вядома, Марат увайшоў у гісторыю як адзін з самых актыўных дзеячаў Вялікай Французскай буржуазнай рэвалюцыі. Праўда, невядома, чаму гэта Пятровіча не бянтэжыла: рэвалюцыя ўсё-такі была буржуазная, а не пралетарская.

Пятровічаў Марат, чорны, з гладкай поўсцю і маленькімі вушамі дварняк, быў злы неверагодна. Калі нехта праходзіў паўз калючую загароду, на таго сабака не зважаў, але варта было чалавеку хоць трохі прыпыніцца, як з ашчэранай ікластай пашчаю дужы, падобны на чорную пантэру, дварняк кідаўся на калючы дрот, гатовы хапаць і глытаць ягоныя калючкі, каб дабрацца да чалавечага горла. Гэтак жа гатовы быў Марат перагрызці горла і мне, свайму суседу, і з некаторага часу мне захацелася хоць трохі прымірыць яго са мною, калі не прыручыць. Навошта мне было варагаваць з Маратам так, як варагаваў з ім паэт-авангардыст Грыва. Калі Пятровіч знікаў на дзень, Грыва даймаў Марата каменнем. Часам і з Пятровічам у іх усчыналася перастрэлка, якая пагражала ў рэшце рэшт перарасці калі-небудзь у сапраўдную бітву.

Але спачатку трэба паведаміць нешта больш-менш істотнае пра паэта-авангардыста Грыву. Скажу адразу: як і Пятровіч, ён па-свойму мне сімпатычны, бо гэта ўжо свабодны, разняволены чалавек. Грыва — гэта мянушка, якую даў яму Пятровіч. Раней у паэта густыя русыя валасы спадалі на плечы, гэта быў выклік таму казённаму рэжыму, які прызнаваў толькі кароткую стрыжку. Але потым, калі паэт прадэманстраваў незалежнасць ад усялякіх рэжымаў — пастрыгся «пад нуль», ён усё роўна застаўся Грывам, хоць цяпер сам Пятровіч, пастрыжаны пад «бокс», са стрэшкай над ілбом, болей «грывасты», чым паэт-авангардыст. У пастрыжанага паэта на твары дамінуе вялікі, як і яго паэтычны талент, прамы нос, блізка ссунутыя да пера-

носіцы няпэўнага светлага колеру вочы пазіраюць з-пад такіх жа светлых броваў не то насмешліва, не то рашуча. А яшчэ і ў куточках яго сцятых вуснаў дае аб сабе знаць цвёрды характар. А ўвогуле выраз твару ў Грывы заўсёды мужны і рашучы — асабліва тады, калі ён хапае камень, каб дапяць ім злога суседавага сабаку Марата. Аднак да ўсяго сказанага трэба дадаць, што паэт быў трохі вірлавокі і выраз твару дапаўняўся ледзьве ўлоўнай алегафрэнічнай кіслінкаю. У гэтай кіслінцы вельмі лёгка ўгадвалася пагарда Грывы да ўсяго, што было да яго напісана: «Нашто ўсе вы, так званыя паэты — усялякія традыцыяналісты, «класікі» і псеўдаверлібрысты, калі сапраўдны паэт толькі я адзін?» Ён нікога не прызнаваў роўным сабе, і аднойчы я заўважыў, як на геніяльнага нашага метафарыста Рыгора Барадуліна паэт-авангардыст пазіраў з такою ж паблажлівай мінаю.

Аднаго разу Грыва сустрэў мяне на Лысай гары рашуча і строга, з той жа алегафрэнічнай кіслінкаю на твары зірнуў мне ў вочы, і ягоны позірк сказаў мне: рана ці позна ён абавязкова разбярэцца са мной.

Між тым сам я даўно пачаў «разбірацца» з Грывам. Гадоў дзесяць назад быў ён актыўным сябрам літаратурнай суполкі «Тутэйшыя». Паводзілі сябе тыя хлопцы і дзяўчаты надзвычай бурапенна, і я, ужо тады немалады чалавек, шчыра ім сімпатызаваў. У мяне быў верш пра маладых рэвалюцыянераў, які канчаўся словамі: «Вы новую адкрыеце нам эру? Даруйце, я не веру вам. І веру, веру!..» Так, я верыў ім больш, чым не верыў. Але ці апраўдалі яны мой давер? Ім здавалася: варта наладзіць у Доме літаратара абструкцыю старым пісьменнікам — прыстасаванцам, прыкарытнікам — каб аж пахаваліся яны ў сваіх падпеччах, і адразу будзе вырашаны — ні больш, ні менш — лёс усяго народа. Яны не здагадваліся, што лёс народа і дзяржавы вырашаецца не так лёгка: народ не пачаў дый не захацеў слухаць іх свабодалюбівых вершаў, а чаму — хто на гэта сёння адкажа? Ну дык і што — абвінавачваць не сябе, а іншых? Такія нашы сёння справы, нашы — гэта вашы, тагачасныя «Тутэйшыя». Дзе вы цяпер? Адны з вас цяпер «тамтэйшыя» (чым далей ад Радзімы, тым большы ты патрыёт), другія падаліся ў кніжны бізнес — за беларушчыну змагаюцца, выдаючы рускамоўныя дэтэктывы і ўласныя парнаграфічныя тэксты, трэція, што надзвычай бескампрамісна выстаўлялі рожкі цяперашняй уладзе, сёння самаадданa шчыруюць на яе карысць, чацвёртыя спіліся, а пятыя... Дзе пятыя? Можа, пайшлі ў народ? Не толькі з палымянымі вершамі, а і са сваёй праграмай, якой зачакаліся людзі? Не чуваць нешта. «Страшна далёкія яны ад народа!» Між тым паэт-авангардыст Грыва, сустракаючы мяне, увесь час строга нагадваў: «Стары, трэба вызначацца!» І яшчэ большая настойлівасць у ім пасля ягонай бітвы з Пятровічам, якую нарэшце я паспрабую тут апісаць, хаця ні ў якім разе не лічу сябе баталістам.

Была ўжо другая палова жніўня. На паэтавым лецішчы завіхалася ягоная старэнькая бабка. Напэўна, гадоў ёй было столькі ж, колькі і Пятровічу, — каля васьмідзесяці. Была яна ўжо сагнутая ў дугу. За ўвесь час, колькі я ведаў гэтую старую, яна і словам не перакінулася з Пятровічам, — таксама варагавала з суседам. Так, моўчкі, па два бакі Пятровічавага дроту яны і рабілі на сваіх тэрыторыях кожны сваё. Пятровіч карчаваў храпкі маладой капусты, якую ён паспеў спажыць за лета, а бабка, перабраўшы бульбу, рассыпала яе па асфальтаванай

дарожцы — падсушвала. Нішто не прадказвала вялікай бітвы, але да яе заставаліся ўжо лічаныя хвіліны. Як ужо вядома, Пятровічаў сабака не рэагаваў на тое, што *рухалася* за дротам, — праходзілі міма людзі, ці проста займаліся нечым сваім *рухомым*. Так, лежачы ў будцы, не зважаў Марат і на старую суседку, але раптам Марат пачуў: за дротам паявіўся той нерухомы жывы аб'ект, які замышляў нешта злое супраць яго гаспадара, Пятровіча. Між тым гэта быў паэт-авангардыст Грыва, які, накідаўшы на паперу з дзесятак несмяротных радкоў, выйшаў з хаты падыхаць свежым паветрам, і тут, дзе яго бабка шчыравала з бульбаю, спыніўся і пачаў назіраць, як Пятровіч карчуе ў сябе на градзе храпкі. У гэты момант яго і пачуў Марат, ён выскачыў з будкі і з лютым брэхам ледзь не грудзьмі кінуўся на калючы дрот, за якім нерухома, з рукамі ў кішэнях штаноў, стаяў ненавісны яму Грыва. Так доўжылася з хвіліну, бо Грыва пачаў шукаць вачамі на доле камень, але ўсё дробнае каменне ён ужо даўно падабраў і выкарыстаў у якасці зброі ў ранейшых схватках з Маратам. Таму першае, што трапілася яму пад руку, была бульбіна на дарожцы. Грыва схапіў яе і з крыкам «псіна бальшавіцкая!» з усёй сілы шпурнуў бульбіну як не ў самую пашчу Марату. Сабака прарэзліва віскнуў, і гэта стала сігналам для Пятровіча. Трэба згадаць, што Пятровіч некалі з гранатай ішоў на фашысцкі танк — і тут яму таксама трапілася пад руку нешта вельмі падобнае на гранату — храпка з неабтрэсеным ад зямлі карэннем. Такая граната і паляцела ў напрамку паэта-авангардыста Грывы. Грыва адказаў яму буйной, з добры кулак, бульбінай.

Але тут трэба даць чытачу дадатковае ўяўленне аб самой тэрыторыі ваенных дзеянняў. Тэрыторыю «Узвышша-2» дзеліць напалам даволі прыкметная града. Зверху яна роўная, і ў гэтым пашанцавала самым верхнім лецішчам, якім было яно і ў Пятровіча. Суседняе ж лецішча Грывы — гэта ўжо даволі палогі паўднёвы схіл, а з другога боку такі ж схіл на поўнач, дзе ўзвышаецца мураваны катэдж, у якім жыла знаёмая ўжо нам жанчына. А пакуль мы ж толькі ўмоўна перапынілі бітву двух тытанаў — Пятровіча і Грывы, бо зноў Пятровіч хапае другую «гранату» (храпку з неабтрэсеным ад зямлі карэннем), заходзіцца брэхам Марат, ляціць «граната», а насустрач ёй бульбіна. Аднак жа Пятровіч сваю «гранату» шпурляе зверху ўніз, што надае «гранаце» дадатковую хуткасць, таму на два Пятровічавы кідкі Грыва адказвае адным, бо яму ж трэба яшчэ і спрытна ўхапіць бульбіну, і тады — што гэта? Сагнутая ў крук старая хапае бульбіну з долу, Грыва падстаўляе ладонь, і бульбіна ў яго руцэ. Старая «падае патроны», а Грыва бесперапынна вядзе агонь па ворагах — Пятровічу і Марату. Пры гэтым Грыва не забывае гучна абазваць Пятровіча:

— Савецкі выкапень!

У адказ разам з «гранатай» ляціць:

— Амерыканскі шпіён!

— Недарэзаны сталініст!

— Янкі, вон з Расеі!

— Таталітарная чума!

— Вымятайся да свайго Рэйгана!

— Лезь назад у сваю камуністычную пячору!

— Свабоду Анжэле Дэвіс!

Бітва не сціхала, але маю ўвагу прыцягвала ўжо не сама яна, а тое, што адбывалася трохі ўбаку і што неймаверна мяне здзівіла. Бульба, якую запускаў Грыва ў Пятровіча знізу ўверх, апісвала дугу і падала на лецішча жанчыны, што жыла ў катэджы. І гэтая жанчына з незвычайнай жвавасцю падбірала бульбу, што, як дар нябесны, падала на яе соткі. Гэтай сваёй знаходлівасцю жанчына яшчэ больш мяне заінтрыгавала.

А завяршылася ўсё тым, што ў Пятровіча скончыліся храпкі і Грыва загнаў яго ў вагончык, а Марата ў будку.

## 4. У засадзе з Маратам

З некаторага часу я адчуваў у сабе смутную патрэбу — прыкарміць, прыручыць Пятровічавага Марата. Для чаго канкрэтна, я пакуль што не здагадваўся. Апошнім часам Пятровіч надоўга адлучаўся са свайго лецішча — ездзіў у горад, але часцей, як можна было здагадацца, на суседніх агародніцкіх таварыствах гуртаваў сваіх аднадумцаў, можа, перад нейкім іх «апошнім і рашучым боем» з «нечысцю». Яго адсутнасць я і выкарыстоўваў, выходзіў на дарогу, і ў той жа момант Марат раз'юшаным зверам кідаўся на калючы дрот. І ў адзін такі момант я пацэліў яму ў ашчэраную пашчу кавалачкам сырога мяса. Сабака клацнуў зубамі, ён зайшоўся брэхам яшчэ зласней. Тады і другі кавалачак мяса я кінуў яму ў пашчу. Праз два дні быў такі ж сеанс. Марат кінуўся на мяне з тым жа пагражальным брэхам, але ён раз-пораз абрываўся і вочы сабакі вельмі выразна выдавалі, што ён не супраць быў бы, каб я зноў пачаставаў яго кавалачкам мяса. Я кінуў яму ў рот адзін і другі кавалачак. Так, паступова я і прыкарміў Марата, бо ўрэшце варта мне было з'явіцца па гэты бок калючага дроту, як ён бег да мяне, віхляючы хвастом і ўдзячна павіскваючы. Скончылася гэта тым, што я ўжо праз драцяную загароду падаваў на далоні Марату пачастунак і сабака злізваў яго і ўжо выдаваў намер пазабаўляцца са мной, павалтузіцца.

Так мы пасябравалі з Маратам, і я ўжо мог падумаць, дзеля чаго мне гэта трэба.

**ВАСІЛЬ ТКАЧОЎ**

# РАСЦІЦЕ, ВОЛЬХІ!

Часта даводзілася праязджаць Васілевічы па чыгунцы, і не прыгадаю ніводнага разу, каб не бачыў я на станцыі ці вагонаў з родным лесам, ці паблізу ад іх еўрападдонаў, падрыхтаваных для адпраўкі заказчыку. І кожны раз там корпаліся людзі. Паколькі пазнаёміўся да гэтага з многімі лясгасамі, з іх бедамі і радасцямі, то пазайдросціў Васілевіцкім лесагаспадарнікам: усё ж здарава, калі побач чыгунка! Не Камарын. Не Ельск. Не Чачэрск... А Уладзімір Міхайлавіч Пырко, дырэктар лясгаса, прыгадаў, што не ўсе зручнасці і ў іх пад рукой. Прывёў адзін усяго доказ, але важны: «Банк за шэсцьдзесят кіламетраў». Што ж, прымаецца. У камарынцаў усяго за пяцьдзесят. А банк сёння — гэта якраз тая кропка, той ланцуг у гаспадарчай дзейнасці, у якім трэба бываць ці не штодзень. Час зарабляць грошы. Час круціцца. Каб выжыць. Але ж некалі сядзеў сам Пырко ў кабінеце побач з банкам, у самой Рэчыцы, аднак жа звярнуўся тады яшчэ да міністра лясной гаспадаркі Валянціна Зорына, каб падзяліць Рэчыцкі лясгас на два, бо займае ён плошчу 170 тысяч гектараў — гэта ж машына, якая не паддаецца кіраванню. Дамогся свайго і пагадзіўся пераехаць у Васілевічы. А тут паблізу і яго малая радзіма — вёска Нахаў, таму, можна сказаць, Уладзімір Міхайлавіч вярнуўся ў свой лес. Было гэта ў 1999 годзе і за гэты час шмат чаго зроблена. Галоўнае ж, чаго дамагаецца кіраўнік, каб у рабочых і леснікоў былі добрыя заробкі. «Яны ж нас кормяць. А некаторыя са спецыялістаў, бачу, коса пагладаюць у мой бок: ці не сапсуеш ты іх, Міхайлавіч? Не сапсую. Хваляваццa не трэба».

З акна кабінета, што амаль за спінай Пырко, добра відаць, як рабочыя пакрываюць дах жалезам. Ён патлумачыў:

— Сталоўку робім. Будзем і падсобную гаспадарку заводзіць. Каб людзі маглі танна набываць прадукты харчавання. Для каго ж мы працуем? Для сябе.

Лясгас мае добрыя эканамічныя паказчыкі, тут своечасова атрымліваюць зарплату. Пра гэта, дарэчы, можна было не пытацца ў кіраўнікоў, а варта паглядзець на двухпавярховы будынак лясгаса, зайсці, там таксама ўсё блішчыць-зззяе і харошая мэбля. Спыніць позірк на той жа сталоўцы, якая будуецца. Палюбавацца новым парканам, які ставілі леснікі.

Жыццё ў лясгасе нагадвае мурашнік. Усе нечым заняты, усе варушацца, калі не бегаюць, то ходзяць шырокім крокам.

Гарпасёлак Васілевічы некалі быў райцэнтрам, таму ёсць бальніца, некалькі крам, школа, паштовае аддзяленне, ашчадная каса, Дом быту. Ёсць у мястэчка і свая біяграфія. Як падкрэсліваюць гісторыкі, час заснавання

Васілевіч невядомы. Аднак людзі жылі тут і ў глыбокай старажытнасці, пра што сведчыць гарадзішча паблізу ад гарпасёлка, характэрнае для жалезнага веку і эпохі ранняга феадалізму. Пабываць у гарадзішчы, і неадкладна! Гэта стала першым пунктам нашай вандроўкі па васілевіцкіх лясах. Але знаёмімся далей з гісторыяй, заглядваем у мінулае. Цікава, чым жылі раней лесагаспадарнікі, якім клопатам? І не толькі адны яны. Знаходзім цікавыя, на наш погляд, факты. Пасля рэформы 1861 года асноўным заняткам жыхароў Васілевіч заставалася сельская і лясная гаспадарка. Хаця сяло з усіх бакоў было атулена лясамі, сяляне адчувалі недахоп і дроў, і будматэрыялаў. У архіўных фондах ёсць звесткі пра так званую самавольную парубку лесу ў Васілевіцкай казённай дачы. Так, у сярэдзіне 70-х гадоў XIX стагоддзя за ссечанае дубовае дрэва быў пакараны Сцяпан Малахавіч Белы. Праследаваліся сяляне і за самавольную пасьбу жывёлы на лугах дзяржаўнага маёнтка.

У 1904—1913 гг. працаваў дрэваапрацоўчы завод, які вырабляў чаўнакі, бабіны, паганялкі для прадзільных і ткацкіх фабрык Расіі на 120 тысяч рублёў у год. Завод меў паравы рухавік у 120 конскіх сіл. Калектыў прадпрыемства складалі 120 чалавек. На міжнароднай выставе ў Бруселі, якая адбылася ў 1905 годзе, прадукцыя васілевіцкага дрэваапрацоўчага завода была адзначана вялікім Залатым медалём, на выставе ў Бесарабіі (1912 г.) — малым Залатым медалём.

У 1949 г. васілевіцкая раённая газета паведамляла, што ў пачатку чэрвеня леспрамгас пусціў у эксплуатацыю шпалазавод.

Пішуць газеты і пра сённяшні дзень лясгаса. Пішуць таксама гісторыю. Для нашчадкаў. І, магчыма, некага здзівяць потым словы У. Пырко, што з адкрыццём лясгаса ў Васілевічах рабочыя месцы атрымалі 70 чалавек. Для гарпасёлка гэта значная падзея.

Урочышча Нехарань. Ёсць такое. Удумайцеся ў гэтае слова. Кажуць, хацелі там пахаваць радыеактыўныя рэчывы, а нехта з мудрых людзей падказаў: дык жа Нехарань сама гаворыць, каб тут «не харанілі». Прыслухаліся да таго голасу. Каб знайшоўся нехта і падказаў, што Чарнобыль азначае... можа, і не было б аварыі?

У гэтым гарпасёлку я часта бываў раней. Прыязджаў з Гомеля да паэта Уладзіміра Верамейчыка, які працаваў у Ведрычы дырэктарам сярэдняй школы, пераскокваў на аўтобус ці дамаўляўся з Уладзімірам Міхайлавічам, і ён сустракаў на сваіх «Жыгулях». Апошні раз прыехаў на пахаванне паэта. Там упершыню сустрэўся і з другім Уладзімірам Міхайлавічам — Пырко: яны былі землякамі, сябравалі, а вечны прытулак Верамейчык знайшоў на могілках у Нахаве, побач з маці, настаўніцай, якая, канешне ж, вучыла і будучага дырэктара лясгаса. А яшчэ мне думаецца пра тое, што, калі будаваў Верамейчык новую школу ў Ведрычы, то во ўжо калі ён не вылазіў з лесу.

Тут нарадзіўся народны пісьменнік Беларусі, доктар філалагічных навук, акадэмік Іван Навуменка, і калі згадваеш назвы ягоных твораў — «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Таполі юнацтва», «Замець жаўталісця» і некаторыя іншыя, то першае, што прыходзіць у галаву, дык гэта пытанне: а мо ўсё ж Іван Якаўлевіч нарадзіўся не ў сям'і чыгуначніка, а лесніка? Памылкі няма. Толькі ж назвы, пагадзіцеся, задужа лясныя. Хоць, прынамсі, і дзівіцца тут няма чаму — жывучы ў лесе, нельга не жыць лесам.

А мы ж апавядаем у сваіх нататках менавіта пра тых людзей, што лесам жывуць. Добрае слова кажуць тут пра Міхаіла Ігнатавіча Кечко, вадзіцеля лесавоза, які, хоць і на пенсіі, але яшчэ рулюе. Стараннем вызначаюцца таксама вадзіцелі Мікалай Паўлавіч Торап, Іван Іванавіч Журо і Уладзімір Аляксеевіч Цыбан. Аляксандр Адамавіч Недашкоўскі — лепшы станочнік. Ляснічыя Іван Ільіч Ярац і Мікалай Мікалаевіч Берчанка — майстры сваёй справы.

Як і ў кожным калектыве, у лясгасе былі людзі, якія пакінулі пасля сябе добрую памяць. Вось, напрыклад, Канстанцін Міхайлавіч Пятруша. На розных кіруючых пасадах працаваў ён у Васілевічах, а перад выхадам на заслужаны адпачынак узначальваў лясную гаспадарку вобласці. Сяргей Іванавіч Жарыкаў загадваў майстэрнямі, рацыяналізатар быў, як кажуць, ад Бога: любую машыну мог пераабсталяваць, прымусіць яе рабіць тое, што патрэбна чалавеку.

Сумленна працавалі ў Васілевічах таксама Павел Архіпавіч Пінчук, ён быў дырэктарам, а Іван Кірылавіч Кругаўцоў — галоўным ляснічым. Іх, як і Пятрушы, ужо няма на свеце, але памяць жыве.

Асобная старонка ў біяграфіі лясгаса — ляснічы Іван Васільевіч Доўжык. Пра яго можна многа расказваць, пералічваць тыя культуры, што закладваў, але аніяк не абыдзеш чорную вольху, бо яна прынесла славу не толькі самому Доўжыку, але і лясгасу. Наперад глядзеў чалавек, далёка бачыў. Сёння вольхай цікавяцца фіны, а калі мы былі ў лясгасе, завітаў на іншамарцы эстонец, адразу ж заявіў Пырко:

— Я наконт альхі...

Угадаў Доўжык з вольхай, нічога не скажаш. Яно і сапраўды так: праз 50-60 гадоў вольха робіцца спелай драўнінай, у параўнанні з іншымі дрэвамі тэрмін не надта вялікі. Не сасна і тым больш не дуб. Сасны, праўда, у любым лясгасе хапае, а вось вольхі... тут ужо прабачце. Да слова сказаць будзе, у Васілевічах і сёння думаюць: адкуль жа ведаў Іван Васільевіч, што вольха выкарыстоўваецца суднабудаўнікамі? Але ж ведаў! І паставіў на яе. Гэта ўсё адно, як у народнай байцы пра яблыньку, якую саджае стары дзед і якому кажуць, што навошта ён гэта робіць, бо ўсё роўна ж не паспее дачакацца пладоў... Дзед думаў пра дзяцей і ўнукаў, а Доўжык — пра лясгас.

Цікавы чалавек Уладзімір Міхайлавіч Пырко, шчыры і адкрыты. Колькі мы там з ім пагаманілі, а даведаліся шмат. Пры гэтым трэба заўважыць, што засяроджваў увагу ён толькі на тым, што магло б, сыходзячы з уласнага вопыту, дапамагчы хутчэй стаць на ногі маладым працаўнікам лесу.

Першае. Вучыцца абавязкова трэба. Сам Пырко паступіў у Бранскі тэхналагічны інстытут. Чаму туды, а не ў Мінск, тлумачыць проста: «Зручней. Якраз побач з хатай цягнік праходзіў Брэст-Бранск. Сеў і паехаў». Іншы раз прыгадвае дзяцінства, калі прывабіла яго форма ляснічага, і тады ён даў сабе слова: «Буду ляснічым!» А ў іх вёску прыязджаў на шыкоўнай фурманцы ляснічы, які кахаў мясцовую паштальёнку, сустракаў яе і падвозіў... І завёз маладога Валодзю ў лес, таямнічы і загадкавы.

Другое. Не спяшацца займаць высокія пасады. Мяркуе па ўласным вопыце. Трэба расці, на дрэвы гледзячы. Раней, гаворыць Уладзімір Міхайлавіч, нават рабочага браў на працу дырэктар. Даведаўся і я, што ў Нахаве ёсць вакансія лесніка, прыйшоў у лясгас да дырэктара Іосіфа Максімавіча Хмялеўскага, пачаў прасіцца. Ён уважліва выслухаў мяне, а потым і гаворыць: «Я вазьму цябе, хлопча. Але не лесніком — лесарубам. І тады, магчыма, калі-небудзь будзеш сядзець у маім крэсле». Хмялеўскі ўзняўся, паказаў рукой на крэсла. Зрабіў гэта надзвычай выразна, падкрэслена.

— Вось і сяджу,— усміхнуўся Пырко.

І цяжка было вызначыць па ягоным твары, добра яму тут ці не. Здагадваюся, што добра. Ды і іншыя, з кім давялося паразмаўляць, гаварылі ў адзін голас: Пырко на сваім месцы.

Тое месца паказаў яму некалі мудры Хмялеўскі.

Трэцяе. Дзіцячае лясніцтва ў нашай рэспубліцы было створана ў Каравацічах дзякуючы Івану Якаўлевічу Чындарову. У Каравацічы вазілі дзяцей і з навакольных вёсак. Гэта, прыгадвае Пырко, быў шчаслівы час для мале-

чы, у тым ліку і для яго. Усім гурткоўцам выдавалі форму — амаль такую, пра якую марыў ён сам. Фарсілі хлопчыкі перад дзяўчынкамі, а дзяўчынкі перад хлопчыкамі. Але ж не гэта галоўнае — галоўнае было ў тым, што многія абралі сабе прафесіі менавіта лясныя. Таму, лічыць Пырко, дзіцячыя лясніцтвы трэба аднаўляць. Тады моладзь будзе працаваць у лесе. Сёння такое лясніцтва ёсць у Бабічах і таксама дзякуючы біёлагу мясцовай школы Аляксандру Мікалаевічу Філіпаву. Неаднаразова гэтае дзіцячае лясніцтва прызнавалася лепшым у краіне, атрымлівала прызы і прэміі. За дзіцячымі лясніцтвамі, лічыць Уладзімір Міхайлавіч, будучае.

Такое, дарэчы, мы чулі і раней. У Лельчыцах, пад Гомелем, ці ў Акцябрскім — не мае значэння. Мае значэнне тое, што, калі людзі пра адно і тое ж гамоняць усюды, то гэта ўжо — сур'ёзна, надзённа, важна.

Ляснічы з Бабіч Рыгор Грамыка ехаў з намі ў дызелі. Яго асабістыя «Жыгулі» зламаліся, і, седзячы з палатном ад бензапілы ў руках, якое атрымаў у лясгасе, ён больш размаўляў з земляком, што, па ўсім было відаць, пабачыў свету. Прапанаваў таму пайсці да яго лесніком. Мужчына пакруціў галавой: «У лесе мне нельга працаваць. Па здароўі...» А тады пацікавіўся: «Дык а Мішка што, адмовіўся?» Адмовіўся не адмовіўся, але нешта не прыходзіць Мішка з канкрэтным адказам: так ці не. Нешта доўга думае Мішка... Відаць, і яму ў лесе нельга... «па здароўі». Лес і сапраўды любіць і прымае толькі мужных, адданых яму. А такіх людзей пашукаць трэба. Не можа знайсці пакуль лесніка і Рыгор Грамыка.

У вагоне з'явіліся цыганы, адразу зрабілася шумна, а я ўспомніў, як расказвала гады два назад адна дзяўчына з тых жа Бабіч, што мясцовы старшыня калгаса вырашыў, дзівак, паправіць крытычную сітуацыю з недахопам рабочых рук і прывёз гэтых цыганоў у гаспадарку. Як яны там паправілі становішча — вядома, але ад цыган збег ён і сам. Добра яшчэ, што чыгунка побач, то разбрыдаюцца цыганы па вагонах, спяваюць і граюць паўсонным пасажырам, а больш ходзяць з працягнутай рукой...

А ў Бабічы мы ехалі да самадзейнага мастака Леаніда Паўлавіча Кузько. У Гомелі ладзілася выстава яго твораў, і нам падабаліся карціны, зробленыя настаўнікам-пенсіянерам. Зроблены яны прафесійна, і амаль на ўсіх палотнах — лес... А лес маляваць, кажа Г. Говар, вельмі цяжка. Яму, члену Беларускага саюза мастакоў, трэба верыць.

І нам карцела хутчэй трапіць з сапраўднага лесу ў той, што створаны фантазіяй і талентам мастака Кузько.

## ДРУГАЯ СУСТРЭЧА

У канцы лета мінулага года ў нас адбылася першая сустрэча з Аляксандрам Антонавічам Крукоўскім, на той час ён працаваў галоўным ляснічым Жыткавіцкага лясгаса, і вось — другая... Тады, прыгадваецца, ён сказаў: «Чакаю ў Жлобіне». Што азначала — зацверджаны дырэктарам. Пра тое запрашэнне адразу ж, як павіталіся, нагадалі Аляксандру Антонавічу. Ён усміхнуўся ў свае густыя чорныя вусы, прызнаўся, што помніць, адначасова злёгку і папракнуў: маглі б крыху і раней прыехаць, хлопцы. Давялося апраўдвацца. У пісьменнікаў і мастакоў, як і ў лясных гаспадарнікаў, хапае рознага клопату. Але ў лес нас цягне. Мы, відаць, ужо таксама, як і яны, хварэем лесам. І таму пры першай магчымасці выбіраемся ў дарогу...

У кабінеце Крукоўскага няма асабліва калі расседжвацца. Удакладняем маршрут чарговай нашай вандроўкі, знаёмімся з галоўным ляснічым Андрэем Антонавічам Кавалеўскім, і, прадраўшыся праз лабірынт гарадскіх вуліц на спрытным «уазіку», якім не менш спрытна кіруе Аляксандр Шкарупа, выбіра-

емся за горад. За горадам — лес. Што нам і трэба. Ён пачынаецца адразу за карпусамі Беларускага металургічнага завода.

— Тут у нас самае вялікае лясніцтва,— гаворыць А. Кавалеўскі.— Кароткавіцкае. Займае плошчу чатырнаццаць тысяч гектараў. І, што цікава, узначальвае яго жанчына — Алена Рыгораўна Ісаенка.

Пакуль «уазік» наматвае на колы кіламетры дарогі, успомнілася, што сёння ў лясгасе будуць віншаваць майго аднафамільца, ляснічага з вёскі Дворышча — Міхаіла Анісімавіча Ткачова: ідзе, хоць яму гэта можна было зрабіць даўно, на заслужаны адпачынак. У лясгасе рыхтуюцца да ўрачыстасці. Будуць урачаны граматы, адну прывезлі з Гомеля за подпісам генеральнага дырэктара ВЛГА М. Супруна. Шкада, што не давялося папрысутнічаць на тым маленькім свяце — усё, як вядома, не ахопіш нават вачыма. Але, калі пакідалі лясгас, захацелася знайсці Ткачова хоць на здымках, якія ўпрыгожваюць стэнд лепшых людзей. Там яго фотакарткі не было. Патлумачылі: Міхаіл Анісімавіч чалавек сціплы, адмовіўся фатаграфавацца. «Мне ж заўтра на пенсію. Усё адно нядоўга на стэндзе буду. Хай з маладзейшых лепш хто пакрасуецца. Ёсць жа вартыя...»

На тым і пагадзіліся. Шмат добрых слоў давялося пачуць пра былога дырэктара лясгаса Барыса Якаўлевіча Абрамсона. 25 гадоў быў ён на гэтай пасадзе. І ўсё, падкрэсліваюць, тое добрае, што было зроблена, — яго заслуга. Зарэцкі Сцяпан Рыгоравіч, які прыйшоў на дырэктарства перад А. Крукоўскім з пасады старшыні Чачэрскага райвыканкама, пабыў тут нядоўга, задумак, праўда, у яго было шмат, але рэальнае жыццё ёсць рэальнае... Цяпер у Мазыры робіць віно.

Цікавы жыццёвы лёс і ў самога галоўнага ляснічага. Андрэй Антонавіч чалавек параўнальна яшчэ малады, сам ён карэнны мінчанін, а жыве у вёсцы Хальч. Адразу ж пасля заканчэння тэхналагічнага інстытута трапіў сюды памочнікам ляснічага, тут атрымаў жыллё, і калі ўжо перавялі ў Жлобін, штодня ездзіць на працу на цесцевым старэнькім «Масквічы», а заадно адвозіць на ўрокі сваіх дачок: у Хальчы зачынілі нядаўна школу. Пытаюся, ці сумуе па Мінску. «Не. Прывык. Ды і сям'я ж тут. Цяпер яна мая сталіца...» А яшчэ Андрэй Кавалеўскі прыгадаў свайго аднакласніка Уладзіслава Чарнова. «Разам некалі ездзілі ў вёску Дубрава, што ў Маладзечанскім раёне, гасцявалі ў майго дзеда. Вядома ж, прападалі ў лесе. Тады і палюбілі яго. Паступілі ў інстытут. Цяпер Уладзіслаў працуе ў тым жа Маладзечне — супадзенне якое! — галоўным ляснічым».

Можна не пытацца, дзе лясніцтва ў вёсцы. Адразу пазнаеш дамок, ён вылучаецца, бо стаіць звычайна крыху асобна, пафарбаваны ў зялёны колер, а вакол — дрэвы. У Кароткавічах нас сустракаюць Алена Рыгораўна Ісаенка з памочнікам Мікалаем Рыгоравічам Ісаенкам. Жонка і муж. Калі пазнаёміліся бліжэй, папытаў у ляснічага-жанчыны: «А ці лёгка камандаваць мужам?» Прызналася, ледзь прыкметна ўсміхнуўшыся куточкамі вуснаў: «Упарты ён». Што гэта азначала, можна толькі было здагадвацца. І пазней пацвердзілася гэтая здагадка: чалавек Мікалай Рыгоравіч непаседлівы, абавязковы, ён ні хвіліны не сядзіць на месцы — усё бегма ды бегма. Ці на «Масквічы» туды-сюды снуе. Спраў хапае і ў ляснічага, і ў памоч-ніка. Таму і параілі нам наведаць у першую чаргу іх.

Алена Рыгораўна ў Кароткавічы прыехала пасля заканчэння Навапалацкага тэхнікума. Тут і сустрэлася з аграномам Мікалаем. Было гэта дваццаць пяць гадоў назад. Выгадавалі двух сыноў. Міхаіл закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт транспарту, працуе ў Жлобіне на чыгунцы, а вось Алёша пайшоў па сцежцы бацькоў — вучыцца ў тэхналагічным універсітэце на факультэце лясной гаспадаркі. Цікавы факт. На стале ў ляснічай стаіць старэнькі бінокль, трохі пашкоджаны, а тыя мясцінкі, за якія трымае яго ча-

лавек, выцерты да бляску. Бы з музея бінокль. А яно нешта і блізка да таго. Гэта ж Мішка, калі яшчэ малы быў, адпачываў па чарнобыльскай праграме ў Нямеччыне, а там дзядуля, у сям'і якога жыў, і падараваў яму на памяць бінокль. Іншыя, бывае, і пажартуюць: «Ці не разглядваў у той бінокль той самы дзядуля ў вайну нашую мясцовасць?» У кожным жарце, як вядома, бывае і кропля праўды... Але як бы там ні было, а бінокль пастаўлены ў лясніцтве на службу — цяпер з вышкі з яго дапамогай сочаць, ці не гарыць лес. Сёлета — цьфу-цьфу-цьфу! — пажары абмінулі. Але непакоіць А. Ісаенка грыбная пара, балючае месца — станцыя Яшчыцы: тут за дзень, кажа, пераварочваецца грыбнікоў васемсот. Мясціны багатыя на лясныя дарункі, дызель ходзіць, ды і легкавікоў багата ў людзей. Едуць са Жлобіна і Светлагорска. І смецяць, вядома ж. Хоць перад самым горадам — больш, а лес жа, нагадаю, упіраецца ў яго.

Праблемы ўсюды адны і тыя ж. Не выключэнне і Кароткавіцкае лясніцтва. Адзін усяго «газончык». Затое людзі тут — і гэта асабліва падкрэслівае Алена Рыгораўна — добрыя і працавітыя. Што ў лясніцтве, што ў калгасе. Сёлета лясгас зрабіў пасадку саджанцаў на плошчы 688 гектараў. Лясніцтваў усяго 8, і 78 гектараў пасадзілі толькі ў Кароткавічах.

— Людзі выручылі,— гаворыць жанчына. — Да пяцідзесяці чалавек выходзілі. За паўтара тыдня зарабілі яны ў нас па 30—40 тысяч рублёў. Жывыя грошы. У калгасе, вядома ж, такога заробку яны не мелі б. А мы адразу з імі разлічыліся.

Пахвалілася Ісаенка, што заклалі і гадавальнічак, хоць і невялічкі — усяго на пяці сотках, але можна будзе пасадзіць неўзабаве яшчэ сасоннік на стогектарнай плошчы.

Справы кожнага калектыву множаць людзі. У Кароткавіцкім лясніцтве ганарацца сёння леснікамі Вячаславам Мікалаевічам Ісаенкам, Аляксеем Яўгенавічам Малашковым і Мікалаем Фёдаравічам Ярашэвічам. Цёплым словам успамінаюць і ветэранаў лясной гаспадаркі, якія сёння на заслужаным адпачынку, бо добрую памяць пакінулі пра сябе. Сярод іх — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Ілья Рыгоравіч Ярашэвіч, Аляксандр Сцяпанавіч Качаргоў і Рыгор Мікалаевіч Говар. Працавалі таксама леснікамі.

Проста на стале ў кабінеце ляснічага разгортваем карту. Мікалай Ісаенка паказвае, якую тэрыторыю займае лясніцтва. На ягонай тэрыторыі вёскі Мормаль, Саланое, Дуброва, Лесань, Істопкі... А маглі б быць і яшчэ пяць вёсак, якія спалілі ў вайну фашысты: Грушка, Замосце, Залессе, Красноўка і Брадкі. Гэтыя назвы прачыталі мы і на помніку, што стаіць ў цэнтры вёскі. Помнік спаленым вёскам. Яго прыдумаў жлобінскі мастак Уладзімір Ганжа, а зрабілі майстравыя людзі. Хаты гараць, а печы застаюцца... глядзяць на нас з вамі, сённяшніх жыхароў зямлі, і быццам шэпчуць: «Дрэва можа згарэць, а нас, цагліны, не разняць... мы будзем жыць, таму што захоўваем мірны, стваральны агонь і патушыць яго рукі кароткія. Помніце пра гэта, ворагі!»

А баі тут ішлі жорсткія. Яшчэ і сёння поле дыхае металам, баліць і лесу — шмат якія дрэвы, што вайну бачылі, так і растуць з асколкамі. Пра чалавека б сказалі: носіць іх каля сэрца.

Спыняемся паблізу ад вёскі Антонаўка. У лесе. Ён пасляваенны, і таго бою, што тут адбыўся , не бачыў. Са станцыі Яшчыцы рухалася варожая калона. Народныя мсціўцы з партызанскага атрада «Смерць фашызму», а было іх, кажуць, чалавек 8—10, сустрэлі ворагаў трапным кулямётным агнём.

— Вось на гэтым месцы, відаць, залеглі партызаны,— паказвае Мікалай Ісаенка. — На пагорку. Чакалі фашыстаў—выкапалі траншэі, якія і сёння, глядзіце, жывуць... не зраўняліся з зямлёй, не зараслі...

На дапамогу варожым салдатам прыслалі бранявоезд. Але партызаны зрабілі сваю справу і адышлі...

А праз дарогу стаіць помнік — народным мсціўцам. І з усіх бакоў шэпчуцца над ім сосны і бярозы.

Помнік у лесе — не навіна. Шмат сустракалі мы іх за час вандровак. Помнікам, канешне ж, можна лічыць і рэліктавыя дрэвы, як, напрыклад, цар-дуб у Лельчыцкім лясгасе. Паказаў нам дуб ва ўрочышчы Жаўранок і Мікалай Ісаенка. Дрэва ўражвае. Магутнае. Але надта ж сукаватае: расло адразу, відаць, адно. Побач палянка, якая зарасла дробненькім ляском, а раней тут было поле лесніка. Ён распрацаваў для сябе дзялянку, саджаў бульбу. Гэта цяпер бяры ў вёсцы надзел, скарыстоўвай, а быў жа час, калі чалавек даражыў кожнай пядзяй зямлі. Не выкошваецца і лясная трава: кароў людзі трымаюць менш, корму хапае на лугах і сухадолах.

Калі праходзілі па былым лесніковым пляцы, чамусьці адразу ўявілася ягоная постаць... і падумалася: вечнага, як ні круці-вярці, нічога няма. І трэба жыць так, каб усё ж застаўся пасля цябе хоць нейкі след у жыцці. У тым ліку і на лясных сцежках.

— Каля Краснаўкі збіраюцца заусёды перад адлётам у вырай журавы,— паказаў на поле, міма якога ехалі, М. Ісаенка.

А галоўны ляснічы заўважыў:

— А пад Стрэшынам жывуць чаплі. Дзве пары. Ёсць і чорныя буслы. Ды што цікава, ніяк не знойдзем, дзе іх гнёзды. Надта ж асцярожныя птушкі.

Тут, паблізу ад Кароткавіч, у Плесавіцкай Слабадзе, жывуць бацькі дырэктара Камарынскага лясгаса Уладзіміра Пашынскага — Іван Сцяпанавіч і Вольга Ануфрыеўна. Будзе час, вырашаем з Генадзем Говарам, то заедзем, і падрыхтуем Пашынскаму сюрпрыз — сфатаграфуем бацькоў і ўручым сыну картку на памяць. Якраз наперадзе ў нас паездка ў Камарын.

А пакуль развітваемся з Аленай Рыгораўнай і Мікалаем Рыгоравічам Ісаенкамі, жадаем ім, каб і надалей усё добра было ў іх лесе.

Наперадзе — Хальч. А.Кавалеўскі, каб неяк забавіць час у дарозе, ды, мусіць, і не толькі таму, расказвае нам шмат цікавага. Даведваемся, што на тэрыторыі лясгаса ёсць свой Кувейт. Ён так і сказаў: «Кувейт». Ва ўладаннях Віктара Спірыдонавіча Новікава, ляснічага Прыбярэзінскага лясніцтва. Там нафтавікі качаюць «чорнае золата». А на тэрыторыі Луга-Вірнянскага лясніцтва геолагі знайшлі кімберлітавыя трубкі з украпленнем алмазаў. Распрацоўкі працягваюцца... Падумалася: а гэта выдатна, што такія суседзі зараз з'яўляюцца ў лясных гаспадароў! Зямля і лес — наша ўсенароднае багацце, і яно павінна служыць людзям. Чым больш, тым лепш.

Адразу ж за мостам праз Дняпро, а Жлобін мы аб'ехалі, спыняемся перад уязным знакам Луга-Вірнянскага лясніцтва. Прыгожа зроблены, нічога не скажаш. З густам. Дрэва і птушка сімвалізуюць лясное жыццё. Зрабіў знак Віктар Барысенка, ляснік з Бабоўкі.

— А ўстанаўліваў я,— надышоў час нешта сказаць і вадзіцелю Аляксандру Шкарупе. — Калі на лесавозе працаваў.

Пра Віктара Барысенку даведваемся яшчэ, што ён і мэблю ў кватэры сваімі рукамі выштукаваў — паглядзелі б! Вельмі ж ужо, падкрэсліў Андрэй Кавалеўскі, арыгінальная.

Ды што казаць, на таленавітых, майстравых людзей багата лясная гаспадарка кожнага лясгаса нашай вобласці. Не выключэнне і Жлобіншчына.

Збочваем з шашы, што мкне на Гомель, налева і трапляем неўзабаве ў дрэваапрацоўчы цэх Хальчынскага лясніцтва. Стаіць ён наводшыбе перад Хальчам, на тэрыторыі ніводнага чалавека, а з цэхаў далятае дружны гул піл і станкоў. Працуюць людзі. А калі пазнаёміліся з начальнікам цэха Вольгай Васільеўнай Кусцікавай, то зразумелі: у яе шмат не паходзіш па тэрыторыі ў рабочы час. Патрабавальная і прывабная з выгляду, энергічная , яна вядзе тут рэй, і ніхто больш. Расіянка па нацыянальнасці, былая бамаўка, яна

знайшла ў Беларусі сваю другую радзіму. Калектыў цэха пастаянна забяспечаны працай, робяць тут заказы не толькі за мяжу, але і абслугоўваюць мясцовае насельніцтва. Таму і сярэдняя зарплата ў людзей нядрэнная — недзе па 170 тысяч выходзіць. А калі ўлічыць, што бадай ў кожнага свая падсобная гаспадарка, то жыць можна.

Каля канторкі, заўважыў, шмат кветак. Асабліва ўражваюць сваёй веліччу кусты амаранту. Бы само сабой напрошваецца параўнанне: Кусцікава і кусты. Кажу пра гэта Вользе Васільеўне. Яна ўсміхаецца:

— Мой жа сын, Андрэй, ва універсітэце вучыцца, у тэхналагічным. Якраз выкладае ў яго былы наш міністр Зорын, дык той яму таксама неяк нагадаў — не без падтэксту: Кусцікаў, ну ты ж Кусцікаў!..

У цэхах таксама чысціня і парадак. Пахне жывіцай. Так і хочацца дыхаць гэтым водарам на поўныя грудзі. Кусцікава ж патлумачыла нам, што лес чысты, радыяцыі няма, і заадно паскардзілася, што вельмі шмат у сасне асколкаў.

— Немцы і цяпер нам жыцця не даюць, — жартуе і працягвае больш сур'ёзна. — Рамныя пілы толькі паспявай прыводзіць да ладу. Шчарбатыя робяцца, абы-што...

З людзей папрасіла адзначыць рамшчыкаў Міхаіла Феліксавіча Арлоўскага і Аляксея Мікалаевіча Гарбачова.

На памяць пра наведванне цэха В. Кусцікава дала нам па некалькі асколкаў, што рамшчыкі складваюць на падаконнік. Мне дасталася і куля з адпілаванай дзюбай. Трымаючы на далоні гэты метал, узважыў яго: цяжкаваты. Лес, як і паранены чалавек, таксама, відаць, кволіцца. Толькі ж ці спытаеш у яго, баліць ці не, калі перапады ў надвор'і, калі віхураць у нябеснай прасторы магнітныя буры?..

Само лясніцтва на іншай ускраіне вёскі, за чыгункай, перад самым лесам. Знаёмімся з Аляксандрам Іванавічам Багамазавым, які ўзначальвае яго. На зялёным лажку прывабіў мой зрок стажок сена, які не вызначаецца свежасцю — крыху пачарнеў ажно. Пытаюся, што ён тут робіць, стажок той? Ляснічы шчыра прызнаецца:

— Нарыхтвалі сена па саўмінаўскім загадзе, а забіраць ніхто не хоча. Так і стаіць.

Ды, відаць жа, забяруць. Тым больш, што і ляснічы прыспешвае: псуецца сена, а людзі ж працавалі. Працу людзей паважаць трэба.

Што нам хацелася ў гэтым лясніцтве яшчэ пабачыць, дык гэта панскі лес. Едзем. Пана нават прозвішча ніхто не помніць, аднак добрым словам яго людзі згадваюць. Сосны, велічныя і гордыя, падпіраюць, здаецца, аблокі. Тоўстыя і роўныя. Ім амаль па сто гадоў — пасаджаны, высвятляецца, гэты лес у 1903-м. Во як! Ну, а граб ужо сам вырас. З соснамі яму цяплей, надзейней.

На тэрыторыі лясгаса знаходзіцца і магіла генерал-лейтэнанта Леаніда Рыгоравіча Пятроўскага. З ліпеня 1941 года 63-ці стралковы корпус, якім ён камандаваў, абараняў Дняпроўскі рубеж на лініі Рагачоў—Жлобін—Стрэшын. Корпус на шырокім фронце перайшоў у контрнаступленне, фарсіраваў Дняпро, вызваліў Жлобін і Рагачоў і прасунуўся на Захад на 30 кіламетраў. Гітлераўцы кінулі супраць корпуса 7 дывізій. У цяжкіх баях з ворагам каля вёскі Скепня Пятроўскі загінуў. Пахаваны ў вёсцы Старая Рудня, яго імем названа мясцовая школа.

На магіле Л. Р. Пятроўскага ўдзячныя беларусы паставілі помнік.

Старая Рудня — гэта, дарэчы, радзіма пісьменніка Аляксандра Капусціна, чалавека, з якім мы былі добра знаёмыя пры ягоным жыцці і які шмат празаічных і публіцыстычных твораў напісаў пра гэтыя прыгожыя лясныя мясціны.

Пухам жлобінская зямля табе, Аляксандр Пятровіч!

І яшчэ лёс аднаго чалавека крануў нас. У 1994 годзе гарэў дваццацігадовы сасоннік. Першым на пажар прыехаў ляснік Міхаіл Васільевіч Янаў. Калі падаспелі яго калегі, то яны ўбачылі лесніка мёртвым: не вытрымала сэрца. Вогнішча якраз падбіралася да Янава... На тым месцы, дзе гарэў сасоннік, лесніку з Чэцвярні паставілі стэлу. А ў мяне нарадзілася словаспалучэнне: Янаў сасоннік. Сказаў пра гэта Кавалеўскаму, ён пагадзіўся:

— Добра было б, каб яно прыжылося...

## ЦЫБУЛЬСКАЯ ВАРТА, альбо ЁСЦЬ ТАКІ МУЗЕЙ!

Знаёмства з Рэчыцкім лясгасам пачалося з поціску рук. Спярша павіталіся з Аляксеем Асіпенкам, ляснічым з Ровенскай Слабады, які сустрэў нас на чыгуначным вакзале, потым з дырэктарам лясгаса Пятром Хлебаказавым. Раніца, таму ў апошняга спраў хоць адбаўляй: званкі, заходзяць-выходзяць супрацоўнікі, а тут і мы... Прапаноўваем, каб не перашкаджаць: можа б мы падыхалі пакуль чыстым паветрам? Хлебаказаў суцяшае: «Зараз, зараз...» І мы, між іншым, ухітраемся бліжэй пазнаёміцца, а пазней высвятляецца, што ёсць у нас і агульныя знаёмыя. Адзін з іх — дыктар Беларускага радыё, заслужаны артыст рэспублікі Мікалай Чырык. Пётр Іванавіч з ім жадаў бы сустрэцца. Цікавы, падкрэслівае, чалавек, ён тут непадалёку нарадзіўся — у вёсцы Дуброва.

— Я б і сам з вамі сёння паездзіў, — шкадуе Хлебаказаў, — але англічан чакаю. У адзінаццаць будуць. Цяпер з замежнікамі трэба вуха востра трымаць: толькі папярэдняя аплата... Аднак пасля, як вернецеся, чакаю. Гадзіны ў чатыры. Дамовіліся. Пра жыццё пагаворым.

Амаль у дзвярах сустракаемся з намеснікам генеральнага дырэктара вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання Аляксандрам Скачко. Таксама абмяняліся поціскам рук. Здагадваемся, чаму прыехаў ён з Гомеля: на падмогу Хлебаказаву — англічане ж будуць, справа сур'ёзная. Жадаем поспеху і трапляем адразу з кабінета дырэктара ў музей лясгаса. Вось тут, у музеі, мы і затрымаемся. Тым больш, што, як гаворыць ініцыятар яго стварэння Валянціна Савельеўна Жаўцілава, такі музей пакуль адзіны ва ўсёй Беларусі.

— А з чаго ўсё пачалося? — перапытвае жанчына.— Гены, пэўна... Сама я з Навазыбкава, скончыла Бранскі тэхналагічны інстытут. Па размеркаванні была накіравана ў Чэлябінскую вобласць, адкуль пераехала ў самы прыгожы, як цяпер я разумею, горад — у Рэчыцу. Тут у мяне цётка жыла... І вось 25 гадоў ужо працую ў лясгасе, сёння — інжынер па ахове працы. А што пра гены я загаварыла, дык бацька ў мяне працаваў настаўнікам гісторыі. Люблю гісторыю і я. І вось спалучыла адданасць лесу і мінуламу. А музей — гэта і ёсць гісторыя... Патроху экспанаты я збірала на працягу года, па ўласнай ініцыятыве, вядома ж, але пры падтрымцы кіраўніцтва.

Давайце ж паглядзім, што збірала гэтая прыгожая і ініцыятыўная жанчына? Як кажуць, за намі на экскурсію. Тым больш, што паглядзець тут ёсць што — у музеі можна пабачыць прыкладна 500 экспанатаў. Адзін з іх сведчыць, напрыклад, пра тое, што лясніцтва ў Рэчыцы было створана ажно 200 гадоў назад. А гэта кніга «Прырода», якая выпушчана ў 1873 годзе. Выканаўчы лісток на парубку лесу 1900 г., талон да лесапарубчага білета 1938 г. Цікава таксама пазнаёміцца , што пісалі ў анкеце, калі прадстаўлялі на званне стаханаўца лесаруба Алега Бандарэнку ў 1936 г. Накладныя 1933 г., якія сведчаць пра тое, што лес тады пастулаў з Рэчыцы ў Маскву, Ленінград, Харкаў, але больш — на гомельскую запалкавую фабрыку «Везувій». А вось

урадавая тэлеграма за подпісам тагачаснанга міністра лясной гаспадаркі Васіля Каржа: «Камандзіруйце ляснічага Драбышэўскага ў Маскву...»

Валянціна Савельеўна тлумачыць нам, хоць і сама да канца не ўпэўнена, што так і было:

— Тады рабілі лесаабаронныя палосы ў такіх мясцінах, дзе ў асноўным былі стэпы, пяскі. Як, напрыклад, пад Сталінградам. Мабыць, для гэтай мэты і выклікаўся наш спецыяліст.

Шмат здымкаў ветэранаў. Чытаем подпісы пад імі: Цімафей Іванавіч Цыбульскі, Аляксандр Якаўлевіч Кастрама, Мікалай Арцёмавіч Філіпаў, Фёдар Фёдаравіч Кацура, Міхаіл Васільевіч Канода, Уладзімір Пятровіч Сівуха... У кожнага з іх цікавая, багатая біяграфія. Пра некаторых з гэтых людзей хочацца расказаць больш падрабязна, бо іх біяграфіі — гэта біяграфіі і краіны, і лясгаса.

Цыбульскі працаваў у лесе ўсё сваё свядомае жыццё — з 1924 па 1962 год. Быў у асноўным лесніком. У гады Вялікай Айчыннай вайны — сувязны партызанскага атрада. Але ж пра гэта мала хто ведаў, больш бачылі людзі Цімафея Іванавіча ў лесе, на сваім пасту, хоць тады гаспадарылі там пэўны час і немцы — садзілі лес, але садзілі, вядома ж, чымі рукамі. Неўзабаве вайна пакацілася далей — вораг адступіў, а партызанскі атрад злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі. Цыбульскага арыштавалі. Каму і што ён тады мог даказаць? Толькі як скончылася вайна, вярнуўся нехта з кіраўнікоў партызанскага атрада, пацікавіўся, дзе ж Цыбульскі. Яму адказалі: сядзіць. Як, за што? Ён жа быў нашым лепшым сувязным! Давялося высвятляць сітуацыю, і Цыбульскага адразу ж адпусцілі. А месца, дзе ён жыў, і сёння называюць людзі Цыбульскай вартай. Як трэба жыць, каб людзі так увекавечылі памяць пра чалавека!

Крыху іншая недарэчнасць адбылася і з Аляксандрам Якаўлевічам. Мужна змагаўся з ворагам партызанскі падрыўнік і франтавы кулямётчык Кастрама. Ён быў узнагароджаны трыма ордэнамі Славы, але двойчы — III ступені. Калі падрос яго сын Міхаіл і прыйшоў у кароткатэрміновы адпачынак у час службы з арміі, то ў размове з бацькам засумняваўся, каб двойчы ўзнагародзілі яго ордэнамі адной і той жа ступені. Тады ж сын напісаў у Маскву, прасіў разабрацца. І неўзабаве Кастраму выклікалі ў райваенкамат, дзе ў мужнага салдата папрасілі прабачэння за памылку і ўручылі яму ордэн Славы I ступені за нумарам 2922.

Аляксандр Якаўлевіч у вёску Салтанава, дзе працаваў лесніком, вярнуўся поўным кавалерам ордэна Славы.

Цікавае жыццё пражыў Мікалай Арцёмавіч Філіпаў. Нарадзіўся ён у 1894 г. У 1915 быў прызваны на службу ў царскую армію. Служыў у кавалерыі. Прымаў актыўны ўдзел у баявых дзеяннях. Быў некалькі разоў паранены. За мужнасць атрымаў узнагароду — Георгіеўскі крыж. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі знаходзіўся ў Рэвелі (Талін). Перайшоў на бок бальшавікоў. У час грамадзянскай вайны служыў у кавалерыі, прымаў удзел у разгроме вайсковых фарміраванняў Булак-Балаховіча. З Чырвонай Арміі дэмабілізаваўся ў 1922-м. У 1930-м абраны землякамі членам выканкама сельсавета. Адзін з арганізатараў калгаса, які 7 гадоў сам узначальваў. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Вайну скончыў ва Усходняй Прусіі. Узнагароджаны некалькімі медалямі, у тым ліку «За адвагу» і «За баявыя заслугі». У пасляваенны перыяд працаваў у Бабіцкім лясніцтве.

Узнагароды. Дакументы. Санкі. Венікі. Аглоблі. Бочкі. Пасля вайны ў лясгасе працавалі на валах, таму і калёсы рабілі. Калёсы ў музеі шмат месца займуць, а вупраж ёсць.

Побач, на стэлажах, зацікавіць прыходны касавы ордэр, калі пры немцах здавалі грошы, ведамасць на налічванне заработнай платы, а з адваротнага боку — лістоўка. Акт перадачы лесаўпарадкавальных работ — 1939 г.

Шмат інвентару, што выкарыстоўваўся ў розныя перыяды жыцця лясгаса: пілы, нажоўкі, сякеры, прыстасавнні для збору жывіцы...

Раённая газета за 1945 год пад загалоўкам «На заклік калектыву Ельскага леспрамгаса» паведамляе, што з 20 па 25 снежня па леспрамгасе нарыхтавана 1400 кубаметраў лесу, вывезена 434 кубаметры і падвезена да трасы 542 кубаметры. План IV квартала сезоннікамі з калгасаў і пастаяннымі кадрамі леспрамгаса на 25 снежня выкананы: па лесанарыхтоўках на 70,6 працэнта і па вывазках на 51,7 працэнта. На зварот калектыву Ельскага леспрамгаса многія лесарубы і возчыкі павысілі вытворчасць сваёй працы. Былыя воіны Чырвонай Арміі Грыцэнка Васіль, Грыцэнка Якаў, Лешчанка Мікалай — з калгаса імя Свярдлова Маканавіцкага сельсавета дзённыя нормы выконваюць на 150—200 працэнтаў. Перавыконваюць дзённыя заданні і возчыкі. Гэты калгас на 28 снежня квартальны план па нарыхтоўках выканаў на 70 працэнтаў, па вывазках на 85 працэнтаў.

З добрымі паказчыкамі сустракаюць новы год многія рабочыя леспрамгаса. Трымя аўтамашынамі за 27 снежня вывезена 178 кубаметраў лесу. Шафёры Дзяшчэня Зміцер і Бараноўскі Пятро за гэты дзень вывезлі 63 м³ лесу, што складае 258 працэнтаў дзённай нормы».

Сёння, магчыма, крыху дзіўна чытаць пра ўсё гэта, але ж з песні, як гавораць, слова не выкінеш. А то была наша песня, і яе хораша спявалі гаспадарнікі лесу ў нялёгкі пасляваенны час.

На відным месцы, як і належыць у музеі, кніга водгукаў. Гартаем. Цёплыя словы пакінулі тут група падрыхтоўкі спецыялістаў з Інстытута лесу АН Беларусі, былы дырэктар лясгаса Аляксандр Іванавіч Краўчанка, генеральны дырэктар ВЛГА М. П. Супрун. Астатнія прозвішчы нам ні пра што не гавораць, але Валянціне Жаўцілавай усё роўна прыемна: музей жа яна стварала для таго, каб яго наведвалі.

— Але ж наш музей — гэта яшчэ і лес, так-так, я не агаварылася, — тлумачыць яна. — Да экспанатаў музея адносяцца і рэдкія дрэвы, што растуць на тэрыторыі лясгаса, і помнікі, і звяры, птушкі...

І праўда, усё гэта, відаць, таксама музейныя экспанаты. Ну як, напрыклад, бархат амурскі можна выставіць у музеі, калі ён з'яўляецца багаццем лясгаса, яго гісторыяй, але павінен расці на зямлі пад чыстым небам?

Развітваемся з музеем. Хацеў і я пакінуць у кнізе водгукаў запіс, але спяшаліся і забыўся. Ужо калі селі ў аўтобус і Іван Іванавіч Піпчанка паруліў з горада, я падзякаваў Валянціне Савельеўне за карысную працу. Сказаў слова, якое пакінуў на паперы нехта з наведвальнікаў: «Дзякуй!» Слова гэтае ёй спадабалася.

Едзем у лес, дзе расце бархат амурскі. Займае ён там 1,3 гектара плошчы. Гэта будзе маё першае спатканне з гэтым пакуль таямнічым і загадкавым дрэвам. На гарадской ускраіне наш гід В. Жаўцілава паказвае на карпусы завода «Рытм»:

— Некалі, помню, тут была гарадскі сметнік. А трошкі далей, дзе «Беларуснафта», ляснік Васіль Іванавіч Мароз выкапаў каменную сякеру. Вунь тое месца...

Горад заканчваецца, і нас паглынае лес. Ён — стыхія не толькі, здагадваюся, Жаўцілавай, але і ляснічага Рэчыцкага лясніцтва Андрэя Мядзведзева, які сядзіць побач у аўтобусе, што карабкаецца па вузкай дарозе і вадзіцель Іван Іванавіч нагадвае вадзіцеля аўтобуса з добра вядомага кінафільма, толькі хто з нас Шарапаў — здагадацца няпроста, але такое параўнанне выклікае жывую рэакцыю. Здарожваемся.

— Вось і наш бархат, — паказвае на дрэвы ляснічы, зусім яшчэ малады хлопец, і мы паслухмяна ідзём за ім. — Тут ёсць дрэвы, якім ужо больш, чым мне: гадоў пад сорак.

Даведваемся, што з кары бархата амурскага робяць коркі... прыпамінаю, дзе тыя коркі цяпер выкарыстоўваюцца і перад вачыма з'яўляюцца бутэлькі з шампанскім; што прадаецца кара на вагу і вельмі дорага каштуе. З гэтым пагаджаемся, бо дрэва расце не адзін год, а кара нават у тых, што даўно сядзяць тут у зямлі, не надта тоўстая. Але на паплавок бяру. Ды і на памяць аб спатканні з гэтымі загадкавымі дрэвамі. Хоць пасля сустрэчы з імі ніякай загадкавасці не застаецца — дрэва як дрэва, толькі, праўда, рэдкае для Беларусі.

Пакідаючы плантацыю, заўважаем на адным з дрэў пустое гняздо.

— Дразда,— робіць заключэнне Мядзведзеў.

«Вы слыхали, как поют дрозды?» — адразу ж прыгадалася песня. Не чуў і я. Але добра, што ёсць гнёзды гэтых рэдкіх і прыгожых птушак. А ёсць птушкі, будуць і песні.

У Рэчыцы каля канторы лясніцтва пакідаем Андрэя Мядзведзева, а самі едзем далей. З правай рукі ад дарогі — Дняпро, там-сям праз невад крон бліснe люстэрка ракі. І наўсцяж — зоны адпачынку прадпрыемстваў Рэчыцы: нафтавікоў, гідролізнікаў, працаўнікоў мэблевай фабрыкі... Крыху раней, перад самай Азершчынай, перасеклі раку Ведрыч, якую сустракаў раней каля Васілевіч — там яна не такая шырокая, а тут, дзе праз колькі метраў упадае ў Дняпро, ужо падобна сама на сябе.

Каля вёскі знаходзіцца поле, якое называецца Меськім. Хутчэй за ўсё, ад украінскага слова «місто», што значыць горад. Менавіта на гэтым полі, як сведчыць гісторыя, палкаводзец польскага караля Штэфана Баторыя князь Вішнявецкі ў сярэдзіне XVII стагоддзя пажадаў перарэзаць шлях казацкаму атраду Максіма Крываноса, паплечніка Багдана Хмяльніцкага. Але баявое шчасце ўсміхнулася казакам. Пра гэты эпізод, дарэчы, апавядае карціна «Максім Крыванос праследуе князя Вішнявецкага», якая знаходзіцца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

Маюцца таксама звесткі, што каля Азершчыны, на паўвостраве, атуленым з трох бакоў рэчкай Ведрыч, магутным Дняпром і возерам, у 1709 г. атабарыліся лагерам шведы пад камандаваннем генерала Левенгаўпта, якія спяшаліся на дапамогу каралю Карлу XII. Адбыўся бой паміж шведскім атрадам і войскамі Пятра I. Пра гэта сведчаць шматлікія пахаванні, выяўленыя ў 1956 г. пры планіроўцы стапеляў для будаўніцтва металічных баржаў. У пахаваннях знойдзены шпагі, алавяныя гузікі, каскі і іншыя прылады вайсковай амуніцыі як шведскіх, так і рускіх салдат.

Захавалася паданне, што шведы, спяшаючыся, спіхнулі карэту з вайсковай казной у глыбокі калодзеж і засыпалі яго зямлёй. Што да скарбу, то ў 1905 г. хвалі Дняпра нібыта вымылі з берага нейкую скрыню. Яе знайшоў бакеншчык, а потым знік разам з багатай знаходкай.

Малаўрадлівая зямля не магла пракарміць усіх насельнікаў Азершчыны. Менавіта таму вяскоўцы наймаліся на тралёўку лесу. Яны гналі па Дняпры плыты ледзь не да Чорнага мора. Дамоў вярталіся нярэдка праз паўгода...

На пагорку і вёска Азершчына. Што вялікая — сумнявацца не трэба: у ёй ажно дзве сярэднія школы. А яшчэ — музычная і конна-спартыўная. Ёсць гандлёвыя кропкі, сельскі Дом культуры, прафесійна-тэхнічнае вучылішча, тут жа суднабудаўніча-суднарамонтны завод, ПМК-73, а цяпер вось і кантора лясніцтва будуецца. Пасля таго, як вайсковы палігон перанеслі з гэтых мясцін, давялося лясной гаспадарцы браць пад ахову тутэйшыя лясы. Новае лясніцтва ўзначаліў малады спецыяліст — Уладзімір Грыцкоў. Заглянулі на будоўлю. Ляснічага не спаткалі, хоць ён там праводзіць значную частку свайго рабочага дня, аднак бадаўнікі параілі пачакаць, бо «Уладзімір Васільевіч надоўга не адлучаецца». Разумеем, але ж чакаць няма

калі. Шкада, што не пабачыліся, бо дырэктар лясгаса параіў нам расказаць пра гэтага хоць і маладога, але перспектыўнага ляснічага. Не атрымалася. Вырашаем, што заедзем, калі будзем вяртацца назад. Падтрымліваем прапанову і Жаўцілавай заехаць на зваротнай дарозе на яе дачны ўчастак, які каля вёскі Унорыца і зусім блізка ад дарогі. «Кветак нарваць трэба. У мяне там 52 гатункі гладыёлусаў». Кветкі спакушаюць.

Але мы не ведаем яшчэ, што будзе наперадзе...

Прыемнае ўражанне пакідае знаёмства з ляснічым Мілаградскага лясніцтва Уладзімірам Антонавічам Шыхаўцом. Баскетбаліст з мускуламі барца. Ён падсядае да нас у аўтобус, заўважаю, што з Іванам Іванавічам добра знаёмы, і мы едзем далей. Спыняемся за Берагавой Слабадой. Вадзіцель атрымлівае загад ад Шыхаўца заглушыць матор, чым дае зразумець і нам: тут крыху затрымаемся. Піпчанка не прамінуў адказаць.

— Глушу, глушу, іначай пехам пойдзем. Бензіну ў баку мала...

Падыходзім да помніка маракам пінскай флатыліі. Вялікі чорны якар. Мачта. За помнікам — люстэрка Дняпра. Шыхавец прыгадвае, як валілі сосны на гэтым вось крутаяры, як тыя не слухаліся, упарціліся, але вымушаны былі ўсё ж скарыцца чалавеку — дзеля таго, каб жыў подзвіг маракоў флатыліі, якую разбамбілі немцы ў 1941 годзе якраз на гэтым месцы.

Флатылія ж, кажуць, спяшалася на падмогу абаронцам Магілёва...

А побач — вясковыя могілкі.

— Я на іх свайго бацьку пахаваў,— быццам між іншым, заўважыў у размове ляснічы. — Так ён пажадаў, хоць сам у Горвалі жыў. Ты, кажа, сын, тут часта будзеш ездзіць па гэтай дарозе, то і прывітанне перадасі тады-сяды... Ды і лес тут прыгожы.

Пастаялі каля помніка. Памаўчалі. Пагаманілі. Неўзабаве Піпчанка гыркнуў маторам, і аўтобус пакалываўся далей — з асфальту звярнулі ў лес, мінулі базы адпачынку нафтавікоў і гідролізнікаў, і вось тое месца, дзе Бярэзіна ўпадае ў Дняпро. Статак кароў, хаваючыся ад дзённай спёкі, залез у ваду. Спіць, прыхінуўшы твар сарочкай, рыбак на водмелі, натыркаўшы ўсцяж розных прылад. Вусцішна. Чамусьці адразу, дзе зліваюцца рэчкі, Дняпро здаецца надта ж вузкім, і толькі крыху далей, кіруючы прама на тую строму, дзе стаіць, бы на далоні чалавека, помнік, раздаецца ўшыркі...

А ў нас складаная сітуацыя — скончыўся бензін. Піпчанка злуецца. Ляснічы пакідае нас адных, а сам вырашае дабірацца на спадарожных да канторы, дзе пакінуў свой легкавік. «Чакайце. Што-небудзь прыдумаем. Бязвыхадных сітуацый не бывае».

Чакаем. Іван Іванавіч застанецца каля аўтобуса, а мы ідзём да нейкай базы адпачынку. Крыху патапталіся на беразе Бярэзіны, а потым, калі зацерусіў дождж, схаваліся пад картузікам на ганку. І добра, разважаем, што так атрымалася — няма куды спяшацца. А то ўсё бяжым, пыхкаем... Сядзім, разважаем пра жыццё. І каб не гісторыя з бензінам, можа б, нават і не даведаліся, для чаго Валянціне Савельеўне трэба было заехаць на дачу па кветкі. «Заўтра паедзем з канцэртам у Лоеў. Прыгожа ў аўтобусе, калі кветкі... настрой уздымаюць». Бачыце, Жаўцілава і спявачка яшчэ. Высвятляецца, што не толькі ўдзельнічае ў лясгасаўскай самадзейнасці, але спявае і ў гарадскім хоры ветэранаў вайны і працы. Колькі гадоў назад засталася без мужа — памёр, і усю цеплыню душы і сэрца аддае цяпер працы, дочкам, унучкам і любімай справе.

Каб не бензін, то не даведаліся б мы таксама, што бацька Жаўцілавай, Савелій Мартынавіч Сысоеў, пісаў вершы, друкаваў іх у раённай газеце, а ў свой час сябраваў з паэтамі-землякамі Міхаілам Ісакоўскім і Мікалаем Рыленковым...

— З чаго ўсё ж пачаўся музей, Валянціна Савельеўна? — запыталіся мы.

— Са знака «Ляснік». Не бачылі ў музеі? Ён там на відным месцы. Якаў Бобла падарыў. Свой. Той знак і стаў першым экспанатам — адказала жанчына.

Абяцаем яшчэ пабываць і ў музеі, і на Цыбульскай варце.

Пройдзе пэўны час, і, магчыма, з'явяцца ў музеі прозвішчы людзей, якімі сёння ганарыцца лясгас. Ахвотна назавём іх. Майстар лесу Прыдняпроўскага лясніцтва Мікалай Сямёнавіч Гурыновіч. Працуе з 1974 г. Пачынаў лесніком. Пад яго кіраўніцтвам вырашчана шмат лясных культур. Аляксандр Вадзімавіч Валасевіч пачынаў працу вадзіцелем у 1985 г. З 1987 г. — майстар лесу, памочнік ляснічага, ляснічы Прыдняпроўскага лясніцтва. Завочна закончыў Бранскі тэхналагічны інстытут. Валеры Андрэевіч Максіменка — ляснік, адказны чалавек. Мікалай Паўлавіч Палівач — вадзіцель лесавоза, узнагароджаны граматамі, памятнымі знакамі. Пераможца спаборніцтва лесарубаў у 2001 годзе ў лясгасе вальшчык Мікалай Іванавіч Захараў. Станочніца цэха перапрацоўкі Ніна Яфімаўна Браздзецкая, і ў тым, што калектыў неаднаразова выходзіў пераможцам у спаборніцтве сярод цэхаў у ВЛГА, яе немалая заслуга. Ляснік Мілаградскага лясніцтва Васіль Мікітавіч Грыцкоў. Генадзь Уладзіміравіч Пушкоў — майстар лесанарыхтоўчай брыгады. У лясгасе з 1976 г. Быў ляснічым, начальнікам цэха, стварыў брыгаду лесарубаў, якая займаецца суцэльнай высечкай. Ляснік Бела-Балоцкага лясніцтва Павел Паўлавіч Гаўрасёў. Ляснік Рэчыцкага лясніцтва Аляксандр Мікалаевіч Цырульнік, узнагароджаны ганаровай граматай Мінлясгаса Рэспублікі Беларусь.

А пакуль сядзім у гэтым маляўнічым лясным куточку, зайдросцім буслам, якія зрабілі паблізу на сасне гняздо і цешацца сваім шчасцем, і чакаем з бензінам Уладзіміра Антонавіча Шыхаўца, бо сёння без бензіну, як і без вады, ні туды і ні сюды.

А вунь, заўважаем, і ён. Значыць, задуманае здзейснім.

Спяшаемся насустрач ляснічаму...

ІГАР ШАЛАДОНАЎ

# ВОБРАЗ ДАРОГІ І РОЗДУМ НАД СЭНСАМ ЖЫЦЦЯ

## *(у апавядальнай творчасці Кузьмы Чорнага 20-х гадоў)*

Адметным момантам творчасці К. Чорнага трэба лічыць апублікаванне ў 1924 годзе ў газеце «Савецкая Беларусь» апавядання «Пры дарозе». Нам уяўляецца, што тут пісьменнік упершыню падышоў да тлумачэння свету і чалавека з пункту погляду іх структурнай складанасці і іерархічнасці.

У апавяданні выразна прасочваецца арыентаванасць і пераклічка К. Чорнага з горкаўскай традыцыяй у поглядзе на чалавека. Агульнасць абмалёўкі вобразаў ідзе ад блізкага разумення таго, што ў працоўнага чалавека, раба фізічнай паднявольнай працы, паступова зараджаецца свядомае адчуванне сваёй духоўнай і душэўнай адкрытасці свету. У пачатку твора мы бачым, што героі Чорнага Улас і Кузьма, пільшчыкі па прафесіі, нагадваюць нам героя Максіма Горкага Макара Чудру з аднаіменнага апавядання, з яго сэнсавай устаноўкай: «хадзі і глядзі, наглядзеўся — ляж і памірай, вось і ўсё». Кузьма Чорны паказвае нам герояў твора ў розных варыяцыях валацужніцтва; пільшчыкі, цыганы, бежанка, жабрак, праезджыя людзі. Падобна М. Горкаму ў п'есе «На дне», Кузьма Чорны збірае сваіх герояў у начлежцы, дзе разыгрываецца асноўная калізія твора. Для нас важна тое, што пісьменнік удала знаходзіць тут магчымасць сярод незнаёмых і ненадоўга абставі-намі злучаных людзей паказаць ступень градацыіі паміж імі, і не толькі саслоўна-прафесійную, але і маральна-духоўную. Найперш аўтар прыкмячае саслоўна-прафесійную ранжыраванасць:

«— Але ад цыгана дык заўсёды, як ад сабакі, ветрам нясе.

— А ад мужыка дык ведаеш чым нясе? — адказаў цыган, паказваючы ад смеху зубы, і растлумачыў, якім духам нясе ад мужыка, вызваўшы гэтым моцны і шчыра-вясёлы рогат усіх, хто быў у хаце, апрача жабрака, які ціхенька сядзеў у мыцельніку, падабраўшы пад сябе ўсе свае клункі». Калі жабрак месціцца ў мыцельніку на падлозе, то павятовае начальства, старэйшы камуніст і малады камсамолец, адразу накіроўваюцца ў чысты бакавы пакойчык. Празаік праз дыялогі начлежнікаў псіхалагічна-тонка раскрывае адрознасць характараў і нораваў людзей: «І калі рыжы сказаў ім (цыганам. — **І. Ш.**) скрозь смех, што яны заўтра не аднаго мужыка абдураць, прадаючы коні, адзін з іх сказаў, ні то ўжарт, ні то сур'ёзна:

— А хто мужыку забараняе цыгана абдурыць?

І ў голасе, якім былі сказаны гэтыя словы, адчувалася нейкая граніца, якою гэты чалавек абмежаваў сябе ад другіх людзей. Душа ж пільшчыкаў была як на далоні».

Далей Кузьма Чорны ўводзіць у сюжэт апавядання нечаканы паварот: у начлежку трапляе цяжкахворая жанчына-бежанка. Гэта акалічнасць дазваляе празаіку ўжо завастраць пытанне на маральна-духоўнай градацыі герояў. Смяротна хворая жанчына выклікае падазрэнне на заразнасць свайго захворвання, што правакуе бурную, неаднародную рэакцыю начлежнікаў, кожны з якіх згодна свайго станаўлення да смерці, згодна сваёй, чалавечай адказнасці за сябе і іншых, кіруецца тымі ці іншымі ўчынкамі і паводзінамі: «Першымі ад енку жанчыны прачнуліся цыганы. Яны ў неразуменні перакінуліся адзін з другім... абодва ўсталі і падышлі бліжэй і глянулі ёй у твар. Там выразна адбівалася ўсё тое, што бачыў рыжы, толькі ўжо з большай сілай.

— Нейкая вельмі заразлівая хвароба, — сказаў Мікітка, сам не ведаючы, дзеля чаго.

І цыгане абодва глянулі адзін аднаму ў вочы, як бы не разумеючы, што робіцца вакол іх. А потым, як бы згаварыўшыся, разам выйшлі на двор і сталі запрагаць коні... Потым пайшлі ў хату, забралі свае рэчы і пайшлі к гаспадару. Там яны зноў глянулі адзін аднаму ў вочы, як бы адчуваючы сваю віноўнасць перад некім за тое, што робяць. — Х-х-х-хузяін, э-х-х-хузяін, бяры грошы за начлег». Адчуванне сваёй віноўнасці ў цыган падкрэсліваецца аўтарам дзеля таго, каб больш псіхалагічна-выразна і дакладна паказаць паводзіны пільшчыкаў і жабрака, якія нават не ўзнімаюцца да гэтай мяжы разумення: «З адным вялікім жаданнем, як можна скарэй выбрацца адгэтуль, пільшчыкі рушылі з хаты. На дварэ было ўсё звычайна, так як і ва ўсякую другую ноч... і пасля таго суму і жаху, які найшоў быў на іх у хаце, яны зразу адчулі ў сабе прыліў весялосці». Апошнім збягае з начлежкі жабрак: «Таксама не знаў ён, чаго ён збіраецца ўцякаць — усе ўцякаюць нечага, значыць, і мне трэба. І адчуваў ён сябе так, як бы быў у чым вінаваты. Але і заўсёды ён сябе так адчуваў». Вінаватасць жабрака выступае не як маральнае адчуванне, а ўжо як застылы стан знявечанай душы. На дапамогу жанчыне прыходзяць камісар і камсамолец, разам са сваім фурманам яны кладуць яе ў каляску і вязуць у горад да ўрача. Па дарозе ў горад яны сустракаюць пільшчыкаў: «Пільшчыкі пастараніліся, яны саўсім зышлі ў бок ад дарогі. Фурман Мікітка хітра і весела падмігнуў у бок пільшчыкаў, якія нясмела пазіралі *на дарогу»*. Вобраз дарогі тут набывае сімвалічна-алегарычнае значэнне, ён характэрызуе не столькі прасторавую, колькі духоўную сутнасць жыцця.

Хітра-вясёлае падмігванне фурмана Мікіткі да пільшчыкаў дазваляе давесці тую пазіцыю аўтара, што ў пераадоленні адчуджанасці як векавой паднявольнай негатыўнай традыцыі, што настойліва ўкаранялася ў псіхалогіі народных мас, трэба знаходзіць умовы вызвалення ад маральнага ціску мінулага і магчымасці ўзвышэння душы простага чалавека.

Усё больш і больш Кузьму Чорнага, пачынаючага пісьменніка-псіхолага, непакоіла думка, як чалавеку перастварыць сябе, як зрабіць так, каб адносіны паміж людзьмі былі па-сапраўднаму братэрскімі, духоўна-сардэчнымі, не адчужанымі. Ці як выдатна пра гэта сказаў у сваім апавяданні 20-х гадоў «Эфірны тракт» А. Платонаў: «Як выпадковую, нечаканую сутнасць жыцця чалавека пératварыць у вечнае панаванне над цудам сусвету». Вырашаць пастаўленную задачу беларускі празаік імкнуўся праз варыятыўнае расшырэнне межаў душы чалавека, «працягласці лепшых якасцей асобы, развіццё магчымасцей яе ўлаўліваць і пасцігаць «апошняе няўлоўнае» ў іншым. І самае галоўнае, на думку мастака, гэта пошук дарогі адзін да аднаго, праца над павелічэннем энергетыкі спачування паміж людзьмі.

Вобраз дарогі ў Кузьмы Чорнага пранізвае амаль усю апавядальную творчасць празаіка 20-х гадоў. Прыгадаем толькі тыя апавяданні, дзе паняцце

дарогі вынесена ў загаловак: «Ноч пры дарозе», «Па дарозе», «Гаворка ўночы ў дарозе», «Снегавыя дарогі», «Па пыльнай дарозе». Дарога для пісьменніка гэта і чыгунка, і цячэнне ракі, і роздум — «плынь свядомасці».

Вось у гэтым гарызантальна-вертыкальным перасячэнні паняцця «дарогі» і канцэнтруецца вызначальная светапоглядная мастацкая канцэпцыя маладога К. Чорнага. Авангардна-маладнякоўская накіраванасць у будучыню для пачынаючага творцы К. Чорнага пазначана найперш прагным жаданнем ухапіць імгненне, хуткаплыннасцю свету, бо свет набыў у рэальных і ідэальных формах выразныя якасці змяняльнасці, паскоранасці руху, спалучэння неспалучальнага ці раней неспалучанага. Таму ў апавядальнай творчасці Кузьмы Чорнага дынамізм часу і жыцця перададзены праз насычанасць у мове дзеясловаў, дзеяслоўных форм, дыялогаў, аксюмаранаў. Вось характэрны прыклад з ранняга апавядання «Будзем жыць»: «На зямлі было светла, ціха і халодна... На двары было больш людзей. Адны ляжалі на зямлі, другія стаялі. Тыя, што стаялі, пачалі цягаць салому ў хату. Гаспадыня ім памагала. Яна *не думала* аб тым, нашто салома ў хаце. Усё тое, што рабілася апошнімі днямі вакол, было ёй незразумелым, і каб цяпер ёй сказалі абкласці гэтаю саломай сваю ўласную хату і запаліць яе, яна, мабыць, *не доўга думаючы,* гэта зрабіла б. Услаўшы хату саломаю, пачалі ўносіць туды раненых і класці на салому». Дзеянне, рух у прыведзеным урыўку пераважае над думкай, асэнсаваннем, дзякуючы таму, што ўсё навокал падпарадкавана якомусьці аднаму вызначальнаму руху-накірунку, які ўспрымаецца як жыццёвая зададзенасць, як магчымая праекцыя будучых наступстваў. Рэактыўнасць, адчувальнасць, дзейнасць становяцца для маладнякоўца Кузьмы Чорнага галоўнымі паказчыкамі характару, дзе герой нярэдка можа засвоіць толькі вузкі знешне-навакольны свет. Аднак і гэта засваенне адбываецца разрыўна-паспешліва, толькі на ўзроўні першасных прыродна-фізічных імпульсаў — халодна, светла, цёпла, ціха. Характары герояў першых апавяданняў нагадваюць сабой «тэрмометры», якія статычна перадаюць дынаміку змен і падзей. Такія героі нагадваюць сабою «прадметы», якія на фізічна-дзейсным ўзроўні роўныя іншым, рэчыўным прадметам свету.

Знаходзячыся ў стане вечнага руху, героі К. Чорнага напачатку ўспрымаюць напружанасць жыцця і свету як фізічна-рэфлектуючыя асобы. Таму дарога для іх і ёсць стан жыцця, «існавання», бо толькі ў сутыкненні з чымсьці іншым яны могуць сябе зафіксаваць: «Праходзячы ў лесе міма хаты ляснога стражніка, вучыцель пачуў там дзіцячы плач, потым жаночы крык і гоман мужчыны. *Не думаючы доўга,* ён пайшоў к стражніку...» (Апавяданне «Дзень»). Ці ўзяць прыклад з апавядання «Ноч пры дарозе»: — «А я гляджу, — сказаў ён (Улас. — **І . Ш.**) ідучы, — сядзіць чалавек на беразе, падпёршы плячыма пень, і думаю — нешта тут робіцца. А разабраўся бліжэй — самая пусцячына. Ды гэта яшчэ нічога. Але часам даводзілася, бывала бачыць, як чалавек што-небудзь і сапраўды задумае як бы важнае, а як прыгледзішся — гэтаксама... І раптоўна змоўкшы, махнуў рукою і маўчаў ужо ўсю дарогу...»

Аднак  паступова вобраз дарогі з сімвала прыроднага і ідэйнага захаплення нараджэннем чалавека-футурум, які найчасцей праяўляўся праз паказ «дурной бясконцасці», у прозе К. Чорнага набываў акрэсленую скіраванасць на раскрыццё глыбіні імгнення, як вечнай сучаснасці. Вечнае свядомае жыццё не ёсць спроба зазірнуць у будучыню, а хутчэй ёсць жыццё сучаснасці, як момант разрыву часу, дзе на паверхні выступае духоўна-маральная праяўленасць. Бясконцасць і вечнасць жыцця наступае не праз існаванне ў будучым, а праз выхад імгнення з магнетызму часу, выхад з праекцыі побытавога ў быційнае.

Момант разрыву часу ёсць імгненне злучэння вечнасці са спасцігнутай сучаснасцю.

Плыткая, разбуральная паслярэвалюцыйная рэчаіснасць нагадвала сабой вясенні крыгаход ракі, дзе складана ўтрымацца на канаце, каб перабрацца на іншы бераг. У жыцці сам чалавек чымсьці нагадвае сабой канат, ён павінен з прыродна-жывёльнага стану пераўвасобіцца ці вырасці ў духоўную асобу, у чалавека «як ікону Божую». Узаемасувязь паняццяў вобразаў «дарогі-каната», «чалавека-каната» стварае генерыруючую сутнасць у паказе жыццёвых і быційных працэсаў у апавяданнях Кузьмы Чорнага. Ужо ў апавяданні «Па дарозе», напісаным у 1925 годзе, пісьменніку ўдаецца знайсці той момант «разрыўнасці», які дазволіў яго герою Паўлу Грыбку «ўзняцца», «выехаць» з гэтага абозу коснай грахоўнасці бытавога сялянскага ўкладу жыцця: «Браткі мае! Ну, *я ведаю,* што вы гэткія моцныя, а я — хворы, дык нашто ж вы гэта мне гаворыце? Што я вінаваты, што я такі, а вы такія? Нашто вы мне душу разварочваеце? Ну, не хачу я нічога гэтага. Ну, Насця надо мною насмяялася, дык я не крыўдую, бо яна здарова, а я хворы. Можа, гэта сухоты ў мяне? Я і так дажыву, калі так, свайго веку. Насці я не хачу... Хіба слова я ёй калі аб гэтым казаў?! Дык вы з ёю, Алесь, любуецеся, дык ці ж я што гавару? Куды я ёй? Можа, у мяне і пераварочваецца ўсё нутро ад жалю, ад крыўды, але ж я маўчаў — куды там мне *Я гэта ведаю...»* Маналог Паўла з паўторам-рэфрэнам «я гэта ведаю» падае нам іншага героя Кузьмы Чорнага, героя, які выціснуты жыццём з «правільнага», банальнага, так званага здаровага сялянскага прымітывізму існавання. Пісьменнік выразна акрэслівае лінію, якая аддзяляе Паўла Грыбка ад астатніх возчыкаў — праз рэакцыю рогату: «А яны ўсе ўтрох тады (пасля маналога Паўла. — **І. Ш.**) зарагаталі... Не было ў рогаце радасці, была адна сіла здаровая, як камень, цяжкая, як зямля». Рогат па сваіх рэгістравых параметрах блізкі паняццю рокату. Рокат — гэта найхутчэй гучанне прыродных стыхій, якія руйнуюць на сваім шляху ўсё, што трапляецца. Так і гэты рогат ёсць рэакцыя на тое, каб перамагчы слабага Паўла, а разам з гэтым заглушыць усе дробныя і буйныя перашкоды і крыўды, якіх так шмат на пакутным шляху сялянскага лёсу. Рэакцыя рогату трох возчыкаў ператвараецца ў прымітыўную стыхію чалавечага цёмнага, гаротнага існавання. Душа ж Паўла Грыбка настроена і патрабуе іншага гуку, яна патрабуе гуку гармоніі ўнутранага і знешняга ўспрыняцця жыцця. Кузьма Чорны псіхалагічна дакладна знаходзіць адлюстраванне гэтаму, калі раскрывае развагі героя ад успрыняцця музыкі гарадскога аркестра: «Толькі ніхто не ведаў і не бачыў гэтага, бо як махнуў капельмейстар рукамі і грымнула музыка, ва ўсіх, хто слухаў, раптам пачало з'яўляцца вялікае захапленне жыццём, адчуванне яго вялікасці і хараства. А ў каго і з'явіўся смутак, дык быў ён радасны і жаданы».

Музыка аркестра расчуліла і расквеціла збалелую душу хворага Паўла, яна вызваліла яго ад пачуцця болю і горычы за паводзіны сваіх аднавяскоўцаў, дала магчымасць узвысіцца над іх зямнымі турботамі і думкамі.

Дзеля справядлівасці неабходна заўважыць, што ўзвышэнне Паўла, маладога селяніна, пакуль толькі эмацыянальна-інтуітыўнае, якое ідзе ад адчування хараства і гармоніі ў знешнім свеце. Аднак разам з тым яно арыентуе на духоўны пошук і выпрацоўку маральных крытэрыяў унутры чалавека, такіх, як павага, сумленне, гонар, спачуванне.

Разважаючы над працэсам творчага сталення Кузьмы Чорнага, мы не можам не заўважыць таго, што большасць герояў яго апавяданняў жывуць якімсьці ўзнёсла-радасным настроем, які дазваляе ім лёгка пазбавіцца адчувальнасці праблемы смерці ці трагедыі жыцця. Прычына гэтага, думаецца, звязана з тым, ці пазначана толькі тады, калі чалавек ўвасабляе сабой асобу — істоту бессмяротную і вечную. Прыродны індывідыум (а большасць сялянства і было сынамі прыроды і працы) не стварае яшчэ з сябе асобы, таму сваю бессмяротнасць ён найчасцей выяўляе праз род, від, клас, а не індывідуаль-

насць. Мастацкая праўда Кузьмы Чорнага менавіта і каштоўная нам сёння тым, што ў ёй дакладна, амаль стэрэаскапічна схоплена атмасфера зараджэння ў магутнай сялянскай плыні духоўнай энергетыкі стварэння і самастварэння.

Унікальнасць культурнага і мастацкага жыцця 20-х гадоў шмат у чым абумоўлена парадаксальнасцю той сітуацыі, што папярэдняя літаратурная традыцыя, якая была ў аснове сваёй інтэлігенцкай, адухоўленай і інтэлектуальнай, не магла па прычыне сацыяльных змен, адыгрываць ранейшую сваю рэцыпіентную функцыю. На арэну гісторыі выйшлі людзі, светапогляд якіх вельмі цьмяна ўспрымаў іерархічнасць духоўнага і фізічнага свету. Ім у адрозненне ад інтэлігенцыі ў рэвалюцыйную эпоху не трэба было шмат чым «сябе пераступаць», «скідваць з сябе ўсё лішняе», яны пісьменнікі-пачаткоўцы не выпрацавалі пакуль у сабе крытэрыі і механізмы пазнання тонкай плыні быцця. Адзіным рухаючым механізмам іхняй прагі пазнання нярэдка з'яўлялася прага ведаў. Так, у апавяданні «Бяздоннае» Кузьмы Чорнага створаны вобраз студэнта, выхадца з сялянскай сям'і. Вучоба ва універсітэце для Алёшы ёсць радасць і задавальненне, хоць яна і патрабуе ад яго вялікіх высілкаў і намаганняў. Хлопец вымушаны падпрацоўваць на станцыі грузчыкам, каб не памерці з голаду. Але аўтар так нам падае ўнутраны свет свайго героя: «І па дарозе ва ўніверсітэт, пасля ўсяго перажытага, прайшоўшы праз пачуцці і думкі, робіцца ў Алёшы нейкі мяцежны настрой: ахватвае прагнае жаданне хутчэй навучыцца таму, з чым пойдзе к тым, пакінутым там недзе за палявымі прасторамі ў старых хатах; хочацца Алёшу перад імі, каравымі, запыленымі, і сказаць ім аб тым, што зразумеў сам, — аб самым важным, што трэба для паўнаты жыцця на зямлі: што жыццё шырокае, яно само ў сабе — нават як факт ужо існавання — *радаснае.* «Больш і глыбей увайсці ва універсітэт», — думае Алёша і бяжыць, і бяжыць па шумнай вуліцы».

Ф. Дастаеўскі аднойчы заўважыў: «Шырокі чалавек, не перашкаджала яго б крыху звузіць». Дастаеўскаму перш за ўсё думалася звузіць чалавека, які ў большасці можа жыць толькі на паверхні грахоўных побытавых учынкаў, яму не знаёмы і не зразумелы вобраз-сімвал пекла. Страціўшы ці не займеўшы сацыяльна і духоўна індывідуальнага вечнага і бессмяротнага жыцця, такі чалавек імкнецца вызваліцца ад пакутлівых праблем пекла, жадае не ўскладаць на сябе лішні цяжар адказнасці. У апавяданні «Бяздоннае» Кузьма Чорны супрацьпастаўляе Алёшу і старэйшага студэнта Андрэя Строніна, дзяцінства якога і першая маладосць прайшлі бесклапотна ў багатых бацькоў. І цяпер, ва універсітэце, ён акуратна атрымліваў ад брата кожны месяц пэўную суму грошай і мог усяго сябе аддаць навуцы.

Дыялог, які адбываецца паміж Алёшам і Андрэем першы раз, зноў жа тычыцца праблемы радаснага настрою Алёшы.

— Чаго вы так рады заўсёды?

— А чаго я рад? — таксама запытаў у непаразуменні Алёша.

— А мне здаецца, што вы заўсёды як бы ў нейкай весялосці.

— Здаецца, не. Я заўсёды так, як звычайна для мяне.

— Не... Вы ніколі не думалі аб гэтым... Што вы бачыце перад сабою светлае?.. Што вы будзеце рабіць, скончыўшы універсітэт?

— Як што? Жыць, працаваць.

— А ў чым жа па-вашаму, жыццё?

Алёша маўчаў».

Аўтар хоча давесці нам думку аб тым, што Алёша ніколі не зразумее Андрэя Строніна з-за таго, што Стронін жыў адзін, а Алёша жыў з людзьмі. Дзеля гэтага ён нават прыбягае, да свайго напрацаванага прыёму — уводзіць вобраз мерцвяка, адносіны да якога і вызначаюць бяздонную аддаленасць паміж героямі. Студэнты-медыкі, апынуўшыся ў анатамічным пакоі,

на практыцы, праяўляюць розную эмацыянальнасць перад відам мерцвяка: «Жалезнае, нястрыманае жаданне дзейнасці сціснула ў адзін жмут пачуцці. Хацелася Алёшу разам з усімі студэнтамі напружыць свае сілы для карыснай працы. І тады Алёша глянуў на Андрэя Строніна. Той стаяў паводдаль, сагнуты, мізэрны. Быў роспач у яго вачах. Здавалася — гіне чалавек. І раптам Стронін сустрэўся вачыма з Алёшай, глянуў на рабочых. І пайшоў ад іх, паволі павярнуўшыся. І тады адчуў Алёша, што паміж ім і Строніным — бяздонне... і чым хутчэй Стронін і яму падобныя адыдуць у нябыт, тым хутчэй размахнецца *шырыня жыццёвай радасці»*. Пекла, трагедыі жыцця, смерці нідзе няма акрамя як у галаве чалавека, які замыкаецца ў сабе самім і не можа вырвацца са сваіх перажыванняў у аналізе свету. Перажыванне пакут і трагедый жыцця магчыма для чалавека пастолькі, паколькі ў ім не знікае канчаткова ідэальны вобраз свету. Канчатковая смерць ці знікненне ў нішто праглядаецца як існаванне, якое не ведае пакут свету і акружаючых. Адсутнасць суперажывання, нават жаданне хуткага пазбаўлення ад такіх, як Андрэй Стронін, выражае нішто іншае, як з'яву зніжанасці чалавечай шкалы каштоўнасцей. Вось як разважае філосаф Г. Фядотаў у артыкуле «Русский человек» над паслярэвалюцыйнай рэчаіснасцю: «Здаецца, спачуванне зараз зусім выкінута з рускага жыцця і з рускага сэрца. Пакаленне, выхаванае рэвалюцыяй, з усёй сваёй энергіяй і нават ярасцю змагаецца за жыццё, зубамі грызе не толькі граніт навукі, але і імкнецца імі ж схапіць за горла свайго канкурэнта-таварыша. Агульным хорам кпінаў праводзяць у турмы, а то і ў магілы тых, хто аступіўся, гатовыя самі адправіць на смерць таварыша, каб заняць яго месца.

Жаласць, спачуванне, шкадаванне для іх непрыстойныя словы, хрысціянскі перажытак. «Злосць» — вось каштоўная якасць, якую яны імкнуцца ў сабе развіць. Пры такіх умовах ім не цяжка быць вясёлымі. Пакуты іншых не шкодзяць і не трывожаць іхняй весялосці...»

Новы тып чалавека прапаведуе лозунг, які лапідарна выразіў паэт 20-х гадоў А. Цінякоў:

> В свои лишь мускулы я верую
> И знаю: сладостно пожрать
> На всё, что за телесной сферою
> Мне совершенно наплевать.

Два апошнія радкі верша выражаюць блізкую духоўную сутнасць псіхалогіі і светапогляду студэнта Алёшы. Толькі, калі Цінякоў хаваецца за эгацэнтрызмам індывідуума, то Алёша прыкрываецца эгацэнтрызмам калектывізму, класавасці.

У адным са сваіх дзённікавых запісаў Ф. Дастаеўскі зрабіў наступную выснову: «Мяне называюць псіхолагам: гэта няпраўда, я толькі рэаліст у вышэйшым сэнсе гэтага слова, бо паказваю ўсе глыбіні душы чалавечай». Вялікі пісьменнік-гуманіст гэтым запісам дае нам зразумець, што недаразвітасць, ненармальнасць, грахоўнасць гэта як бы звычайная, прыродная якасць чалавечай душы, а не вынік сацыяльных ці псіхалагічных адхіленняў і паталогіі. Задачу сапраўднага рэаліста Дастаеўскі бачыў у тым, каб даследаваць душу чалавека да самай глыбіні, да дна. Як выказваўся сам класік: «Пры поўным рэалізме знайсці ў чалавеку чалавечае». З гэтым лозунгам згаджалася ўся класічная літаратура XIX стагоддзя. Усё глыбей і глыбей пранікаючы ў душу чалавека, Ф. Дастаеўскі ў якісьці момант з жахам упэўніўся, што ён апынуўся перад бяздоннем, пустатой. Аказваецца, што ў чалавека няма той «точки опоры», якую ўвесь час шукала літаратура. У сумленнасць, як нейкую рэальнасць чалавечай душы, як у механізм, які прымушае чалавека дзейнічаць добра ці кепска, Дастаеўскі не верыў поўнасцю. Вось што ён пісаў у сваёй за-

пісной кніжцы: «Сумленне без Бога ёсць жах, пекла, яно можа заблытацца да самага амаральнага. Недастаткова вызначаць маральнасць вернасцю сваім перакананням. Трэба яшчэ кожны раз будзіць ў сабе пытанне: ці правільныя мае перакананні? Праверка ж іх адна — Хрыстос».

К. Чорны, наследуючы рэалізм Дастаеўскага, інтуітыўна зближаецца з гэтымі думкамі. У апавяданне «Бяздоннае» ён уводзіць такі эпізод: «І тады прыпомнілася Андрэю Строніну, як адзін раз, у перарыў між лекцыямі, адзін яго блізкі сябар запытаў:

— Ці бачыш ты перад сабою калі што-небудзь для сябе светлае ў жыцці?

У Строніна была ў руках тоўстая кніга. Ён прыставіў яе к вачам і сказаў:

— Вось я бачу свет скрозь гэтую кнігу».

Безумоўна, кнігай гэтай была Біблія, аўтар не рашыўся прама заявіць пра гэта ў творы. Прадонне, якое раздзяляе Андрэя і Алёшу перад выглядам мерцвяка ў анатамічным пакоі, ёсць светапоглядная прадонне. Андрэй Стронін успрымае смерць прасветлена, не бунтуючы супраць яе бессэнсоўнасці, і ў гэтым праяўляе творчую актыўнасць духу. Алёша ж кіруецца падманлівай актыўнасцю (хацелася Алёшу разам з усімі студэнтамі напружыць свае сілы для карыснай працы), якая бунтуе супраць смерці і не прымае яе, бо смерці баіцца толькі пасіўны «неасветлены» дух.

Пераадоленне смерці і перамога над ёй ёсць прыняцце яе ўнутр духу, калі яна (смерць. — **І. Ш.**) перастае ўжо быць натуральным фактам у часе і становіцца знаходжаннем сэнсу, які ідзе з вечнасці. К. Чорны выдатна стварае партрэтныя характарыстыкі герояў, асабліва Андрэя Строніна: «Той стаяў паводдаль, сагнуты, мізэрны. Быў роспач у яго вачах. Здавалася — гіне гэты чалавек». На твары і постаці Андрэя адбілася адчуванне пекла, усведамлення трагічнасці зямнога, кароткага жыцця. Для Алёшы такіх перажыванняў быць не можа, бо пекла няма, калі чалавек быційна не свабодны і якімсьці чынам прымушаны да мройлівага дабра і раю (у дадзеным выпадку ідэяй сацыялістычнага калектывізму). Ідэя пекла непасрэдна звязана з праблемай індывідуальнай свабоды чалавека, з паняццем асобы, для якой праблемы справядлівасці, роўнасці, павагі, сумленнасці становяцца вынікаючымі фактарамі. Вось тая лінія, бяздонне, якія і падзяляюць герояў: «І раптам Стронін сустрэўся вачыма з Алёшай, глянуў на рабочых. І пайшоў ад іх, паволі павярнуўшыся».

Пісьменнік тонка псіхалагічна перадае нам гэты момант. Стронін добра зразумеў, што ў сваіх пазнаннях чалавека Алёша недалёка адышоў ад рабочых. Ды, магчыма, па прафесійных, медыцынскіх ведах ён і меў лепшыя пазнанні, чым Андрэй, аднак сутнасна-быційная, анталагічная рэальнасць жыцця для яго пакуль была закрыта. Такая зніжаная напоўненасць духоўнага жыцця і параджала шматлікія сацыяльныя і чалавечыя канфлікты і трагедыі паслярэвалюцыйнага часу. Проза Кузьмы Чорнага па-мастацку праўдзіва і псіхалагічна дакладна змагла выразіць і адлюстраваць сапраўдныя, вузлавыя супярэчнасці паслярэвалюцыйнай эпохі.

**ВАЛЕРЫ МАКСІМОВІЧ**

# У ПОШУКАВЫМ ІМКНЕННІ

## *(Творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа 20-х гадоў)*

Асэнсаване літаратуры 20-х гадоў і, у прыватнасці, творчасці нашых песняроў, што прыпадае на гэты час, патрабуе свайго далейшага навуковага асэнсавання. Неабходнасць і мэтазгоднасць больш вывераных ацэнак абумоўлена шэрагам прычын. Галоўная з іх звязана з наспеўшай задачай па-новаму, у святле сённяшніх гуманістычных прыярытэтаў разгледзець многія мастацкія феномены, гісторыка-літаратурныя факты, якія маюць істотнае значэнне для стварэння найбольш цэласнай і завершанай карціны літаратурнага працэсу, пэўна акрэсленага гістарычнымі ўмовамі развіцця літаратуры. Гаворачы пра неабходнасць абнаўлення літаратуразнаўчых падыходаў у асвятленні многіх з'яў літаратуры, М. Лазарук, у прыватнасці, піша: «Рэчаіснасць аказалася настолькі непрадказальнай і такой бязлітасна патрабавальнай да ранейшых «фундаментальных» тэорый, канцэпцый, здавалася б, такіх ужо стабільных, устойлівых, апрабаваных і праверанных, што размова павінна ісці не пра ўдакладненне асобных момантаў літаратурнага развіцця, а пра глыбокае пераасэнсаванне ўсяго, што было зроблена ў галіне нашай літаратуразнаўчай навукі ўвогуле». Патрэба новых метадалагічных падыходаў, на думку аўтара, абумоўлена тым, што крытэрыі ацэнак ранейшага літаратуразнаўства ў большасці фарміраваліся зверху, «задаваліся» палітычнымі ўмовамі існавання літаратуры, у якой штучна вычляняліся, абсалютызаваліся пазаэстэтычныя аспекты, пераважаў, па сутнасці, вульгарна-сацыялагічны падыход.

На жаль, і сёння пераацэнка многіх твораў, час напісання якіх прыпадае на 20—30-я гады мінулага стагоддзя, не ва ўсім адпавядае крытэрыям аб'ектыўнасці, навуковай выверанасці. У размове пра асаблівасці развіцця беларускай літаратуры ў 20-я гады стала нормай падкрэсліваць факт суцэльнага ўхвалення паслякастрычніцкай явы, арыентацыю апалагетаў рэвалюцыянізацыі рэчаіснасці на паэтыку одапісу, рытарызму, на стылёвую аднастайнасць, аднатанальнасць, трафарэтнасць, абстрактнасць і г.д. Усё адзначанае насамрэч мела месца ў літаратуры, асабліва ў літаратуры маладнякоўскай. Але часам мы, пагаджаючыся і прымаючы негатыўныя тэндэнцыі, што мелі месца ў літаратуры, афіцыёзнай найперш, неапраўдана і неаб'ектыўна ўзводзім іх у абсалют, ігнаруючы саму *мастацкую канкрэтыку* ці адвольна трактуючы яе. Таму часта неабачліва выдаём жаданае за рэальнае, не наважваючыся разабрацца, заглыбіцца ў самую сутнасць праблемы, улічыць шматлікія тонкасці, нюансы, якія можна выявіць не інакш як праз непрадузяты, роздумны, аналітычны пошук глыбіннага сэнсу ў кожным асобна ўзятым творы, вобразе, матыве і г.д.

Сказанае тычыцца і творчасці нашых класікаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа, у асэнсаванні творчасці якіх таксама маюцца яшчэ значныя незапатрабаваныя пошукава-даследчыцкія рэзервы. Не такім ужо вычарпальна асветленым падаецца і перыяд іх творчасці, які супаў з працэсам станаўлення беларускай дзяржаўнасці ў пачатку 20-х гадоў. Ніхто сёння не аспрэчвае той факт, што Янка Купала, прыкладам, і ў гэты час кіраваўся ідэямі адраджэння свайго народа. Гэта ісціна, як кажуць, аксіяматычная. Але ці азначае тое, што ўсё напісанае паэтам у гэты час магло ўзнікнуць і ўзнікала выключна на хвалі захаплення першымі крокамі нацыянальнага адраджэння? У якасці падмацавання прыведзенай тэзы даследчыкі часта прыбягалі да паэмы «Безназоўнае», імкнучыся суаднесці яе ідэйную змястоўнасць наўпрост з вобразам Беларусі і пафасам услаўлення яе дзяржаўнасці. Але пры гэтым глыбока не аналізаваўся гукавы, рытміка-інтанацыйны і зместавы яе поліфанізм, не рабіўся акцэнт на спасціжэнне ўмоўна-асацыятыўнай вобразнасці, іманентнай іншасказальнасці, не знаходзіла свайго адэкватнага вытлумачэння стыхія эмацыянальна-экспрэсіўнага выяўлення.

Думаецца, аб'ектыўнай інтэрпрэтацыі, расшыфроўцы твора паспрыяе цесная яго ўключанасць у гісторыка-літаратурны кантэкст часу. Улік кантэксту ў нашым выпадку — найбольш рацыянальны і эфектыўны шлях знайсці ісціну, правільна ідэнтыфікаваць ідэйна-зместавую сутнасць твора. Тут да месца звярнуцца да аўтарытэтнага расійскага даследчыка Д. С. Ліхачова, які ў гэтай сувязі заўважаў: «Я адразу скажу самае галоўнае: доказнасць увасоблена ў нашых зваротах да гісторыі... Калі гістарычная ісціна сама патрабуе доказаў, то і доказы правільнасці інтэрпрэтацыі твора знаходзяцца найперш за ўсё ў гісторыі ў самым шырокім сэнсе гэтага слова... Толькі ўзнаўленне гісторыі адкрывае нам ісціну і абгрунтоўвае канцэпцыі... Сутнасць нашай навукі заключаецца ў тым, што кожны факт і кожная з'ява ў творчасці аўтара ўзнаўляецца ў руху... <...> ...толькі гістарызм здольны пазбавіць нас ад «мяшчанства ў навуцы», да якога я адношу густаўшчыну, балаканне і ў канчатковым выніку — крайні суб'ектывізм. Гісторыя — не толькі маці ісціны, але зыходны пункт для мастацкіх ацэнак твора. Гістарычны кантэкст дазваляе адкрыць мастацкія вартасці твора. Гісторыя — маці каштоўнасных суджэнняў, маці разумення, маці эстэтычнага ўспрыняцця твораў»[1].

У тэарэтычна-метадалагічным плане выказаная думка, бясспрэчна, слушная і вартая таго, каб яе прытрымлівацца на практыцы. Таму паспрабуем звярнуцца да «гісторыі», пагадзіўшыся з тым, што ў савецкі час пад ціскам ідэалагічных догмаў «Купала перажыў складаны перыяд творчай эвалюцыі» (І. Багдановіч). І ўсё ж, нягледзячы на гэта, мастацка-светапоглядная, ідэйная дамінанта творчасці паэта, думаецца, не спазнала істотных якасных змен у параўнанні з нашаніўскім перыядам развіцця літаратуры. Маем на ўвазе найперш тое, што і ў паслярэвалюцыйны час прарок беларускага адраджэння заставаўся прадаўжальнікам традыцый мастацкай сістэмы, якая наўпрост звязана з феноменам «нашаніўская паэзія». Янка Купала савецкі як бы дыялагічна перагукваўся з Янкам Купалам раннім, дарэвалюцыйным: яго паэзія пасля 1917 года заставалася арганічнай часткай яго ранейшай творчасці, яе працягам у новых гістарычных умовах. Паэт з неаслабнай трывогай і надзеяй сачыў за зменамі ў жыцці, за ходам падзей, якія адбываліся ў краіне, імкнуўся зразумець сутнасць перамен, глыбока задумваўся над магчымасцю выбару далейшага шляху, далейшага лёсу — свайго ўласнага і лёсу народа. Гістарычныя катаклізмы, якімі сталі гады грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі, узмацнілі адчуванне нацыянальнай ката-

[1] Лихачев Д.С. О филологии. М., 1989. С. 36, 37, 39.

строфы і разам з тым паставілі не толькі Янку Купалу, але і ўсю беларускую літаратуру перад неабходнасцю існавання ў новых, па-свойму экстрэмальных умовах, перад неабходнасцю па-мастацку асэнсаваць гістарычны момант. Сама эпоха патрабавала новых сродкаў мастацкай выразнасці, здольных адэкватна выявіць сутнасць таго, што адбываецца наяве. Ва ўмовах складвання таталітарнай дзяржавы, ва ўмовах творчай несвабоды вырашэнню незвычайна складаных задач спрыяла менавіта добра апрабаваная сістэма паэтычнай мовы, пабудаванай у асноўным на ўмоўна-асацыятыўнай, сімваліка-алегарычнай вобразнасці, якая шырока была задзейнічана нашаніўскай літаратурай. Менавіта ў гэты час паэтычная мова, цэласная сістэма паэтыкі, і ў першую чаргу яе вобразная структура, якая склалася ў папярэднія гады, набывае незвычайную раней сугучнасць падзеям, абумоўленым імператывам часу. У творчасці Янкі Купалы, як, зрэшты, і ў творчасці іншых паэтаў пад уплывам новых гістарычных змен назіраецца істотная трансфармацыя традыцыйных вобразных клішэ, матываў, архетыпаў, міфалагем. Вобразы-сімвалы ў Янкі Купалы выяўляюць такі шырокі кантэкст і спектр мастацкіх сэнсаў, што можна гаварыць аб іх універсальнасці, аб набыцці імі новай актуальнасці. У дадзеным выпадку ўзнікае патрэба гаворкі пра нейкі адзіны метатэкст, абумоўлены блізкім падабенствам аналагічных жыццёвых з'яў, рэаліямі пераломнага часу, якія даюць магутны цэнтраімклівы штуршок для пэўнай сінхранізацыі вобразнага ладу паэзіі, мастацкага развіцця ўвогуле. У выніку ствараецца цэласная карціна свету, дзе перагукваюцца і набываюць новы сэнс найважнейшыя катэгорыі быту і быцця — тыя моманты чалавечага жыцця, якія цесна судакранаюцца з вечным.

Адзначаныя акалічнасці маюць цеснае дачыненне і да творчасці Якуба Коласа, які ў 20-я гады «заставаўся верным эстэтычнаму ідэалу, выхаванаму ў ранейшыя гады і выпрабаванаму ў творчых пошуках і жыццёвых блуканнях»[1]. Вобразны лад коласаўскай паэзіі ў многім трымаецца на наследаванні матываў, самой стылістыкі ранейшай, дарэвалюцыйнай пары. Устойлівая рыса паэзіі Якуба Коласа гэтага часу — пранізанасць вобразамі прыродных стыхій: амаль кожны верш паэта атрымлівае як бы «прыродазнаўчае» гучанне дзякуючы звароту да першаасноў жыцця. Прыродныя з'явы, да таго ж, сталі замацаваліся ў творчасці песняра ў якасці ўстойлівых метафар гістарычных падзей, сталі прыдатным матэрыялам для мастацкага асэнсавання рэчаіснасці. У літаратуры паслярэвалюцыйнага часу, як даўно заўважана, уласна рэвалюцыя часта паказвалася ў вобразе прыродных стыхій. Традыцыя ўзнаўлення гістарычных катаклізмаў праз вобразы прыродных з'яў — даволі ўстойлівая не толькі ў беларускай, але і ў сусветнай літаратуры. Паказ жыцця праз прызму прыродных стыхій спрыяў большаму ўзбуйненню, паказу сапраўднай маштабнасці таго, што адбывалася ці адбываецца ў дадзены час. Але нельга адназначна сцвярджаць, што падобная маштабізацыя поступу часу сведчыла пра абсалютнае захапленне мастаком убачаным. Як правіла, адлюстраванне нябачных па маштабу і памерах падзей спакваля набывала знарок ўтрыраваную падсветку, дадатковыя сэнсавыя абертоны.

І ўсё ж, нягледзячы на пераемнасць матываў і вобразаў дарэвалюцыйнай паэзіі, свет стыхій атрымаў у Якуба Коласа новае сэнсавае напаўненне. Дыскурсіўна-паэтычная структура яго радыкальна трансфармуецца дзякуючы звароту паэта да аўтатэксту (наратыўнага тэксту), яго *кантэкстуальна-часавай адаптацыі* (актуалізацыі) з улікам новай сацыяльна-гістарычнай сітуацыі. У выніку два часавыя ўзроўні як бы факусуюцца ў адно, што дазваляе

[1] Тычына М. Якуб Колас // Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей: У 4 кн. Кн. 3. 1917 – 1941. Мн., 1994. С. 324.

семіятызаваць сучаснае праз мінулае. Так, частата ўжывання вобразаў, звязаных з інфернальнымі матывамі (зіма, вецер, снег, пусташ, цень, страх, цьма), стварае ілюзію іх перманентнай прасторава-часавай працягласці. Асаблівы акцэнт набывае матыў холаду як сіноніма адзіноты, сіроцтва, жабрацтва. Нязменная прысутнасць стыхій як замènніка інфернальнага кантынуума зноў жа наўпрост звязана з чаканнем гібелі, смерці (страху, хваробы, голаду), выступае сінонімам катастрафічнасці.

У вобразнай тканіне Коласавых вершаў 20-х гадоў адсутнічае мяжа паміж з'явамі, станамі, працэсамі — тут пераважае прыродная інерцыя, усеагульная размытасць межаў, невыразнасць, сум — неабарачальная энтрапійнасць, заміранне, безвыходнасць. Доказам таму служыць тое, што прырода ў вершах, якія напісаны пасля 1917 г. і якія ўвайшлі ў зборнік «Водгулле», калі не поўнасцю замаўкае, то насцярожваецца, дранцвее, пазбаўляецца сімфоніі галасоў і гукаў, нямее. Прыклад са зборніка — верш «Дай зірну ў сваё ваконца» (1919), дзе сустракаем наступны змрочны вобразарад: «*і нейк цесна, як ў палонцы, / Ўсё цяжэй зьвісае цьма»;»ня чутно ніякай мовы», «стаяць маўкліва хаты», «ўсё маўчыць, бы сон закляты / Навялі тут ведзьмары*». Заключны акорд верша — карціна жыцця на мяжы згасання, калапсу — раскрывае гуманістычную прыроду хваляванняў паэта, сведчыць пра глыбокае перажыванне ім тымчасовага гістарычнага моманту, які ўспрымаецца як цяжкае і непазбыўнае насланнё:

> І над гэтаю магілай
> Жыцьця цёмнага людзей
> Гостры жуд таемнай сілай
> Налягае ўсё цяжэй.

Вершы падобнага плана, адмыслова падабраныя і экстрапаліраваныя ў зборнік, былі закліканы падкрэсліць «зімнасць», «сцюдзёнасць» рэчаіснасці і разам з тым пакутлівасць духоўных пошукаў паэта. У падобных вершах праступае ідэя супрацьборства чалавека са стыхіяй, што мае на мэце паказаць напружанасць, драматызм і нават трагізм часу, варожага для чалавека. Стыхійныя сілы прыроды ўвасабляюць ідэю безабароннасці чалавека перад жыццёвымі катаклізмамі, атрымліваюць якасць атрыбутаў нячыстай, д'ябальскай сілы. Празрыстымі і відавочнымі — як ў сэнсе мастацкай метафары, так і ў сэнсе мастацкага сімвала — паўстаюць для нас наступныя паэтычныя канстатацыі: «*сьнег і сьнег вакол, зіма. / І нейк цесна, як ў палонцы, / Ўсё цяжэй зьвісае цьма*» («Дай зірну ў сваё ваконца...»), «*белай мглою ўсё закрыта* («Мяцеліца»), «*поле анямела», «У палёх марозы / Ды вятры гуляюць*» («Зіма»). Варта адзначыць, што матывы зімовай сцюжы, сняжніцы, завірухі становяцца для Якуба Коласа, як, зрэшты, і для ўсёй паэзіі 20-х гадоў адной з устойлівых вобразных універсаліяў, валодаючых шырокім семантычным спектрам. Хаатычны рух ветру ў гэтым кантэксце, прыкладам, увасабляе не нябесны пачатак, а з'яўляецца, хутчэй, яго антонімам, маркёрам інфернальнага свету. Падобныя асацыяцыі маглі ўзнікнуць і ўзнікалі ў вялікай ступені пад уздзеяннем гістарычнай сітуацыі, палітычных і сацыяльных падзей, што выглядае фактам досыць сімптаматычным.

Коласазнаўцы выказваюць меркаванне, што «ў вершах Коласа савецкага часу шмат аналогій з прыроднымі з'явамі, якія ў новых умовах страцілі свой сімвалічны сэнс: сонца, хмары, цемра, святло, захад, усход, зіма, вясна» і што «за гэтай метафорыкай знікала жыццёвая канкрэтыка паслярэвалюцыйнай рэчаіснасці»[1]. З улікам сказанага вышэй варта, думаецца, удакладніць прыведзеныя сцвярджэнні.

---

[1] Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: У 4 т. Мн., 1999. Т. 1. С. 207.

Абсалютна даказана: як і ў Пушкіна, у ранняга Якуба Коласа свет рэчаў вылучаецца выключнай канкрэтнасцю і разнастайнасцю. Функцыя яго — функцыя захавання культурнай сімволікі. І, наадварот, у паэзіі 20-х гадоў назіраецца адначасова канцэнтрацыя і дэматэрыялізацыя матэрыяльнага, канкрэтнага, рэчыўнага, што вядзе да ўзмацнення ролі сімвалічнага. Свет прыроды (прыродных стыхій) менш канкрэтызаваны, пазбаўлены лінейнай сувязі з пэўным кантэкстам і таму мае вялікія патэнцыі для шырокіх інтэрпрэтацый. Стыхія ў Якуба Коласа — гэта найперш катастрофа, якая ў выніку гістарычнай метамарфозы набыла ў сітуацыі развалу, вэрхалу якасць антыбыту. У пазначаны перыяд творчасці як нельга лепш выявілася майстэрства песняра, якое засведчыла сябе ва ўменні строга выверанага кампазіцыйнага размяшчэння матэрыялу, у стварэнні эфекту своеасаблівага паэтычнага сінтэзу, у арганічным звароце да сімвалічных сэнсавых абагульненняў. І гэта з улікам таго, што ў аснову клаўся апрабаваны матэрыял, досыць традыцыйны, а сама творчая індывідуальнасць паэта пры гэтым не выяўляла, на першы погляд, істотнай ідэйна-светапогляднай эвалюцыі на ўзроўні тэм, матываў, агульнай настраёвасці твораў. Але пры гэтым важна ўлічваць адну вельмі важную акалічнасць, а іменна: калі ў кантэксце песняжальбаўскіх настрояў матывы, тэмы і вобразы былі роўныя сабе, г.зн. у большасці сваёй адпавядалі свайму першасна-метафарычнаму эквіваленту, то ў новым гістарычным атачэнні яны нашмат пашыраюць сваю змястоўнасць, узыходзячы да сімвала з ярка акрэсленай ідэйна-светапогляднай (ідэалагічнай, палітычнай) скіраванасцю. Коласаву метафорыку, прадстаўленую ў кантэксце вобразнай ідыяматыкі, можна прызнаць адным са спосабаў канструявання сімвалічнай вобразнасці. Калі, прыкладам, як трапна заўважыла Т. Шамякіна, у творах дакастрычніцкага часу Якуб Колас называе вецер *«сынам прастору»*, *«вольным», «лёгкакрылым», «разгульным», «вечна дарожным», «вандроўнікам»* і напрамую звязвае з ім «магчымасць змянення, пераменаў, надзеяў, спадзяванняў»[1], то ў разглядаемы перыяд творчасці падобная вобразна-метафарычная разнастайнасць відавочна звужае сваё ідэйна-канататыўнае ядро, сэнсава здрабняецца. Цяпер усе гэтыя «вольнасці» пераведзены ў план мінулага, рэтраспектыўнага і існуюць толькі як нейкія гіпатэтычныя дадзенасці, што маюць да сучаснага моманту даволі прыблізнае дачыненне. Калі кіравацца класіфікацыяй М. Эпштэйна, у паэзіі Якуба Коласа згаданага часу пераважае «пануры пейзаж», характэрнымі адзнакамі якога з'яўляюцца змрочнасць, панурасць, аднастайнасць, наяўнасць сацыяльнай падаплёкі. Неабходным складнікам падобнага пейзажу выступае іх выкрывальны змест, дэмакратычная скіраванасць. Мастацкі хранатоп вершаў «панурага пейзажу» стварае манатонны, раўнамерны рух, што вярэдзіць душу, якая прагне або ўсплеску страсці, або вечнага заспакаення. Асабліва заўважаецца тэндэнцыя да «сацыялагізацыі» прыроды, да відавочных паралелей з «несамавітай» людской прыродай, рэчаіснасцю. Прычым «алегорыя» становіцца нават празмерна адкрытай, відавочнай. Вобраз ветра паступова трансфармуецца ў вобраз буры, навальніцы, якія няўхільна пачынаюць дэманстраваць сваю татальна-злавесную запраграмаванасць, становяцца персаніфікаванымі носьбітамі той разбуральнай сілы-навалы, якая мае ўжо не нябеснае, а зямное паходжанне. Зразумела, што рэч ідзе пра рэвалюцыю, дакладней, пра пагібельныя для ўсяго жывога яе наступствы. Неабвержным застаецца факт шматзначнасці мастацкага сэнсу згаданых вобразаў, якія часам набываюць якасць сімвала, атрымліваюць больш шырокую семантыку. «Зімовая» метафорыка, прыкладам, у Якуба Коласа суаднесена з вобразам суда, няволі з апорай на традыцыйныя культурныя парадыгмы.

---

[1] Шамякіна Т. Якуб Колас — пясняр стыхіяў // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1991. № 2. С. 43.

Усё гэта пераканаўча сведчыць пра тое, што зварот да прыродных стыхій стаў пэўным прыёмам, які дапамог стварыць ілюзію сублімацыі быту, напоўніць, прасвятліць яго відавочнай умоўнасцю, сімволікай. Быт у паэзіі Якуба Коласа 20-х гадоў спакваля страчвае сваю цэласнасць-угрунтаванасць, і набывае ўсе адзнакі нябыту, несапраўднага быту, змяшанага з хаатычнай прыроднай стыхіяй. У падобным перайначаным, пераўтвораным быце (= псеўдабыце) яскрава праступаюць контуры дантаўскага пекла.

Такія вершы, як «На раздарожжы», «У дарогу», «На чужыне», «У дарозе», «Дарога», «Дзве дарогі», «Марава», «На крыжавых дарогах» і інш., сведчаць пра складанасць духоўных высілкаў паэта, пра няспраўджанасць яго надзей-спадзяванняў, пра марнасць пошукаў адзіна правільнага шляхупуцявіны. Важнасць і абавязковасць жыццёвага выбару становіцца для Якуба Коласа архіскладанай праблемай, вырашэнне якой абяцае многае змяніць у творчым і жыццёвым лёсе, калі не цалкам перайначыць яго. Адсюль і тая заклапочанасць паэта, які — увесь у палоне роспачы, невідушчасці, разгубленасці. Наколькі значным, лёсавырашальным быў момант выбару, які нязменна паўставаў перад паэтам яшчэ задоўга да сучасных яму падзей, сведчыць адзін з яго вершаў — «На крыжавых дарогах», напісаны ў дакастрычніцкі час і ўключаны ў першы падсавецкі зборнік «Водгулле»:

А куды мне йсці — ня знаю,
Не ўлаўлю дарогі.
І блукаюсь я ад раньня,
Ўсё дарог шукаю...

Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што гэты выбар, як аказалася, не можа стаць вольным. Ён заўсёды кімсьці рэгламентаваны, прадвызначаны. Прыроду той сілы, што не дае даастатку заставацца самім сабою, у Якуба Коласа можна лёгка «вылічыць», разгадаць, падключыўшы ўласную гістарычную дасведчанасць:

Не з дабра ж іду я
К людзям чужаніцам.

Ой, ёсць цемень-сіла
Злосная, ліхая,
Што і любасць тую
Гоніць, разлучае.

Падобныя апакаліпсічныя настроі вельмі характэрныя для творчай манеры Якуба Коласа гэтага часу і з'яўляюцца сведчаннем яго духоўнага стану, выражаюць псіхалагічна-эмацыянальнае адчуванне чалавека, які б'ецца ў пошуках выйсця з духоўнага і сацыяльнага крызісу, якія цалкам суаднесены з буйнейшымі агульначалавечымі трагедыямі. Усё гэта дазваляе гаварыць пра абумоўленасць ідэйнай змястоўнасці твора светапоглядам мастака, яго мастацкай і грамадзянскай пазіцыяй.

Адзначаныя моманты па-свойму выявілі сябе і ў паэме Янкі Купалы «Безназоўнае», дзе можна назіраць устойлівую паўтаральнасць вобразаў-матываў, вобразаў-лейтматываў як праяву пэўнай заканамернасці ў літаратуры. Відавочным падаецца тое, што дамінуючае месца ў паэме, нароўні з сімволікай нараджэння, займае сімволіка «заручын», шлюбу. Яна мае сваю даўнюю традыцыю, сваімі каранямі сягаючую ў міфалагічную, біблейскую і фальклорную стыхію. Ужо ў Апакаліпсісе шматкроць згадваецца святы Іерусалім як метафара нявесты. У літаратуры вобраз нявесты атрымаў далейшую сэнсавую трансфармацыю, звязаную з матывам служэння, пакланення высокім грамадскім мэтам, з пафасам свабодалюбства. У рамане М. Чарнышэўскага «Што рабіць?» вобраз рэвалюцыі-нявесты з'яўляецца ключавым.

Але шырокі і даволі ўстойлівы спектр значэнняў вобраз нявесты набыў у паэзіі паслярэвалюцыйнага часу, асабліва ў сімвалістаў, дзе ідэя містычнага шлюбу цесна перапляталася з ідэяй «рэлігійнай рэвалюцыі», містычнага паяднання чалавека з Богам. Разам з тым гэтая ідэя часта суадносілася з з ідэяй новага дыянісійства, з культам плоці і аргіястычнымі матывамі.

Варта згадаць, што ў прадстаўнікоў рускага сімвалізму (А. Блок, А. Белы) матыў рэвалюцыі — сакральнага шлюбу і ўваскрасення — набыў гучанне «Сусветнай Містэрыі», дзе арганічна паядноўвалася сімволіка адраджэння, вясны, святла, радасці. Хоць, поруч з гэтым, вобраз Расіі-нявесты паступова набываў адрозны ад ранейшага новы семантычны змест, эсхаталагічную афарбоўку, выступаў знакам няспраўджанага чакання. У вершы К. Бальмонта «Меж четырех ветров (зб. «Марево») надзвычай яскрава перададзена адчуванне трагізму, усеагульнай катастрофы, адчужанасці, занядбання адвечных святынь. Вобраз Белай Нявесты пры ўсёй сваёй неадназначнасці становіцца сімвалам неўвасобленага абнаўлення, нават немінучага калапсу:

Мне нигде нет в мире больше места,
В каждом миге новый звон оков.
Приходи же, Белая Невеста,
У которой много женихов[1].

Праз прызму сімволікі шлюбнага хаўрусу добра прачытваецца і верш К. Бальмонта «Проклятая свадьба» (зб. «Марево»). Даследчыкі слушна заўважаюць у ім рысы блазнерскага заклятага вяселля з уласцівым яму прафанаваннем абраду, а таксама матывы, якія ўзыходзяць да пушкінскіх «Д'яблаў». Паэт па-майстэрску абыгрывае фальклорны матыў вяселля «надварот», карыстаючыся прыёмамі травесційнага жанру і разам з тым жыццёвыя рэаліі падае як бы ў скажоным святле, у святле блазнерскага д'ябальскага дзейства.

Падобную карціну назіраем і ў паэме Янкі Купалы «Безназоўнае», дзе згодна з прынцыпам перавернутага адлюстравання ўсё мяняецца месцамі, падаецца ў вобліку супрацьлеглым традыцыйнаму. Сімптаматычна тое, што нявеста («вясельніца») у Янкі Купалы мае засмучаны выгляд («*Спраўляюцца заручыны / Вясельніцы засмучанай / З вясёлым жаніхом*»), што недвухсэнсоўна ўказвае на яе незайздроснае становішча, на ролю падманутай, зачараванай. Больш таго, нявеста-рэвалюцыя аказваецца, можа, не так непазнанай, сколькі падмененай, несапраўднай. Нездарма ў Янкі Купалы яна выступае пад выглядам «яно», «нешта», «безназоўнае». Гэта назвы аднаго сэнсавага плана. Цікавым падаецца ў гэтай сувязі запіс З. Гіпіус у «Пецярбургскіх дзён-ніках», якія ўспрымаюцца сёння як красамоўнае сведчанне эпохі. У 1917 г. пісьменніца робіць запіс: «*Яна,* рэвалюцыя, сапраўдная, патрэбная, пра-вільная, або безаблічнае стыхійнае *Яно*...»[2] Заўважым пры гэтым, што ў вершы той жа З. Гіпіус «14 декабря 1917 года», як і ў шэрагу іншых творах паслярэвалюцыйных гадоў, свабода аказваецца неспазнанай, Нявеста — асепленай, шлюбны пір ператвараецца ў страшэнную блазнерскую оргію.

Даследчыкі творчасці Янкі Купалы звярталі ўвагу на жанравую своеасаблівасць паэмы, структурна-кампазіцыйны прынцып яе пабудовы, называлі яе ўзвелічальным гімнам унутранаму абуджэнню беларуса. Звяртаючы ўвагу на адметнасць архітэктонікі паэмы, Р. Бярозкін пісаў: «Першае, што заўважаеш, чытаючы паэму, — невычэрпнае багацце сродкаў, закліканых перадаць шчаслівае ўзрушэнне пачуццяў, іх святочны ўздым, іх незвычайны

[1] Бальмонт К.Б. Светлый час: Стихотворения и переводы из 50 книг. М., 1992. С. 303.

[2] Гиппиус З.Н. Петербургские дневники. 1914 – 1919. Нью-Йорк; М., 1990. С. 233.

па ўнутранай цэласнасці светла-мажорны каларыт і тон. Уражанне такое, быццам у кожным радку паэмы плюскоча ручай, віецца сцяжок і нейкім асаблівым «малінавым» звонам пераззвоньваюцца цымбалікі»[1]. Але ці так гэта на самай справе?

І. Багдановіч заўважае, што «для творчай эвалюцыі Янкі Купалы паэма «Безназоўнае» вельмі характэрны твор», хоць пры гэтым справядліва адзначана тое, што «ён — новы, непаўторны, непадобны на ўсё іншае»[2], створанае паэтам у ранейшы час. Сапраўды, навізна, непаўторнасць паэмы настолькі відавочная, што натуральна складваецца ўражанне пра «здраду» Янкі Купалы сваёй ранейшай паэзіі. Гэтая непаўторнасць найперш — у рытмічнай своеасаблівасці паэмы, у яе «народным стылі», дзе на першае месца выходзяць прыпеўкавыя рытмы, стыхія народнага карнавалу, раз'юшаных аргійных скокаў:

> Лявоніха... Мяцеліца...
> Без памяці вяселяцца...
> — Гэй, дзьмі ў дуду, дудар!
> Аколіца-аселіца
> Пад ногі сонцам сцелецца...

Дзіўны вясельны абрад-баляванне, дзе адначасова «*нуда маўчыць ціхом*» і «*без памяці вяселяцца*» ніяк не выпадае назваць гімнам жыццю, радасці, святлу. Паэма ўся саткана з кантрастаў, рэзкіх пераходаў, туманных намёкаў, метамарфозаў. Вобразы-сімвалы з калейдаскапічнай хуткасцю пераўвасабляюцца і змяняюць адзін аднаго. «Светла-мажорны каларыт і тон» выдае вельмі ж ужо хісткім, несапраўдным, бо заглушаецца нейкай таямніча незразумелай дысгармоніяй, адчуваннем драматызму і барацьбы стыхій, нараджэння чагосьці ў страшных пакутах. Наяве рытуальна-міфалагічны элемент *народзін / пахавання.* У эсхаталагічнай карціне свету, створанай творчай фантазіяй Янкі Купалы, дзе «*скаваная сіла паўстала / Бурай... навалай...*», дзе «*беларускія межы / Ўсталі з залежы*» і «*ўзводзіцца будыніна / На іншы склад і лад...*», татальны крах і нараджэнне новага выступаюць гранямі адзінага працэсу, міфапаэтычнымі заменнікамі трагічнай рэальнасці. Тут асабліва яскрава ўвасоблена ідэя злучэння касмаганічнага міфа і сучаснасці, рэальных гістарычных катаклізмаў. У выніку ж планетарная сімволіка касмаганічнага міфа набывае неадназначны, нават здзекліва-юродзівы сэнс:

> Сяляне і сялянкі!
> Цацанкі-абяцанкі
> Збываюцца для вас;
> Выходзьце на палянкі,
> Як зоры, як заранкі,
> І сейце ў добры час.

Сур'ёзнасць моманту спакваля атрымлівае псеўдаідылічную падсветку дзякуючы парушэнню лексічнай аднароднасці, лексічнай зніжанасці вобраза («*цацанкі-абяцанкі*»), што натуральна выклікае іранічнае ўспрыманне ўсяго слоўнікаваму. Рытміка становіцца наўмысна «інфантыльнай», а структура паэтычнага сінтаксісу падпарадкаванай прынцыпу падкрэсленай трывіяльнасці. Пры гэтым матыў выспявання нечага светлага, вялікаснага свядома апушчаны, а замест гэтага — сухая канстатацыя «празаічнага» выніку:

> Чакаюць стравы жораны —
> Зярнятаў незамораных,
> Чакаюць на ўмалот.

---

[1] Бярозкін Р. Свет Купалы. Звенні. Мн., 1981. С. 187 – 188.
[2] Багдановіч І. Янка Купала і рамантызм. Мн., 1989. С. 190.

І гэтае прыглушана-іранічнае «зярнятаў незамораных», пастаўленае ў кантэкст семантычнага ладу псеўдакасмаганічнай сімволікі, набывае надзвычай красамоўны сэнс. Іронія і самаіронія выступаюць не толькі ў якасці вобразна-выяўленчых сродкаў, стылістычнага прыёму, але набываюць усе адзнакі ідэйна-матываванай дамінанты, становяцца магутным «выхаваўчым» стымулам.

Абумоўленая не толькі ўласна светаўспрыманнем паэта, але і вялікай гістарычнай драмы беларускай нацыі купалаўская іронія і ў паэме «Безназоўнае», як, зрэшты, і ва ўсёй творчасці савецкага часу дасягае свайго абсалютнага апагею, становіцца ўсеабдымнай, усёпранікальнай. Гэта быў своеасаблівы апазнавальны (эмблематычны) знак, які скрыта ўказваў на тое, дзе можна чакаць фальш, дзе гэты фальш мог сябе праявіць і праяўляў. Не закалыхваць думку, не ісці на павадзе ў спрафанаванага мяшчанскага густу, а заклікаць «думнае грамадства» да суразмовы, актывізаваць яго ўнутрана-пошукавы патэнцыял — вось што станавілася першаступеннай задачай паэта, яго мастацкім і грамадзянскім крэда. Янка Купала недвухсэнсоўна заклікаў чытача быць не легкадумным спажыўцом, а адкрывальнікам сутнасцей і даваў на гэта патэнцыяльны шанц. Іронія, гратэск, а ў больш шырокім сэнсе — умоўна-прэпарыраваны матэрыял — служылі сродкам прадухілення камунікатыўнага вакууму, сродкам унікнення непаразуменняў паміж чытачом і мастаком. Купалаўскую іранічную манеру ў гэтай сувязі варта ўспрымаць не столькі як даніну рамантызму з яго нязбытнай верай у светлы ідэал, колькі як даніну часу з яго непастаяннай, хутказменлівай сутнасцю, з яго неўдаваным скамароствам, што міжволі схіляла мастака станавіцца ў іранічную пазіцыю ў адносінах да ўласных спадзяванняў на лёгкі шлях наладжвання вартага чалавека жыцця. Гратэскна-травесційнае абыгрыванне знешняй данасці станавілася не толькі адным сродкам увасаблення эстэтычнага ідэалу (антыідэалу), але і выходзіла за межы мастацкай формы і вобразнасці.

Сваёй творчасцю Янка Купала стымуляваў мысленчы багаж чытача, «дражніў» яго, міжволі схіляў да глыбокага спасціжэння сэнсу сваіх твораў праз сістэму звыклых і параўнальна лёгка распазнавальных вобразаў-кодаў. Доказам таму можа служыць і вельмі блізкая сваім гучаннем да «Безназоўнага» паэма Янкі Купалы «З угодкавых настрояў», напісаная з нагоды дзесяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Тая ж песенная мелодыя, той жа рытм прытанцоўвання, тое ж змяшанне «празаізмаў» і «паэтызмаў»... А над усім — іронія, іронія, іронія:

> На дзесятыя угодкі
> Варма вараць мёд салодкі,
> А па мёдзе — рукі ў бок
> Ды у скокі крок у крок!
>
> Скача горад, скача вёска,
> Адно іскры з-пад падноскаў...
> Скачы, ўнуча, скачы, дзед,
> Ад пабеды да пабед!

Набыўшы сацыяльна-палітычную скіраванасць, іронія арганічна спалучае ў сабе рысы гнеўна-пратэстнага памфлета і сатырычнага, гратэскнага пісьма, пранізвае ўсе элементы зместу і формы паэм. «Угодкавыя настроі», па сутнасці, выліваюцца ў бескампраміснае непрыманне Янкам Купалам уяўных святынь, фальшывых каштоўнасцей грамадства, якому маральна-этычнае, высокаграмадзянскае падмянілі бездухоўнай і бяздумнай матэрыяй-сурагатам — цялеснай радасцю, «праўдай» дыянісійскага разняволення. Скокі ў згаданым кантэксце становяцца знакам унутранага спусташэння грамадства, якое вычарпала свае каштоўнасныя патэнцыі.

Рэвалюцыя («безназоўнае», «яно», «штосьці») замест чаканага вызвалення, свабоды заканчваецца ў Янкі Купалы святам Вясёлага Жаніха. Вобраз апошняга — гэта не што іншае, як метамарфозная іпастась ілжэжаніха, ілжэпрарока, існае ўвасабленне д'ябальскіх сіл. Красамоўным выглядае той момант, што народ, які з'яўляецца непасрэдным удзельнікам шалёных скокаў, выглядае не ахвярай насілля, а ўтрапёным катам свабоды, бо «*з тутэйшых музык / Гучная капэля, / Хто ў дуду, хто пад смык, / Граюць ёй* («вясельніцы засмучанай». — ***В. М.***) *вяселле*». Матыў бяседы, грання, заручын, вяселля набывае ўсе адзнакі блазнерскага маскарада, парадыйнага, спрафанаванага ўзнаўлення рытуальнага дзейства ў яго перавернутым адлюстраванні. Беручы пад увагу адзначаныя моманты, магчыма дапусціць, і для гэтага маюцца ўсе падставы, што вобраз купалаўскай «вясельніцы» ўступае ў адзінае ўстойлівае семантычнае поле са словам *заложніца*, з'яўляючыся яго паэтычным адэкватам-сінонімам. А вясёлы жаніх у такім разе асацыятыўна выступае сімвалічным заменнікам турмы, астрога, нават магілы, царства Аіда. Сапраўды, засмучанай вясельніца можа быць толькі ў няволі, у палоне нейкай безаблічнай, безназоўнай сілы, суаднесенай з сілай Д'ябла, Антыхрыста. Прачытанне вобраза «вясельніцы засмучанай» у такім кантэксце дазваляе ўбачыць абагульнена-метафарычны сэнс вобраза, прама суаднесены з падзеямі паслярэвалюцыйнага часу. З улікам падобнага прачытання вобраз рэвалюцыі паўстае не толькі ў цеснай сувязі з вобразам нявесты на шлюбным гулянні — сімволіка паэмы набывае нашмат шырэйшы сэнс. Функцыя самога вобраза безназоўнага істотна пашыраецца. Безназоўнае — гэта не толькі персаніфікаванае ўвасабленне ўласна рэвалюцыі і шырэй — Беларусі-Нявесты, але і сімвалічнае ўвасабленне сутнасці часу, самой эпохі рэвалюцыі.

Спроба расчытаць па-новаму творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, напісаныя ў 20-я гады, пераконвае, думаецца, у тым, што праблема, паднятая ў артыкуле, важная з пункту погляду літаратуразнаўчай метадалогіі і вымагае комплекснага і шырокага гісторыка-літаратурнага падыходу. Яна набывае асаблівае значэнне, бо дазваляе не толькі па-навукому ідэнтыфікаваць ідэйна-эстэтычныя прынцыпы класікаў літаратуры, але і выявіць асноўныя заканамернасці літаратуры згаданага перыяду як пэўнага гістарычнага этапу культурнага развіцця, што ўяўляецца надзённым і актуальным для сучаснага літаратуразнаўства.

### ▸ СВЯТЛАНА МАЧУЛЬСКАЯ

# «РОДНАЕ КАРЭННЕ НАША...»

### *Творчыя здабыткі маладых беларускіх празаікаў і традыцыі ранняй прозы Максіма Гарэцкага*

Максім Гарэцкі — адзін з заснавальнікаў беларускай аналітычнай прозы, прадметам творчага вывучэння якога стаў чалавечы дух. Ужо ў ранніх апавяданнях пісьменнік выяўляе як майстэрства псіхалагічнага аналізу, так і глыбокую філасафічнасць думкі. Ідэя «роднага карэння» як першаасновы маральнай жыццястойкасці асобы з'яўляецца прыярытэтнай у ранняй творчасці Гарэцкага.

Углядаючыся ў творчасць сённяшніх, сучасных аўтараў-празаікаў, бачым, што творчы запавет класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага, звернуты да маладых пісьменнікаў і скіраваны на ўсталяванне трывалых ідэйна-эстэтычных традыцый у літаратуры: «...гадуйцеся на чытанні класікаў і ўдыхайце свежае паветра народнай паэзіі, а маючы ў сабе карані гэтай паэзіі, тчыце праўдзіва-мастацкія ўзоры беларускага жыцця», — многімі ўспрыняты, засвоены і спраўджаны. Аднак багата твораў і такога кшталту, на якія М. Гарэцкі рэагаваў пытаннем: «Але на што мазгі круціць і сабе, і добрым людзям, выціскаючы з сябе гэты самы незвычайны вобраз?» І клапаціўся ён найперш пра адрасатаў гэтай так званай «творчасці» — чытачоў, бо, кажучы словамі пісьменніка, «... ці ёсць у іх час і ці аплоціцца ім гэты час мастацкаю насалодаю, пашырэннем светагляду і г.д.». Гэтая думка М. Гарэцкага датычыцца культуры творчасці, своеасаблівай, кажучы сённяшняй мовай, экалогіі творчасці.

Зыходзячы з гэтых пазіцый, звернемся да параўнання творчай спадчыны М. Гарэцкага з творамі сучаснікаў, сярод якіх нас цікавяць творы кароткага жанру (апавяданні, навелы, абразкі). Беларускімі гарэцказнаўцамі неаднаразова адзначаўся ўплыў нашага класіка як на прозу пачатку XX стагоддзя, так і на беларускую літаратуру ў цэлым. Даследчыца І. Багдановіч у артыкуле «Містычнае ў ранняй прозе М. Гарэцкага і В. Ластоўскага» адзначае: «Паэтыка ранніх апавяданняў М. Гарэцкага ... вылучалася сваёй жанрава-стылёвай адметнасцю і аказала значны ўплыў на станаўленне беларускай нацыянальнай прозы пачатку XX стагоддзя». Шырока вядомае і выказванне А. Адамовіча: «Творчасць М. Гарэцкага, прысутнасць яе «гравітацыйна» ўплывае на ўсю глыбіню беларускай літаратуры XX стагоддзя». І. Гоўзіч, параўноўваючы творчыя набыткі М. Гарэцкага і Я. Сіпакова, сцвярджае, што «... «малая проза» Максіма Гарэцкага з'явілася тым падмуркам, на якім пазней «вырасла» і сфарміравалася «малая проза» пазнейшага пакалення, яна скандэнсавала ў сабе ўсе агульнаеўрапейскія

набыткі: асацыятыўнасць, медытатыўнасць, алегарычнасць, прытчападобнасць, дыдактызм».

Сапраўды М. Гарэцкім створаны пазачасовыя вобразы, і таму не выклікае сумненняў, што спадчына яго генетычна ўплывала і працягвае ўплываць на літаратурны працэс у Беларусі. Прынамсі, хвалюючыя маладога студэнта-каморніка пытанні «Адкуль усё і што яно?» праецыруюцца і на творчасць сучасных аўтараў-апавядальнікаў, і побач з пошукамі новых магчымасцей сучаснай прозы адбываецца перастварэнне, адаптаванне да сучасных умоў класічнай спадчыны.

Кажучы пра пераемнасць традыцый у сучаснай літаратуры, спашлёмся і на артыкул У. Конана «У пошуках страчанага раю. Міфалагічныя і біблейскія матывы ў літаратуры XX стагоддзя», дзе аўтар адзначае, што «Мастацкая культура канца XX стагоддзя пераклікаецца з пачаткам, станаўленнем — нашаніўскім нацыянальным адраджэннем». Гэты «пераклік» праяўляецца на аснове глыбокага ўнутранага падабенства творчага мыслення пісьменнікаў, іх ментальнасці і не кранае тым часам творчай індывідуальнасці кожнага з іх.

Якія ж традыцыі дамінуюць у сучаснай прозе малога жанру? Шэраг апавяданняў, якія апублікаваны за апошнія гады ў часопісах «Полымя» і «Маладосць», увасабляюць міфалагічнае светаўспрыманне. Такая сістэма поглядаў, характэрная для сучаснай літаратуры, трансфармуецца ў творах маладых беларускіх празаікаў у шматлікія філасофскія абагульненні і сімвалы. Па-ранейшаму трывалымі застаюцца матывы патрыятызму, родавага прыцягнення да сваёй «малой радзімы». Зазначым, што найбольш адухоўленай, энергетычна напоўненай і важкай застаецца так званая «вясковая» проза, што і з'яўляецца працягам тых традыцый, якія мы даследуем. Вартасці такой прозы, пазбаўленай ад пастаральнасці і ідылічнасці, у аснове якой закладзена цікавасць да ўнутранага свету простага на першы погляд чалавека, ні ў якім разе не могуць з-за гэтага зніжацца. Наадварот, гэта сведчыць пра тое, што найбольш таленавітыя сучасныя аўтары па-ранейшаму даследуюць духоўную працу вяскоўца, які, па словах М. Гарэцкага, «заўсёды больш схіляўся к патрэбам душы, чымся к патрэбам цела...»

Беларус ужо ад нараджэння распачынае напружаную духоўную працу, у працэсе якой праз пакуты ён творча ўзбагачае свой унутраны свет: «Я з'явіўся на свет з расплюшчанымі вачыма. Так ужо цікавіў ён мяне з самага пачатку! З вышыні пražытага жыццё ўжо не здаецца такім цікавым, але тады...» — гэта словы У. Мароза з яго дзённікавых аповедаў «Тры сшыткі». Лагічны працяг гэтай думкі дае літаратуразнавец М. Тычына: «Уласцівае беларускаму менталітэту паэтычнае ўспрыманне свету з часам выявілася ў павышанай цікавасці да духоўнага жыцця чалавека, да яго пачуццяў, ідэй, мараў і мэтаў». Характэрнае бачанне свету вачыма захопленага дзіцяці перарастае ў юначы рамантызм, які нараджаецца ад усведамлення асобаю сваёй нацыянальнай і этнічнай прыналежнасці. «Дух вяскоўца» жыве ў творах многіх сучасных празаікаў. Іх героі па-ранейшаму застаюцца гарадскімі толькі фармальна, нават калі з'яўляюцца гараджанамі ўжо не ў першым пакаленні: «Ва ўмовах гарадскога побыту, дзе стандартызацыя вытручвае рэшткі нацыянальнай бытавой культуры і мовы, замяняючы іх культурай масавай і канцылярска-бульварным жаргонам, мігранты адчуваюць сябе няўтульна», — піша А. Рагуля, даследуючы сучасную прозу, і дадае, што «праблема пераемнасці маральных каштоўнасцей стала адметнай рысай сучаснай літаратуры».

Як жа вырашаюць гэтую праблему сучасныя аўтары? Як супрацьстаяць яны пагрозе духоўнага абясцэньвання?

А. Глобус у аўтабіяграфічных абразках «Дзед» дэманструе, што карані, якімі жывіцца гарадскі жыхар, па-ранейшаму цягнуць яго на вёску: «Заўсё-

ды, калі жыццё пераломлівала, страчвала каштоўнасць, а жах і няпэўнасць авалодвалі маёй душой, згадваўся дзед, ягонае простае сялянскае жыццё. Я казаў сабе, калі твае творчыя і палітычныя ілюзіі рассыплюцца, калі грошы скончацца, калі сябры знікнуць, ты вернешся ў вёску Варакомшчына і будзеш пасвіць каровы, і ў полі пад вялікім небам пісацьмеш вершы. Менавіта вобраз дзеда Валодзі доўгі час даваў мне кропку апірышча. Зямля, поле, дарога, хата, каровы, калодзеж, рэчка, лес. Усё гэта — аснова, усё непарыўна было звязана з дзедам».

Усведамленне вялікай страты агульналюдскіх каштоўнасцей, носьбітамі якіх з'яўляліся продкі, патрэба ў захаванні «асновы» — агульны клопат як сучасных беларускіх літаратараў, так і іх папярэднікаў. Адчуваем перагук з апавяданнем М. Гарэцкага «Роднае карэнне», дзе стары «сват, сівы дзед Яхім» таксама заўважае: «Дык вось, Архіп, любы ты мой! Бачу я, крэпка ў табе роднае карэнне наша», да слоў якога Архіп, у сваю чаргу, ставіцца з вялікай павагай, думаючы пра дзеда: «...чаго ён не раскажа, не нагаворыць, і ўсё разумна, к толку, лішняга не пачуеш ад старога».

Здрада ж «роднаму карэнню» вядзе да спустошанасці, непрытульнага і бессэнсоўнага бадзяння па свеце. Да такой высновы прыходзіць маладая аўтарка абразка «Яблыкі» Алена Рулевіч, якая апісвае вобраз чалавека, што паспрабаваў парваць родавыя сувязі і са словамі: «Не жадаю ўсё жыццё слухаць каровінае мыканне!» — пайшоў у свет. У апавяданні гучаць матывы абвінавачвання і расплаты: «Усё было б добра, калі б не маленькая недарэчнасць: недзе ў табе, там, унутры, зноў і зноў нараджаецца слабы, але такі знаёмы, родны пах яблыкаў. Ён кліча цябе да бацькоўскай хаты».

Магутная рэч — покліч сэрца да зямлі продкаў — знаходзіць увасабленне і ў творах іншых сучасных аўтараў. «Роднае карэнне» прыцягвае нават тады, калі родны мясцінаю з'яўляецца «...заспаны, зачуханы, закінуты і Богам забыты гарадскі пасёлак. Са смярдзючымі дымнымі заводскімі комінамі, карацей, дно — горш не бывае ... самае любае і дарагое месца на белым свеце. Самае-самае...» Гэта цытата з навелы У. Сцяпана «Кіно», у якой балюча паўстае вобраз «бязбацькавіча» — сіраты пры жывых бацьках, які паралельны вобразу дарослага чалавека, вытокі духоўнай непрытульнасці якога знаходзяцца ў яго дзяцінстве, але там жа і яго паратунак. Гэта расчараваны чалавек, што адчувае сябе «прымаком» у горадзе: «Пакуль яшчэ можна трываць... Пакуль яшчэ трываю. Горад падаецца чужым. Святочныя агеньчыкі, елкі, гірлянды рознакаляровыя і перадсвяточная мітусня — раздражняюць неміласэрна. Заснуць не магу. Бяссонніца выпальвае думкі, руйнуе логіку. Пакінутасць. Спустошанасць і злосць... Але яшчэ можна трываць... Пытанні і размовы не трываю. Баюся ўласнай істэрыкі, баюся зляцець з «катушак» і нарабіць непапраўнага». Гэты чалавек «Ікс», які не мае ўласнага імя, успамінае, як шасцігадовым хлапчуком яго вёз на санках п'яны бацька і згубіў у сумёце. Дзіця пачало замярзаць, і яму прымроіліся залатыя сланы, якія ішлі праз яго пасёлак. Мроя гэтая стала для чалавека «Ікс», які, аднак, не замёрз у снезе, а застаўся жыць, паратункам на ўсе астатнія гады. Навела пабудаваная на прынцыпе кантрасту і выклікае шэраг асацыяцый і паралеляў.

Найперш узгадваецца калядная казка Г. Х. Андэрсена «Дзяўчынка з запалкамі». Аднак дацкі казачнік дазваляе сваёй гераіні памерці, каб знайсці шчасце ў па-за зямным існаванні, пазбавіцца ад зямных пакут. Па-іншаму вырашае лёс свайго героя У. Сцяпан, а перад ім М. Гарэцкі.

Герой апавядання М. Гарэцкага «Рунь» Уладзімер З. таксама сірата, які вырастае ў рэфлексуючага, захопленага «беларускай справай» юнака. Радкі з яго дзённіка вельмі адпавядаюць словам папярэдне ўзгаданага героя «Ікс»: «Як цяжка пачынаецца мой гэты новы год. Людзі ходзяць, гуляюць, вяся-

ляцца, а мне так сумна, так сумна, што хоць ты на свет не глядзі». — І далей. — «Як брыдка ўсё ж бывае часам жыць на свеце». Герой М. Гарэцкага таксама пачынае думаць «пра непапраўнае»: «Не варта жыць, бо няма нічога на свеце, што дзяржала б цябе ў жыцці, што гукала б цябе да жыцця...»

Героя У. Сцяпана ратуе экспрэсіўны, сімвалічна-загадкавы вобраз залатых сланоў, як прамень нейкай нянаскай, усходняй мудрасці — залатыя сланы, якія заўсёды ў руху, — універсальны сімвал таго, што «ўсё мінаецца і ўсё ёсць вечнае», — як прамовіў услед за царом Саламонам М. Гарэцкі. У. Сцяпан заканчвае сваё апавяданне словамі: «Пакуль яшчэ можна трываць...» З гэтым сімвалічным беларускім «доўгацярпеннем» не згаджаўся лірычны герой абразка М. Гарэцкага «Стогны душы»: «Я не хачу трываць! І не вытрываю, бо нельга вытрываць. Я скіну, сарву ланцугі свайго старога жыцця і зраблю жыццё новае. Зраблю!» Цяперашнім маладым аўтарам, якія пастаўлены ў наўрад ці горшыя ўмовы, часам не хапае таго самага сацыяльнага аптымізму, якім валодаў М. Гарэцкі і пра які пісалі Д. Бугаёў і Г. Гарэцкі. «Пры ўсёй глыбіні сваіх часовых расчараванняў і сумненняў, якія, здараліся, мелі адносіны і да вельмі важных праблем, пісьменнік наўрад ці страчваў калі канчаткова, прынамсі, надоўга, веру ў стваральныя сілы свайго народа, у яго здольнасць да грамадскага прагрэсу, да гістарычнай творчасці, да абнаўлення жыцця». Гэта словы Д. Бугаёва. Гаўрыла Гарэцкі лічыў сацыяльны аптымізм «самай істотнай асаблівасцю жыцця і творчасці» свайго брата. Прычыны гэтага аптымізму ён бачыць у тых жа «родных карэннях», праз якія жывілася гэтая творчасць, у беларускім фальклоры, у якім «змяшчалася ўся беларуская гісторыя і культура, доказы неўміручасці беларускай нацыі, крыніца маладой беларускай культуры».

У. Конан сцвярджае што: «...палярныя міфалагемы Раю і Пекла з улікам разнастайнасці іх вар'іравання былі і застаюцца фундаментальнымі архетыпамі нацыянальна-беларускай і, як можна меркаваць, універсальнай мастацкай культуры. Усе іншыя архетыпы непасрэдна або ўскосна вынікаюць з гэтых зыходных і завяршальных сюжэтаў Біблії і міфапаэтычнай традыцыі, шматгранна выяўленай у беларускай міфалогіі славяна-балцкага паходжання». Аўтар заўважае, што М. Гарэцкі самабытна выявіў гэтыя архетыпы. І сапраўды, у кожным з апавяданняў М. Гарэцкага мы сустракаемся з настойлівым імкненнем зазірнуць па той бок «патаемнага», знайсці сэнс чалавечага існавання, зразумець прыроду рэфлексіі: «Забабоны мае! Адкуль вы? Я ж ведаю, што нічога таго няма... чаго ... А ці ж ведаю? Не!» Аднак сустракаем і мудрую перасцярогу: «... колькі трэба, ведай, а ў вялікае не залазь, а то каб шыю, бывае, не скруціць. І не думай, што яно такое простае... Што няма нічога...»

У адрозненне ад М. Гарэцкага, які да асэнсавання «страшных» пытанняў падыходзіў канструктыўна, ашчаджаючы кволую псіхіку новаспечанага інтэлігента, падаючы яму надзею на тое, што здаровы сэнс заўсёды пераможа і што «ўнукі нашы больш за нас ведаць будуць», сучасныя аўтары-апавядальнікі часта не могуць падараваць сваім героям раскошу спадзявацца на лепшае, і іх творы такім чынам кантрастуюць з творамі М. Гарэцкага.

У апавяданні «Закуцце» Ю. Нератка гучыць матыў малавернасці, бяспамяцтва, дакранання да нечага таемна-вялікага, важнага, што ўжо цяперашняму пакаленню, свядомасць якога муціравала пад уздзеяннем многіх сучасных акалічнасцей, не спасцігнуць і не разгадаць ніколі.

Апавяданне «Закуцце» перагукаецца з «Родным карэннем» М. Гарэцкага, у якім студэнт Архіп Лінкевіч, едучы дадому, мысліць: «... а цяпер жа ў нашай вёсцы — сяле Закутным — рай!» Закуцце — сапраўды мясціна, якая на фоне ўсеагульнай алкагалізацыі і інтэлектуальнай дэградацыі вёскі захавала той адгалосак даўняга раю, які чуецца яшчэ з дахрысціянства, бо ў гэтай вёс-

цы дажывае свой век старая знахарка, захавальніца язычніцкіх традыцый, Марфа Цімафееўна.

У адрозненне ад Архіпа, які едзе на вакацыі ў родную вёску, герой апавядання Ю. Нератка, сталічны карэспандэнт «залатое пяро» газеты «Сенсацыя і будзённасць» Кірыл Градоўскі, для якога вёска Закуцце — край свету, едзе туды па «сенсацыю», па экзатычны расповед мясцовай знахаркі, і толькі дзеля гэтага трывае бездарожжа і слухае «глыбакадумныя» інтэнцыі праваднікa Мішкі: «Газет не чытаем, — з годнасцю адказаў Мішка. І паблажліва растлумачыў: — На лухту грошы марнаваць... Вы там у сябе атрымаеце па пяць вышэйшых адукацый і прыдумляеце чым заняцца і як людзям галаву тлуміць.» А пазней дадае: «Тут табе не Еўропа. Мы самі па сабе».

Гэтае апавяданне дэманструе непераможную ізаляванасць вёскі ад горада. Вёска па-ранейшаму не ўспрымае паняцце «інтэлігентнасць» як норму, нацыянальную рысу, і гэтак жа неадэкватна рэагуюць аднавяскоўцы на Кліма Шамоўскага з апавядання «У лазні», які «запанеў», на Архіпа Лінкевіча з апавядання «Роднае карэнне», які «панам зрабіўся, па-панску жыць захацеў», так і да сталічнага карэспандэнта з апавядання Ю. Нератка вяскоўцы ставяцца з недаверам. І калі героі М. Гарэцкага яшчэ спрабавалі неяк апраўдацца перад вёскай, наладзіць з ёй узаемаадносіны, то Кірыл Градоўскі, пра карані і паходжанне якога аўтар нічога не паведамляе, увасабляе сабою новы тып чалавека — псеўдаінтэлігента, які духоўныя каштоўнасці ўспрымае толькі намінальна і па-сучаснаму цынічна дбае найперш пра ўласную карысць. Напрыклад, калі Кірылу не вельмі задавальняе занадта бытавы і далёкі ад запатрабаванняў «іранічнай сталіцы» расповед старой знахаркі, аўтар удакладняе: «Зрэшты, карэспадэнт Градоўскі быў здольны і не з такіх венікаў зрабіць ікебану». Павярхоўная размова са знахаркай пакідае ў яго ўражанне, што ён ужо «...адчуў атмасферу. Загаловак кшталту «Апошняя споведзь вядзьмаркі» даваў раздольнае поле для фантазіі і дарыў надзею на вялікую колькасць чытачоў, якія на яго клюнуць». Старая знахарка мудра дакарае сталічнага журналіста: «З мітусні ўзнік, у мітусню вернешся. А са мною чалавекам пабудзь...» Ёй трэба некаму перадаць свае веды — шматвяковы вопыт, накоплены продкамі, але Кірыл — чалавек перакаціполе, які не мае сваіх каранёў — не ўмее ўзяць гэтыя веды. Таму, толькі злёгку дакрануўшыся да міфалагічнай спадчыны продкаў, ён страчвае яе беззваротна і нават не разумее кошту сваёй страты.

Не ўхваляючы празмерную перанасычанасць твора язычніцкімі персанажамі, адзначым, што, магчыма, такім чынам і ствараюцца своеасаблівы каларыт і атмасфера, якія дапамагаюць больш яскрава адчуць важкасць спадчыны, страчанай героем.

Апавяданне «Закуцце» Ю. Нераток заканчвае сімвалічна-трагічнымі словамі дваякага сэнсу: «А дарогі як не было, так няма», якія можна дапасаваць да слоў М. Гарэцкага з апавядання «Што яно?»: «Няма веры ні ў тое, ні ў гэта, а жудасны кірунак ёсць, ёсць ён, пракляты... Нашто мне далі яго, нашто?»

Суцяшае, аднак, тое, што «пошук дарогі» многімі аўтарамі паспяхова працягваецца. Адметным у гэтым сэнсе з'яўляецца апавяданне С. Сцяпана «Рэчка Геракліта». Гэта проза, адметная сваёй філасафічнасцю, цягай героя да самапазнання і пазнання свету. Тут мы маем сінтэз традыцый, бо па сваёй паэтычнасці і касмічнасці яна набліжаецца да лірыкі М. Багдановіча, а па інтэлектуальнай змястоўнасці яе можна параўнаць з прозай М. Гарэцкага:

У С. Сцяпана: «Над прыціхлай, заснуўшай вёскай, над магілкай, дзе пахаваныя яго бацькі, дзяды, прадзеды, над роднай зямлёй, дзе ён нарадзіўся і вырас, свяцілася тысячамі далёкіх зорак неба. І трывожылася, балела душа,

і біўся, як птушка ў клетцы, слабы чалавечы розум, шукаючы разгадку і сэнс жыцця, і не знаходзіў яе...» Гэтая настраёвая плынь сугучная лірычным роздумам М.Багдановіча: «Хто мы такія ? // Толькі падарожныя, папутнікі сярод нябёс. // На што ж на зямлі // Сваркі і звадкі, боль і горыч, // Калі ўсе мы разам ляцім да зор?», — а таксама з філасофскай плынню свядомасці Гарэцкага: «І ад усяго, навокал спячага, ад усяе таемнай незразумелай і страшнай прыроды, звычайнай, а не цямлівай, цяпер ад яе ў цямноце са ўсіх бакоў ляцела адна думка-загадка: адкуля ўсё і што яно?»

Герой апавядання С. Сцяпана Іван прыязджае ў родныя мясціны апарадкаваць магілы бацькоў, наведаць родную хату. Яго агортваюць успаміны маленства. І паступова думкі яго скіроўваюцца да разваг пра хуткаплыннасць чалавечага жыцця і немагчымасць спасцігнуць вышэйшы сэнс чалавечага існавання. Аўтар падае гэтыя развыжанні пасродкам унутранага маналога: «Мне Бог даў розум... Няўжо толькі для таго, каб усвядоміць сваю бездапаможнасць перад часам? Каб разумець і ведаць, што дні мае на гэтай зямлі злічаны? Калі ж ёсць нейкая вышэйшая праўда і справядлівасць у тым, што я павінен памерці, а не просты біялагічны закон абнаўлення, то чаму ж ты, Гасподзь, не даў мне такую сілу розуму, каб я ўсвядоміў справядлівасць твайго светаўладкавання? На што ж ты змушаеш нас мучыцца і сумнявацца?..»

Адпаведнае парадаксальнае мысленне назіраецца і ў апавяданні М. Гарэцкага «Што яно?»: «Жыццё, жыццё... Як тая мара. К чаму так Бог даў, з чаго яно пайшло?»

Душэўную ўзрушанасць Івана з апавядання С. Сцяпана «Рэчка Геракліта» дапамагае разважыць малады, упэўнены ў сваёй веры, а таму і духоўна ўраўнаважаны святар, размова з якім адбылася на могілках. Такім чынам, чалавек, дакрануўшыся да ўсяго роднага, хай сабе і занядбанага, да родных магіл, атрымлівае сілы жыць далей. Тут дарэчы ўспамінаюцца словы дзеда Яхіма з апавядання «Роднае карэнне» М. Гарэцкага: «... часцей у роднае гняздзечка залятай, дык не будзе яно здавацца табе страшным».

Своеасаблівым дапаўненнем да нашага разгляду можа быць і выснова, якую зрабіў У. Міхно ў сваёй прыпавесці «Хата», дзе слова Хата падаецца як уласнае імя, ідэнтыфікуецца з жывым, адухоўленым, мыслячым арганізмам, і такім чынам ствараецца метафарычны вобраз хаты: хата прагніўшая і ўчарнелая, але свая, заўсёды родная і аддана чакаючая свайго гаспадара, як маці, як Радзіма. Такі прыём, дарэчы, выкарыстоўвае і М. Гарэцкі ў апавяданні «Цёмны Лес». Апавяданне У. Міхно заканчваецца сімвалічным запаветам: «Каб душу не астудзіць на жыццёвых скразняках, каб мець на Зямлі апору, а на небе — блаславенне, каб не ўмерці немчуром, забыўшыся матчыну мову, пільнуйцеся сваіх хат!»

Такім чынам, агляд творчых здабыткаў сучасных беларускіх празаікаў, аўтараў малога жанру, дае падставы меркаваць, што іх творчасць традыцыйна набліжаецца да спадчыны класіка беларускай літаратуры М. Гарэцкага, свядома абапіраючыся на тую ж сістэму каштоўнасцей, і не губляе пры гэтым індывідуальнасці.

АЛЯКСЕЙ НЕНАДАВЕЦ

# ТЭМА ПАЛЯВАННЯ Ў ПРОЗЕ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Не ведаем дакладна, але нам здаецца, што да гэтай тэмы ў творчасці Уладзіміра Караткевіча яшчэ ніхто не звяртаўся. А дарма. Аўтар паказаў сябе адмысловым аматарам і знаўцам палявання (хоць у жыцці, мабыць, ніколі ім не займаўся). Затое распавёў, як гэта рабілі продкі. Вядома, што палявалі яны вельмі актыўна. Гэта давала адным ежу, калі ўвогуле не было чаго есці, другім — асалоду ад таго, што выходзілі пераможцамі ў барацьбе з лютымі дзікімі звярамі. Прыгадаем старадаўні беларускі звычай, паводле якога вынікала, што для таго, каб юнака залічылі ў мужчыны, ён павінен быў пераплыць вялікую, вірлівую рэчку, самастойна ўпаляваць буйнога звера і пражыць не менш за тыдзень у глухой, непралазнай пушчы. Толькі пасля такіх выпрабаванняў яго прызнавалі дарослым і ён меў права заводзіць уласную сям'ю, бо ўсім даказаў, што здольны ўладкаваць, пракарміць і абараніць яе.

Для жыўнасці ў нас месца хапала. Далей працытуем Ул. Караткевіча: «Тысячу год назад большую частку Цэнтральнай і Усходняй Еўропы пакрываў дзікі і цёмны першабытны лес. На многія сотні кіламетраў шумелі лясныя волаты, з цяжкасцю пракладалі свой шлях праз завалы карычнева-празрыстыя глухія рэкі, звінела камар'ё, паўсюль, як кавалкі мяса, чырванелі мухаморы і бранзавелі «слязніцы», — вялізныя, вышэй калена, баравікі (на Беларусі іх называюць так таму, што на іх ад старасці выступае сляза і капае на зямлю, яны «плачуць». Цяпер такія грыбы можна знайсці толькі ў дужа глухіх мясцінах, куды амаль не ходзяць людзі.

...Тысячу год мерна гучала сякера, вёскі ўгрызаліся ў лес, палі наступалі на пушчы, і на трупах павержаных і спаленых волатаў (такое поле называлася «лядо» ці «ляда») хваляваўся ячмень.

Беларусь паступова бяднела звярамі. Зубр, які сустракаўся ў Палессі і на поўдні Прыдняпроўя яшчэ ў XVIII ст., быў выбіты і збярогся толькі ў Белавежы, быў знішчаны собаль, балотная рысь, або «лемпарт», чорны заяц, што сустракаўся ля Копыся на пачатку XX ст., высакародны алень і многія іншыя. Знік у XVII стагоддзі дзікі бык-тур (некаторыя вучоныя мяркуюць, што гэта ад яго пайшла парода ўкраінскай і палескай шэрай рабочай худобы)».

З цягам развіцця сацыяльна-эканамічных адносін, у залежнасці ад шматлікіх войнаў, бяднела прырода Беларусі. Магчыма, на працягу аднаго пакалення, ці, як гаворыцца «на працягу аднаго чалавечага жыцця» — гэта і не заўважна. Але што такое адно чалавечае жыццё для гісторыі. Як той са-

мы лісток, што восенню адрываецца ад роднага дрэва. Вось ён тут і вось яго ўжо няма зусім. Прыгадаем, як было даўней. «Неяк жылі (продкі. — **А. Н.**), ставілі і берагілі дзяды і прадзеды мёд і віно — і выпіць яго за адно жыццё было цяжкавата нават Выліваху. У лясах была жывая закуска, касулі ды туры. На балотах связі, кражныя чагронкі, гразавікі, сярухі, шылахвосткі...

...Набяруць гарэлкі, паедуць у лугі, дзіка заб'юць, ды на лаўцах пякуць дзічыну, ды песні гарлаюць — от і ўсё іхняе набажэства пану богу за тое, што даў ім жыццё» («Ладдзя роспачы»).

Самае цікавае, што ўпаляваць дзіка не лічылася адзнакай асаблівай смеласці і ўмельства, а справай даволі будзённай. Упаляваў — добра, не, значыцца, не надта — пашанцавала паляўнічаму, а болей — пашанцавала зверу. Маглі звярнуць увагу на велічыню дзіка, каб потым павохаць ды пабожкаць, маўляў, дзе гэта ён такі ўзгадаваўся?! «І тады Юрка нахіліўся і лянівым рыўком ускінуў на плечы двухгадовага секача, ашчаціненага, брудна-бурага, са злосна ашчэранай мордай.

Гуляючы, кінуў яго на байду.

...Бабы з захапленнем загалёкамі над тушай. А Юрка глядзеў на іх падазрона-спакойнымі вачыма.

— Нашто ж квактаць? — сказаў ён нарэшце. — Добра каб япрук, а то ж так, нядаўна з галавасцікаў выйшаў.

Галавасцікамі ён называў галавастых дзікіх парсюкоў.

— Ну, гэта ты не кажы, — сказаў Наталін бацька, — добры дзік. Бач, іклы ўжо якія.

— Добра, давайце бабы. Тады ўжо і мне тое адваліце смажанага. Бо ў мяне ўжо хлеб скончыўся, паміраю з голаду» («Блакіт і золата дня»).

Вось яно як. Жанчыны захапляюцца ўпаляваным зверам, іх аўтарытэтна падтрымлівае Наталін бацька, а сам Юрка называе дзіка «галавасцікам». Маўляў, чаго ўжо там пахваляцца, калі б на маім месцы яго любы ўпаляваў. Проста, падвярнуўся дзік, то не адграбацца ж, не праходзіць міма свежага мяса.

Беларусы, па сведчанні Ул. Караткевіча, вельмі азартныя людзі, асабліва тыя, якія мелі хоць нейкае дачыненне да палявання. Вось як характарызуе Антон Косміч свайго сябрука Адама Хілінскага з рамана «Чорны замак Альшанскі»: «І толькі на паляванні ці на рыбалцы (ездзілі некалькі разоў), або ў кватэры, дзе няма староніх, усё гэта замяняецца тыпова славянскай, мала таго, беларускай разбоўтанасцю. Сон дзе папала; куцавейкаю ля вогнішчаў, пяцьсот разоў «лісіцу» спаймаў»; стаптаныя чобаты — лата на лаце. І ўсё адно. Нават у лахманах, — фацэт, нічога не скажаш. І азартны, зараза. Аднойчы, калі бесталковы сабака шукаў у другім баку, проста сам, ва ўсёй амуніцыі, з чаўна ў ваду скочыў. Па качку».

Але, як жартуюць здавён у беларускім народзе, мала пайсці на паляванне, там жа яшчэ трэба што небудзь і ўпаляваць, каб потым не кпілі і не здзекаваліся, як у тым паляўнічым анекдоце.

Праўда, у народзе ўкаранялася думка пра тое, што паляванне, як промысел, ніколі спраўнага гаспадара не пракорміць. Гэта занятак толькі для...гультаёў і хлусоў. Мяркуйце самі: « — Зірні, жонка, якога зайца я забіў!

Але ж гэты заяц зусім не мае шкуры?

Але! Як я стрэліў, дык заяц са страху са скуры выскачыў!»

Нешта падобнае сустракаем і ў Караткевіча: « — Панскае паляванне, — сказаў нечы нерэальны, бы праз дрымоту, голас. — Вала з'ядуць, а зайцам закусяць».

Толькі, відаць, гэта датычылася не сур'ёзных паляванняў, а тых выпадкаў, калі смяяліся з гора-паляўнічых, якія найбольш трапна стралялі... языком.

На самай справе ўсё было намнога сур'ёзней і небяспечней.

«Ён (Юрка. — **А. Н.**) нагнуўся ў чаўне. І раптам бабы з віскам кінуліся ў бакі. Над бортам байды з'явілася круглая галава рысі з грэбліва адкрытай пашчай, белазубай і крывава-чырвонай.

Вушы на галаве былі шчыльна прыціснуты, вочы прыжмураныя. У тую ж хвіліну паказаліся грудзі, моцныя лапы.

Рысь, здавалася, упаўзала ў байду» («Блакіт і золата дня»).

Праўда, у другім выпадку («Дзікае паляванне караля Стаха») пра паляванне на балотную рысь — лемпарта, якое ледзьве не завяршылася для князя смерцю, распавядаецца больш падрабязна, з перадачай (ці спробай да яе) усяго драматызму сітуацыі. «Не паспелі і аглядзецца яны, як скокнуў з купіны лемпарт балотны, збіў ударам сваіх грудзей у грудзі каня Рамана, выдраў у каня таго кавалак жывата з кішкамі разам, бо такі ўжо звычай балотнай рысі.

І ўпаў пан Раман, і адчуў жах смяротны, бо звер палаючымі вачамі глядзеў у твар яго, і быў ён, гэты звер, шырэй яго і доле.

Але тут кароль Стах скочыў з свайго каня зранятага проста на спіну звеdefined ру, схапіў за вуха, аддзёр пысу ляжачага і кордам, кароткім мячом, пalasнуў яго па глотцы. Лемпарт адкінуў яго ўдарам лапы, і Стах адляцеў, а звер насеў на яго, паміраючы, але тут і пан Раман ускочыў і разбіў чэрап страшыдла сваім баявым чаканам».

Ул. Караткевіч гаворыць і пра тое, што веды пра паляўнічыя хітрыкі, прыёмы, навучанне ім, перадаваліся з пакалення ў пакаленне — ад старых да малых. Пра гэта абавязкова неабходна памятаць « старога Марку, які вучыў мяне вабіць цяцерак проста так, каб убачыць іх, і вучыў нацягваць на след і стойку сабаку, і браў з сабою на старыкі лавіць велічэзных бронзавых ліноў». А прыгадаем тут яшчэ Рамана — своеасаблівага паляўнічага-следапыта з аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха».

Пра паляванне на качак у Ул. Караткевіча проста згадваецца ў некалькіх выпадках. «Ён (Алесь. — **А. Н.**) не здрыгануўся, ён увесь час чакаў гэтага і, ўсё яшчэ стоячы спіной да голасу і адвязваючы качак, адказаў:

«Дзень добры!», «А шагрэневы чорны нос лавіў тысячы пахаў: вод, пахі траў, а сярод усяго гэтага — дамавіты пах качкі...»; «... і ён, Алесь, на качак паедзе разам з бацькам, а дома будзе ўжо цішыня і мір». Гэта сведчыць пра тое, што паляванне па качак у нашых продкаў не лічыліся надзвычай папулярнай справай. Ім карцела паспрабаваць свае сілы там, дзе патрабавалася адвага, сіла, мужнасць. А гэта... Гэта занятак хутчэй для дзяцей, чым для дарослых...

А як падрабязна, хораша і дасканала Ул. Караткевіч апісвае сцэну цецеручынага такавішча, птушыных баёў, дзе яны грудзі ў грудзі, крылы ў крылы сыходзіліся ў перадшлюбных паядынках, каб даказаць, хто з іх на самай справе спрытнейшы і здаравейшы.

«— Лоп-лоп-лоп, — і на сярэдзіну паляны зляцеў галоўны такавік, цар такавішча. Забалбатаў, стаў хадзіць кругамі па зямлі. Гаўрыла да болю сціснуў стрэльбу. Кожны раз даводзілася перамагаць жаданне стрэліць у такога прыгажуна. Але ён ведаў, што смерць такавіка — смерць такавішча, што з загібеллю гэтага князя разлятаецца па другіх мясцінах бітваў яго народ і паляна на доўгія гады застаецца пустой.

Чорны, з сінім адлівам, вясёлкава-зеленаваты ля галавы, з белымі люстэркамі-перавязкамі на крылах, касач хадзіў, распускаючы лірападобны хвост, як быццам збіраўся граць на ягоных тугіх пер'ях.

З'явіліся каля яго чатыры цецеркі, шэра-паласатыя, іржавыя ля шыі. З няшчырай сціпласцю яны захадзілі па махавіне акуратненькімі, падбарыстымі лапкамі.

— Ко-ко-ко, — з ліслівай абыякавасцю завяла адна.

— Ведаем мы вас, мужчын, — здавалася, казаў яе галасок, — зараз вы ўсе ходзіце пеўнем, а яйкі потым нам адным наседжваць.

— Ур-гур-гур, — з гарачавай пяшчотай адказаў такавік.

— Ко-ко-ко, — зацягнула яна зноў, — не быў бы ты такім малайцом, толькі б ты мяне і бачыў. Нахабы вы, мужыкі, але ўсё ж падыходзь, я пабачу, што з табою рабіць.

Гэта было вышэй сіл душэўных. З бярозы сарваўся яшчэ адзін цецярук і са стукам сеў перад такавіком. Той не спяшаў: паглядзеў на самачку, якая, адбегшы ўбок, чакала ад яго маладзецкай адвагі. Прайшоўся перад ёю — шыя выгнута над зямлёй, хвост веерам, крылы да зямлі.

І толькі потым павярнуўся да суперніка, зусім паклаў галаву на мох, натапырыў дыбарам усе пер'і.

Зачуфыкаў.

Другі зухавата адказаў яму:

— Чуф-фы! Чуф-фы! Чуф-фы!

І адразу з дрэў пачалі зрывацца яшчэ цецерукі, яшчэ, яшчэ. Знаходзілі ворага і ставалі ў пазіцыю. Хутка не менш як восем дзесяткаў глотак заводзілі ваяўнічую песню, вызаў на смяротны бой...»

Але ж у пісьменніка паляўнічы апошнім стрэлам забівае самога «цара»-цецерука — гаспадара такавішча, што, паводле шматвяковых сцверджанняў спрактыкаваных знаўцаў, забаранялася рабіць, бо ў адваротным выпадку птушкі болей ніколі не вернуцца на гэтае месца. Гэтую традыцыю ні ў якім разе нельга было парушаць. Адхіленне ад нормаў паляўнічай этыкі ў Ул. Караткевіча дапушчана хутчэй за ўсё з-за простага няведання гэтага факта.

Ні ў якім разе нельга прайсці міма сцэны з рамана «Каласы пад сярпом тваім», у якой стары Загорскі тлумачыць і паказвае свайму ўнуку — Алесю — шырокапрактыкуемы раней, а цяпер амаль забыты, прыём стральбы па адбітках. «Патрапілі на азярцо, абкружанае высокімі штучнымі скаламі, і таму ціхае і змрочнае, як возера мёртвых. Дзед узяў з грота дзве стрэльбы.

— Бачыш на тым баку белы камень?

— Ну.

— Пацэль.

Алесь пацэліў дзвюма кулямі з трох — відаць было, як паляцелі каменныя пыркі.

— Нядрэнна, — сказаў дзед. — А ну я.

І пачаў цэліцца. Мёртва ляжала роўнядзь глыбокай, спакойнай і празрыстай вады. І тут Алесь заўважыў, што руля дзедавай стрэльбы няўхільна і цвёрда апускаецца і цяпер глядзіць проста ў ваду, у якой нерухома стаяць адбіткі чорных скал і белы кружок каменя-мішэні.

— Куды вы? — спытаў Алесь.

Замест адказу стары націснуў курок. Так і ёсць, ніжэй, бо пырснула вада. Але адначасова – Алесь аж здзівіўся – ад каменя паляцелі аскепкі. Другі стрэл. Трэці. Чацвёрты. Тое самае.

— Табе трэба навучыцца , — сказаў дзед. – Я цэлюся ў адбітак на вадзе, а куля трапляе ў сапраўдную цэль, рыкашэтам, адскочыўшы ад паверхні.

— Нашто гэта? — здзівіўся Алесь.

— А на тое, што той дрэнны стралок, хто добра страляе толькі ўдзень. Вучыся страляць і ў начы. У сутонні ты часта не бачыш ворага, які ідзе другім берагам, а адбітак добра бачыш. Клікні, а потым страляй».

Сам пісьменнік падае падрабязную расшыфроўку такой своеасаблівай стральбы. «Калісьці стральба па адбітках у спакойнай вадзе была ледзь не народным спортам у Прыдняпроўі. Яшчэ сто пяцьдзесят год таму назад рэдка якое паляўнічае свята абыходзілася без яе.

Потым, калі з-за паўстанняў пачалі адбіраць зброю, звычай пачаў знікаць, але яшчэ за сто год да нас часам сустракаўся...»

Вядома ж, паляўнічы ніколі такім не ўяўляўся, калі ў яго не было добрага сабакі. Іх трымалі і бедныя і багатыя. Можна прыгадаць зноў жа князёў Загорскіх, але нельга ні ў якім разе забыцца і на дзеда Мультана з «Чорнага замка Альшанскага», з ягоным своеасаблівым разуменнем палявання.

— Кундаль, Кундаль, — трапаў яго (сабаку. — **А. Н.**) дзед. — Бач ты, бач ты, які тлусты. Як мех. Нічога, на паляванне з табой пойдзем. Скінеш тады тлушч. Пойдзем на паляванне?

Сабака аж скакаць пачаў ад радасці».

Але па-сапраўднаму ролю сабак-ганчакоў Ул. Караткевіч ацаніў у размове Антона Космiча з палясоўшчыкам Салвесем Цяцерычам.

«Псы, пачуўшы гнеўную інтанацыю, усталі. І ўтаропіліся ў мяне. Злева здаравенны, мардасты ганчак, чорна-рабы, у падпалінах, з шырокай галавой і тупой мордай, магутнага складу — мінімум васемнаццаць вяршкоў.

Справа — здаравенны кабель (але меншы за сабрата, усяго сантыметраў восемдзесят), шэра-рабы, вышэйшы на нагах, параты. Пры поглядзе на яго стала ніякавата.

— Не дрэйф, — з адценнем пагарды сказаў гаспадар, — не калаціся. Пакуль не скажу — не кінуцца.

— А я і не калачуся, — гаспадар, відаць, быў здзіўлены маім нахабствам, бо я дастаў цыгарэту, працягнуў пачак яму (не ўзяў) і сказаў: — Тут во гэтага, шэра-рабага, трэба баяцца. Камусьці, вядома, іншаму, а не мне.

— Чаму? — пакепліва спытаў Цяцерыч. — Ён жа меншы.

— Парода злосная.

Даводзілася мне калісьці пісаць у адной з прац пра сабакаводства на старадаўняй Беларусі. І, здаецца, гэта быў адзін з нешматлікіх выпадкаў, калі такая адцягненая матэрыя прыдалася мне ў жыцці...

... — Якая ж бо ты?

— Гэта вандэйскі грыфон. — сказаў я. — Парода ад «шлюбу», так бы мовіць, вандэйскіх ганчакоў з брэтонскімі грыфонамі (бачыш, ад іхняй рыжый масці і ў гэтага падпаліны ёсць). Страшэнна злосныя. Лепшых пры паляванні на дзікоў не знойдзеш.Ну і ў ганітве на ваўка амаль першыя...

— ...Ну, а гэты, гэтыя — добрыя да людзей. І дзіўлюся я, дзе гэта ты, палясоўшчык і, відаць, добры егер, дзве такія рэдкія пароды здабыў. Бо ў Мінску мне сустракаць не даводзілася.

— Удалося дзівам, — гаспадар відавочна палагаднеў.

Але ж сярод паляўнічых заўсёды была цэлая іерархія. Спачатку ішлі ісцінныя, сапраўдныя паляўнічыя, якія глядзелі на паляванне, як на своеасаблівую навуку. Яны пастаянна і акуратна вялі пароду сваіх сабак, пабацькоўску займаліся выхаваннем шчанюкоў, захоўвалі ўсе тэрміны палявання, нагонкі і заўсёды своечасова выстаўлялі сваіх сабак на ўсялякія прадстаўленні, выпрабаванні і выставы. Яны, можна сцвярджаць, жылі надзеяй, што іхнія сабачкі яшчэ пакажуць сябе ў полі, заўсёды марылі вывесці такіх сабачак, што ўсе чыста іхнія сябры-паплечнікі «проста ахнуць».

У старадаўнасці лічылі, што дзельны паляўнічы меў менш зграй ганчакоў і хартоў.

Палявыя паляўнічыя больш за ўсё любілі паляванне-траўлю, стральбу па зверы, але затое яны зусім мала клапаціліся пра развядзенне і ўтрыманне сабак. У зайцу яны бачылі толькі смажаніну, у лісе — прадмет для пахвальбы. Ім увогуле не зразумелыя сапраўдныя аматары прыгажосці, лоўкасці, майстэрства хартоў, гончых, лягавых сабак.

Прыватнымі, ці выпадковымі, называлі паляўнічых, якія любілі павесяліцца, выпіць на ўлонні прыроды ў шумнай кампаніі і распавесці аб сваіх

шматлікіх поспехах, аб сабаках. Пасля палявання яны забывалі аб паляванні, аднак заўсёды памяталі аб прыгожых і дарагіх стрэльбах і асабліва любілі пахваліцца ў гаманлівых дамскіх кампаніях.

Ніхто так хутка не пачне спрачацца, як прыватны паляўнічы, што ўяўляе сябе рыцарам у адпаведна прыгожым касцюме.

Некаторыя прыхільнікі палявання неўзлюбілі само слова «паляванне» і «паляўнічы», і яшчэ ў мінулым, дакладней, у канцы XIX — пачатку XX ст., называлі сябе на замежны лад — «спартсменамі». Не маючы ніякага разумення пра старадаўнія беларускія сабачыя паляванні, яны кіраваліся спецыялізаванымі англійскімі часопісамі. Прыватныя паляўнічыя і спартсмены не пераваліся і на гэты дзень. Яны пастаянна правакуюць розныя спрэчкі і сваркі на ўсемагчымых выставах.

Бесталковыя паляўнічыя (былі і такія!) — гэта тыя, якія як мага хутчэй імкнуцца затравіць звера і таму ні ў якім разе не стаяць на сваім месцы (нумары), а заўсёды кідаюцца ад аднаго паляўнічага да другога, перашкаджаючы астатнім. А нярэдка здараецца і так, што зрываюць паляванне.

Паляўнічага, які ўмеў добра заняць лаз (нумар), з'ездзіць зграю ганчакоў, зрабіць напуск, збіць зграю, у даўнейшыя часы называлі ездаком. Галоўным для яго было — затравіць звера.

Сустракаліся (ды колькі іх сустракаецца і зараз) яшчэ сонныя паляўнічыя, якія заўсёды празяваюць звера і будуць стаяць на нумары цэлы дзень, пакуль за імі спецыяльна не прыйдуць. У такіх паляўнічых ганчакі заўсёды не вымуштраваны і ганяюць звера самі па сабе, разрознена, што заўсёды пацяшае іншых паляўнічых.

Асабліва непрыемны тып паляўнічых — гэта шкуратнікі і жылы. Шкуратнікамі называлі тых, хто імкнуўся як мага болей затравіць звяроў, пры гэтым не шкадуючы ні сябе, ні сабак, ні коней. Даволі часта яны на паляванні «ўскрайнічалі» — ездзілі ўздоўж ускрайку лесу, каб хутчэй перахапіць звера і здабыць лішняга зайца ці лісіцу. Жылы — гэта самыя непрыемныя паляўнічыя, бо яны пастаянна толькі тое і робяць, што спрачаюцца адносна таго, каму належыць затраўлены ці застрэлены звер.

Ул. Караткевіч ні ў чым не парушае шматвяковую традыцыю. Наадварот, ён узбагачае яе сваім поглядам на імклівасць, смеласць і спрыт гэтай справы. Падкрэслівае, што ў кожнага паляўнічага была ўласная песня-гімн, якая выконвалася на паляўнічым ражку (рагу) і адрознівала ўладальніка гэтай мелодыі ад іншых у любой сітуацыі. Як казалі: «Кожны ражок па-свойму спявае».

«Та-та-ці, та-та-ці,
Рог спявае на пуці,
Ра-ным ра-на
Збор ля ракіты,
Саквы зваляны,
Карбачы падвіты,
Падві-ты,
Падві-і-ты.

Гэта было сапраўды, так падобна на спеў рога, дураслівы спеў бадзёрага рога ў тумане, што Алесь засмяяўся.

У кожнага паляўнічага былі такія прыпеўкі, пад спеў рога і на кожны выпадак паляўнічага шчасця. Хто век вершаў не бачыў, і той павінен быў прыдумваць такое для сябе, блага ці добра. А астатняе залежала ўжо ад здольнасці і страсці. У бацькі прыпеўкі былі добрыя. Трэба было яшчэ і сабе прыдумаць...Значыць, мяркуючы па песні, сёння за ўзятую стрэльбу будуць біць, а то яшчэ і зламаюць зброю, каб не ўчыняў ганьбы і не ламаў звычаю. Толькі псы і карбачы, падвітыя на канцы свінцом... Добра. Божа, які доўгі і шчаслівы чакае дзень! Яшчэ толькі пяць гадзін раніцы!»

Ехалі паляваць на ваўкоў. Ехалі позняй восенню. Такі быў пісаны і няпісаны закон — каб ні ў якім разе не папсаваць азіміну на палях!

Хітрыя продкі, якія верылі ўсемагчымым прыкметам і павер'ям, даволі часта проста забабонным, і тут не абыходзіліся без пэўных перасцярог. Калі на шляху трапляўся выпадковы сустрэчны, то яму выпадала паляўнічым гаварыць усё чыста наадварот: «Няўдалага вам палявання, — сказаў Раўбіч. — Ваўкі ў пяскі».

Ваўкоў баяліся спрадвеку. Яны на самай справе былі заўсёднымі ворагамі сялян-земляробаў. Шкодзілі ім, зводзілі мноства жывёлы. Асабліва тады, калі расплоджвалася пасля нейкіх ваенных падзей ці эпідэмій-пошасцей незлічоная колькасць ваўкоў. Тады яны не толькі на свойскую жывёлу, але і на людзей даволі часта нападалі. Адным словам, не было ад іх спакойнага жыцця. Таму і не дзіўна нават чытаць у Караткевіча словы кшталту: «Мы дагэтуль ваўчынага хваста баімся». Гэта не просты жарт і не прызнанне страху, а гэта глыбока геннае прызнанне, бо барацьба паміж воўкам і чалавекам доўжыцца (актыўна працягваецца і зараз!) не адно стагоддзе.

Калі браць усё, як тут гаворыцца, ад адначасовага стварэння чалавека і ваўка, то звер добра-такі ўеўся ў душу першага. Сам Ул. Караткевіч прыводзіць наконт гэтага даволі актуальны для селяніна-ўласніка анекдот.

«...Сцэнка на пашы.Два пастухі пасвяць авечкі. Адзін ля лесу, другі — наводдаль. Воўк схапіў адну. Той, што далей, крычыць:

— Што гэта? Воўк?

— Анягож, халера твайму бацьку, заяц?!

— То што ён, авечку панёс?!

— Анягож, трасца тваёй матары, табе прынёс!»

Вось на гэтых самых ваўкоў і адпраўляліся паляваць Загорскія — бацька і сын. Пісьменнік падкрэслівае, што яны не проста едуць вынішчаць усё жывое, выбіваць дзеля ўласнага задавальнення, а едуць паляваць на...драпежніка, на якога не раз і не два скардзіліся свайму пану вяскоўцы. Таму і дыялог тут адбыўся такі глыбокі па сэнсе.

« — На паляванне, па-мойму, заўсёды радасна ехаць.

— Не кажы, браток, — сказаў бацька, — часам так цяжка, месца сабе не знаходзіш. Шчасце тваё, што сёння едзем на драпежніка і першым у тваім сэрцы абудзіцца азарт, а не шкадаванне. Азарт гэты — душа палявання. Сапраўдны паляўнічы не прап'ецца і ў карты не прагуляецца — яму гэта непатрэбна. Карцёжнікі гэтыя, вартыя жалю, не ведаюць, які ён, сапраўдны азарт..»

Яно і зразумела, азарт пагоні, азарт апошняга моманту, кульмінацыі гэтай справы, калі ўсё вырашаецца ў нейкае імгненне, дадае значную порцыю адрэналіну ў здаровы мужчынскі арганізм. Сапраўдны мужчына ў такіх паядынках толькі і пазнаецца. Але да гэтага неабходна ісці праз вытрымку, праз пачуццё локця блізкага табе чалавека, без якога тут нельга, ён павінен абавязкова дапамагчы, прыкрыць спіну ад хітрага і каварнага звера. Яго яшчэ і не так проста знайсці. Воўк умее хавацца, умее выкарыстоўваць самы дробязны пралік чалавека. Адзін раз нешта ўпусціш, і тады ўсё, дагнаць драпежніка будзе амаль немагчыма. Дапамагалі сабакі, воўчыя браты па крыві. Яны інтуітыўна адчувалі каварства і лютасць звера, а ён баяўся іхняга нюху і здольнасці ўчапіцца і ні ў якім разе не адставаць. «З сабою ўзялі двух хартоў, якіх моцна трымалі на шворцы, пакуль не выедуць на вялікія роўныя палі, — звер зацяты, можа і разбіцца; ды пяцёх ганчакоў: Знайду, Сціная, Ангара, Стрэлку і Змейку. На трох астатніх псароў былі тры сабакі — п'яўкі, калі, можа, выганяць з Банадыковых Крыніц адзінца (сякач, які трымаецца наўздалёк ад дзікіх свіней, адбіваючы і зводзячы ў лес хатніх. — **А. Н.**)».

Нам здаецца, што Ул. Караткевіч, апісваючы паляванне знатных асобаў на ваўкоў, дапусціў значны пралік — не паказаў знешні выгляд паляўнічых, іншымі словамі — іхнюю вопратку, што заўсёды мела немалаважнае значэнне. Павінна было выглядаць паляванне падобным на наступнае апісанне: «Паляўнічыя выводзілі на пляцоўку асядланых каней; абодва паляванні разадзеліся ў народныя касцюмы: графскія былі ў зялёных кафтанах, расшытых сярэбраным галуном, і ў малінавых шараварах з шырокім лампасам; алееўскія — у новых чаркесках з яркай атарочкай, паясамі, патронамі, бліскучымі рагамі; усё гэта сыходзілася і складала групу, ад якой цяжка было адарваць вочы, але твары ва ўсіх былі святлейшыя і ўрачысцейшыя за сам народ»[1].

І зноў гучаў — спяваў паляўнічы рог. Гэта была песня радасці, моцы жыцця, зварот да прыроды, каб яна не спала, а таксама прачнулася і «звяроў давала».

Паляванне разгортваецца на ўлонні роднай прыроды, якая з самага світання, пад промнямі няхай сабе і запозненага восеньскага сонейка, весела ўсміхалася ўсяму, і паляўнічым у тым ліку. Любаванне непаўторнымі па прыгажосці абшарамі заўсёды ўключалася ў «праграму» палявання, а інакш проста і быць не магло. Наплывалі ўспаміны мінулай восені, не такой, здавалася б, далёкай, але тым не меней ужо мінулай, мроілася кожнаму ягонае першае ў жыцці паляванне, неяк параўноўвалася адразу, маўляў, як жа яно было тады і ... зараз; аднаўляліся сцэны апошняга палявання. Яно заўсёды так атрымлівалася, што наступнае было працягам папярэдняга. У любой справе. І паляванне не з'яўлялася нейкім выключэннем. Ул. Караткевіч душою адчуваў гэта.

«Дзень быў сапраўды цудоўны. Апошні туман знік з бясконцых іржышчаў і лугоў, і свет ляжаў цалкам блакітны і празрысты.

Там-сям серабрылася ў паветры лятучае павуцінне. І далёка, далёка, далё-ока стаялі на мяккіх узгорках чырвоныя і залатыя дрэвы, на якіх можна было адрозніць кожную галіну.

Паветра як быццам зусім не было, толькі нешта зажуранае і сіняе абвалакала ўсё, што ёсць на зямлі, і грудзі радасна адчувалі яго бадзёры і свежы халадок».

Адчуваецца, што любоў да Радзімы і прыроды ў сапраўднага паляўнічага бязмежная. З захапленнем і шчырай радасцю глядзіць ён на свае палі, лугі і лясы і пастаянна згадвае тых, з кім бываў на паляваннях. А над усім гэтым верхаводзіў паляўнічы поезд, а інакш яго і не назавеш. Магчыма — шэсце, але гэта нешта надта ўжо ад царкоўнага, а тут павінна была абавязкова адчувацца святасць і... разгул душы. Без гэтага ніводнае паляванне не абыходзілася. Вось як апісвае той жа Б. Маркаў рух царскага палявання: «Спераду на чырвона-чалым жарабцы ехаў даезжы, збоку і ззаду на такіх жа чырвона-чалых скакунах красаваліся тры вершнікі. Паміж вершнікамі, як марскія хвалі, без ашыйнікаў цякла зграя рабых ганчакоў, незвычайна пёстрых акрасаў. Вершнікі-выжлятнікі былі апрануты ў кароткія суконныя курткі, у суконныя штаны, якія ўпрыгожвалі чырвоныя лампасы, на галовах шапкі-кубанкі, атарочаныя чырвонай каймой. Маладыя, дагледжаныя, з чорнымі і пышнымі вусамі выжлятнікі былі падпаясаны шырокімі рамянямі, у чорных ножнах — вялікія кінжалы, праз плячо перакінуты адліваючыя срэбрам ражкі. Усе:вершнікі, коні і стая ганчакоў — былі як адзінае цэлае. Праз некаторы час з'явіліся прыгожыя тарантасы, запрэжаныя двума ці трыма стройнымі скакунамі, са здаравеннымі кучарамі ў бархатных нарадах, потым з'явіліся барзятнікі на выдатных конях з прыгожымі англійскімі сёд-

---

[1] Марков Б.И. Москва охотничья. М.. 1997. С. 59.

ламі. Усе барзятнікі былі ў прыгожых паляўнічых касцюмах. Жанчыны ў амазонках.

Потым у карэце, запрэжанай шасцерыком каней, з'явіўся сам князь.

Выезд суправаджаўся калакольным звонам. Князь выходзіў з карэты, кланяючыся, хрысціўся і прымаў хлеб-соль».

Потым абавязкова (хоць сабе і ў тысячны раз!) адбываецца настаўленне маладога паляўнічага, што і робіць Алесеў бацька:

— Біць ведаеш як, — на хаду навучаў ён Алеся. — Адной рукой за луку, схіляйся і, калі нагоніш, удар, каб пацэліць па кончыку носа. Такі удар забівае адразу. Каня старайся весці лёгка, не сільнічаць. Бо воўк, калі яго прыперці, можа кінуцца і выпусціць жывёле трыбух. А са слабымі павадамі яна ўратуецца сама».

Згадка пра такі, страшны па сіле і смяротны па дакладнасці ўдар, ёсць і ў другім творы Ул. Караткевіча — аповесці «Сівая легенда»: «Так носяць шапкі толькі конныя пастухі, што вандруюць з панскімі чародамі па ўсіх пясчаных і вапняковых пустэчах гэтай зямлі.

Божа, умяшаліся ў бойку нават гэтыя людзі, што ўдарам канца карбача (кароткі бізун. — **А. Н.**) па носе забіваюць ваўка!»

Ул. Караткевіч не спяшаецца, ён нібыта смакуе прадчуванне самага галоўнага ў любым паляванні — пагоні за зверам. Там ужо нельга будзе ні прамарудзіць, ні лішні раз азірнуцца, ні перакінуцца словам. А тут наступала чарга вытрымцы, якая заключалася ў тым, каб пачуць голас першага сабакі з загонкі, зразумець, каго падняла загонка (па-іншаму — загон) і куды звер, прыспешаны сабачай пагоняй, пакіруе. «Алесь напружана глядзеў на выхад з адрожка — круглы лаз у ажынніку і дубняку. Доўгі час нічога не было чуваць, але вось далёка цяўкнуў, быццам выпрабоўваючы голас, сабака. За ім гамнуў другі, ужо больш упэўнена. А яму тонка, нібы прабачэння прасіла, адказала Змейка.

І вось залілася, пераклікаючыся, уся зграя.

— Узнялі, — сказаў бацька.

— Дух пачулі, — змрочна сказаў Карп.

Брэх, усё яшчэ няроўны, памацнеў.

— Вось цяпер узнялі, — сказаў Карп — Наперадзе Змейка, брэша з перасцярогаю...

Але ў гэтай імклівай, няўрымслівай пагоні якраз і здарылася тое, чаго найбольш баяцца паляўнічыя, — вопытны, хітры воўк і тут, у апошні момант, падмануў, абкруціў людзей. Ён жа таксама ведаў, што ад любой прамашкі залежыць ягонае жыццё. Уцячэ—будзе і надалей валадарыць над гэтымі абшарамі, а не ўдасцца, то ўсё на гэтым назаўсёды спыніцца. Зверу, мабыць, не раз і не два даводзілася ўцякаць ад пагоні і да гэтага моманту ўдала. Ён пакарыстаўся, калі так можна сказаць, сваім прыёмам. Нейкі непрапісаны ў паляўнічых павучаннях і непрадбачаны ў іхніх аповедах. Магчыма, і самому пісьменніку хацелася, каб воўк пажыў даўжэй, тады ён змог бы яшчэ больш поўна і каларытна раскрыць дынаміку заключнай сцэны палявання. «Коні амаль сутыкнуліся, і ў гэты момант здарылася нечаканае: звер адсеў. Ён проста нечакана ўзрыў усімі чатырма лапамі зямлю і паваліўся назад і трошкі на бок. Імгненне ён сядзеў так, адкінуўшы калена і натапырыўшы хіб, а потым — ад Алеся да яго было не больш трох сажняў — мільгануў у адрожак яра...»

Ул. Караткевіч нездарма падкрэслівае, што Загорскія ўпалявалі сівога ваўка. Справа ў тым, што ў народзе лічылі, быццам бы над усімі ваўкамі валадарыць сівым-сівы звер, які мог нават нагадваць белага. Ён настолькі мудры і асцярожны, што яго не толькі ўпаляваць немагчыма, але нават убачыць выпадае далёка не кожнаму. Калі ж каму з паляўнічых пашанцуе забіць

яго, то такі чалавек назаўсёды астаецца першым сярод роўных сабе па занятку ў вольную хвіліну.

Продкі заўважылі таксама, што гэты лясны валадар вельмі хітры. Пра яго з павагай казалі: «Воўк любога самага кемлівага чалавека абкруціць. Як сам захоча, так і зробіць»; «Каб надурыць воўка, трэба надта добра ведаць ягоныя звычкі, бо ён жа вельмі хітры. Другую такую жывёліну пашукаць трэба, ды і ці знойдзеш»; «У ваўковай галаве розуму на мядзведзя хопіць, гэтакі ён увішні ды кемлівы»; «Каб воўк дурны быў, дык і людзі дурнейшыя былі б. А так ён разумны і людзі адпаведна многа разумнейшыя, бо з ім змагаюцца»; «Каб кожны чалавек быў такі хітры, як воўк, то дурных наогул не было. Ім бы проста месца не ставала сярод людзей».

Па снах, у якіх з'яўляўся воўк, нашы продкі спрабавалі ў некаторай ступені прадказваць будачае сямейнае жыццё: «Дзяўчыне прысніцца воўк — трэба чакаць хуткага вяселля»; «Сон пра воўка для бацькоў у зімовую ночку — хутка аддадуць замуж дочку»; «Сніцца часта воўк дзяўчыне — спадабалася хлапчыне, як не будзе ўхіляцца, хутка прыйдзецца вянчацца»; «Сніцца дзяўчыне воўчы стогн — хутка будзе вясельны звон».

У Літве тумачылі, што воўк сніцца да гасцей: «Калі ваўка ўбачыў ды асабліва вялізнага, калматага, то гэта значыць, што трэба чакаць нейкіх важных гасцей. Яны, тым не меней, з'явяцца нечакана, нібы снег на галаву пасыплецца».

Старажытныя латышы адзначалі, што «воўк, убачаны ў сне, гэта ўсё да зладзеяў»; «Калі сівога воўка ў сне напаткаў, то абавязкова нешта пакрадуць, таму гаспадару трэба пільна за гаспадаркай глядзець і за жывёлай, бо лясны злодзей-рабаўнік яго папярэджвае». Некалі рымляне цвёрда верылі, што калі чалавек убачыў ваўка першы, то той яго не зачэпіць, бо згубіў сваю страшэнную сілу ад уздзеяння чалавечых вачэй, але калі воўк першы заўважыць падарожніка, то тады ўжо нішто не выратуе. Менавіта ад рымлян пайшло крылатае выслоўе: «Ты што, ваўка ўбачыў?» Ул. Караткевіч дадае сюды самабытнае беларускае павер'е, што калі некага з людзей укусіў воўк, то такі чалавек ужо невылечны, ён абавязкова памрэ. А што датычыцца тэмы палявання на ваўка, то і ў гэтым плане аўтар гістарычных твораў трымаецца на належным узроўні, чаго варта толькі адно віншаванне Загорскімбацькам Загорскага-сына: «З полем, сынок, з першым тваім ваўком».

І ўсё-ткі мы павінны прызнаць, што сапраўднай вяршыняй сцэн палявання ў кнігах Ул. Караткевіча з'яўляецца паляванне на мядзведзя (яў). Цара, некаранаванага ўладара тутэйшых лясоў, бароў і пушчаў. Гэтаму зверу пісьменнік прысвяціў і асобны твор (апавяданне «Былі ў мяне мядзведзі» і значныя эпізоды ў рамане «Каласы пад сярпом тваім», асобныя сцэны ў «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», у п'есе «Калыска чатырох чараўніц»). Нават само паходжанне гэтага звера на зямлі, паводле слоў Ул. Караткевіча, даволі незвычайнае, і таму гісторыі, звязаныя з мядзведзем, ці аповеды пра адносіны чалавека і гэтага звера заўсёды здзіўлялі сваёй непрадказальнасцю.

«**Янка.** Сяку ў сне дровы. Падыходзіць цыган з мядзведзем: «Давай падмагу». Я яму: «Ды пакарміць цябе пасля няма чым». А ён: «Нішто, бацю, мішкам закусім».

**Бянігна.** Цьху, даруй пане божа. Хіба мядзведзя можна есці? Мядзведзі ж, кажуць, гэта людзі, што ў лес уцяклі, каб на чужога дзядзьку не працаваць.

**Янка.** Мядзведзі разумныя» («Калыска чатырох чараўніц»).

І ў вуснай народнай творчасці паходжанне мядзведзя на зямлі звязана з пераўтварэннем ці пераўвасабленнем пэўнай групы людзей у гэтага звера. Справа ў тым, што на такіх вусна-паэтычных творах адчуваецца магутны

ўплыў татэмізму, таго часу, калі чалавек свята абагаўляў пэўных жывёл і звяроў, залічыўшы іх да ўсемагутных апекуноў свайго роду. «Мядзведзь быў чалавекам, як яшчэ бог хадзіў па зямлі. Хадзіў там бог гэтакім старэнькім жабраком. А другі старац-жабрак убачыў яго і падумаў: «Дай жа я яго спалохаю, каб не лазіў ён болей па маім наваколлі».

Падлез пад мост і стаў чакаць, калі бог на яго ступіць. Як гэта толькі адбылося, дык ён зароў не сваім голасам:

— Э-г-э!!!

А бог зверху гэтак спакойна і адказвае:

— Раз так, то будзеш жа ты раўці ўвесь свой век. Каб зведаў і нашчадкам перадаў.

Так вось той старац і стаў мядзведзем, толькі ступакі ў яго чалавечыя».

Прыгадаем тут Караткевічава: «Ну што ты? Ну, пяткі голыя? То сам вінаваты... «Мядзведзі ў пушчы чарніцы збіралі, мядзведзі чарніцы на ток рассыпалі. Мядзведзі ўвесь дзень па чарніцах хадзілі, ляпёшкі з чарніцаў на пятках сушылі. Чатыры нагі аж пад сонца ўздымалі, усю зімку чарнічныя лапы смакталі...См-аш-ненька!..»

Ул. Караткевіч згадаў і пра арыгінальнае павер'е, якое існавала некалі на спрадвечна беларускіх землях.

«Грушы-посеркі — асабліва буйныя дзічкі, якія растуць ля затравелых лясных сцежак і дарог. У Прыдняпроўі некалі верылі, што яны выраслі з памёту мядзведзяў і дзікоў і таму такія вялікія».

У некаторых выпадках, асабліва на Палессі, згадвалі пра тое, што мядзведзі ладзілі свае бярлогі ў непасрэднай блізкасці ад лясных вёсак. Яны не баяліся людзей і самі не кранালі вяскоўцаў. Больш таго, не дапускалі ў гэтыя мясціны іншых звяроў, а таксама сваіх сабраццяў, якія, безумоўна, маглі нанесці вялікую шкоду жыхарам. Сцвярджалі, што калі «мядзведзь-ахоўнік» пераводзіў сваю сям'ю ў іншае месца, то пакінутую ім вёску ў хуткім часе чакала вялікая няшчасце.

Як бачым, усе прыведзеныя прыклады сведчаць пра пастаянныя сувязі мядзведзя і чалавека. Гэты ж аспект застаўся і ў творчасці Ул. Караткевіча. Прыгадаем словы маці Алеся Загорскага, якія яна гаварыла сыну перад сваёй смерцю, нібы дакараючы ў заўчаснай гібелі ўласнага мужа — пана Юрыя — які знайшоў трагічную смерць на ... паляванні.

« — Я казала яму: не ідзі, не забівай мядзведзя. У яго босыя ногі. Ён быў галодны і ратаваў сваё жыццё. Як мы...Усё ратуе сваё жыццё...Усё было балюча. Жыць — балюча, жывіцца — балюча, дыхаць — балюча...»

Можна прывесці разважанні пісьменніка пра паходжанне самога слова «мядзведзь», яго значэння. Яны хораша пададзены ў апавяданні «Былі ў мяне мядзведзі»: — «Дык гэта ж пасада, абавязкі, — сказаў я, — мядзведзь. А імя яму як?...

— Бацька паглядзеў на мяне з цікавасцю.

— Глядзі ты, keміць пачынаеш. Кораня шукаць. Гэта добра. Без гэтага, хлопец, толькі дурні жывуць... Хаця, магчыма, ім жыць і лягчэй. Толькі...мала ў гэтым гонару для чалавека.

Памаўчаў.

— Чуў, як Маркава бабця гаворыць? Ніколі не скажа «вадзянік», а заўсёды «зялёны» або «мокры падол», бо ў таго, хоць ён чалавекам прыкінься, заўсёды з падолу капае. І не «чорт», а «рагаты», і не «воўк», а «шэры пан». І калі сабакі зімою небяспечныя бываюць, то «паны, што на саломе спяць і зубамі ішчуцца».

— Чаго гэта? Чаму гэта?

— Забабонная. Верыць, што « пра ваўка размова, а воўк у хатку». А калісь так усе людзі баяліся. Вось і назвалі звера, «той, хто мёд ведае», мядзведзь.

— А сапраўднае імя забылі?

— Забылі. Мянушку за сапраўднае палічылі. Унь Маркава нават кліча яго «дзядзька», або «таўстапяты». Хіба толькі ўскосна можна адзначыць першародную беларускую назву. Як называецца месца, дзе ляжыць?

— Барлог.

— «Бар-лог», «бара + логава». Можа, і сапраўды зваўся ён калісьці, як у немцаў «Ваг»? Агульнае было слова. Тым больш, што і «барлог» у нас і ў іх падобна гучыць «Ваген loch», мядзведжы склеп. У нас жа таксама кажуць і «склеп» і «лёх». І, хутчэй за ўсё, менавіта немцы ў нас гэтае слова запазычылі».

Адчуваецца, што Ул. Караткевіч вельмі любіў мядзведзяў. Таму і зводзіў іхнюю кемлівасць ды хітрасць да таго, што, маўляў, ад людзей пайшлі. І паляванне на мядзведзя ў пісьменніка... вымушанае. Мядзведзь першы парушыў адвечныя парадкі лясоў і пушчаў: ад яго не стала спакойнага жыцця людзям, ён пачаў пагражаць іхнім жыццям. І людзі вымушаны былі, проста вымушаны былі, абараняцца. Нападаць і абараняцца — дзве вялікія розніцы. Гэта кожны ведае. Вяскоўцы не маглі справіцца самастойна з раз'юшаным зверам, бо ў іх не было зброі (адзіны паляўнічы з сялян, нават знаходзячыся ў засадзе, быў пераможаны хітрым зверам), а пайсці на мядзведзя з аднымі рацішчамі (рагацінамі) не хапала смеласці. Людзі не баяліся (і правільна рабілі!) прызнаваць тое, што далёка не кожны чалавек без зброі можа супрацьстаяць мядзведзю ў такім паядынку. Ён лічыўся няроўным з-за вялікай фізічна-прыроднай сваёй перавагі. Таму сяляне з вёскі Татарская Грэбля, ведаючы, што іхні пан добры паляўнічы, звярнуліся з просьбаю аб дапамозе-выратаванні менавіта да яго і атрымалі на гэта згоду.

«Адзіны паляўнічы вёскі Шчупак Лабудовіч (у Грэблі акрамя хрышчоных імён былі і свае) зрабіў быў засаду, але мядзведзь нечакана зайшоў амаль яму ў спіну і раўнуў так, што Шчупак кінуў фузію і бег аж да вёскі. Мядзведзь разбіў стрэльбу ў трэскі і той жа ноччу зрабіў спробу ўдзерціся ў хлеў Шчупака, па ягонага каня. Нібы помсціў.

Тэрарызаваная вёска забіралася з заходам сонца ў хаты і сядзела так да раніцы. Мядзведзь ніколі не чапае людзей — да першай крыві, усё адно — мядзведжай або чалавечай. Мядзведзь не чапае і вялікай жывёлы. Гэтага прымусіла да разбою мёртвая пушча. І ў разбоі ён быў неўтаймаваны і розумны. Міжвольна ўспаміналіся словы падання, якое казала, што мядзведзі — гэта людзі, толькі што аброслыя. Ды больш разумныя, бо ўцяклі ў лес, каб іх не прымусілі працаваць».

Такім чынам, сам Ул. Караткевіч паказвае, што не чалавек быў вінаваты ў будучым, праднамераным забойстве мядзведзя. Але і звера пісьменнік таксама стараецца не вінаваціць, бо таго заўчасна выгнала з лесу — «мёртвая пушча». Ён быў галодны. Хацеў есці. Хацеў жыць.

Больш таго, тут у аўтара з'яўляецца зусім новы матыў, які супрацьпастаўлены таму, што апісваўся ў захапляльным паляванні на воўка. «Алесь быў задаволены, што да пана Юрыя вярнуўся ранейшы настрой. Бог з ім, <u>няхай нават паляванне — грэшны і сорамны занятак</u> (падкрэслена намі. — **А. Н.**), няхай панервуецца пару дзён маці — усё адно добра, што яно ёсць, паляванне, бо праз яго стомленыя людзі пачынаюць любіць жыццё».

І тут ужо Юры Загорскі паказаны Ул. Караткевічам надзвычай жыццярадасным, вясёлым, які ўсё, здаецца, пралічыў наперад, упэўнены ў тым, што абложаны мядзведзь проста не здолее нікуды дзецца, апрача, як нарвацца на кулі паляўнічых. Усё зроблена па законах паляўнічай навукі. «Пан Юры быў ва ўсім белым. Белыя кабці, белыя скураныя нагавіцы, белая футра, падбітая гарнастаем, белая, таксама гарнастаевая, шапка з заломленым вастраватым верхам».

Заранёй усе расстаўлены па нумарах, загоншчыкі чакалі каманды. Ул. Караткевіч, нібы свядома марудзіў, не даючы ім яшчэ колькі хвілін абрынуцца на звера, а таму, адпаведна, у перадсмяротнай лютасці і ярасці кінуцца на людзей. «Загонныя з бубнамі і ляскоткамі, абмінаючы лесам паляну, даўно прайшлі ў пушчу, на той бок да берлагу. Сок на верхавіне магутнага дуба павінен свістам даць ім сігнал, калі звер пабяжыць на іх. Аб гэтым можна было меркаваць напэўна: логавішча было ў парасці ля самага таго краю паляны. Але стаць там было нельга: не было належнай адлегласці ад нетраў да мярла. Паляўнічыя не паспелі б стрэліць, маглі ў гушчары параніць адзін другога.

Трэба было пакінуць між мядзведзем і стралкамі прыблізна тую адлегласць, на якой знаходзіўся цяпер ад берлагу пан Юры: сажняў трыццаць.

План быў такі: звер пабяжыць на загоншчыкаў, і тады, па сігналу сока на дубе, ланцуг загонных падыме згэлк і грукат, будзе біць у бубны, крычаць, ляскаць ляскоткамі і страляць у паветра. І тады зверу нічога не астанецца, як бегчы проста на пасты».

Механізм адвечна-беззваротнай машыны закруціўся. За гісторыю тутэйшых паляванняў ён спрацоўваў многія тысячы разоў. Быў распрацаваны за гэты час пэўны статут, правілы, якія ні ў якім разе нельга было парушаць, бо гэтае парушэнне пагражала не толькі правалу папярэдніх памкненняў, але і жыццям людзей. Супраць іх паўставаў (ці паўставалі) раз'юшаны, а то і паранены, а таму асабліва небяспечны звер. Боль, страх, злосць гналі яго напрамую, тут ён ужо не здольны быў хітраваць, падманваць, выкручвацца. Яму карцела толькі адно — дарвацца да крыўдзіцеля! Любою цаною, уласным жыццём, няхай сабе ў апошняе імгненне, але паквітацца з ім. Тут нельга было дапускаць пралікаў. Тым не менш яны здараюцца. Вопытны паляўнічы Юры Загорскі і ў сне такога прадбачыць не мог, што побач будуць бярлогі... двух мядзведзяў, што ў самы важны, у самы адказны момант яму проста не пашанцуе. Паляўнічы паслізнецца. Гэта будзе каштаваць яму жыцця. Звера заб'юць таксама. Але ж і ён у гэтай бязлітаснай барацьбе забярэ з сабою свайго хутчэй не ворага, а саперніка. Ул. Караткевіч вельмі тонка прачуў сітуацыю (дынаміку жыцця) і звера, і чалавека. Яны вымушаны сутыкнуцца, ім нельга было гэтага пазбегчы. Менавіта ў паядынку яны вырашалі, хто з іх мацнейшы. Перамог бы мядзведзь, выслізнуў бы з падрыхтаванай пасткі, працягваў бы і надалей раскашаваць па тутэйшых ваколіцах, наводзячы жах на вяскоўцаў. Адолеў бы чалавек, усё б гэта спынілася ў адначассе. Мала таго, за смерць такога лютага звера, пра яго з зайздрасцю, паміж сабою гаманілі б іншыя паляўнічыя. Але тут атрымаўся своеасаблівы нічыйны вынік — загінуў і звер, і чалавек. Гэта былі раўназначныя праціўнікі. Аўтар таксама падкрэслівае гэта.

«Мядзведзь бег з незвычайнай хуткасцю, нібы каціўся. Калыхаўся ў паветры горб, куцапыя лапы выкідаліся наперад — спачатку абедзве левыя, потым абедзве правыя — і мякка пляскалі ў снег. Лабастая галава, як трохкутны шчыт, была пагрозліва апушчана.

Вочы глядзелі ў вочы.

Галодны, у роспачы, не разумеючы, што гэта такое робіцца, пакутуючы ад болю ў застуджаных, падмарожаных босых пятках, злосны ад усяго гэтага, ён імчаўся, як страшны крапасны таран, без усякай надзеі на паратунак — бо ён хацеў жыць.

І сіні агонь у вачах звера звязаў яго з вачыма чалавека разуменнем еднасці ўсяго жывога. Каб мядзведзь збочыў у гэты момант — пан Юры не стрэліў бы...Жывое, сапло і задыхалася ў снезе, жывое, адным болем звязанае з усім жывым.

...Мядзведзь не звяртаў увагі на крыкі. Яму трэба было дабрацца толькі да аднаго, што так балюча кусаўся на адлегласці. Боль, непаразуменне

і ярасць былі ў драмучых вочках. Ён адчуваў, што сэрца ў яго разрываецца, ідзе нешта непапраўнае, чаго ўжо ніяк, ніколі на свеце не выправіш.

Пан Юры сунуў рацішча ў звера, проста так, як дзіду, і паставіў, ускінуў-такі яго старчма, але ад страшнага цяжару дрэўка зламалася. Як камяк жывога болю, рыку, крыві, ярасці насунулася цёмнае.

Чалавек схаваў галаву і з кордам кінуўся проста пад звера. Уцэліў сталь туды, куды і хацеў, у жаўтаватую, мякчэйшую навобмацак поўсць пад левай лапай. Націснуў.

І тут нага яго паслізнулася. Падаючы пад страшным цяжарам на спіну, ён убачыў, зусім блізка, Карпа з сякераю ў руках, пачварную, як уцёс, махіну, што знізу (тут, відаць, памылка, бо лагічна вынікае, што зверху. — **А. Н.**) насунулася на яго, адчуў ля самага аблічча гарачае смуроднае дыханне.

І гэта было апошняе, што ён бачыў і чуў...»

Мы працытавалі даволі вялікі ўрывак тэксту, але на самай справе ўсё гэта адбылося за лічаныя імгненні, якія і аддзялялі тонкай ніццю жыццё жывых, упэўненых у сабе, здаровых (адна з іх нават надзвычай магутная) істот ад...смерці. Якраз такі, гэта і быў фінал. І нездарма Ул. Караткевіч нават пасля смерці чалавека і звера працягвае разважаць аб існасці ўсяго жывога, аб яго непарыўнай сувязі. Хацеў бы ты гэтага ці не, але ўсё роўна залежыш ад таго жывога, што акаляе цябе. Ды і не толькі ад таго, што дыхае, але, як лічылі патрыярхальныя продкі, і ад нежывога таксама. « І яны (сябры пана Юрыя. — **А. Н.**) не бачылі ў вачах звера смяротнага жаху і гневу і жадання жыць, яны не ведалі, як пан Юры раптам адчуў повязь усяго жывога з усім жывым, повязь болю, адзінага для ўсіх істот на зямлі.

Яны не ведалі, што пан Юры праз позірк гэтых дрымучых вачэй зразумеў страшнае пачуццё непапраўнасці, якое валодала зверам.

Ніхто ўжо ніколі не мог даведацца аб гэтым».

Ці не ад гэтых разважанняў Ул. Караткевіч прыходзіць да высновы, што многае ў адносінах да прыроды, да звяроў і птушак чалавеку неабходна перагледзець. Чым хутчэй ён гэта зробіць, тым хутчэй палепшыцца сітуацыя. Не надта ласкава аўтар выказаўся пра паляўнічых, асабліва пра тых, якія прагнуць крыві, выбіваюць і вынішчаюць усё жывое навокал сябе. «Мядзведзі пачасту паміраюць, як людзі, стогнучы і прыціскаючы лапу да раны. І грызучы зямлю. І ў ціхім непаразуменні адыходзячы на ёй. Каму ўжо і ведаць гэта лепей за мяне, паляўнічага, сына і ўнука паляўнічага? І менавіта таму я з’еў бы жыўцом усе гэтыя паляўнічыя заказнікі, запаведна-паляўнічыя гаспадаркі на качыных азёрах. Дзе звер адзін супраць многіх узброеных, і ўсё такое іншае. Паляванне толькі тады паляванне, калі яно адзінаборства. То што ўжо казаць пра звяроў, якіх мы кідаем у рабства, прывучаем любоўю, а тады забіваем толькі за тое, што яны любяць нас і шукаюць нас».

Сягаючы поглядам у гістарычнае мінулае, Ул. Караткевіч і там знаходзіць шмат такога, што падлягае чалавечаму асуджэнню, бо паляваць, каб пракарміцца, — гэта адно, але паляваць для забаў — гэта зусім іншае. У якасці прыкладу аўтар прыводзіць улюбёную ім Белавежскую пушчу. «Беларусы даўно асімілявалі ятвягаў, а Пушча ўсё была месцам паляўнічай забавы, спачатку для мясцовых князёў, а пасля для польскіх каралёў. Але не толькі для гэтага. Кожнай вайне яна плаціла даніну, кормячы беларуска-літоўскае войска.

Князь Вітаўт, ідучы на Грунвальд, учыніў тут вялізнае паляванне. Былі забіты тысячы дзікоў, зуброў і аленяў, каб забяспечыць войска мясам на ўвесь час вайны.

Калі гэта было збольшага патрэбнай мерай, то каралеўскія і царскія паляванні пушчы былі вандалізмам. Паляванне Аўгуста III у 1752 годзе, калі

звяроў выганялі праз калідор з жэрдак на вытанчанага забойцу і ягоную світу, перапалавініла звярынае насельніцтва Пушчы. На схіле XIX ст. рускі цар Аляксандр (таксама трэці), кат свайго і іншых народаў, арганізаваў тут такую ж самую планамерную і абыякавую бойню.

Сотні аленяў, ласёў, дзікоў. Дзесяткі фатаграфій з ганарлівымі паставамі сярод трупаў, і за чаркай «паляўнічай гарэлкі», і на ўрачыстым банкеце, і сярод «удзячных» сялян. Раскошна выдадзеная ў памяць аб гэтым подзвігу кніга з малюнкамі лепшых расійскіх ілюстратараў таго часу — шэдэўр паліграфічнага майстэрства.

Пушча аглухла ад стрэлаў. Хрыпелі праз кроў дзікі, біліся ў сутаргах алені і рахманыя даніэлі, цяжка валіліся на зямлю і моўчкі паміралі зубры (зубр заўсёды памірае моўчкі, не прыніжае сябе нават у смяротны час, трымаецца гонару). І так вось Пушча змоўкла, сцішылася перад тым, як зрабіцца нямой Пушчай» («Зямля пад белымі крыламі»).

Гэта можна назваць апафеозам усяму жывому на зямлі. Яно ў Ул. Караткевіча атаясамлівалася з Пушчай. Адвечнай. Першастваральнай. Багатай на звяроў і птушак. Радуючай вока людзей сваімі магутнымі дрэвамі. Абароненай, а не безабароннай. Шматгалосай, а не нямой.

Такім чынам, падводзячы высновы пад нашымі разважаннямі адносна месца тэмы палявання ў творчасці Уладзіміра Караткевіча, мы павінны адзначыць, што пісьменнік паказаў багатыя традыцыі, якія існавалі ў гэтым промысле сярод нашых продкаў, раскрыў сапраўдныя адносіны чалавека да роднай прыроды, падкрэсліў і перасцярог, што непрадуманае вынішчэнне ўсяго жывога навокал, толькі дзеля забавы, прыводзіць да стварэння на месцы непраходных лясоў і пушчаў, звычайных пустак, дзе нічога больш не расце, а гаспадарыць адзіны вольны вецер.

Ён звяртаўся да сваіх нашчадкаў. І проста неабходна, каб гэты голас быў імі пачуты. Каб яны да яго прыслухаліся.

АНАТОЛЬ ТРАФІМЧЫК

# ПЯСНЯР РОДНАГА КРАЮ

*Гардзей В.* ***Бедна басота.*** *Мн.: Мастацкая літаратура, 2003. 189 с.*

Летась выйшла чарговая кніга В. Гардзея «Бедна басота...» Хто не чуў гэтай сумнай, скрушнай песні? Менавіта яна і дала назву раману, які пісаўся не менш як дзесятак гадоў таму і пабачыў свет яшчэ ў 1995 г. у часопісе «Маладосць», але толькі цяпер выйшаў асобнай кнігай. Гэтая песня, трэба адзначыць, ужо станавілася своеасаблівым ключом, можна сказаць, момантам ісціны для творчага натхнення і, мусіць, зусім невыпадкова — яшчэ для аднаго літаратурнага рупліўца з Ганцаўшчыны: трохі раней у У. Марука нарадзіўся невялікі, але пранізлівы вершык са словамі з народнай песні: «Сабралася бедна басота...»

П'ём нашу долю<br>
з гноем і потам,<br>
Доўга яшчэ баляваць.<br>
«Сабралася бедна басота...» —<br>
Нельга адрэдагаваць.

Песню не ўтоіш,<br>
песню не ўтопіш,<br>
Песню — не прап'еш...<br>
Даўнія раны песняй акропіш,<br>
Ды —<br>
не перажывеш.

Дый эпіграф для гэтай рэцэнзіі выбраны не толькі дзеля абазначэння канцэптуальнай скіраванасці аўтарскай думкі, але і з пэўнай алюзіяй: улічваючы, што на Ганцаўшчыне засталіся два гады настаўніцкай маладосці нашага выдатнага пісьменніка, можна з поўным правам дапусціць факт яго знаёмства з песняй беднае басоты, якое пазней дзякуючы сіле мастацкага ўздзеяння тае песні спрычынілася да стварэння хрэстаматыйнага верша Якуба Коласа. Такім чынам, можна скласці цэлы ланцужок твораў, навеяных словамі песні, вынесенымі ў загаловак рэцэнзуемага выдання.

Пра раман жа В. Гардзея, дарэчы, у рэспубліканскім друку ўжо трохі выказваліся. Прычым — толькі ў станоўчым эмацыйным тоне. Таму ў чарговы раз займацца шырокім пералічэннем вартасцей твора, відаць, не варта (пералічэнне не заменіць прачытання, а толькі сапсуе яго; хіба лепей будзе адно падштурхнуць да прачытання). А казаць пра недахопы таксама не выпадае — настолькі па-мастацку выверана ўжываецца кожнае слоўца. Мусіць, лепей распавесці пра атрыманае ўражанне (а яно пры ўспрыманні якой-небудзь з'явы ці не заўсёды з'яўляецца першасным) і не забыць сказаць традыцыйных колькі слоў пра змест твора.

Ад самага пачатку і да заканчэння «Беднае басоты», як зрэшты і іншых твораў В. Гардзея, мне як чытачу было прыемна плыць па рацэ чысцюткай беларускай мовы з дамешкам дыялектызмаў, што стварала свой непаўторны каларыт у панараме сюжэтнай канвы. Дасціпнасць, гнуткасць мовы на пару з веданнем палескай глыбінкі (не толькі прыроды, але і людзей, іх псіхалогіі, іхняе долі і, калі хочаце, этнаграфіі свайго часу) робіць твор настолькі па-беларуску нацыянальным, што яго з поўным правам можна заносіць у шэраг «візітовак» *беларускай нацыянальнай* літаратуры, ставячы аўтара поруч з такімі наскрозь нацыянальнымі мастакамі слова другой паловы XX стагоддзя, як Я. Брыль, У. Караткевіч і М. Стральцоў.

Як земляку мне было прыемна і цікава чытаць раман В. Гардзея яшчэ з аднае прычыны: ён створаны на матэрыяле, абумоўленым рэальнымі падзеямі на нашай малой радзіме, на Ганцаўшчыне — у ваколіцах вёсак Вялікія і Малыя Круговічы, якія ў творы называюцца адпаведна проста Круговічы і Малое Сяло, дарэчы, менавіта так, як завуцца сёлы сваімі жыхарамі. Больш таго, знаёмай у творы з'яўляецца не толькі геаграфія з мікратапаніміяй, але і за персанажамі ўгадваюцца рэальныя людзі.

Падзеі ў рамане разгортваюцца ў перыяд пасляваеннай арганізацыі калгасаў на заходнебеларускіх землях, а гэта значыць, на самым пачатку 50-х, калі людзі яшчэ не адышлі ад знішчальнай вайны, а ім ужо стварылі новае выпрабаванне на жыццяўстойлівасць. Сапраўды, як сказана ў анатацыі, гэты матэрыял літаратурай яшчэ не асвоены. І, думаецца, да яго варта прыгледзецца іншым: тагачассе на Беларусі (асабліва на заходняй яе частцы) сталася драматычным перыядам, з якім тут можа паспрачацца толькі ліхалецце. У свой час творы пра пасляваенную рэчаіснасць пакінулі толькі нейкае агульнае ўражанне штучнасці, прыхарошанасці, неадпаведнасці рэальнаму стану рэчаў, якое мы тады бачылі ў сваім жыцці... «Сухавей эстэтыкі бесканфліктнасці, штучнай ідэалізацыі жыцця», «ілюстратыўная паэтызацыя жыцця калгаснага раю», «выключэнне духоўнага фактару, забарона на агульначалавечыя канфлікты», паводле вызначэння А. Яскевіча, сталі прычынай невысокай мастацкай вартасці твораў пра тагачасную рэчаіснасць» (М. Кенька). Вось такое адбывалася тады, калі насамрэч беларуская вёска, задушаная сістэмай, не магла выскрабціся з перманентнай нэндзы. Нічога дзіўнага, што чарапічны дах сельскіх дамоў Заходняй Еўропы выклікаў у беларусаў-франтавікоў у 1945 г. здзіўленне і захапленне, а гэта непакоіла «ўладу галадранцаў» (дэфініцыя, успомненая старажыламі), бо ўбачанае на Захадзе зусім не стасавалася з *вобразамі мілымі роднага краю*: «Фядорына хата з падслепаватымі акенцамі і ўвагнутай, як сядло, саламянай страхой туліцца наводшыбе Малога Сяла, пры самым лесе. Нічога кідкага, за што хоць вомельгам зачапілася б прагнае зладзейскае вока, на падупалай сядзібе няма: плот вакол садка часткова згарэў у печы, часткова лёг праслямі на мяжу, а хлеў усімі чатырма вугламі паехаў у зямлю, і калі яшчэ не ўпаў, не рассыпаўся, то гэта вялікае дзіва. Гаспадыня, ідучы ў краму ці на калгаснае поле, хату не замыкае, бо ўсяго там і багацця — венік, вілкі ды качарга». На жаль, як бачым, «сухавей эстэтыкі бесканфліктнасці» ў мастацкай літаратуры адносна пасляваеннага перыяду беларускай вёскі быў прагнаны вятрамі перамен толькі зусім нядаўна, дагэтуль жа, за савецкім часам, казаць пра безгаспадарчасць і бязглуздасць калгаснай сістэмы лічылася паклёпніцкай крамолай. І ў справе праўдзівага адлюстравання рэчаіснасці В. Гардзей стаў ці не піянерам, тым самым падказваючы даследчыкам навейшай гісторыі белыя плямы нашай гістарычнай навукі, — у каторы раз літаратура становіцца авангардам у пераасэнсаванні мінулага.

Ёсць такі выраз — «мастацкі вымысел». Ён як бы апраўдвае творцу, які спісвае нешта, падглядаючы дэталі ў жыцця, не стрымліваючы, аднак, палёту сваёй творчай фантазіі. «Беднай басоце» такая літаратуразнаўчая адвака-

тура, калі і патрэбна, то ў самай мінімальнай ступені. Людзі сталага веку, якія прачыталі «Бедну басоту», нягледзячы на змененасць імёнаў, лёгка пазнавалі падзеі і жыхароў абедзвюх вёсак часоў сваёй маладосці, настолькі трапна былі выпісаны яны, прычым без ахвяравання мастацкасцю. Напрыклад, прататып Аляксея Хамутовіча, па рамане зуха-бабніка, і ў сваім сталым узросце быў не супраць, каб да яго ў госці наведваўся жаночы пол. Цікавай атрымалася Ядзюня — адна з галоўных персанажаў рамана. У рамане яна, як гаворыцца, дзеўка на выданне. В. Гардзей неяк прызнаваўся, што ў беларускай літаратуры яму бліжэй ад многіх гераінь «вобраз дзёрзкай, свавольнай Ядвісі Баранкевіч», якая на пачатку XX стагоддзя жыла ў Цельшыне (Люсіне). Гэты факт, думаецца, можна аднесці да адной з прычын выбару імя для прадстаўніцы маласельскай басоты. Праводзячы паралелі паміж Ядвісямі Якуба Коласа і Гардзея, карэктна, відаць, сказаць, што сучасны пісьменнік рэпрэзентаваў нам сваё бачанне пасляваеннай палескай Ядвісі. Назіраецца, так бы мовіць, эвалюцыя літаратурнага вобраза. Да таго ж, калі пашукаць у нашай літаратуры яшчэ падобных паралелей (а яны, як той суслік у траве, ёсць), ствараецца глеба для меркаванняў пра архетыпічнасць.

Чытачу, незнаёмаму з апісваемай у рамане мясцовасцю, можа падацца, што яго аўтар у пэўнай ступені ідэалізуе яе маляўнічасць (прычым гэта тычыцца і ранейшай прозы В. Гардзея). Але вельмі лёгка пераканацца ў адваротным, паехаўшы ў ваколіцы Малога Сяла нават хоць бы сёння, калі «дзякуючы» чалавечаму «клопату» прырода прыкметна збяднела. Па геаграфіі твора можна і ў рэальнасці лёгка зарыентавацца, тым больш, што некаторыя куточкі, бадай, не змяніліся. Такімі самымі застаюцца балацяністы Імшэчак, усеяная каменнем Горская, увенчаная пракаветным дубам Маліцкая гара, а ў Кудасе і ў нашы дні страчаюцца бабры. Мастаку слова заставалася толькі не сапсаваць свой твор няўмелым выбарам палітры ды неасцярожнымі мазкамі — і з гэтым «нашчадак беднай басоты» (аўтарскае азначэнне) у каторы раз спраўляецца так філігранна і віртуозна, што, шчыра кажучы, нават не верылася б без асабістага знаёмства з раманам у магчымасць пісьменніцкай тэхнікі пейзажа на такім, кангеніяльным узроўні ў час, які адольвае мастацтва урбаністычнасцю, камп'ютэрызацыяй, глабалізацыяй і — як вынік — дэгуманізацыяй. Літаратура менавіта праз такіх пісьменнікаў, як В. Гардзей, працягвае сваё падарожжа ў часе жыццясцвярджальнаю сцежкаю.

У рамане, як можна ўжо бачыць па назве, падзеі выпісаны не тое што цёмнымі фарбамі (хапае і светлых таноў), ды агульная палітра выяўляецца сумнай, сінанімічнай настроям згаданай народнай песні. Таму абсалютна лагічным і арганічным было завяршэнне песні, прабачце, рамана ў прозе словамі пра самую змрочную пару года — канец восені. Але аптымістычныя ноткі (хутчэй за ўсё незалежна ад аўтара) і тут змаглі прабіцца скрозь беспрасветнасць сялянскай долі сталінскіх часоў:

«Змрочным і непрыглядным Імшэчак будзе да першага снегападу, пакуль нацянькі цераз гаці і брады на святое Увядзенне сюды не прыблытаецца расхрыстаны, басаногі Зюзя. Валадар холаду сярдзіта зачмыхае ў сівую бараду, і снежаньскія мяцеліцы аж да *вясны* схаваюць пад белай коўдрай жахлівую і злавесную чарнату лясной балацявіны» (курсіў мой. — **А. Т.**).

У планах В. Гардзея стварэнне працягу «Беднае басоты». Таму зычанні творчых поспехаў і натхнення напрыканцы гэтага водгуку бачацца зусім нялішнімі.

## АНАТОЛЬ ЦЫРКУНОЎ

### ПАЖАДАННЕ

Хай паэтам за чэсную
Службу свайму народу
Бог пасылае нябесную
Манну ва ўзнагароду.

### ТАРАС З ПАРНАСА

Зайздроснікі даводзілі: Тарас
(Ён, пэўна, графаманам ім здаваўся)
Па блату змог узлезці на Парнас
І да таго ж нядрэнна ўладкаваўся...

### БЕСПРАЦОЎНЫ ПАЭТ

Каб належную плату плацілі ў калгасе
За працоўныя дні,
І паэт бы згадзіўся араць на Пегасе,
На крылатым кані.

### ХВАЛЯ ЗА ХВАЛЯЙ

Як часта тое, што з'яўляецца
Пад назваю «літаратура»,
Адразу ў сметнік адпраўляецца
Як простая макулатура.
І ўдачлівыя аўтары-дзялкі,
Сарваўшы куш свой за «баевікі»,
Знікаюць, быццам хвалі на вадзе...
Увага, хваля новая ідзе.

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, крытыкі і літаратуразнаўства, грамадскага жыцця і культуры — 284-80-12.

Стыльрэдактар М. І. Гусева. Камп'ютэрная вёрстка С. І. Сяргейчык.

---

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 27.10.04 г. Фармат 70x108$^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Друк. арк. 19,60. Ул.-выд. арк. 18,33. Тыраж 2838 экз. Зак. 2792.

---

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

Нашы індэксы:
індывідуальны – 74985
ведамасны – 00141

**Чытайце ў наступным нумары:**

**Ніна Іванова**
**БЕЛАРУСЬ У ШМАТГАЛОССІ СВЕТУ**
***Публіцыстыка***

**Міхась Южык**
**МАРЫЯНЕТКІ І ЛЯЛЬКАВОДЫ**
***Раман /заканчэнне/***

**Казімір Камейша**
**Мікола Чарняўскі**
***Вершы***

**Іван Капыловіч**
**СМЕРЦЬ СЫНА**
***Аповесць***

**Вера Хацкевіч**
**МАСТАЦКІ ПЕРАКЛАД**
**ЯК СРОДАК УЗБАГАЧЭННЯ**
**НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ**

ISSN 0130–8068